ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

СЬНЕЖАНЬ
№ 12 (14)

1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ
БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ



**Сьнежань**
№ 12 (14).




МЕНСК — 1931



**І. В. Сталін**

# Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму

## Пісьмо ў рэдакцыю журналу „Пролетарская Революция“

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Рашуча протэстую супроць зьмяшчэньня ў журнале „Пролетарская Революция“ (№ 6, 1930 г.) антыпартыйнага і паўтрацкісцкага артыкулу Слуцкага „Большевики о Германской Социал-демократии в период ее предвоенного кризиса“, як артыкулу дыскусійнага.

Слуцкі сьцьвярджае, што Ленін (бальшавікі) недаацэньваў небясьпекі *цэнтрызму* ў Германскай і наогул перадваеннай соцыялдэмократыі, гэта значыць недаацэньваў небясьпекі прыкрытага опортунізму, небясьпекі прымірэнцтва з опортунізмам. Іначай гаворачы, паводле Слуцкага выходзіць, што Ленін (бальшавікі) ня вёў непрымірымага змаганьня з опортунізмам, бо недаацэнка цэнтрызму ёсьць па сутнасьці справы адмова ад разгорнутага змаганьня з опортунізмам. Выходзіць, такім чынам, што Ленін у пэрыод перад вайной ня быў яшчэ сапраўдным бальшавіком, што толькі ў пэрыод імпэрыялістычнай вайны, або нават на зыходзе гэтай вайны, Ленін стаў сапраўдным бальшавіком. Так апавядае ў сваім артыкуле Слуцкі. А вы замест таго, каб заклеймаваць гэтага новаяўленага „гісторыка“, як паклёпніка і фальсыфікатара, увязваецеся з ім у дыскусію, даеце яму трыбуну. Не магу не протэставаць супроць зьмяшчэньня ў вашым журнале артыкулу Слуцкага, як артыкулу дыскусійнага, бо нельга абарачаць у прадмет дыскусіі пытаньне аб *бальшавізьме* Леніна, пытаньне аб тым, *вёў* Ленін прынцыповае непрымірымае змаганьне з цэнтрызмам, як пэўным відам опортунізму, ці *ня вёў яго, быў* Ленін сапраўдным бальшавіком ці *ня быў* такавым.

У сваёй заяве „Ад рэдакцыі“, прысланай у ЦК 20-га кастрычніка, вы прызнаеце, што рэдакцыя дапусьціла памылку, зьмясьціўшы артыкул Слуцкага ў якасьці дыскусійнага артыкулу. Гэта, вядома, добра, ня гледзячы на тое, што заява рэдакцыі зьяўляецца з вялікім спазьненьнем. Але вы дапускаеце ў сваёй заяве новую памылку, дэкляруючы, што „рэдакцыя лічыць політычна надзвычай актуальным і неабходным далейшую распрацоўку на старонках „Пролетарской Революции“ ўсяго кругу проблем, зьвязаных з узаемаадносінамі бальшавікоў з даваенным II Інтэрнацыяналам“. Гэта значыць, што вы маеце намер зноў уцягнуць людзей у дыскусію па пытаньнях, якія зьяўляюцца аксіомамі бальшавізму. Гэта значыць, што пытаньне аб бальшавізьме Леніна вы зноў думаеце абярнуць з аксіомы ў проблему, падлягаючую „далейшай распрацоўцы“. Чаму, на якой падставе? Усім вядома, што

ленінізм нарадзіўся, вырас і ўмацаваўся ў бязьлітасным змаганьні з опортунізмам усіх масьцей, у тым ліку з цэнтрызмам на Захадзе (Каўцкі), з цэнтрызмам у нас (Троцкі і інш.). Гэтага ня могуць адмаўляць нават простыя ворагі бальшавізму. Гэта аксіома. А вы цягнеце нас назад, прабуючы абярнуць аксіому ў проблему, падлягаючую „далейшай распрацоўцы“. Чаму? На якой падставе? Можа быць з прычыны незнаёмства з гісторыяй бальшавізму? Можа быць дзеля гнілога лібэралізму, каб Слуцкія і іншыя вучні Троцкага не маглі сказаць, што ім зацiскаюць рот? Даволі дзіўны лібэралізм, які праводзіцца за кошт кроўных інтарэсаў бальшавізму...

Што ўласна лічыць рэдакцыя дастойным дыскусійнага разгляду ў артыкуле Слуцкага?

1) Слуцкі сьцьвярджае, што Ленін (бальшавікі) ня вёў лінію на разрыў, на раскол з опортуністамі Германскай соцыял-дэмократыі, з опортуністамі II Інтэрнацыяналу даваеннага пэрыоду. Вы хочаце дыскусаваць супроць гэтага трацкісцкага тэзісу Слуцкага. Але што тут дыскусійнага? Хіба ня ясна, што Слуцкі проста ўзводзіць паклёп на Леніна, на бальшавікоў? Паклёп трэба заклеймаваць, а не абарачаць у прадмет дыскусіі.

Усякі бальшавік ведае, калі ён сапраўды бальшавік, што Ленін яшчэ задоўга да вайны, прыкладна з 1903-1904 гг., калі афармілася ў Расіі група бальшавікоў і калі ўпяршыню далі аб сабе знаць левыя ў Германскай соцыял-дэмократыі, — вёў лінію на разрыў, на раскол з опортуністамі і ў нас, у Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, і там, у II Інтэрнацыянале, у часнасьці ў Германскай соцыял-дэмократыі. Кожны бальшавік ведае, што іменна таму бальшавікі ўжо тады (1903—1905) заслужылі сабе ў радох опортуністаў II Інтэрнацыяналу пачэсную славу „раскольнікаў“ і „дэзорганізатараў“. Але што мог зрабіць Ленін, што маглі зрабіць бальшавікі, калі левыя с.-д. у II Інтэрнацыянале і, перш за ўсё, у Германскай соцыял-дэмократыі прадстаўлялі слабую і кволую групу, організацыйна неаформленую, ідэолёгічна не падкаваную, групу, якая баіцца нават выгаварыць слова „разрыў“, „раскол“? Нельга-ж патрабаваць, каб Ленін, каб бальшавікі ўстроілі з Расіі за левых раскол у Заходніх партыях. Я ўжо не кажу аб тым, што організацыйная і ідэолёгічная слабасьць была характэрнай рысай левых с.-д. ня толькі ў пэрыод даваенны. Яна, гэта адмоўная рыса як вядома, захавалася за левымі і ў пэрыод пасьля вайны. Усім вядома ацэнка германскіх левых с.-д. у вядомым артыкуле Леніна „Аб брошуры Юніуса“ [1]), пісанай у кастрычніку 1916 году, гэта значыць больш як праз два гады пасьля пачатку вайны, дзе Ленін, крытыкуючы цэлы рад сур'ёзьнейшых палітычных памылак левых с.-д. у Германіі, гаворыць аб *„слабасьці ўсіх нямецкіх левых, аблытаных з усіх бакоў агіднай сеткай каўцкіянцкай ліцамернасьці, пэдантцтва, „дружалюбнасьці“ да опортуністаў*, дзе ён гаворыць аб тым, што *„Юніус ня вызваліўся зусім ад „асяродзьдзя“ нямецкіх, нават левых соцыял-дэмократаў, якія баяцца расколу, баяцца дагаварваць да канца рэволюцыйныя лёзунгі“*.

З усіх груповак II Інтэрнацыяналу рускія бальшавікі былі тады адзінай групоўкай, здольнай па свайму організацыйнаму вопыту і ідэолёгічнай падкаванасьці прадпрыняць што-небудзь сур'ёзнае ў сэнсе простага разрыву, расколу са сваімі опортуністамі ў сваёй расійскай соцыял-дэмократыі. Вось калі-б Слуцкія папрабавалі нават

[1]) Юніус—Роза Люксэмбург, лідэр левых с.-д. у Германскай соцыял-дэмократыі.

не даказаць, а проста прадпалажыць, што Ленін і рускія бальшавікі ня выкарысталі ўсёй сваёй магутнасьці для таго, каб арганізаваць раскол з опортуністамі (Пляханаў, Мартаў, Дан) і выгнаць цэнтрыстаў (Троцкі і іншыя староньнікі жнівеньскага блёку), дык тады можна было-б спрачацца аб бальшавізьме Леніна, аб бальшавізьме бальшавікоў. Але ў тым-жа і справа, што Слуцкія ня сьмеюць нават заікнуцца на карысьць такога дзікага прадпалажэньня. Ня сьмеюць, бо ведаюць, што ўсім вядомыя факты рашучай політыкі разрыву з опортуністамі ўсіх масьцей, праводзіўшайся рускімі бальшавікамі (1904—1912 гг.), з усёй сілы крычаць супроць такога прадпалажэньня. Ня сьмеюць, бо ведаюць, што на другіх-ж дзень будуць яны прыгважджоны да ганебнага слупа.

Але вось пытаньне: ці маглі рускія бальшавікі ажыцьцёвіць раскол са сваімі опортуністамі і цэнтрыстамі-прымірэнцамі задоўга да імпэрыялісцкай вайны (1904—1912 гг.), не вядучы разам з тым лінію на разрыў, лінію на раскол з опортуністамі і цэнтрыстамі II Інтэрнацыяналу? Хто можа сумнявацца ў тым, што рускія бальшавікі лічылі сваю політыку ў адносінах да опортуністаў і цэнтрыстаў узорам політыкі для левых на Захадзе? Хто можа сумнявацца ў тым, што рускія бальшавікі ўсякімі спосабамі штурхалі левых с.-д. на Захадзе, у часнасьці, левых у Германскай социял-дэмократыі на разрыў, на раскол са сваімі опортуністамі і цэнтрыстамі? Ня віна Леніна і рускіх бальшавікоў, калі левыя с.-д. на Захадзе аказаліся недасьпеўшымі к таму, каб ісьці па сьлядох рускіх бальшавікоў.

2) Слуцкі папракае Леніна і бальшавікоў, што яны не падтрымлівалі левых у Германскай с.-д. рашуча і беспаваротна, што яны падтрымлівалі іх толькі з сур'ёзнымі агаворкамі, што фракцыйныя меркаваньні перашкаджалі ім падтрымліваць левых да канца. Вы хочаце дыскусаваць супроць гэтага шарлятанцкага і наскрозь фальшывага папроку. Але-ж што тут уласна дыскусійнага? Хіба ня ясна, што Слуцкі тут манэўруе і стараецца прыкрыць фальшывым папрокам супроць Леніна і бальшавікоў сапраўдныя прарэхі ў позыцыі левых у Германіі? Хіба ня ясна, што бальшавікі не маглі падтрымліваць левых у Германіі, амаль увесь час хістаўшыхся паміж бальшавізмам і меншавізмам, *бяз* сур'ёзных агаворак, *бяз* сур'ёзнай крытыкі іх памылак, *ня здраджваючы* рабочай клясе і яе рэволюцыі? Машэньніцкія манэўры трэба заклеймаваць, а не абарачаць у прадмет дыскусіі.

Так, бальшавікі падтрымлівалі левых с.-д. у Германіі толькі з пэўнымі сур'ёзнымі агаворкамі, крытыкуючы іх паўменшавіцкія памылкі. Але за гэта трэба іх вітаць, а не папракаць.

Ёсьць людзі, якія сумняваюцца ў гэтым?

Зьвернемся да найбольш вядомых фактаў з гісторыі.

а) У 1903 годзе выявіліся сур'ёзныя разгалосьсі паміж бальшавікамі і меншавікамі ў Расіі па пытаньню аб членстве ў партыі. Сваёй формулёўкай аб членстве ў партыі бальшавікі хацелі стварыць організацыйную вузду супроць наплыву непролетарскіх элемэнтаў у партыі. Небясьпека такога наплыву была тады больш чым рэальна, з прычыны буржуазна-дэмократычнага характару рускай рэволюцыі. Рускія меншавікі адстойвалі процілежную позыцыю, адчыняючую шырока дзьверы партыі непролетарскім элемэнтам. З прычыны важнасьці пытаньняў рускай рэволюцыі для сусьветнага рэволюцыйнага руху, заходнеэўропейскія социял-дэмократы рашылі ўмяшацца ў справу. Умяшаліся і левыя с.-д. у Германіі, Парвус і Роза Люксэмбург, тагочасныя лідэры левых. І што-ж? Абодва яны выказаліся супроць баль-

шавікоў. Пры гэтым было кінута абвінавачаньне па адрасу бальшавікоў у ультрацэнтралізьме і блянкісцкіх тэндэнцыях. Потым гэтыя пошлыя і мяшчанскія эпітэты былі падхоплены меншавікамі і разьнесены па ўсяму сьвету.

б) У 1905 годзе разгарнуліся разгалосьсі паміж бальшавікамі і меншавікамі ў Расіі аб характары рускай рэволюцыі. Бальшавікі адстойвалі ідэю саюзу рабочай клясы з сялянствам пры гегемоніі пролетарыяту. Бальшавікі сьцьвярджалі, што справу трэба весьці да рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства з тым, каб ад рэволюцыі буржуазна-дэмократычнай перайсьці зараз-жа да рэволюцыі социялістычнай пры забясьпечаньні падтрыманьня з боку вясковай беднаты. Меншавікі ў Расіі адкідалі ідэю гегемоніі пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, замест палітыкі саюзу рабочай клясы з сялянствам яны палічылі лепшай палітыку пагадненьня з лібэральнай буржуазіяй, а рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства аб'явілі рэакцыйнай блянкісцкай схэмай, супярэчнай разьвіцьцю буржуазнай рэволюцыі. Як аднесьліся да гэтых спрэчак левыя ў Германскай соцыял-дэмократыі, Парвус і Роза Люксэмбург? Яны выдумалі утопічную і паўменшавіцкую схэму пэрманэнтнай рэволюцыі (вырадковы вобраз Марксавай схэмы рэволюцыі), пранікнутую наскрозь меншавіцкім адмаўленьнем палітыкі саюзу рабочай клясы і сялянства, і проціпаставілі яе бальшавіцкай схэме рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства. У далейшым гэта паўменшавіцкая схэма пэрманэнтнай рэволюцыі была падхоплена Троцкім (часткова—Мартавым) і зроблена прыладай змаганьня супроць ленінізму.

в) У пэрыод перад вайной у партыі II Інтэрнацыяналу выступіла на сцэну, як адно з актуальнейшых пытаньняў, пытаньне нацыянальна-колёніяльнае, пытаньне аб прыгнечаных нацыях і колёніях, пытаньне аб вызваленьні прыгнечаных нацый і колёній, пытаньне аб шляхох змаганьня з імпэрыялізмам, пытаньне аб шляхох зьвяржэньня імпэрыялізму. У інтарэсах разгортваньня пролетарскай рэволюцыі і акружэньня імпэрыялізму бальшавікі запрапанавалі палітыку падтрыманьня вызваленчага руху прыгнечаных нацый і колёній на базе самавызначэньня нацый і разьвілі схэму адзінага фронту паміж пролетарскай рэволюцыяй перадавых краёў і рэволюцыйна-вызваленчым рухам народаў колёній і прыгнечаных краёў. Опортуністы ўсіх краёў, соцыял-шовіністы і соцыял-імпэрыялісты ўсіх краёў зараз-жа паўсталі ў сувязі з гэтым супроць бальшавікоў. Бальшавікоў цкавалі, як шалёных сабак. Якую позыцыю занялі тады левыя с.-д. на Захадзе? Яны разьвілі паўменшавіцкую тэорыю імпэрыялізму, адкінулі прынцып самавызначэньня нацый у яго марксысцкім разуменьні (аж да аддзяленьня і ўтварэньня самастойных дзяржаў), адвялі тэзіс аб сур'ёзным рэволюцыйным значэньні вызваленчага руху колёній і прыгнечаных краёў, адвялі тэзіс аб магчымасьці адзінага фронту паміж пролетарскай рэволюцыяй і нацыянальна-вызваленчым рухам і проціпаставілі ўсю гэту паўменшавіцкую кашу, якая зьяўляецца суцэльнай недаацэнкай нацыянальна-колёніяльнага пытаньня, — марксысцкай схэме бальшавікоў. Вядома, што гэту паўменшавіцкую кашу падхапіў потым Троцкі і выкарыстаў яе, як прыладу змаганьня супроць ленінізму.

Такавы ўсім вядомыя памылкі левых с.-д. у Германіі.

Я ўжо не кажу аб іншых памылках германскіх левых, раскрытываных у адпаведных артыкулах Леніна.

Не кажу таксама пра памылкі, дапушчаныя імі пры ацэнцы палітыкі бальшавікоў у пэрыод Кастрычніцкага перавароту.

Пра што гавораць гэтыя памылкі германскіх левых, узятыя з гісторыі даваеннага пэрыоду, як не пра тое, што левыя с.-д., ня гледзячы на сваю лявізну, ня вызваліліся яшчэ ад меншавіцкага багажу?

Вядома, у левых у Германіі былі ня толькі сур'ёзныя памылкі. Яны маюць за сабой таксама вялікія сур'ёзныя рэволюцыйныя справы. Я маю на ўвазе цэлы рад іх заслуг і рэволюцыйных выступленьняў па пытаньнях унутранай політыкі і, у часнасьці, выбарчага змаганьня, на пытаньнях парляманцкага і па-запарляманцкага змаганьня, аб агульнай забастоўцы, аб вайне, аб рэволюцыі 1905 г. у Расіі і г. д.

Іменна таму і лічыліся з імі бальшавікі, як з левымі, і падтрымлівалі іх, штурхалі іх наперад. Але гэта не зьніштажае і ня можа зьніштожыць таго факту, што левыя с.-д. у Германіі разам з тым мелі за сабой цэлы рад сур'ёзьнейшых політычных і тэорытычных памылак, што яны ня вызваліліся яшчэ ад меншавіцкага грузу і з прычыны гэтага для іх патрэбна была сур'ёзьнейшая крытыка з боку бальшавікоў.

Судзіце цяпер самі, ці маглі Ленін і бальшавікі падтрымліваць левых с.-д. на Захадзе *бяз сур'ёзных агаворак, бяз сур'ёзнай крытыкі* іх памылак, ня здраджваючы інтарэсам рабочай клясы, ня здраджваючы інтарэсам рэволюцыі, ня здраджваючы комунізму?

Ці ня ясна, што Слуцкі, папракаючы Леніна і бальшавікоў у тым, з поваду чаго ён павінен быў-бы іх вітаць, калі-б ён быў бальшавіком,—выкрывае сябе да канца, як паўменшавіка, як замаскаванага трацкіста?

Слуцкі робіць прадпалажэньне, што Ленін і бальшавікі ў сваёй ацэнцы левых на Захадзе выходзілі з сваіх фракцыйных меркаваньняў, што значыцца, рускія бальшавікі прыносілі ў афяру інтарэсам сваёй фракцыі вялікую справу міжнароднай рэволюцыі. Бадай ці трэба даказваць, што ня можа быць нічога больш пошлага і агіднага за такое прадпалажэньне. Ня можа быць нічога больш пошлага, бо нават адчайныя пашлякі з меншавікоў пачынаюць разумець, што руская рэволюцыя ня ёсьць прыватная справа рускіх, што яна, наадварот, зьяўляецца справай рабочай клясы ўсяго сьвету, справай сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Ня можа быць нічога больш агіднага, бо нават профэсіянальныя паклёпнікі з II Інтэрнацыяналу пачынаюць разумець, што пасьлядоўны і да канца рэволюцыйны інтэрнацыяналізм бальшавікоў зьяўляецца ўзорам пролетарскага інтэрнацыяналізму для рабочых усіх краёў.

Так, рускія бальшавікі высоўвалі на першы плян карэнныя пытаньні рускай рэволюцыі, накшталт пытаньняў аб партыі, аб адносінах марксыстаў да буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, аб саюзе рабочай клясы і сялянства, аб гегемоніі пролетарыяту, аб парляманцкім і па-запарляманцкім змаганьні, аб агульнай забастоўцы, аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, аб дыктатуры пролетарыяту, аб імпэрыялізьме, аб самавызначэньні нацый, аб вызваленчым руху прыгнечаных нацый і колёний, аб політыцы падтрыманьня гэтага руху і да т. п. Яны высоўвалі гэтыя пытаньні, як спробны камень, на якім яны правяралі рэволюцыйную вытрыманасьць левых с.-д. на Захадзе. Ці мелі яны на гэта права? Так, мелі. Ня толькі мелі, але павінны былі паступаць такім спосабам. Яны павінны былі паступаць такім спосабам, бо ўсе гэтыя пытаньні

былі разам з тым карэннымі пытаньнямі сусьветнай рэволюцыі, задачам якой падпарадкавалі бальшавікі сваю політыку, сваю тактыку. Яны павінны былі паступаць такім спосабам, бо толькі на такіх пытаньнях можна было правяраць па-сапраўднаму рэволюцыйнасьць тых ці іншых груповак II Інтэрнацыяналу. Паўстае пытаньне, у чым-жа тут „фракцыйнасьць“ рускіх бальшавікоў і прычым тут „фракцыйныя“ меркаваньні?

Ленін яшчэ ў 1902 годзе пісаў у сваёй брошуры „Што рабіць“?, што *„Гісторыя паставіла перад намі бліжэйшую задачу, якая зьяўляецца найбольш рэволюцыйнай з усіх бліжэйшых задач пролетарыяту, якога-б там ні было краю“*, што *„ажыцьцяўленьне гэтай задачы, зруйнаваньне самай магутнай апоры ня толькі эўропейскай, але таксама і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыяту“*. З часу выхаду ў сьвет брошуры „Што рабіць“? прайшло 30 гадоў. Ніхто ня сьмее адмаўляць, што падзеі за гэты пэрыод дасканала пацьвердзілі словы Леніна. Але ці не вынікае з гэтага, што руская рэволюцыя была (і застаецца) вузлавым пунктам сусьветнай рэволюцыі, што карэнныя пытаньні рускай рэволюцыі зьяўляліся разам з тым (і зьяўляюцца цяпер) карэннымі пытаньнямі сусьветнай рэволюцыі?

Ці ня ясна, што толькі на такіх карэнных пытаньнях можна было праверыць па-сапраўднаму рэволюцыйных левых с.-д. на Захадзе?

Ці ня ясна, што людзі, разглядаючыя гэтыя пытаньні, як пытаньні „фракцыйныя“,—выкрываюць сябе да канца, як пашлякоў, перараджэнцаў?

3) Слуцкі сьцьвярджае, што ня знойдзена яшчэ выстарчальнай колькасьці афіцыяльных докумэнтаў, якія сьведчаць аб рашучым і непрымірымым змаганьні Леніна (бальшавікоў) супроць цэнтрызму. Гэтым бюрократычным тэзісам опэруе ён, як пераканальным аргумэнтам на карысьць таго палажэньня, што Ленін (бальшавікі), значыцца, недаацэньваў небясьпекі цэнтрызму ў II Інтэрнацыянале. Вы бярэцеся дыскасаваць супроць гэтай бязглузьдзіцы, супроць гэтага жульніцкага кручкатворства. Але што тут уласна дыскусійнага? Хіба ня ясна і так, што гутаркамі аб докумэнтах Слуцкі стараецца прыкрыць убоства і фальш сваёй так званай устаноўкі?

Слуцкі лічыць існуючыя партыйныя докумэнты невыстарчальнымі. Чаму, на якой падставе? Хіба ўсім вядомых докумэнтаў па лініі II Інтэрнацыяналу, таксама як і па лініі ўнутрыпартыйнага змаганьня ў Расійскай соцыял-дэмократыі невыстарчальна для таго, каб з усёй яснасьцю дэмонстраваць рэволюцыйную непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх змаганьні супроць опортуністаў і цэнтрыстаў? Ці знаёмы наогул Слуцкі з гэтымі докумэнтамі? Якія яму патрэбны яшчэ докумэнты?

Дапусьцім, што апрача ўжо вядомых докумэнтаў будзе знойдзена куча другіх докумэнтаў у відзе, скажам, рэзолюцый бальшавікоў, лішні раз трактуючых аб неабходнасьці зьніштажэньня цэнтрызму. Ці значыць гэта, што наяўнасьці толькі папяровых докумэнтаў даволі для таго, каб дэмонстраваць сапраўдную рэволюцыйнасьць і сапраўдную непрымірымасьць бальшавікоў у адносінах да цэнтрызму? Хто-ж, апрача безнадзейных бюрократаў, можа пакладацца на адны толькі папяровыя докумэнты? Хто-ж, апрача архіўных крыс, не разумее, што партыі і лідэраў трэба правяраць па іх *справах*, перш за ўсё, а ня толькі па іх дэкларацыях? Гісторыя ведае ня мала соцыя-

лістаў, якія з гатоўнасьцю падпісвалі любыя рэволюцыйныя рэзолюцы каб адпісацца ад назольных крытыкаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *праводзілі ў жыцьцё* гэтыя рэзолюцыі. Гісторыя ведае, далей, ня мала социялістаў, якія з пенай ля роту патрабавалі ад рабочых партый *іншых* краёў самых, якія толькі ёсьць, рэволюцыйных дзействаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *не пасавалі* ў сваёй уласнай партыі або ў сваім уласным краі перад *сваімі* опортуністамі, перад *сваёй* буржуазіяй. Ці не таму вучыў нас Ленін правяраць рэволюцыйныя партыі, плыні, лідэраў не па іх дэкляpацыях і рэзолюцыях, а па іх *справах*.

Ці ня ясна, што, калі Слуцкі сапраўды хацеў праверыць непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх адносінах да цэнтрызму, ён павінен быў зрабіць *асновай* свайго артыкулу не паасобныя дакумэнты і два-тры асабістых пісьма, а праверку бальшавікоў па іх *справах*, па іх *гісторыі*, па іх *дзействах*? Хіба ў нас, у Расійскай соцыял-дэмократыі, ня было опортуністаў, цэнтрыстаў? Хіба бальшавікі не вялі рашучае непрымірымае змаганьне з усімі гэтымі плынямі? Хіба гэтыя плыні ня былі зьвязаны і ідэйна і організацыйна з опортуністамі і цэнтрыстамі на Захадзе? Хіба бальшавікі не разграмілі опортуністаў і цэнтрыстаў, так як не граміла іх ні адна левая група ў сьвеце? Як можна гаварыць пасьля ўсяго гэтага, што Ленін і бальшавікі недаацэньвалі небясьпекі цэнтрызму? Чаму Слуцкі грэбліва аднёсься да гэтых фактаў, маючых рашаючае значэньне для характарыстыкі бальшавікоў? Чаму ён ня выкарыстаў найбольш надзейны мэтод праверкі Леніна і бальшавікоў па іх справах, па іх дзействах? Чаму ён аддаў перавагу менш надзейнаму мэтоду капаньня ў выпадкова падабраных паперах?

Таму што ўжываньне больш надзейнага мэтоду праверкі бальшавікоў па іх справах адразу перавярнула-б дагары дном усю ўстаноўку Слуцкага.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах паказала-б, што бальшавікі зьяўляюцца *адзінай* у сьвеце рэволюцыйнай організацыяй, якая разграміла да канца опортуністаў і цэнтрыстаў і выгнала іх вон з партыі.

Таму што зьвярненьне да сапраўдных спраў і сапраўднай гісторыі бальшавікоў паказала-б, што настаўнікі Слуцкага—троцкісты—былі *галоўнай і асноўнай* групай, насаджаўшай у Расіі цэнтрызм і стварыўшай для гэтага спэцыяльную організацыю, як асяродак цэнтрызму, у выглядзе жнівеньскага блёку.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах канчаткова выкрыла-б Слуцкага, як фальсыфікатара гісторыі нашай партыі, прабуючага прыкрыць цэнтрызм троцкізму даваеннага пэрыоду паклёпніцкімі абвінавачаньнямі Леніна і бальшавікоў у недаацэнцы небясьпекі цэнтрызму.

Вось як стаіць справа, таварышы рэдактары, са Слуцкім і яго артыкулам.

Вы бачыце, што рэдакцыя зрабіла памылку, дапусьціўшы дыскусію з фальсыфікатарам гісторыі нашай партыі.

Што магло штурхнуць рэдакцыю на гэты няправільны шлях? Я думаю, што на гэты шлях штурхнуў яе гнілы лібэралізм, які мае цяпер сярод адной часьці бальшавікоў некаторае пашырэньне. Некаторыя бальшавікі думаюць, што троцкізм ёсьць фракцыя комунізму, якая, праўда, памыляецца, робіць ня мала глупстваў, часамі нават антысавецкая, але ўсё-ж фракцыя комунізму. Адгэть нултоырека

лібэралізм у адносінах трацкістаў і трацкісцка-мысьлячых людзей. Бадай ці трэба даказваць, што такі погляд на трацкізм зьяўляецца глыбока памылковым і шкодным. У сапраўднасьці-ж трацкізм даўно ўжо перастаў быць фракцыяй комунізму. У сапраўднасьці трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, якая вядзе змаганьне супроць комунізму, супроць савецкай улады, супроць будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць бальшавізму ў відзе тэзісу аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, у відзе тэзісу аб нямінучасьці перараджэньня бальшавікоў і да т. п.? Гэту зброю даў ёй трацкізм. Нельга лічыць выпадковасьцю той факт, што ўсе антысавецкія групоўкі СССР у сваіх спробах абгрунтаваць няўнікнёнасьць змаганьня з савецкай уладай, спасылаліся на вядомы тэзіс трацкізму аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, аб няўнікнёнасьці перараджэньня савецкай улады, аб імавернасьці звароту да капіталізму.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў відзе спроб адкрытых выступленьняў супроць савецкай улады? Гэту зброю далі ёй трацкісты, прабаваўшыя ўстроіць антысавецкія дэмонстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7-га лістапада 1927 году. Гэта факт, што антысавецкія выступленьні трацкістаў паднялі дух у буржуазіі і разьвязалі шкодніцкую работу буржуазных спэцыялістаў.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі організацыйную зброю ў відзе спроб устройства падпольных антысавецкіх організацый? Гэту зброю далі ёй трацкісты, організаваўшыя сваю ўласную антыбальшавіцкую нелегальную групу. Гэта факт, што падпольная антысавецкая работа трацкістаў палегчыла організацыйнае аформленьне антысавецкіх груповак у СССР.

Трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Вось чаму лібэралізм у адносінах трацкізму, хоць-бы і разьбітага і замаскаванага, ёсьць галавацяпства, якое мяжуе з праступленьнем, здрадай рабочай клясе.

Вось чаму спробы некаторых „літаратараў“ і „гісторыкаў“ працягнуць контрабандай у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам павінны сустрэць з боку бальшавікоў рашучы адпор.

Вось чаму нельга дапускаць літаратурную дыскусію з трацкісцкімі контрабандыстамі.

Мне здаецца, што „гісторыкі“ і „літаратары“ з разраду трацкісцкіх контрабандыстаў стараюцца праводзіць сваю контрабандную работу пакуль што па дзьвюх лініях.

Па-першае, яны стараюцца даказаць, што Ленін у пэрыод перад вайной недаацэньваў небясьпекі цэнтрызму, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, стала быць, ня быў яшчэ тады сапраўдным рэволюцыянэрам, што ён стаў такавым толькі пасьля вайны, пасьля таго, як „пераўзброіўся“ пры падамозе Троцкага. Тыповым прадстаўнікам такога роду контрабандыстаў можна лічыць Слуцкага. Мы бачылі вышэй, што Слуцкі і кампанія ня варты таго, каб доўга вазіцца з імі.

Па-другое, яны стараюцца даказаць, што Ленін не разумеў неабходнасьці перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным бальшавіком, што ён зразумеў неабходнасьць такога перарастаньня толькі пасьля вайны, пасьля таго, як ён „пераўзброіўся“

пры дапамозе Троцкага. Тыповым прадстаўніком такога роду контрабандыстаў можна лічыць Валасевіча, аўтара „Курса истории ВКП(б)". Праўда, Ленін яшчэ ў 1905 годзе пісаў, што *„ад рэволюцыі дэмакратычнай мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы сьвядомага і организаванага пролетарыяту, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэволюцыі"*, што *„мы стаім за бесьперапынную рэволюцыю"*, што *„мы ня спынімся на паўдарозе"*. Праўда, фактаў і документаў аналёгічнага парадку можна было-б знайсьці ў творах Леніна безьліч. Але якое дзела Валасевічам да фактаў з жыцьця і дзейнасьці Леніна? Валасевічы пішуць для таго, каб, падфарбаваўшыся пад бальшавіцкі колер, працягнуць сваю антыленінскую контрабанду, узьвесьці паклёп на бальшавікоў і сфальсыфікаваць гісторыю бальшавіцкай партыі.

Вы бачыце, што Валасевічы варты Слуцкіх.

Такавы „шляхі і ростані" трацкісцкіх контрабандыстаў.

Самі разумееце, што ня справа рэдакцыі палягчаць контрабандысцкую дзейнасьць падобных „гісторыкаў" і даваць ім дыскусійную трыбуну.

Задача рэдакцыі заключаецца, па-мойму, у тым, каб падняць пытаньні гісторыі бальшавізму на належную вышыню, паставіць справу вывучэньня гісторыі нашай партыі на навуковыя, бальшавіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць трацкісцкіх і ўсякіх іншых фальсыфікатараў гісторыі нашай партыі, сыстэматычна зрываючы з іх маскі.

Гэта тым больш неабходна, што нават некаторыя нашы гісторыкі,—я кажу аб гісторыках без кавычак, *аб бальшавіцкіх* гісторыках нашай партыі, — не свабодны ад памылак, льлючых ваду на млын Слуцкіх і Валасевічаў. Выключэньнем не зьяўляецца тут, на жаль, і тав. Яраслаўскі, кніжкі якога па гісторыі ЎсеКП(б), не гледзячы на іх дадатныя бакі, маюць рад памылак прынцыповага і гістарычнага характару.

З ком. прывітаньнем

**І. СТАЛІН.**

# За бальшавіцкае вывучэньне гісторыі партыі

## Прамова тав. Кагановіча Л. М., сказаная 1 сьнежня на сходзе, прысьвечаным 10-годзьдзю Інстытуту чырвонай профэсуры

### I. Значэньне падрыхтоўкі марксысцкіх кадраў у нашай партыі

Таварышы, сёньня ў дзень дзесяцігадовага юбілею Інстытуту чырвонай профэсуры, вы заслугоўваеце, як стойкія байцы за генэральную лінію партыі—гарачага прывітаньня ад партыі, ад яе Цэнтральнага Камітэту (бурныя аплёдысмэнты).

Інстытуты чырвонай профэсуры робяцца перадавым атрадам растучых новых тэорытычных кадраў партыі. Проблема кадраў, у тым ліку і тэорытычных кадраў, займала заўсёды важнейшае месца ў рабоце нашай партыі. На розных этапах рэволюцыі гэта проблема ставілася па-рознаму, але яна заўсёды ставілася як адна з важнейшых проблем у барацьбе партыі за зьнішчэньне клясаў, за комунізм.

Гэта тлумачыцца тым, што наша партыя заўсёды была варожа тэорыі самацёку, тэорыі стыхійнасьці ў рабочым руху, яна заўсёды змагалася за ўзмацненьне ролі авангарду ў рэволюцыйным руху і за сыстэматычную маркса-ленінскую падрыхтоўку кадраў у гэтым авангардзе. Пачынаючы з „Что делать“ Леніна і канчаючы самым апошнім пэрыодам, калі наша партыя—адзіная ў сьвеце—стаіць на чале найвялікшай пролетарскай, соцыялістычнай дзяржавы, яна заўсёды організоўвала перадавыя рабочыя кадры, заўсёды ўзьнімала сьвежыя пласты новых сотняў і тысяч кіраўнікоў з радоў рабочае клясы.

Дзьве лічбы з гісторыі разьвіцьця ІКП зьяўляюцца яскравай ілюстрацыяй гэтага становішча. Шэсьць чалавек рабочых было ў Інстытуце чырвонай профэсуры ў пачатку яго організацыі ў 1921 г.—усяго 6 чалавек, што складала 6 проц. слухачоў.

А цяпер? Зараз мы маем 1.022 рабочых—60 проц. у Інстытутах чырвонай профэсуры (доўгія аплёдысмэнты).

Наша партыя, як ніякая іншая, на працягу ўсёй сваёй гісторыі, ідучы па тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна, умела дыялектычна спалучаць, конкрэтна ўвязваць у адно тэорыю і практыку рэволюцыйнага руху. Тав. Сталін у сваёй кнізе аб „Асновах ленінізму“ яскрава ахарактарызаваў значэньне маркса-ленінскай тэорыі.

„Тэорыя,—гаворыць Сталін,—ёсьць вопыт руху ўсіх краін, узяты ў яго агульным выглядзе. Зразумела, тэорыя робіцца беспрадметнай, калі яна ня зьвязваецца з рэволюцыйнай практыкай, таксама, як і практыка робіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй. Але тэорыя можа ператварыцца ў найвялікшую сілу рабочага руху, калі яна складаецца ў непарыўнай сувязі з рэволюцыйнай практыкай, бо яна, і толькі яна, можа даць руху ўпэўненасьць, сілу орыентоўкі і разуменьне ўнутранай сувязі акружаючых падзей, бо яна, і толькі яна, можа дапамагчы практыцы зразумець ня толькі

тое, як і куды рухаюцца клясы ў сучасным, але і тое, як і куды павінны рушыцца яны ў бліжэйшым будучым“ (Сталін—„Вопросы Ленинизма“, стар. 20).

Тэорытычная падрыхтоўка нашых кадраў заўсёды была насычана актуальным палітычным зьместам. Возьмем прыклад старой бальшавіцкай школы, арганізаванай Леніным у Лонжумо, і параўнаем вопыт гэтай школы з другой школай, арганізаванай на в. Капры Багданавым—адзавістам. Дзьве школы—дзьве програмы, два розных падыходы да падрыхтоўкі кадраў. Калі ў школе на в. Капры ў Багданава асоба віднае месца займалі: гісторыя грамадзкіх сьветапоглядаў, гісторыя мастацтваў, гісторыя рускай літаратуры, царква і дзяржава ў Расіі, дык у школе Леніна ў програме былі: аграрнае пытаньне, тэорыя і практыка соцыялізму, рабочае законадаўства. Калі там гісторыя мастацтваў, дык тут тэорыя і практыка соцыялізму, калі там гісторыя рускай літаратуры, дык тут гісторыя РСДРП, калі там царква і дзяржава ў Расіі, дык тут рабочае законадаўства.

Пры параўнаньні гэтых програм мы ясна бачым, што бальшавікі, Ленін, умелі ставіць і ставілі асноўныя пытаньні рэволюцыі ў непарыўнай сувязі тэорыі і практыкі. Невыпадкова таму, што з школы Леніна вышла некалькі членаў ЦК і ЦКК.

ІКП зьяўляецца і павінен зьяўляцца прадаўжэньнем, далейшым разьвіцьцём работы нашай партыі па падрыхтоўцы кадраў—байцоў за маркса-ленінскую, бальшавіцкую тэорыю. Гэта, зразумела, ня значыць, што можна паручыцца, што ўсе ІКПісты будуць членамі ЦК і ЦКК (Сьмех).

ІКП склаўся спачатку як школа для падрыхтоўкі выкладчыкаў. Па меры росту задач нашай партыі і соцыялістычнага будаўніцтва зьмяняўся і характар падрыхтоўкі кадраў. Успомніце пэрыод 1921 г. Гэта быў пэрыод увядзеньня нэп'у, гэта быў пэрыод ажыўленьня старой буржуазнай профэсуры ў нашых унівэрсытэтах. Значная частка гэтай буржуазнай профэсуры ў унівэрсытэтах была тады даволі злосна настроена і дзейнічала—тэорытычна і практычна—супроць нас. Яна—у найбольш палітычна актыўнай частцы сваёй—прапаведвала зьменавехаўскія тэорыі і падрыхтоўвала ідэолёгію і практыку шкодніцтва.

Вучоба пашыралася, агульны разварот культуры патрабаваў, перш за ўсё, стварэньня сваіх, бальшавіцкіх кадраў выкладчыкаў, бо кадр у 10-20 выкладчыкаў бальшавікоў ужо не задавальняў нашу партыю: партыя стаяла ва ўладзе і кіравала вялізарнай пролетарскай дзяржавай.

У далейшым, па меры разгортваньня размаху і тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, ускладненьне задач на ўсіх франтох соцыялістычнай будоўлі, ІКП пачаў падрыхтоўваць ужо кадры і для соцыялістычнай гаспадаркі, для дзяржаўнага апарату. Неабходнасьць у гэтых кадрах асабліва востра сказалася ў пэрыод шкодніцтва, у пэрыод абвостранай клясавай барацьбы, калі ў дзяржапараце сядзелі шкоднікі, а правыя ўхілісты не хацелі—ды і не маглі па самай сутнасьці сваіх установак—змагацца з імі. Ужо ў пэрыод шахцінскай справы т. Сталін з усёй вострасьцю паставіў пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў.

На сёнешні дзень мы, бязумоўна, маем дасягненьні ў гэтай галіне. Мы арганізавалі вырашэньне проблемы кадраў па сутнасьці, па-дзяржаўнаму, у шырокім маштабе. У нас—сотні тысяч і мільёны людзей рыхтуюцца ў ВТНУ, ВНУ, тэхнікумах. Мы ўжо зараз маем некаторыя ўстановы, дзе большая частка спэцыялістаў—гэта комуністы. Вазьміце,

напрыклад, Наркамзем, там амаль палова спэцыялістаў—комуністы: з 260 спэцыялістаў—126 комуністаў. Аднак, мы не павінны захапляцца дасягненьнямі. Мы павінны ўпарта і настойліва ажыцьцяўляць задачу, пастаўленую ў шасьці ўказаньнях т. Сталіна. Побач з умелым скарыстаньнем лепшых старых спэцыялістаў мы павінны сыстэматычна, з дня ў дзень працаваць над папаўненьнем старых кадраў новымі кадрамі, старога пакаленьня—новым пакаленьнем нашых пролетарскіх спэцыялістаў.

Па лініі ІКП трэба таксама падрыхтоўваць будаўнікоў і працаўнікоў пролетарскай дзяржавы побач з падрыхтоўкай выхавальнікаў-выкладчыкаў.

Роля выкладчыка-выхавальніка вялізарна. Мы павінны па-бальшавіцку змагацца за падвышэньне якасьці нашай вучобы. І тут роля выкладчыка асабліва вялікая. Ленін у лісьце да слухачоў школы на в. Капры з асаблівай рэзкасьцю падкрэсьліў значэньне ролі выкладчыкаў.

Ён пісаў: „ва ўсякай школе самае важнае—ідэйна-політычны кірунак лекцый. Чым вызначаецца гэты кірунак? Поўнасьцю і выключна складам лектароў. Вы вельмі добра разумееце, таварышы, што ўсякі „контроль“, усякае „кіраўніцтва“, усякія „програмы“, „статуты“ і інш., усё гэта—гук пусты ў адносінах да складу лектароў. Ніякі контроль, ніякія програмы абсолютна ня ў стане зьмяніць таго кірунку заняткаў, які вызначаецца складам лектароў. І ніколі і нідзе ў сьвеце, ні адзіная паважаючая сябе організацыя, фракцыя ці група ня возьмецца падзяліць адказнасьць за школу, кірунак якой ужо перадвызначаны складам лектароў, калі гэты кірунак варожы“ (т. XIV, стар. 118—119). Ленін піша гэта супроць складу лектароў, які быў там на в. Капры, але гэта не паслабляе, а ўзмацняе значэньне гэтага ліста для сёнешняга дня.

Некаторыя думаюць, што досыць напісаць кніжку,—а ў нас часта кніжкі пішуцца няправільна,—досыць напісаць програму, ці, як зараз асабліва модна выказвацца, „мэтодраспрацоўку“ для таго, каб забясьпечыць накіраваньне выкладаньня. Гэта глыбокая памылка. Вось чаму, таварышы, мы павінны з усёй рэзкасьцю пакрэсьліць неабходнасьць далейшага пашырэньня работы па марксысцкай падрыхтоўцы выкладчыкаў, далейшага разгортваньня барацьбы за якасьць выкладаньня.

## II. Тэорыя і практыка ў справе падрыхтоўкі кадраў. Барацьба за партыйнасьць вучобы

Вучобу неабходна зьвязаць з практычнай работай. Мы павінны ўсямерна пашыраць і паляпшаць вытворчую практыку: мы павінны падрыхтоўку кадраў, асабліва ў ІКП увязаць з работай дзяржаўнага, савецкага і партыйнага апарату, з гаспадарчымі органамі, з практычнай работай у наркаматах.

І гэта трэба рабіць па лініі ўсіх ІКП, па лініі ўсіх аддзяленьняў (транспортнага, плянавага, аграрнага і г. д.). Нельга думаць, што можна ў ІКП добра навучыць спэцыяліста аграрнаму пытаньню, калі гэты спэцыяліст ня зьвязаны шчыльнейшым чынам з практыкай будаўніцтва савгасаў і колгасаў, калі ён ня ўмее прыкласьці сваіх ведаў, свайго ўменьня да таго, каб абагуліць багацейшы вопыт практыкі, аналізаваць і абагульваць гэты вопыт, глыбока па-ленінску разумець дыялектыку сапраўднасьці.

Нідзе ў сьвеце няма такога вопытнага поля, няма такой лябараторыі, дзе вучань мог-бы правяраць свае веды на практыцы, як у нашай краіне.

Кожны ІКПіст, кожны вучань павінен умець абагульваць практыку, узьнімаць практыку да роўню тэорыі, а тэорыю аснашчаць, абагачаць практыкай жыцьця. Вось прыклад. Абгаварваючы пытаньні труднасьцяў з транспортам, мы нашчупалі ў мінулым годзе абязьлічку: мы ўстанавілі, што галоўнае зло—у абязьлічцы паравоза. Былі ўжыты меры, началася барацьба за спараную язду, і палепшылі справу.

Здавалася-б калі партыя змагаецца за вырашэньне проблемы транспорту, дык нашы навуковыя кадры, Комакадэмія і ІКП павінны былі-б пайсьці па пракладзеных сьцежках і шукаць, чым дапамагчы партыі далей у аднаўленьні транспорту. Праз паўгода партыя, яе кіруючыя органы напаткалі другое зло—абязьлічку вагонаў. А калі-б навуковыя працаўнікі, навуковыя кадры і ў прыватнасьці транспартная сэкцыя ІКП, калі-б яна пачала вывучаць вопыт барацьбы за аздараўленьне паравозу, шукаць, абагульваць практыку транспорту, яна-б напэўна, будучы вольнай ад іншых бягучых спраў, яна напэўна магла-б своечасова нашчупаць гэту абязьлічку вагонаў.

Гэта ёсьць адна з найбольш важных формаў вучобы. Толькі так можна організаваць сапраўдную вучобу.

ІКПіст павінен спэцыялізавацца ў сваёй галіне, але кожны ІКПіст—партыец, бальшавік, марксыст-ленінец; і мы ня можам рабіць так: вось рыхтуецца эканаміст—ён павінен выключна займацца экономікай, вось рыхтуецца філёзоф—яго лёс толькі філёзофстваваць і г. д. Мы змагаемся супроць гэткай „спэцыялізацыі".

На справе існуюць непарыўныя складаныя часткі адзінай марксысцка-ленінскай вучобы. Зразумела, спэцыялізацыя ёсьць і яна патрэбна. У кожным інстытуце патрэбна ўстанавіць асноўнае, ад чаго трэба адпраўляцца, галоўнае, чым трэба займацца ў пераважнасьці. Але нельга даводзіць спэцыялізацыю да абсурду. Нельга забываць, што ўсе гэтыя спэцыяльнасьці знаходзяцца ў жыцьці ва ўзаемадзеяньні, усе яны непарыўна паміж сабою зьвязаны.

Партыя патрабуе конкрэтнага падыходу, выразнай, мэтаімкнёнасьці ў тэорытычнай рабоце. Праводзячы барацьбу з разрывам паміж практыкай і тэорыяй, барацьбу на два фронты—з дзяляцтвам, вузкім практыцызмам, з аднаго боку, са схолястыкай, формалізмам—з другога, партыя патрабуе ад тэорытычных кадраў паглыбленага вывучэньня маркса-ленінскай тэорыі і тактыкі і шчыльнейшай увязкі практыкі з тэорыяй, увязкі тэорытычнай вучобы з усім вопытам і задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Рыхтуючыся да ролі кіраўнікоў-выхавальнікаў, ІКПісты павінны саміх сябе выхоўваць. Будучы кіраўніком, выхавальнікам іншых, ты не гарантаваны ад таго, што сам ты можаш дапусьціць памылкі. Значыцца, ІКПісты павінны сыстэматычна займацца самакрытыкай. Трэба сказаць што апошнія гады на нашым комуністычным навуковым фронце зьяўляюцца гадамі разгорнутай паглыбленай самакрытыкі ўнутры нашых радоў.

На навуковым фронце быў выкрыты рад шкодных „сыстэм" і „сыстэмак", рад буйных політычных і грубых прынцыповых памылак. Рубіншчына ў політычнай экономіцы, меншавіцтвуючы ідэалізм і мэханізм—у філёзофіі: рад памылак у галіне права і дзяржавы і нарэшце розныя шкодныя „тэорыйкі" ў галіне літаратуры (пераверзеў-

шчына). Усюды выкрыўся буржуазны і дробнабуржуазны ўплыў на гэтых тэорытычных франтох.

Можна проста сказаць, што громаншчына—у Дзяржпляне і рубіншчына—у экономічнай навуцы зьвязаны паміж сабой. Адзін прабаваў зьмяшаць карты ў складаньні плянаў, а другі імкнуўся адцягнуць увагу нашых комуністаў-экономістаў ад практыкі социялістычнага будаўніцтва, захапіць іх абстрактнымі спрэчкамі аб формулах з надворнага выгляду быццам-бы марксысцкіх, а на самай справе антымарксысцкіх, антыленінскіх.

Адрыў экономікі ад політыкі ёсьць характарнейшая рыса буржуазных тэорэтыкаў і іх социял-фашысцкіх лёкаяў.

Напрыклад, Каўцкі, даўно выкрыты як вораг марксызму, у апошняй сваёй кніжцы „Матар'ялістычнае разуменьне гісторыі (II том, стар. 578)—(выданай, да рэчы сказаць, нашым выдавецтвам вельмі дрэнна, без прадмовы, бяз крытыкі), піша: „Як магчыма такое становішча, што 2 ўзаемна процілеглыя клясы адначасова ўзмацняліся ня толькі абсолютна, але і адносна? Гэта здаваная супярэчнасьць разьвязваецца тым, што гэтыя абедзьве клясы пастаянна ўзмацняюцца ў дзьвюх зусім розных галінах. Сілы капіталістаў бязупынна растуць у галіне экономікі, а сілы пролетарыяту—у галіне політыкі“ (Сьмех).

Троцкі ў пропаведзі гэтай буржуазнай тэорыі не адстае ад Каўцкага. У кніжцы („Пэрманэнтная рэволюцыя“, стар. 141) ён піша, што „краіна можа „дасьпець“ для дыктатуры пролетарыяту, зусім не дасьпеўшы ня толькі для самастойнай пабудовы социялізму, але і для шырокіх мер социялізацыі“. Іншымі словамі, у політыцы—пролетарыят, а ў экономіцы—буржуазія.

Вось як на глебе барацьбы з маркса-ленінскім адзінствам экономікі і політыкі атрымалася поўнае адзінства... поглядаў Каўцкага і Троцкага.

У гісторыі барацьбы нашай партыі з рознымі скажэньнямі, з ухілам мы сутыкаемся з падобнага роду спробамі разрыву экономікі і політыкі.

Вазьмеце экономізм. У чым сутнасьць яго памылак? Прakланеньне перад стыхійнасьцю, ігнараваньне політычнай надбудоўкі, яе абаротнага ўзьдзеяньня на экономіку. Гэта было даўно. Але возьмем правы ўхіл? Сутнасьць яго памылак—адмаўленьне рэволюцыйнай пераўтвараючай ролі пролетарскай дыктатуры, стаўка на самацёк. Там—у экономістаў, і тут—у правых у аснове разрыў політыкі і экономікі, супроцьпастаўленьне іх.

Вазьмеце далей дыскусію аб профсаюзах і вы ўбачыце, што сутнасьць памылак супрацоўнікаў Леніна заключалася ў неразуменьні дыялектычнага адзінства экономікі і політыкі або, як сказаў Ленін, у „забвеньні марксызму, якое выразілася ў тэорытычна няверным, эклектычным азначэньні адносін політыкі да экономікі“ (XXVI, стар. 127).

Вось чаму мы павінны ў ІКП і на ўсіх навуковых франтох больш пранізаць вучобу партыйнасьцю, навучыцца кіраваць па-новаму, умець у кожным тэорытычным тэзісе знайсьці прыстасаваньне яго да вострых, палкіх пытаньняў сёнешняга дня, разумець адзінства процілегласьцяў у сапраўднасьці.

А што значыць, разумець адзінства процілегласьцяў у перакладзе на звычайную нашу політычную партыйную мову? Разумець адзінства процілегласьцяў у сапраўднасьці, гэта значыць не баяцца труднасьцяў! Гэта значыць не баяцца тых супярэчнасьцяў жыцьця, якія на нашым шляху ўзьнікаюць, а перамагаць іх з бальшавіцкай энэргіяй і настой-

лівасьцю. Гэта азначае, „што нашы труднасьці зьяўляюцца такімі труднасьцямі, якія самі зьмяшчаюць у сабе магчымасьць іх перамаганьня. Гэта значыць, што адрозьніваючая рыса нашых труднасьцяў зьяўляецца ў тым, што яны самі даюць нам базу для іх перамаганьня" (Сталін. Політсправаздача ЦК на XVI зьезьдзе УсеКП(б).

Трэба гэтую магчымасьць ператварыць у сапраўднасьць, трэба, мобілізуючы ўсе духоўныя сілы, волю да перамогі, дапамагчы гэтай об'ектыўнай магчымасьці хутчэй і лепш увасобіцца ў сапраўднасьць. Трэба па-бальшавіцку падыходзіць да вучобы і здолець узяць ад Гегеля, напрыклад, тое, што патрэбна для нас, для нашай барацьбы. Асабліва трэба па-бальшавіцку, па-ленінску падыйсьці да гісторыі мінулага, да гісторыі ўчарайшага дня і падыйсьці так, каб гісторыю гэтага ўчарайшага дня ўвязаць з генэральнай лініяй партыі, з тымі вялізарнымі новымі задачамі, якія стаяць перад намі сёньня, якія будуць яшчэ стаяць заўтра.

У гэтым сутнасьць партыйнасьці ў вучобе, у гэтым сэнс маркса-ленінскага выхаваньня, за гэта трэба па-бальшавіцку змагацца.

## III. Марксысцка-ленінскае выхаваньне і гісторыя партыі

### 1. Трацкісцкая контрабанда ў гісторыі партыі

Зараз мы стаім з вамі перад новымі задачамі. Тав. Сталін ускрыў найшкоднейшыя скажэньні і грубейшыя памылкі ў аднэй з сур'ёзьнейшых галін—у галіне гісторыі нашай бальшавіцкай партыі. Сваім лістом тав. Сталін узьняў пытаньні гісторыі партыі, задачы яе вывучэньня на аграмадную вышыню. Гісторыя нашай партыі ёсьць гісторыя незамірымай барацьбы з ухіламі ад пасьлядоўных, рэволюцыйных марксысцка-ленінскіх позыцый.

Наша партыя гіганцкі вырасла. Яна вырасла ў бязьлітаснай і рашучай барацьбе з ухіламі, са скажэньнямі марксызму-ленінізму. За апошняе дзесяцігодзьдзе гэтыя спрэчкі ішлі па асноўным пытаньням політыкі партыі, па галоўным пытаньням практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. Спрэчкі аб бягучай політыцы і практыцы заўсёды былі спрэчкамі глыбока тэорытычнымі. Сваім выходным пунктам яны мелі заўсёды тэорытычныя рознагалосьсі. У аснове практычных памылак ляжалі скажэньні маркса-ленінскай тэорыі.

Барацьба за маркса-ленінскае выхаваньне зьяўляецца выключна важнай, вельмі вострай зараз менавіта таму, што мы ў нашай партыі маем больш двух з паловаю мільёнаў членаў; прычым з іх каля 1 з палов.—2 мільёнаў чалавек з 3-4-5-гадовым стажам; мы маем затым 5 з палов. мільёнаў членаў комсамолу. Як бачыце, справа ідзе аб мільёнах. Але тут і колькасьць і якасьць, бо справа ідзе аб членах самай рэволюцыйнай, тэорытычна самай пасьлядоўнай і дысцыплінаванай партыі ў сусьветнай гісторыі.

Як выхаваць гэтыя мільёны маладога пакаленьня? Як выкаваць з іх устойлівых і вопытных ленінцаў?

Мы шырока ставім проблему маркса-ленінскага выхаваньня членаў партыі. Як трэба па-бальшавіцку ставіць гэтую проблему? Трэба ставіць яе ня з пункту погляду школьна-пэдагогічнага, не формальна і не схематычна, а па-рэволюцыйнаму, па-бальшавіцку. Да гісторыі нашай партыі часта падыходзяць формальна, больш або менш добрасумленна выкладаюць хронолёгію, вырываюць паасобныя факты, апісваюць больш або менш верна асобныя падзеі, але сувязі паміж

гэтымі фактамі і падзеямі ня ўскрываюць. Патрэбна дыялектычнае вывучэньне гісторыі партыі, патрэбна разуменьне законамернасьцяў разьвіцьця, патрэбна, далей, завастрэньне ўвагі на галоўных і асноўных пытаньнях, на рашаючых этапах нашай рэволюцыі.

Мы павінны выхоўваць членаў партыі, комсамолу, мы павінны ўздымаць новыя і новыя пласты рабочай клясы, выхоўваючы іх на вывучэньні гісторыі нашай бальшавіцкай партыі. А гэта гісторыя ня ёсьць, як гэта думаюць многія гісторкыі-схематыкі, гісторыя безвзаротна прашоўшага мінулага, кануўшага ў невядомае ўчарайшага дня. Уся наша гісторыя ёсьць програма, стратэгія і тактыка, організацыя героічнай барацьбы лепшых, перадавых элемэнтаў нашай клясы за перамогу дыктатуры пролетарыяту, за зьнішчэньне кляс, за комунізм.

І калі наша краіна, якая лічылася раней самай адсталай краінай у сьвеце, калі наша краіна—адна шостая частка зямное кулі—зараз зьяўляецца краінай соцыялізму, дык гэтым мы абавязаны бальшавіцкай програме, тактыцы і організацыі пролетарыяту, програме і кіраўніцтву нашай партыі. Гэтым мы абавязаны тэй самаадданай барацьбе, якую вялі лепшыя людзі на чале з Леніным на працягу дзесяткаў год супроць народнікаў, легальных марксыстаў, экономістаў, меншавікоў, трацкістаў, правых і прымірэнчых элемэнтаў у партыі. Вось чаму няма лепшага вопыту, няма лепшай зброі выхаваньня нашай моладзі ў духу марксызму-ленінізму, чым гісторыя нашай партыі.

Гэтым тлумачыцца той факт, што тав. Сталін з асаблівай вастратой рэагаваў на шкоднейшыя скажэньні і буйнейшыя памылкі, якія дапушчаны былі ў выкладаньні гісторыі нашай партыі.

Ён выкрыў у сваім лісьце ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская рэволюцыя“ трацкісцка-паклёпніцкую спробу сказіць гісторыю нашай партыі, груба сказіць гісторыю ленінізму, узьвесьці паклёп на Леніна і прадставіць справу перад шырокай партыйнай і комсамольскай грамадзкасьцю такім чынам, што Ленін, бачыце, да рэволюцыі ня быў бальшавіком.

Злачыннасьць гора-гісторыкаў тыпу Слуцкага заключаецца ў імкненьні паказаць справу так, што Ленін да рэволюцыі недаацэньваў і, значыцца, не змагаўся па-сапраўднаму з цэнтрызмам у II-м Інтэрнацыянале і ў нямецкай соцыял-дэмократыі, што, бачыце, Ленін і ленінізм слаба падтрымлівалі, а ў некаторых выпадках і не падтрымлівалі так званых левых соцыял-дэмократаў у нямецкай соцыял-дэмократычнай партыі, г. зн. Розу Люксэмбург і інш.

А адзін з іх—Міронаў, які скончыў ІКП, былы нам. дырэктара Акадэміі комуністычнага выхаваньня (вялікай акадэміі, дзе больш як дзьве з паловай тысячы комуністаў), пісаў, што бальшавікі да вайны не выступалі супроць Каўцкага, таму што яны лічылі яго ортодоксальным марксыстам.

Ці трэба яшчэ абвяргаць гэтыя злосныя скажэньні і фальсыфікацыю гісторыі ленінізму?

Варта толькі ўдумацца ў гісторыю барацьбы Леніна з Мартавым, Аксэльродам, Пляханавым, пачынаючы з 1903 году, нарэшце, з Троцкім, каб зразумець, што Ленін, як ніхто іншы, змагаўся з рознага роду опортунізмам, у тым ліку і цэнтрызмам, выкрываючы яго перш за ўсё ў сваіх уласных радох, у радох Расійскай с.-д. рабочай партыі, і выкрываючы тым самым опортунізм, цэнтрызм, каўцкіянцтва ў II інтэрнацыянале. Ленін заўсёды змагаўся і ганьбіў опортуністаў, якія „рррэвалюцыйны“ для далёкіх краін, размахваюць кардонным мячом су-

проць далёкага праціўніка, пасуючы перад сваім блізкім ворагам у сваёй уласнай краіне, ён змагаўся з рэвізіяністамі і прымірэнцамі ў сябе пад бокам, выкрываючы разам з тым рэвізіянізм і прымірэнцтва па ўсім фронце міжнароднага рэволюцыйнага руху пролетарыяту.

І іменна таму Ленін не падтрымліваў безагаворачна г. зв. левых у нямецкай с.-д. Кім, уласна кажучы, былі левыя соцыял-дэмократы, кім былі Роза Люксэмбург, Парвус і іншыя? Ці былі яны ў свой час настолькі-ж левымі, як Ленін, як рускія бальшавікі, ці былі яны настолькі-ж пасьлядоўнымі, як Ленін, як рускія бальшавікі, ці можна назваць іх бальшавікамі? Самае элемэнтарнае добрасумленнае знаёмства з фактамі гісторыі з нясумненасьцю гаворыць аб тым, што Ленін і наогул рускія бальшавікі былі адзінымі да канца пасьлядоўнымі марксысцкімі левымі ва ўсім II інтэрнацыянале перадваеннага пэрыоду, што левыя с.-д. у Германіі ня былі бальшавікамі, што яны ўвесь час хісталіся паміж бальшавізмам і меншавізмам, вельмі часта зьбліжаючыся з меншавікамі, цэнтрыстамі.

Ленін і бальшавікі не заўсёды падтрымлівалі левых у нямецкай соцыял-дэмократыі, у тым ліку і Розу Люксэмбург. А чаму? Да іменна таму, што Роза Люксэмбург па радзе асноўных пытаньняў, як гэта паказаў Ленін у сваіх творах, а цяпер паказвае Сталін,—па радзе карэнных пытаньняў, па пытаньням організацыйным, нацыянальным і колёніяльным, па пытаньні аб імпэрыялізьме, аб сялянстве і аб так званай пэрманэнтнай рэвалюцыі—разыходзілася з бальшавікамі, зьбліжалася з цэнтрыстамі. Яна была бліжэй да троцкістаў, да Троцкага, які быў тады сапраўдным цэнтрыстам і організаваў цэнтрысцкі жнівеньскі блёк у 1911-12 гг.

Троцкі быў цэнтрыстам, а што з гэтага вышла? Цяпер яго цэнтрызм перарос у контррэволюцыйнасьць. Троцкі—цэнтрыст у мінулым, зьяўляецца зараз, як і Каўцкі, былы цэнтрыст, адным з перадавых байцоў контррэволюцыйнай буржуазіі. Цэнтрыст-Троцкі падзяліў лёс цэнтрыста-Каўцкага.

Само сабой зразумела, Роза Люксэмбург мае вялізарныя заслугі. Яе імя ўвайшло ў гісторыю як імя барацьбіта за вызваленьне нямецкай рабочай клясы, барацьбіта, забітага рукамі нямецкай соцыял-дэмократыі. Гэта бясспрэчна. Але ці значыць гэта, што мы павінны сфальсыфікаваць гісторыю, замоўчваючы і змазваючы заднім чыслом памылкі Розы Люксэмбург і левых с.-д. у Германіі наперакор патрабаваньням гістарычнай праўды? Ясна, што ня значыць.

На фракцыі таварыства гісторыкаў-марксыстаў выступаў т. Радэк. Ён прызнаў рад сваіх памылак, ён прызнаў, што Роза Люксэмбург не заўсёды займала правільную бальшавіцкую позыцыю. Аднак, ён не зьвязаў сваю памылковую позыцыю, калі ён быў разам з Розай Люксэмбург, са сваёй памылковай позыцыяй потым, калі ён быў разам з Троцкім. Ён разьвіваў тэорыю, што Роза Люксэмбург зьяўляецца мастом для лепшых с.-д. рабочых да нас, і таму трэба лягчэй яе крытыкаваць. Па-першае, гэта тэорыя няправільная: не абавязкова, каб рабочыя прыходзілі да нас праз люксэмбургіянцкі мост. Па-другое, тыя рабочыя, якія ўсё яшчэ зьвязаны з гэтым мастом, павінны ведаць аб памылках левых с.-д., каб вучыцца на гэтых памылках і стаць сапраўднымі бальшавікамі. У іншым выпадку, калі ты будзеш замазваць памылкі Розы Люсэмбург, гэты мост будзе мостам да соцыял-дэмократыі, а не да комунізму. А калі ты па-бальшавіцку будзеш ускрываць памылкі Розы Люксэмбург—гэта будзе для ра-

бочых мостам ад социял-дэмократычных памылак да бальшавікоў. Вось як бальшавікі павінны паставіць гэтае пытаньне. А тав. Радэк не дагаварыў да канца. Відаць, гэта тлумачыцца тым, што ён ня ўскрыў поўнасьцю, што ён-то або сам аказаўся мастом паміж Розай Люксэмбург і Троцкім, або прайшоў праз мост ад Розы Люксэмбург да Троцкага па агульнаму небальшавіцкаму шляху (сьмех).

У чым заключаецца значэньне вядомага артыкулу Слуцкага? У тым, што ён прадстаўляе адкрытую спробу працягнуць трацкісцкі хлам пад сьцягам левых с.-д. даваеннага пэрыоду, пад сьцягам люксэмбургіянцтва. У гэтым сэнсе артыкул Слуцкага — характэрнае зьвішча сучасных абставін. Ці напісаны гэты артыкул выпадкова ці не—гэта ня мае значэньня. Сам па сабе Слуцкі вельмі нязначная, мізэрная ў палітычным сэнсе фігура. Гэты чалавек доўгі час быў меншавіком, затым быў па-за партыяй і толькі ў 1930 годзе ўступіў у кандыдаты нашай партыі. Факт, што гэты чалавек, які толькі што ўступіў у кандыдаты партыі, атрымаў магчымасьць выступіць з артыкулам супроць Леніна, з абвінавачаньнем яго ў недаацэнцы небясьпекі цэнтрызму, з абвінавачаньнем яго ў тым, што ён не падтрымліваў да канца блізкіх да трацкістаў левых с.-д. у Германіі і, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным рэволюцыянэрам. Было-б вельмі многа для Слуцкага, калі-б мы заняліся тут сур'ёзным разборам гэтага паклёпніцкага глупства Слуцкага. Досыць таго, што Сталін мімаходам разьвеяў яго ў парахню. І справа тут нават ня ў тым, што Слуцкі напісаў паклёпніцкае глупства. Справа ў тым, што знайшоўся бальшавіцкі часопіс, які прадставіў Слуцкаму свае старонкі для гэтага глупства. Справа ў гнілым лібэралізьме некаторых нашых комунстаў у адносінах трацкісцка-мысьлячых пісьменьнікаў. Калі Троцкі ў сваёй гнуснай і выхвальнай брошуры „Моя жизнь“ паказвае сябе як цэнтар рэволюцыі, замоўчваючы аб тым, што ён даўно ўжо перайшоў у лягер ворагаў рэволюцыі, дык у гэтым няма нічога асаблівага; бо што-ж яшчэ застаецца рабіць банкроту і перабежчыку, калі ня ўцешыць сябе выхвальствам і самавыхваленьнем? Калі Слуцкі прабуе ў сваім артыкуле скарыстаць сьцяг люксэмбургіянцтва, каб працягнуць у нашу прэсу трацкісцкі хлам, дык у гэтым таксама няма нічога асаблівага, бо што-ж яшчэ застаецца рабіць разьбітым дашчэнту трацкістам, як не заспакойваць сябе контрабандай? Але калі бальшавіцкі часопіс „Пролетарская Рэволюцыя“ знаходзіць магчымым прадставіць свае старонкі трацкісцкім контрабандыстам, дык гэта ўжо не пусьцяковае зьявішча. Гэта значыць, што ў нашых радох жыве яшчэ гнілы лібэралізм у адносінах ухілаў ад бальшавізму і скажэньняў гісторыі нашай партыі. Гэта значыць, што ў нашых радох ёсьць яшчэ людзі, гатовыя па свайму галавацяпству аказаць трацкісцкім контрабандыстам нявольную дапамогу ў справе фальсыфікацыі гісторыі бальшавізму дзеля гнілога лібэралізму.

Вось чаму я думаю, таварышы, што барацьба з гнілым лібэралізмам у нашых радох зьяўляецца састаўной часткай нашай барацьбы супроць фальсыфікацыі і скажэньняў гісторыі нашай партыі.

## 2. Аб ленінскім перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі—у рэволюцыю социялістычную, аб трацкісцкай тэорыі пэрманэнтнай рэволюцыі і аб памылках гісторыкаў

Але, на жаль, часопіс „Пролетарская Рэволюцыя“ аказаўся не адзіным нашым слабым месцам. Яшчэ больш слабым месцам аказалася

„Гісторыя ЎсеКП“ т. Яраслаўскага. Справа ў тым, што тав. Яраслаўскі, зьяўляючыся рэдактарам чатырох томаў „Гісторыі ЎсеКП(б)“, дапусьціў грубыя памылкі, ён даў волю сабраным ім маладым гісторыкам,—рад з гэтых „гісторыкаў“ можна ў лапкі паставіць,—і ня толькі ня спыніў іх у спробах сказіць гісторыю партыі, але даў сваю пячатку, даў свой подпіс, сваё імя, падтрымаў іх у гэтым.

Я ня буду тут разьбіраць усе памылкі „Гісторыі“ пад рэдакцыяй т. Яраслаўскага. Часткова гэтыя памылкі ўжо крытыкаваліся і, няма сумненьня, крытыка яшчэ разгорнецца. Я толькі скажу, што тав. Яраслаўскі ў сваёй „Гісторыі“, ці больш верна ў „Гісторыі“ пад рэдакцыяй тав. Яраслаўскага, няправільна трактуецца пытаньне аб рэволюцыі 1905 г., няправільна падаецца роля Леніна і яго ацэнка характару рускай рэволюцыі, няверна падана наша бальшавіцкая пастаноўка пытаньня аб гегемоніі пролетарыяту і ў асаблівасьці аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную.

Падамо для ілюстрацыі толькі адну вытрымку з артыкулу тав. Баеўскага, надрукаванай у III-м томе „Гісторыі ЎсеКП“ (стар. 206). Гэты „гісторык“ піша: „вось гэтая-то об'ектыўная сувязь рэволюцыі супроць царызму з рэволюцыяй супроць імпэрыялізму была ўсьвядомлена партыяй яшчэ (!) ў гады вайны“... Як бачыце, ён міласьціва робіць адалжэньне Леніну і партыі, усьвядоміўшым нібы гэту сувязь „яшчэ“ ў гады вайны. Гэту сувязь, паводле думкі глыбокамысьленага „гісторыка“, „знайшла свой выраз у новай пастаноўцы Леніным пытаньня аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэзолюцыі ў Расіі ў соцыялістычную, у сувязі з данай вайной. Яна знайшла свой выраз у падрыхтоўцы зьмены стратэгічных плянаў“.

Але чым-жа адрозьніваецца гэта ад вядомага „пераўзбраеньня“ Троцкага?

Па сутнасьці справы—нічым.

А ў II-м томе вы знойдзеце рад памылак і вельмі блытаную ацэнку позыцыі бальшавікоў у 1905 г. у духу трацкісцкай трактоўкі позыцыі Леніна аб перарастаньні.

Памылкі ў „Гісторыі“ пад рэдакцыяй тав. Яраслаўскага аб ацэнцы ролі бальшавікоў у 1905 г., адмаўленьне таго, што Ленін быў за перарастаньне, павялі няўхільна да памылковай і шкоднай ацэнкі ролі бальшавікоў у першы пэрыод 1917 агідным паклёпам на бальшавікоў. Калі зараз некаторыя „гістарычныя“ кручкатворы накшталт Д. Кіна, формалісты „ад гісторыі“ прабуюць падаць справу так: „я, моў, таварышы, за партыю, за ЦК; я толькі старонку маленькую напісаў, падумайце самі — які-ж я грэшнік“, калі гэтыя людзі прабуюць зьвесьці ўсю справу да старонкі, дык яны проста паказваюць сваё невуцтва, сваё ўбоства па частцы тэорыі і гісторыі. Падумаеш — старонка, ці-ж у гэтым справа? Трэба ведаць, хоць-бы троха гісторыю, каб бачыць сувязь паміж памылкамі „Гісторыі“ пад рэдакцыяй тав. Яраслаўскага ў ацэнцы ролі бальшавікоў у 1905 г. і паклёпніцкай трацкісцкай ацэнкай ролі бальшавікоў у лютым—сакавіку 1917 году.

Такую-ж перагрымку і скажэньне гісторыі нашай партыі, скажэньне позыцыі Леніна дапускае т. Папоў (К. А.). Ён таксама, аказваецца, трактуе позыю Леніна ў пытаньні аб перарастаньні ў духу небальшавіцкім. І вось, каб падмацаваць правільнасьць сваёй трактоўкі, ён пры рэдагаваньні зборніку абраных твораў Леніна ня ўключыў у зборнік аднаго з важнейшых артыкулаў Леніна аб перарастаньні. Вось цытата з гэтага артыкулу Леніна:

„Мы спачатку падтрымліваем да канца, усімі мерамі, да конфіскацыі,—селяніна наогул супроць абшарніка, а потым (і нават ня потым, а ў той-жа самы час) мы падтрымліваем пролетарыят супроць селяніна наогул. Улічыць зараз комбінацыю сіл унутры сялянства на „другі дзень“ пасьля рэволюцыі (дэмократычнай) — пустая ўтопія. Не ўпадаючы ў авантурызм, не зьмяняючы свайго навуковага сумленьня, не ганяючыся за таннай популярнасьцю, мы можам сказаць і гаворым толькі адно: мы ўсімі сіламі дапаможам усяму сялянству зрабіць рэволюцыю дэмократычнай, каб тым лягчэй было нам, партыі пролетарыяту, перайсьці як-мага хутчэй да новай і вышэйшай задачы—рэволюцыі социялістычнай. Мы не абяцаем ніякай гармоніі, ніякай ураўніцельнасьці, ніякай „социялізацыі“ з перамогі цяперашняга сялянскага паўстаняня, — насупроць, мы „абяцаем“ новую барацьбу новую няроўнасьць, новую рэволюцыю, да якой мы і імкнемся,“ (VIII, стар. 186-187).

І вось, уявеце сабе, гэты артыкул Леніна аб адносінах нашай партыі да сялянскага руху ў зборнік абраных твораў Леніна, складзены т. Паповым К. А., якраз не ўвайшоў.

Чаму, на якой падставе?

Але вось пытаньне: а як ён сам глядзіць на проблему перарастаньня? Аказваецца па Папову ў Леніна да 1917 г. быў асобны плян, а іменна: бальшавікі, бачыце, думалі, што паміж буржуазна-дэмократычнай рэволюцыяй і рэволюцыяй социялістычнай павінна ляжаць социялістычная рэволюцыя на Захадзе. Выходзіць, што Папоў ленінскую тэорыю перарастаньня замяніў па сутнасьці справы троцкісцкай, а таму яму не спатрэбіўся артыкул Леніна і ён адкінуў яго. Так складаецца гісторыя партыі...

Дапусьціўшы памылкі троцкісцкага характару, некаторыя з гэтых гісторыкаў прабуюць апраўдаць сябе ўбогім лепетам, паглыбляючым антыпартыйны характар іх памылак, аб „об'ектыўнасьці“ і „політычнай мэтазгоднасьці“. Выступаючы на сходзе Таварыства гісторыкаў-марксыстаў па гэтаму пытаньню адзін з аўтараў „Гісторыі“ пад рэдакц. т. Яраслаўскяга — т. Мінц, спыняючыся на памылках, дапушчаных у IV томе, зьвёў справу да таго, што „мы падышлі ня з пункту погляду політычнай мэтазгоднасьці пры выцягваньні тых альбо іншых фактаў, а з пункту погляду тэй об'ектыўнасьці, якая абсолютна не характарызуе нашу політычную гісторыю і якая зьяўляецца адрыжкай буржуазнага лібэралізму“...

Тав. Мінц тут пад відам нібы крытыкі буржуазных гісторыкаў і сваіх ранейшых памылак на самой справе самой гэтай пастаноўкай пытаньня—супроцьпастаўленьня „об'ектыўнасьці“ „політычнай мэтазгоднасьці“ — аднаўляе свае старыя опортуністычныя памылкі. Але справа ня толькі ў гэтай мэтодолёгічнай, гаворачы агульнапрынятым у навуковых колах тэрмінам, памылцы, а ў тым, што т. Мінц гэтай сваёй заявай прабуе зьвесьці ўсю справу да таго, што мы, бачыце, напісалі гісторыю добрую, об'ектыўную, але мы павінны былі, бачыце, паступіцца „об'ектыўнасьцю“, каб дагадзіць „політычнай мэтазгоднасьці“. Тав. Мінц, відавочна, забывае, што гісторыя, у тым ліку гісторыя ЎсеКП(б), павінна быць навуковай, об'ектыўнай, абсолютна праўдзівай, што бяз гэтага гісторыя траціць навуковы характар і ператвараецца ў мітолёгію.

Наўрад ці ёсьць неабходнасьць спрачацца з тэорытычнай бязгрунтоўнасьцю гэтай „новай“ установкі т. Мінца. Выступленьне тав. Мінца прадстаўляе манэўр, убогую спробу замазаць асноўны сэнс памылак,

дапушчаных у „Гісторыі“ пад рэдакцыяй т. Яраслаўскага. У тым-та і справа, што „Гісторыя“ Мінца ёсьць не об‘ектыўная гісторыя. Асноўнае заключаецца тут у тым, што таксама, як буржуазныя, соцыял-опортуністычныя гісторыкі з II інтэрнацыяналу прыкрываюцца об‘ектыўнасьцю сваіх „навуковых“ прац, а на справе абслугоўваюць барацьбу буржуазіі з пролетарыятам, так і т. Мінц і яго прыяцелі сваёй быццам „об‘ектыўнай „Гісторыяй“, а на самой справе сугуба суб‘ектыўнай „Гісторыяй“, абслугоўваюць заўзятых паклёпнікаў і фальсыфікатараў гісторыі партыі—трацкістаў. Ня гледзячы на тое, а хутчэй дзякуючы таму, што „об‘ектыўныя“ гісторыкі ў прадмове да IV тому з горда ўзьнятай галавой заявілі аб сваім імкненьні „даць зусім об‘ектыўнае асьвятленьне“, падыйсьці „да пытаньня з максымальнай гістарычнай об‘ектыўнасьцю, строга захоўваючы на працягу ўсёй работы гістарычную пэрспэктыву“, колектыў, які сабраўся пад кіраўніцтвам тав. Яраслаўскага, даў не об‘ектыўную гісторыю, а фальсыфікаваную ў цэлым радзе момантаў гісторыю, падмаляваную пад колер трацкізму.

Такім чынам, дарма т. Мінц узводзіць паклёп на сваю „Гісторыю“, быццам там ня было „політычнай мэтазгоднасьці“. Політычная мэтазгоднасьць была, але мэтазгоднасьць трацкісцкая, а не якая-небудзь іншая.

Памылкі ў гісторыі, як пад рэдакцыяй т. Яраслаўскага, так і іншых гісторыкаў, зьяўляюцца рэзультатам недыялектычнага, схолястычнага і формалістычнага падыходу да вывучэньня гісторыі наогул і гісторыі нашай партыі ў прыватнасьці. Таму т. Сталін у сваім лісьце асабліва падкрэсьліў задачу барацьбы з формальна-бюрократычным падыходам да гісторыі. Калі некаторыя бальшавікі, барацьбіты за генэральную лінію партыі, трапляюць часамі на вудачку трацкістаў, дык гэта ў большасьці выпадкаў тлумачыцца тым, што яны забываюць дыялектыку, разрываюць і супроцьпастаўляюць тэорыю і практыку, гісторыю і політыку.

Менавіта формальнае вывучэньне падзей, фактаў гісторыі, формальныя аналёгіі прыводзяць часта да раду памылак у разуменьні многага ў тактыцы і барацьбе нашай партыі. Напрыклад, бальшавікоў, высунуўшых у 1917 годзе лёзунг — „далоў 10 міністраў-капіталістаў“, калі ва ўрадзе былі і меншавікі з эсэрамі, можна было-б абвінаваціць і абвінавачваюць часамі некаторыя гора-гісторыкі ў непасьлядоўнасьці. А між тым гэты лёзунг быў адзіна правільным і адным з популярнейшых сярод рабочых у той час. Непасьлядоўны лёзунг — калі формальна, схолястычна падыходзіць да справы. А калі ўдумацца ў абстаноўку, дык зразумееш геніяльнасьць тактыкі бальшавікоў у той момант, калі трэба было адарваць саветы ад кадэцкай партыі.

Быў-жа момант у 1917 годзе, калі ў саветах пераважывалі меншавікі і эсэры. Мы высоўвалі патрабаваньне, каб і гэтыя саветы ўзялі ўладу. Чаму мы так ставілі пытаньне? Таму, што масы ў першыя месяцы рэволюцыі былі захоплены, сярод іх шырока былі распаўсюджаны, як казаў Ленін, „конституцыйныя ілюзіі“. Цара нізрынулі. Усе хадзілі з чырвонымі істужачкамі. Многія не маглі адразу зразумець усяго, што здарылася, многія не адразу сталі на шлях вострай барацьбы за разгортваньне рэволюцыі, не адразу раскусілі здрадніцтва меншавікоў і эсэраў. Бальшавікі таму і стаялі тады за пераход улады да меншавіцка-эсэраўскіх саветаў, каб прымусіць гэтых паноў прыступіць да правядзеньня сваёй програмы і тым даць масам разгледзець свой антынародны твар. Формалісты гэтага не разумеюць, а ленінцы зразумеюць.

Або, напрыклад, мы абвінавачвалі ўрад Керанскага ў тым, што ён адцягвае скліканьне Ўстаноўчага збору, як быццам мы—бальшавікі „стаялі за“ Ўстаноўчы збор між тым, як, праз некаторы час, мы самі разагналі Ўстаноўчы збор. Калі формальна, схолястычна, бюрократычна падыйсьці да справы, дык атрымліваецца „непасьлядоўнасьць“. Але ленінцы-дыялектыкі і не маглі прадставіць іншай тактыкі, бо рэволюцыя патрабавала, каб масы былі падведзены да сьцен Ўстаноўчага збору і ўбачылі навочна яго нягоднасьць.

Хто не разумее Леніна, насычанага воляй да барацьбы і перамогі, хто не разумее гібкасьці ленінскай тактыкі, той ня зможа зразумець гісторыю нашай партыі, вывучаць яе і зрабіць з яе ленінскія вывады. У барацьбе за перамогі пролетарскай дыктатуры Ленін відазьмяняў лёзунгі, улічваючы настрой мас, іх гатоўнасьць да барацьбы, зжываньне імі забабонаў, і заваёвы гэтых мас, ні на крок не адступаючы ад асноўнага: ад барацьбы за перамогу пролетарскай дыктатуры.

Вось які падыход неабходны нам для вывучэньня гісторыі партыі і выхаваньня на яе вопыце нашай моладзі. Менавіта такі, а ня гнілы формальна-бюрократычны падыход капаньня ў паперках, як гэта робяць зараз „гісторыкі“ тыпу Слуцкага. Ці бачыце ў іх не аказалася паперкі пад рукамі, дзе-б Ленін напісаў чорным па беламу, што „Каўцкі—сволач“, а калі не аказалася такой паперкі, дык значыць ён, Слуцкі, які паважаў нядаўна, і мажліва, паважае зараз Каўцкага, мае зараз нагласьць папракаць Леніна ў тым, што той быццам не змагаўся з цэнтрыстамі. Шукаючы такую паперку, яны гатовы напісаць купу артыкулаў, але яны ня хочуць патурбавацца, каб заўважыць і адзначыць той агульнавядомы факт, што Ленін і рускія бальшавікі зьяўляюцца адзінай у сьвеце левай групай, якая разграміла нашчэнт і выгнала з партыі ўсіх і ўсякіх цэнтрыстаў.

Вось вам тыповы трацкісцка-меншавіцкі „мэтод“ „вывучэньня“, „ізлажэньня“ і „трактоўкі“ гісторыі.

### 3. Выкрываючы манэўры трацкістаў, па-бальшавіцку змагацца за ленінізм, за генэральную лінію партыі

Асаблівасьці сучаснага этапу барацьбы за партыю, за ленінізм заключаюцца ў тым, што трацкізм разьбіты, правы ўхіл выкрыты, а генэральная лінія партыі перамагла па ўсёй лініі. Нашы перамогі, гэта — турбіна за турбінай, завод за заводам, рост продукцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага разьвіцьця.

Адкрыта пад сьцягам трацкізму выступаць цяпер цяжка, мас не заваюеш, капітал не нажывеш. Выступаць трэба пад другімі сьцягамі, лёзунгамі, тэзісамі, формулёўкамі. Трэба паставіць пад сумненьне пасьлядоўнасьць ленінскай бальшавіцкай тэорыі, каб ачарніць нашу практыку ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі.

Опортунізм прабуе таму пралазіць зараз у нашы рады, прыкрываючыся, прымазваючыся, прыфарбоўваючыся, поўзаючы на бруху, прабуе прасякнуць у шчыліны і ў асаблівасьці прабуе ўлезьці праз вароты гісторыі нашай партыі.

У чым сэнс „філёзофіі гісторыі“ Слуцкіх, Альтэраў і г. д. контрабандыстаў. Мы, бязумоўна, маем тут непасрэдную або ўкосную спробу трацкістаў і паўтрацкістаў аказаць свой уплыў на вывучэньне гісторыі нашай партыі, спробу іх аказаць свой уплыў на выхаваньне нашай партыйнай і комсамольскай моладзі. У гэтым палітычны сэнс усёй

гэтай хітрай па форме, але грубай па сутнасьці гістарычнай мэханікі. Тут гвозд пытаньня.

Троцкі знаходзіцца па-за нашай краінай. Тут, у нас, у савецкай краіне, спаганены, забруджаны, разарваны ў клочча рабочай клясай нашай краіны, зганьбаваны сьцяг Троцкага ня можа нікога на свой бок прыцягнуць і заваяваць. Трэба падыйсьці да мас з другога боку, паціханьку, „легальнымі" мэтодамі, іншымі шляхамі. Трэба падыйсьці з фронту гісторыі партыі, гісторыі рабочага руху, скарыстоўваючы сьцяг люксэмбургіянцтва і любую іншую маску.

Як разважаюць пры гэтым гэтыя сьцяганосцы трацкізму? „Ну што-ж, вы—бальшавікі, вы—цэкісты, вы заняты будаўніцтвам Магнітагорску, Днепрабуду, новай Масквы, Кузьнецкбуду, Бобрыкаў, вы заняты плянам і трактарамі, вас непакоіць бульба, вугаль і г. д., — ну і займайцеся гэтай справай, а мы зоймемся гісторыяй, мы будзем рыхтаваць паступова, паціханьку, будзем вужом поўзаць, а там, дзе не дапаможа хітрасьць, прыкрыемся глупствам, скарыстаем гнілы лібэралізм некаторых бальшавікоў, але сваё папрабуем узяць, наляжам на выхаваньне моладзі, маючы на ўвазе, па ўказцы свайго абанкруціўшагася правадыра, „далёкі прыцэл".

Вось чаму тав. Сталін рашуча падкрэсьліў небясьпеку гнілога лібэралізму да ўсіх і ўсякіх фальсыфікатараў гісторыі, у тым ліку да трацкісцкіх фальсыфікатараў.

Трэба ўдумацца ў факты. Слуцкі, бачыце, кандыдат партыі з 1930 г., былы меншавік, атрымлівае магчымасьць гразьніць ленінізм і ўзводзіць паклёпы на Леніна са старонак нашага бальшавіцкага часопісу „Пролетарская рэволюцыя", перад ім адкрыты старонкі таксама і часопісу „Гісторыка-марксыста".

Другі „гісторык"—Альтэр, выключаны з партыі трацкіст, атрымлівае магчымасьць выступаць у Комакадэміі і, падумайце, дзе... на фракцыі Таварыства гісторыкаў-марксыстаў пры абгаварэньні артыкулу тав. Сталіна. А яму, далікатна лібэральнічаючы, адказваюць: „т. Альтэр, бачыце, ня мае рацыі, ён бачыце, абараняе трацкісцкую контрабанду, ён крыху памыляецца, скажаючы факты". Але дастаткова прагледзець гісторыю гэтага чалавека, каб ведаць, што ён не контрабандыст, а па сутнасьці ён—самы сапраўдны контрабандны трацкісцкі тавар (сьмех, аплёдысмэнты).

Выключаны з партыі трацкіст, атрымаўшы трыбуну на комфракцыі, выступае ў абарону люксэмбургіянства і заяўляе: „Люксэмбургіянцтва зьлілося з бальшавізмам". А яшчэ раней, у 1927 г. ён пісаў, што ў 1918 г. „люксэмбургіянцтва ператварылася ў бальшавізм". Альтэр падхоплівае сьцяг люксэмбургіянства. Ён яму, трацкісту, зараз патрэбны, каб прыкрыцца ім як маскай.

І ў кожнага бальшавіка адразу павінна ўзьнікнуць пытаньне: у чым справа? А справа ў тым, таварышы,—і ў гэтым новае сёньняшняга дня,—што трацкісты, сапраўдныя трацкісты, саромныя, бялеючыя, чырванеючыя, чарнеючыя, у простым і пераносным сэнсе гэтага слова, трацкісты ня могуць зараз выступаць пад аганьбаваным контррэволюцыйным сьцягам Троцкага, які падхоплены зараз самымі лютымі, зьлейшымі ворагамі пролетарскай дыктатуры. А таму адкрытыя і скрытыя трацкісты падхопліваюць новы сьцяг, сьцяг люксэмбургіянцтва, сьцяг Розы Люксэмбург, замучанай нямецкімі соцыял-дэмократамі, каб злоўжываць ім у сваіх трацкісцкіх мэтах.

Для чаго? Для таго, каб пад гэтым сьцягам папрабаваць па-новаму паставіць пытаньне з трацкісцкай пляцформы, папрабаваць

занова рэвізаваць асновы марсызму-ленінізму. Яны імкнуцца ў новых ўмовах паставіць па-новаму старыя трацкісцкія пытаньні аб бальшавізьме, аб перарастаньні, аб пераўзбраеньні, аб фракцыйнасьці і г. д.

Мы сустракаемся з такімі фактамі, калі людзі, якія стараюцца парваць з трацкісцкім мінулым, ня вызваліліся яшчэ на справе ад мінулага грузу. На фракцыі гісторыкаў-марксыстаў выступаў тав. Радэк. Па яго прамове выходзіць, што Комінтэрн прыняў у свае рады тое, што было лепшага ў рабочым руху, і што ў Комінтэрне нельга забывацца на тыя плыні і ручайкі, якія ўліліся ў бальшавіцкую партыю. Тав. Радэк павінен быў-бы разумець, што прадстаўляе сабой гэта тэорыя „ручайкоў“? Гэта-ж па сутнасьці ідэя жніўеньскага блёку. Там таксама жадалі мець розныя ручайкі, каб іх пасьля злучыць у адну рэчку, але нічога з гэтага ня вышла,—як вядома, ручайкі выліліся ў розныя бакі. Трацкізм аказаўся дрэннай пасудзінай, дзіравай, хоць у нас зараз ірыгацыя пастаўлена вельмі высока і хоць мы, масквічы, задумалі злучэньне Масквы-ракі з Волгай, але ўсё-ж такі ў галіне палітыкі гэткая ірыгацыя непрыстасавальна. Тут тэорыя ручайкоў, мэханічнае злучэньне розных ручайкоў ня выйдзе.

Так, у бальшавіцкую партыю прайшлі паасобна лева-социялдэмократычныя элемэнты—гэта правільна. Але яны прайшлі пасьля таго, як бальшавізм разьбіў іх забабоны, перамог іх, разьбіў іх няправільныя ўстаноўкі. А т. Радэк, гаворачы аб Комінтэрне, забыў 21 умову. А ці-ж 21 умова ня была праведзена, ці-ж гэта ня было зброяй барацьбы з тымі элемэнтамі, якія прабавалі яшчэ захаваць свае паасобныя ручайкі і позыцыі? Ці можна тут гаварыць аб злучэньні і аб‘яднаньні? Зразумела, што нельга. Тав. Радэк павінен зразумець, што тэорыя ручайкоў падводзіць базу пад свабоду груповак, пад свабоду фракцыйнасьці. Калі ўлічыць „ручаёк“, трэба-ж даць яму магчымасьць мець сваё „цячэньне“.

Не, таварышы, наша партыя,—гэта ня збор мутных ручайкоў, а гэта такі магутны і манолітны струмень, які ня могуць спыніць ніякія ручайкі, бо ён мае ўсе магчымасьці для таго, каб разьбіць усе перашкоды на сваім шляху (Бурныя аплёдысмэнты).

Наша партыя згрупававана, як ніколі, вакол свайго ленінскага ЦК, яна адзіна ў барацьбе за ўзмацненьне пролетарскай дыктатуры, за ўмацаваньне заваёў социялістычнай рэволюцыі. І калі ЦК нашай партыі зараз падняты на вялізарную вышыню, калі ён карыстаецца выключным аўторытэтам у рабочых і колгасных масах, калі наш кіраўнік, правадыр партыі тав. Сталін (бурныя аплёдысмэнты) карыстаецца непадзельным падтрыманьнем і любоўю партыі, комсамолу, пераважнай большасьці рабочае клясы, колгасьнікаў,—дык гэтым мы абавязаны таму, што наш ЦК бальшавікоў няўтомна, крок за крокам, бязьлітасна, ва ўсіх галінах ускрываў усякія спробы скажэньня генэральнай лініі нашай партыі, ператварэньня яе ў „ручайкі“ і „ручаёнкі“, усякія спробы адхіленьня ад асноўнага шляху нашага кірунку—шляху перамогі социялізму ў нашай краіне і ва ўсім сьвеце (Бурныя аплёдысмэнты).

Таварышы, труднасьцяў у нас у нашым будаўніцтве многа, барацьба яшчэ ня скончана. Клясавая барацьба ў краіне працягваецца, яна маецца ў розных кутах вёскі і гораду. Спробы буржуазных і дробнабуржуазных уплываў маюцца ня толькі ў рабочай клясе праз пралязаючых у яе рады кулакоў, падкулачнікаў, але яны маюцца яшчэ і ў нашай партыі. У дзень 10-гадовага юбілею ІКП кожны ікапіст

павінен сабе сказаць: я быў байцом за лінію партыі, я буду яшчэ больш моцным і цьвёрдым байцом, я яшчэ больш злучуся з партыяй, злучу іншых і ўпарта і настойліва буду працаваць над марксыцка-ленінскім выхаваньнем моладзі, над згрупаваньнем мільёнаў вакол ленінскага ЦК (Бурныя аплёдысмэнты).

# Аб узмацненьні барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытаньні

## Пастанова бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б

1. КП(б)Б на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі і яе неадрыўнай часткі—ленінскай нацыянальнай політыкі, у барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў іншых нацыянальнасьцяй і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі, дасягнула вялізарных посьпехаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Дзякуючы брацкай дапамозе пролетарыяту СССР, шырокімі тэмпамі (перавышаючымі агульнасаюзныя) разгортваецца прамысловасьць БССР (пабудован рад новых буйных прадпрыемстваў: Гомсельмаш, Асінбуд, ф-ка штучнага валакна і інш.), што значна павялічыла рады пролетарыяту і павысіла вядучую ролю прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР. КП(б)Б дасягнула рашаючых посьпехаў у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (колектывізацыя 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, павялічэньне пасеўных плошчаў, асабліва пад тэхнічнымі культурамі, узмацненьне і рост саўгасаў, асабліва спэцыялізаваных жывёлагадоўчых і інш.).

Вялізарны размах культурнай рэволюцыі, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, посьпехі ў ліквідацыі няпісьменнасьці, буйны рост сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў, значнае павялічэньне пролетарскай праслойкі ў гэтых установах, посьпехі мастацтва БССР, абслугоўваньне нацменшасьцяй на роднай мове,—усё гэта сьведчыць аб тым, што КП(б)Б з посьпехам выконвае задачу ліквідацыі эканомічнай і культурнай адсталасьці БССР.

2. ЦК констатуе, што ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні ЦК КП(б)Б па ўзмацненьні барацьбы з ухіламі ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму ў радзе зьвеньняў партыйнай організацыі, гэта задача не знайшла неабходнага адлюстраваньня і нават у радзе месц ёсьць выпадкі аслабленьня барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам. Рад вылазак вялікадзяржаўнага шовінізму не сустракаюць патрэбнага адпору з боку асобных нізавых парторганізацый. Не пастаўлена сыстэматычная барацьба з прымірэнчымі адносінамі да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму. Навуковыя таварыствы і гурткі праявілі пасыўныя адносіны да задачы мобілізацыі тэорытычнай думкі партыі на барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам.

3. Актывізацыя ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму за апошні час праявілася ў радзе вылазак. Аднэй з такіх вылазак зьявіліся выступленьні групы вучоных і літаратараў (Вальфсон, Выдра і інш.), якія выходзілі ў сваёй крытыцы нацыянал-дэмократызму не з марксысцка-ленінскай пастаноўкі нацыянальнага пытаньня, а з позыцый вяліка-

дзяржаўных ухілістаў (процістаўленьне нацыянальнай формы культуры яе пролетарскаму зьместу, разважаньні аб перапавялічэньні „асаблівасьцяй“ беларускай нацыі, насьмешлівыя і пагардлівыя адносіны да раду „дробязяй“ нацыянальнай культуры, быту і г. д.).

Праяўленьнем вялікадзяржаўнага ўхілу зьяўляўся падзел асобнымі гісторыкамі-марксыстамі (Югаў) комуністаў на вялікарускіх, з аднаго боку, і беларускіх, украінскіх і г. д.—з другога боку, што стварала антагонізм і прыняло да пагардлівых, нетаварыскіх адносін да паасобных беларускіх работнікаў.

Аслабленьне работы па беларусізацыі, якое наглядаецца то ў аднэй, то ў другой партыйнай організацыі, на што ЦК КП(б)Б прыходзілася ня раз паказваць (Віцебск і інш.), зьяўлялася вынікам недаацэнкі нацыянальнага пытаньня і прымірэнчых адносін да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б лічыць першачарговай задачай усёй КП(б)Б— павысіць пільнасьць да вылазак і праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, і організаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы рашучы ўдар па опортуністычным і абывательскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага ўхілу.

4. Барацьба супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опартунізму вялася, вядзецца і будзе праводзіцца ўсёй КП(б)Б з бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю. Разгортваньне бальшавіцкіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і значныя посьпехі, дасягнутыя КП(б)Б у індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, было немагчыма без рашучай барацьбы КП(б)Б з усімі праяўленьнямі опартунізму і шовінізму, у тым ліку без пасьпяховай барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і яго нацыянал-опортуністычнай агентурай у радох партыі.

Адначасова ЦК лічыць, што прыняты ў радзе кіруючых артыкулаў, зацьверджаных ЦК у 1929 г. і пачатку 1930 г., а таксама прыняты ў пастановах XIII зьезду КП(б)Б па дакладу аб профсаюзах лёзунг аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, зьяўляўся памылковым лёзунгам. Такая пастаноўка пытаньня супярэчыла пастановам XII зьезду РКП(б) і XVI зьезду ЎсеКП(б). У поўнай суадпаведнасьці з пастановамі і ўказаньнямі XVI зьезду ЎсеКП(б) КП(б)Б неадкладна пасьля зьезду прыняла ўстаноўку аб тым, што галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, „які імкнецца рэвізаваць асновы ленінскай нац. політыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму, прыкрываючы імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікадзяржаўнай нацыі, вярнуць сабе страчаныя прывілеі“ (XVI зьезд УсеКП(б).

5. Наяўнасьць на вызначаным этапе няправільнага лёзунгу аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, не дае ніякіх падстаў рэвізаваць праведзеную КП(б)Б барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Выкрыцьцё і барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і яго агентуры ў радох партыі—нацыянал-опортунізму—была праведзена компартыяй Беларусі зусім правільна.

ЦК заклікае ўсе парторганізацыі КП(б)Б даць бязьлітасны адпор усялякім спробам перагледзець, або ахаяць політыку партыі ў барацьбе з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Пасьлядоўная і непрымірымая барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опортунізму складае і надалей важнейшую задачу ўсёй КП(б)Б.

Памылковасьць лёзунгу аб нацыянал-дэмакратызьме, як галоўнай небясьпецы на даным этапе, заключалася ў тым, што гэты лёзунг не концэнтраваў галаўнага агню супроць вялікадзяржаўнага ўхілу і тым самым не садзейнічаў неабходнай мобілізацыі партыйных сіл на барацьбу з ім.

6. ЦК КП(б)Б заклікае мясцовыя парторганізацыі да большай пільнасьці і ў адносінах ухілу ў бок мясцовага (беларускага, польскага, яўрэйскага і інш.) шовінізму. Нацыянал-дэмократызм і нацыянал-опортунізм у выніку пасьлядоўнай барацьбы КП(б)Б пацярпелі жорсткае паражэньне, але ня зьнішчаны. Работа нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і цяпер працягваецца.

Разьбіты і скомпромэтаваны ў вачох шырокіх мас працоўных, контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм будзе выяўляцца як у старых, так і ў новых некалькі іншых формах. Гэта патрабуе далейшага ўзмацненьня пільнасьці з боку ўсёй КП(б)Б да ўсялякіх праяўленьняў у радох партыі ўхілу ў бок мясцовага беларускага шовінізму.

„Сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікарускага шовінізму, шляхам адыходу ад агульнага патоку социялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой“ (Сталін).

Аднэй з форм праяўленьняў ухілу ў бок мясцовага шовінізму зьяўляецца падыход да нацыянальных кадраў бяз уліку ідэолёгічнай вытрыманасьці і социяльнага складу гэтых кадраў, забываючы і затушоўваючы тое, што адзіным крытэрыем для ацэнкі комуніста зьяўляецца ступень яго партыйнай вытрыманасьці і здольнасьць на справе ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі.

7. ЦК зварачае сур'ёзную ўвагу ўсёй КП(б)Б на неабходнасьць значнага ўзмацненьня справы падбору і ўцягненьня ў кіруючую партработу партыйна-вытрыманых кадраў беларускіх работнікаў і іх выхаваньне ў духу бальшавіцкай няпрымірлівасьці да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. „Апіраючыся на посьпехі прамысловага будаўніцтва, партыя павінна шырока разгарнуць вылучэньне рабочых на партыйную, савецкую і гаспадарчую работу, аб'яднаючы гэта вылучэньне з выхаваньнем і падрыхтоўкай новых кадраў“ (кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б, 1930 г.). Пры гэтым неабходна, разам з уважлівымі, беражлівымі адносінамі да комуністычных кадраў КП(б)Б, разгортваць бальшавіцкую самакрытыку, рашуча выцягваючы памылкі і скажэньні генэральнай лініі партыі, а таксама вядучы барацьбу супроць конкрэтных носьбітаў вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізмаў.

8. КП(б)Б і далей будзе бязьлітасна змагацца супроць недаацэнкі работы сярод нацыянальных меншасьцяй (палякаў, яўрэяў і інш.), супроць антысэмітызму і ігнараваньня работы сярод працоўных палякаў. Разгортваньне і далейшае ўзмацненьне работы сярод нацыянальных меншасьцяй БССР зьяўляецца неадрыўнай часткай барацьбы за ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня. ЦК патрабуе ад усіх парторганізацый сапраўднага паляпшэньня культурна-экономічнага абслугоўваньня працоўных нацменшасьцяй, даючы бязьлітасны адпор імкненьням клерыкальных і шовіністычных элемэнтаў разбурыць адзінства працоўных розных нацыянальнасьцяй, памятаючы, што толькі ўважлівымі адносінамі да штодзенных патрэб нацыянальных меншась-

цяй можна яшчэ ў большай ступені актывізаваць іх удзел у агульным социялістычным будаўніцтве.

9. Выходзячы з вышэйадзначанага, ЦК ставіць перад усёй КП(б)Б наступныя практычныя задачы:

а) неаслабна праводзіць палітыку беларусізацыі, прымаючы рашучыя меры ўзьдзеяньня ў адносінах да тых кіруючых нізавых раённых і цэнтральных работнікаў, якія ігнаруюць беларусізацыю і асабліва не вывучаюць беларускай мовы;

б) далейшае растлумачэньне шырокім масам працоўных, у першую чаргу пролетарскім масам, значэньня правадзімай КП(б)Б беларусізацыі, разгортваючы ўпартую сыстэматычную работу па беларусізацыі рабочай клясы з улікам усіх умоў, адзначаных пастановай кастрычніцкага (1930 г.) пленуму ЦК КП(б)Б;

в) правядзеньне неаслабнага змаганьня з антыленінскай тэорыяй барацьбы дзьвёх культур як у яе вялікадзяржаўна-расійскай, так і беларускай рознавіднасьці. ЦК папярэджвае, што абмежаваньне задач па беларусізацыі адным толькі вывучэньнем беларускае мовы зьяўляецца недаацэнкай нацыянальнага пытаньня і што справа сапраўднага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі заключаецца ў аўладаньні парторганізацыяй і рабочай клясай усімі працэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва (тэорытычны фронт, мастацкая літаратура і творчасьць, агульны фронт мастацтва). Толькі пры гэтых умовах можа быць забясьпечана сапраўднае пролетарскае кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам;

г) узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцьця вышэйшых форм беларускай культуры — нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьмесьце (літаратура, тэатр, кіно, музыка), дасканалае вывучэньне працэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне, з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі працэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў ў літаратуры, тэатры, кіно і г. д.;

д) узмацненьне спэцыяльнай увагі да сярэдніх і вышэйшых навучальных установ БССР з мэтай паляпшэньня справы падрыхтоўкі маладых кадраў пролетарскай нацыянальнай інтэлігенцыі, ужыўшы таксама захады да правільнага падбору і ўзмацненьня падрыхтоўкі выкладчыцкага пэрсоналу, здольнага выканаць акрэсьленыя задачы. ЦК даручае культпропу ЦК і Наркамасьветы прыняць неабходныя мерапрыемствы да паляпшэньня работы Комвузу імя Леніна, Інстытуту гісторыі партыі і Акадэміі Навук БССР і ўзмацненьня іх ролі ў справе падрыхтоўкі клясава-вытрыманых навуковых кадраў;

е) даручыць нацкамісіі ЦВК і культпропу ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўзмацненьні работы ў галіне беларусізацыі сярод рабочых і ва ўсіх установах, ужыўшы крокі да самай шырокай популярызацыі чарговых задач нацыянальнай політыкі КП(б)Б (на сходах, у гуртках, партшколах і г. д.).

10. ЦК падкрэсьлівае, што правільнае змаганьне за практычнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі можа з посьпехам праводзіцца толькі на аснове далейшага разгортваньня бязьлітаснай барацьбы супроць вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага шовінізму і контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў розных колераў і адценьняў і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі, толькі на аснове аўладаньня і кіраўніцтва з боку партыі і пролетарыяту ўсімі

процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, няўхільна змагаючыся за чыстату генэральнай лініі партыі, даючы рашучы адпор праваму ўхілу — найбольш небясьпечнаму на даным этапе, яго „левым“ саюзьнікам і прымірэнцтву да ўхілаў, БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і ЎсеКП(б) і пры брацкай дапамозе пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу дасягае новых, яшчэ большых посьпехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

В. Серафімаў

# Ліст т. Сталіна і задачы краязнаўчых організацый

„Ліст т. Сталіна мае вялізарнейшае тэорытычнае і політычнае значэньне для ўсяго тэорытычнага фронту ўсёй партыі і ўсяго міжнароднага руху“, для ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Ён з усёй катэгорычнасьцю патрабуе ад кожнага комуніста партыйных адносін да тэорытычнага фронту. Партыйная організацыя БАН, узброіўшыся лістом т. Сталіна і пастановамі ЦК нашай партыі, павінна быць ударнай брыгадай у барацьбе КП(б)Б супроць трацкісцкай контрабанды югавых, супроць малейшых спроб паклёпу на нашу партыю, на ленінізм. Мы павінны сконцэнтраваць бальшавіцкую пільнасьць на непрымірымай барацьбе з праяўленьнем гнілога лібэралізму, які скарыстоўваецца трацкісцкімі контрабандыстамі для сваіх контррэволюцыйных мэт. Узброіўшыся лістом т. Сталіна, мы павінны з асаблівай пільнасьцю пераглядзець свае пляны, сваю продукцыю і рашуча выкрываючы і адмятаючы якія-б то ні была спробы рэвізаваць бальшавізм, перабудаваць сваю работу на непрымірымую барацьбу з ворагамі рабочае клясы і яе партыі, на барацьбу за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію ва ўсіх галінах навукі, мобілізуючы ўсю партыйную організацыю, кожнае зьвяно БАН.

Краязнаўчыя організацыі на мясцох, пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйных організацый, павінны з усёй рашучасьцю перабудаваць таксама сваю работу, выходзячы з ліста т. Сталіна і адпаведных партыйных пастаноў. Ліст т. Сталіна—баявы сьцяг у разгортваньні пролетарскай навукі, у мобілізацыі краяведных організацый на барацьбу з ухіламі ад ленінізму, ад генэральнай лініі нашай партыі.

Ён зьяўляецца баявым сьцягам непрымірымай барацьбы з ухіламі ад ленінскай нацыянальнай політыкі. Бязьлітасная барацьба павінна праводзіцца намі з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. На падставе пастановы бюро ЦК КП(б)Б шырака выкрыць вялікадзяржаўныя вылазкі групы вучоных (Вольфсон, Выдра і інш.), „якія выходзілі ў сваёй крытыцы нацыянал-дэмократызму не з марксысцка-ленінскай пастаноўкі нацыянальнага пытаньня, а з позыцыі вялікадзяржаўных ухілістаў (процістаўленьне нацыянальнай формы культуры яе пролетарскаму зьместу, разважаньне аб перавялічэньні „асаблівасьці“ беларускай нацыі, насьмешлівыя адносіны да раду „дробязі“,—нацыянальнай культуры, быту“ (З пастановы бюро ЦК КП(б)Б)“.

Выходзячы з пастановы ЦК КП(б)Б, мы, у разгортваньні краязнаўчай работы, павінны выявіць асаблівую пільнасьць у адносінах да вылазак і праяў вялікадзяржаўнага шовінізму, выкрываючы яго ва ўсёй сыстэме нашай работы. Пастанова Бюро ЦК аб узмацненьні

барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытаньні з асаблівай катэгорычнасьцю ставіць перад краязнаўчым рухам неабходнасьць узмацненьня навукова-дасьледчай работы. „Узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцьця вышэйшых формаў беларускай культуры — нацыянальнай па форме (літаратура, тэатар, кіно, музыка, дасканалае вывучэньне працэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне, з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі працэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў у літаратуры, тэатры, кіно і г. д.)“.

Трэба з ўсё катэгорычнасьцю прызнаць, што ЦБК не ўдзяляла ўвагі вывучэньню „ўсіх працэсаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва (тэорытычны фронт, мастацкая літаратура, агульны фронт мастацтва)“ (З пастановы бюро ЦК КП(б)Б). На падставе дырэктывы ЦК мы павінны ў бліжэйшы час разгарнуць організацыйную і програмна-мэтодычную работу па мобілізацыі шырачэйшых мас на вывучэньне і аўладаньне гэтымі працэсамі, каб забясьпечыць „сапраўднае пролетарскае кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам“ (з пастановы бюро ЦК КП(б)Б).

Разгортваючы краязнаўчы рух, ні ў якай ступені нельга паслабляць барацьбы з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, беларускім шовінізмам і інш. Разгортваючы работу па савецкаму краязнаўству, мы павінны шырака выкрываць контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм, які будзе імкнуцца праводзіць варожую пролетарыяту ідэолёгію ў краязнаўстве. Зьмяшчэньне „інструкцыі“ Сербава аб вывучэньні быту лесарубаў і плытагонаў за подпісам „Сэкцыя этнографіі“, па сутнасьці нацдэмаўскай і нічога агульнага ня маючай з савецкімі задачамі ў галіне этнографіі, зьяўляецца ўрокам у рабоце ЦБК і організацый на мясцох. Нацыянал-дэмократызм прыкрыўся афіцыяльным подпісам бяз усякага даручэньня ад Сэкцыі этнографіі, а рэдакцыя „Савецкай Краіны“, ня праявіўшы клясавай пільнасьці, зьмясьціла „інструкцыю“ Сербава.

Узброіўшыся лістом т. Сталіна, КП(б)Б нанесла руйнуючы ўдар вялікадзяржаўным і беларускім шовіністам. Т. Шчарбакоў, змазваючы кіруючую ролю пролетарыяту, наводзячы нячуваны паклёп на комуністычную партыю, нібы яна не займалася нацыянальным пытаньнем, дапусьціў у сваёй кніжцы „Кастрычнік на Беларусі і белапольская окупацыя“ рад памылак беларуска-шовіністычнага характару. КП(б)Б гэтай вылазцы нанесла руйнуючы ўдар. Партыя патрабуе ад т. Шчарбакова ў працы выкрыць усю шкоднасьць гэтых памылак.

У нашай барацьбе за разгортваньне савецкага краязнаўства мы павінны ўзмацніць барацьбу з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Правыя будуць імкнуцца праводзіць свае контррэволюцыйныя ідэі.

Вядучы барацьбу з ухіламі ад генэральнай лініі партыі, мы павінны весьці самую бязьлітасную барацьбу з гнілым лібэралізмам, узмацніць бальшавіцкую пільнасьць да вылазак клясавага ворага.

Характэрным фактам вылазкі клясавага ворага зьяўляецца артыкул А. Цімашова „Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“, зьмешчаны ў часопісе „Советское краеведение“ (орган ЦБК РСФСР і Т-ва марксыстаў-краязнаўцаў пры Комакадэміі СССР) № 7-8. Праводзячы кандрацьеўшчыну ва ўсёй сыстэме свайго „экономічнага нарысу“, Цімашоў з усёй нагласьцю заклятага ворага падвяргае „самненьню“ шлях аднаасобнай гаспадаркі. Ён піша: „Роўналежна з гэтым, павінен быць вызначаны шлях аднаасобнае гаспадаркі ва ўвязцы з данымі

аб клясавым распластаваньні гаспадаркі". Клясаваму ворагу не зразумелы тыя вялізарнейшыя посьпехі, якія мы маем у галіне колектывізацыі (62 проц.), клясавы вораг ня хоча зразумець тое, што колгасьнік зьяўляецца цэнтральнай фігурай землявробства, асноўнай і моцнай апорай савецкай улады на вёсцы. Клясавы вораг з зьмяіным шыпеньнем ня хоча прызнаць таго, што на базе суцэльнай колектывізацыі ліквідуецца апошняя апора капіталізму—кулацтва, як кляса. Клясавы вораг не разумее, што ленінскае пытаньне „хто каго" канчаткова вырашана на карысьць соцыялізму. Клясавы вораг пад рознымі соусамі прабуе праводзіць сваю контррэволюцыйную сутнасьць. Такім вылазкам трэба даваць руйнуючы адпор з усёй бальшавіцкай пільнасьцю да манэўраў і маскіроўкі клясавага ворага. Трэба рашуча прызнаць, што гэтай бальшавіцкай пільнасьці рэдакцыя „Советского краеведения" ня выявіла, дапусьціла гнілы лібэралізм у адносінах да вылазкі клясавага ворага. Масавы сэктар БАН і ЦБК, асьлепленыя „аўторытэтам", някрытычна аднесьліся да артыкулу Цімашова, пераклаўшы яго на беларускую мову і выдаўшы асобнай брошурай.

Я, як загадчык сэктару, даўшы дазвол перакладаць гэты артыкул, нясучы пэрсональную адказнасьць за гэтую справу, паклаўшыся на „аўторытэт" „Советского краеведения", някрытычна аднёсься і праявіў гнілы лібэралізм.

Ліст т. Сталіна і пастановы ЦК КП(б)Б з асаблівай катэгорычнасьцю патрабуюць узмацненьня барацьбы за партыйнасьць у рабоце, за поўную бальшавіцкую адказнасьць у выкананьні дырэктыў партыі. Мы павінны рашуча ўдарыць па той опортуністычнай недаацэнцы некаторымі работнікамі разгортваньня краязнаўчай работы, ня гледзячы на яскравыя дырэктывы з боку ЦК КП(б)Б у гэтым кірунку. Партыйныя організацыі на мясцох павінны стаць на чале краязнаўчага руху, падпарадкаваўшы яго непаслабнаму бальшавіцкаму кіраўніцтву, дабіваючыся ўдарных тэмпаў у рабоце.

Выходзячы з дырэктывы т. Сталіна аб правільных адносінах да спэцыялістаў, мы павінны рашуча змагацца супроць левых загібаў у адносінах да старых краяведных кадраў, стаўшых на рэйкі савецкага краязнаўства, ствараючы ўсе неабходныя ўмовы для іх работы ў краязнаўчым руху.

---

В. Самцэвіч

# Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый

Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў зьяўляецца вядучым зьвяном для данага этапу колгаснага будаўніцтва, баявой задачай, пастаўленай партыяй перад усімі раёнамі СССР. Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў забясьпечвае далейшы ўздым колгаснага руху і заканчэньне суцэльнай колектывізацыі ў тэрміны, вызначаныя ЦК УсеКП(б). Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 2/VIII і пастановы аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б ва ўвесь рост і ва ўсю шырыню паставілі перад партыйнымі організацыямі і перад усёй колгаснай сыстэмай задачу організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, як цэнтральную задачу на даным этапе колгаснага руху. Пытаньням організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў партыя і раней удзяляла вялікую ўвагу. У сучасны момант задача гэта набыла асаблівую вастрату і актуальнасьць.

Аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, адзначыўшы вялікія посьпехі ў колгасным будаўніцтве БССР (аб'яднаньне ў колгасы 50% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, пашырэньне засеўнай плошчы, асабліва пад тэхнічнымі культурамі, павялічэньне ўраджайнасьці і таварнасьці колгасных гаспадарак, спэцыялізацыя колгасаў), дасягнутыя толькі на аснове пасьпяховага вырашэньня задачы індустрыялізацыі краіны і ў выніку барацьбы за генэральную лінію партыі, супроць правага ўхілу і „лявацкіх“ загібаў, з усёй рашучасьцю падкрэсьліў, што „дасягнутыя посьпехі ў організацыі колгасаў зьяўляюцца толькі яшчэ першапачатковымі“, бо „не выкарыстоўваюцца яшчэ тыя магчымасьці разьвіцьця высокатаварнай гаспадаркі, якія забясьпечваюцца буйной колектыўнай гаспадаркай, умовамі савецкага ладу і той вялікай вытворчай дапамогай, якая аказваецца колгасам з боку пролетарскай дзяржавы“.

Колгасы да гэтага часу, як адзначыў пленум, маюць яшчэ нізкі выхад таварнай продукцыі; у колгасах яшчэ застаецца нізкая ўраджайнасьць, нізкая ўдойлівасьць, зусім нізкі процант выхад у таварных сьвіней, вялікае асяданьне таварнай продукцыі ўнутры самых колгасаў, наяўнасьць спажывецкіх настрояў і г. д.

Каб колгасы сталі высокатаварнымі гаспадаркамі і далі высокія паказальнікі буйнае гаспадаркі, партыя вызначыла рад конкрэтных мерапрыемстваў па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў, прычым „асноўнымі рашаючымі мерапрыемствамі па організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў зьяўляецца барацьба за перавыхаваньне мас, за выкарчоўваньне дробна-буржуазных тэндэнцый, за правільную організацыю працы, заснаваную на цьвёрдых нормах выпрацоўкі, ацэненых у працаднёх, сапраўднае ўкараненьне зьдзель-

шчыны, разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, правільную арганізацыю ўліку працы і разьмеркаваньне даходаў выключна па колькасьці і якасьці працы, максымальнае разгортваньне таварных галін гаспадаркі, узьняцьце ўраджайнасьці, максымальны выхад таварнасьці, падбор лепшага кіруючага складу колгаснае гаспадаркі... і выхаваньня сярод колгасных мас уразуменьня неабходнасьці ставіць задачу соцыялістычнага будаўніцтва, свае абавязкі перад пролетарскай дзяржавай на першы плян, як першапачатковыя. Па гэтай лініі будзе нанесены зьнішчальны ўдар клясаваму ворагу—кулаку і яго агентуры ў партыі—опортуністам розных адценьняў" (З пастановы аб'яднанага пленуму).

Аб'яднаны лістападаўскі пленум прызнаў слабаю работу навуковых і дасьледчых устаноў „у галіне барацьбы за лепшую арганізацыю колектыўнай вытворчасьці, за ўзьняцьце ўраджайнасьці, павышэньне таварнасьці жывёлагадоўлі і г. д., „адрыў навуковых і дасьледчых устаноў ад колгасных мас і колгаснай вытворчасьці, адсутнасьць шырока і правільна пастаўленых вопытаў, адсутнасьць гібкасьці ў перанясеньні лепшых, якія ўжо апраўдаліся, вопытаў для шырокага практычнага іх ажыцьцяўленьня". Пленум рашуча паставіў перад усімі навукова-дасьледчымі ўстановамі задачу ўзмацненьня палепшаньня навукова-дасьледчай работы ў галіне организацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Пастановы пленуму ў поўнай меры датычаць усіх краязнаўчых організацый, як масавых навукова-дасьледчых організацый, якія павінны актыўна змагацца за поўнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва і быць баявымі масавымі організацыямі ў навукова-дасьледчай рабоце, непасрэдна зьвязанай з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. Перад ЦБК і ўсімі раённымі краязнаўчымі організацыямі стаіць задача ўсямерна і неадкладна пашыраць сетку краязнаўчых ячэек у колгасах, павесьці рашучую барацьбу з недаацэнкай масавай дасьледчай работы з боку зямельных і колгасных органаў, а таксама і цэнтральных дасьледчых устаноў. Трэба рашуча паставіць пытаньне, каб Інстытут соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і дасьледчыя станцыі бліжэй павярнуліся да масавых дасьледчых організацый, дапамаглі ім паставіць належным чынам работу, забясьпечыць мэтодычнымі і інструкцыйнымі матар'яламі, навуковай консультацыяй і г. д. Да гэтага-ж часу дзяржаўныя навукова-дасьледчыя ўстановы яшчэ амаль зусім ня зьвязаны і не дапамагаюць масавым навукова-дасьледчым організацыям у іх рабоце. Колгасцэнтр па сваёй лініі павінен даць катэгорычныя ўказаньні райколгассаюзам і праўленьням колгасаў аб актыўнай дапамозе і выяўленьні ініцыятывы з свайго боку ў справе організацыі краязнаўчых ячэек (ячэек масавай навукова-дасьледчай работы) у колгасах. Трэба, каб работа гэтых ячэек зьяўлялася сустаўной часткаю і ўваходзіла ў агульны плян работы колгасаў і райколгассаюзаў. Тэматыку работы гэтых ячэек павінны высунуць праўленьні колгасаў і райколгассаюзаў, усебакова забясьпечыўшы выкананьне вызначаных імі плянавых заданьняў.

Правільная організацыя працы ў колгасах і павышэньне яе продукцыйнасьці зьяўляецца ў сучасны момант асноўным зьвяном у колгасным будаўніцтве, моцна ўзяўшыся за якое можна падняць на патрэбную вышыню ўсё колгаснае будаўніцтва. Праведзеньне другой бальшавіцкай сяўбы і асабліва ўборачнай кампаніі далі нам вялікія дасягненьні ў пераходзе пераважнай большасьці колгасаў на зьдзельную

арганізацыю працы, брыгада робіцца ўжо асноўнай вытворчай ячэйкай у колгасе. „Вопыт работы значнай часткі колгасаў паказаў, што там, дзе добра і правільна была арганізавана праца, там вышэй продукцыйнасьць працы, своечасова выконваюцца вытворчыя заданьні, менш было страт, большая атрымана даходнасьць“ (з пастановы пленуму). Аднак, „у значнай частцы колгасаў зьдзельшчына існуе формальна, на справе пануе падзёншчына“. Лепшая практыка правядзеньня зьдзельшчыны вельмі слаба вывучаецца, зусім невыстарчальна асьвятляецца ў друку і таму належным чынам не папулярызуецца і не перадаецца другім колгасам. Гэта задача дасканалага і сыстэматычнага вывучэньня і выяўленьня лепшай практыкі перадавых колгасаў у справе арганізацыі працы павінна стаць аднэй з галоўнейшых задач у рабоце ўсіх краязнаўчых ячэек. Выкананьне гэтай задачы ня можа, зразумела, ня цікавіць самыя шырокія колгасныя масы, якія трэба арганізаваць для масавай дасьледчай работы па вырашэньню канкрэтнай актуальнейшай задачы—арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Масавая дасьледчая работа ў галіне вывучэньня арганізацыі працы ў колгасе павінна праводзіцца ў кірунку вывучэньня:.

а) норм фактычнай выпрацоўкі лепшых перадавых колгасьнікаў (у жывёлагадоўчых, ільнаводных, садовагародных колгасах і інш.);

б) сталага складу і асноўнага ў брыгадзе ядра як для выкананьня паасобных процэсаў работы, так і для выкананьня раду зьвязаных паміж сабой процэсаў сельска-гаспадарчых работ (засеў—догляд—уборка — абмалот; касьба — сушэньне сена—возка—складаньне сена ў пуні, стагі);

в) найлепшых умоў пераводу ўсіх відаў работ на прогрэсыўна-прэміяльную зьдзельную работу і вынікаў гэтага пераводу;

г) правільнай арганізацыі ўліку працы ў працаднёх і правільнага разьмеркаваньня даходаў па прынцыпу колькасьці і якасьці затрачанае працы;

д) правільнай органіцыі адыходніцтва і інш.

Перад масавымі навукова-дасьледчымі арганізацыямі стаіць вялікая задача вывучыць, як ажыцьцяўляюцца і як у колгасах можна найлепш ажыцьцявіць шэсьць умоў тав. Сталіна, якія забясьпечваюць выкананьне вытворчых плянаў і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах пры дапамозе адпаведных цэнтральных навукова-дасьледчых устаноў павінны дапамагчы кіраўніцтву колгасаў палепшыць нормаваньне і плянаваньне працы, устанавіць больш рацыянальнае і эканомічнае выкарыстаньне сваёй рабочай сілы.

Выключнае значэньне ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў мае асваеньне тэхнікі кожным колгасам. Аўладаньне тэхнікай і правільнае выкарыстаньне сельска-гаспадарчых машын у колгасе зьяўляецца адным з найважнейшых фактараў барацьбы за продукцыйнасьць і якасьць працы. Масавыя дасьледчыя арганізацыі павінны зьвярнуць максымум увагі на вывучэньне найлепшага і найбольш рацыянальнага выкарыстаньня машын (асабліва складаных), якімі ўсё больш і больш забясьпечваюцца колгасы. Яшчэ ня ўсе колгасы ў аднолькавай меры аўладалі арганізацый вытворчасьці буйной колектыўнай гаспадаркі, ня ўсе аднолькава аўладалі тэхнолёгічнымі процэсамі вытворчасьці ў паасобных спэцыялізаваных гаспадарках; адны колгасы дасягнулі значных посьпехаў у справе арганізацыі вытворчасьці і аўладаньня тэхнікай, другія яшчэ адстаюць. Краязнаўчыя арганізацыі павінны неадкладна абвясьціць баявы паход,

жавесьці рашучы наступ на тэхнічную адсталасьць нашай сельскай гаспадаркі, павінны дапамагчы колгасьнікам аўладаць агро- і заатэхнікай. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах павінны ўзяць на сябе ініцыятыву організацыі пры ячэйках спэцыяльных агро- і заатэхнічных гурткоў, організаваць даклады, лекцыі, выстаўкі, каб дапамагчы колгасьнікам аўладаць „у найбольш кароткі тэрмін тэхнікай вядзеньня буйной соцыялістычнай гаспадаркі, аграномічнымі ведамі, тэхнікай поўнага скарыстаньня сельскагаспадарчых машын і самага шырокага ўжываньня дасягненьняў аграномічнай навукі“.

Да гэтай работы павінны быць прыцягнуты аграномы, настаўнікі, спэцыялісты—кіраўнікі паасобнымі галінамі гаспадаркі.

Неабходна сур‘ёзную ўвагу зьвярнуць на тэорытычную падрыхтоўку колгасьнікаў, увязаўшы яе непасрэдна з штодзеннай практычнай працай, з організацыяй сыстэматычных досьледаў і прыстасаваньнем вынікаў іх да гаспадарчага будаўніцтва колгасаў. З пытаньнем аўладаньня тэхнікай і організацыяй вытворчасьці непасрэдна зьвязана і пытаньне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі колгасных кадраў, да якіх выключныя тэмпы колектывізацыі выклікаюць усё больш і больш высокія запатрабаваньні. На практычнай рабоце па колгасным будаўніцтве выявіліся тысячы здольных організатараў з рабочых і колгасьнікаў, але вялікая колькасьць з іх яшчэ ня мае патрэбнай тэхнічнай падрыхтоўкі, ня ўзброена навукай. У выкананьні гэтай задачы— падрыхтоўкі колгасных кадраў—вялікую ролю, як ужо было зазначана вышэй, павінны адыграць краязнаўчыя організацыі.

Пленум ва ўвесь рост з усёй рашучасьцю паставіў перад усімі парторганізацыямі, савецкімі, зямельнымі і колгаснымі, а таксама і навукова-дасьледчымі організацыямі задачу разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, уздыму ўраджайнасьці і разьвіцьця такіх спэцыяльных галін гаспадаркі, як гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства, рыбная гаспадарка і інш. Гэту задачу пленум паставіў як цэнтральную ў гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

Краязнаўчыя організацыі павінны па-сапраўднаму ўключыцца ў барацьбу за выкананьне пляну соцыялістычнай жывёлагадоўлі шляхам сыстэматычнай популярызацыі і перадачы колгасам практыкі перадавых жывёлагадоўчых колгасаў і савгасаў, пропаганды заатэхнічных ведаў і організацыі сыстэматычнай дасьледчай работы. Краязнаўчыя організацыі павінны заняцца вывучэньнем наступных пытаньняў жывёлагадоўлі: найлепшыя мэтады ўкомплектаваньня статку (захаваньне і гадоўля ўласнага прыплоду, барацьба за павялічэньне прыплоду, профіляктычныя мерапрыемствы супраць падзяжу і інш. мерапрыемствы барацьбы са стратамі ў жывёлагадоўлі); стварэньне ў колгасах моцнай кармовай базы (павышэньне ўраджайнасьці палявых культур, організацыя штучных выпасаў, палепшаньне сенажацяў, пашырэньне плошчы засеваў, захаваньне і найбольш рацыянальнае выкарыстаньне кармовых траў і караньплодаў, экономнае выдаткаваньне кармоў, вывучэньне і праверка існуючых кармовых рацыёнаў і г. д.); правядзеньне мэханізацыі і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў у жывёлагадоўчых гаспадарках; палепшаньне будаўніцтва і найбольш адпаведнае ўтрыманьне жывёлы; максымальнае павялічэньне таварнасьці і выкананьне плянаў на здачы (продажу) дзяржаве таварнай продукцыі; ліквідацыя абязьлічкі і рэалізацыя ўсіх шасьці ўмоў тав. Сталіна.

Перад рэдакцыямі цэнтральных і мясцовых газэт аб‘яднаны лістападаўскі пленум паставіў задачу „сыстэматычна і шырока асьвятліць пытаньне разьвіцьця жывёлагадоўлі, выяўляючы лепшыя прыклады

організацыі жывёлагадоўлі ў савгасах і колгасах, робячы іх здабыткам рабочых і колгасьнікаў“. Такая-ж задача павінна быць пастаўлена і перад усімі краязнаўчымі організацыямі і краязнаўчым друкам.

Барацьба за павялічэньне ўраджайнасьці зьяўляецца аднэй з найпатрабнейшых і важнейшых умоў організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. У мэтах выкананьня гэтай задачы аб‘яднаны лістападаўскі пленум абавязаў партыйныя організацыі, зямельныя і колгасныя органы па-бальшавіцку разгарнуць работу па мобілізацыі ўсіх партыйных і комсамольскіх сіл, колгасных мас, спэцыялістаў і ўсіх работнікаў соцыялістычнага земляробства на практычнае вырашэньне задачы рашучага ўздыму ўраджайнасьці, для чаго трэба „шырока ўкараняць правільныя севазвароты, палепшыць апрацоўку глебы, організаваць правільны дагляд за пасевамі, забясьпечыць абавязкова поўную праполку тэхнічных і прапашных культур, раньнюю сяўбу і своечасовую ўборку, барацьбу са шкоднымі і са стратамі, абавязковае выкананьне задачы пад‘ёму на зяб усёй плошчы, вызначанай для пасеву яравых, рашучае пашырэньне засеву гатунковым засевам, шырока разгарнуць сэлекцыйную работу, поўнае скарыстаньне штучных і мясцовых угнаеньняў, асабліва торфу“ (З пастановы лістападаўскага пленуму).

Пры гэтым пленум пастанавіў, каб „у кожным раёне ў разрэзе кожнага колгасу былі распрацаваны конкрэтныя мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці“. У барацьбе за павялічэньне ўраджайнасьці кожнага колгасу павінны самы актыўнейшы ўдзел прыняць усе раённыя навукова-дасьледчыя організацыі і колгасныя краязнаўчыя ячэйкі. Краязнаўчыя ячэйкі павінны вывучыць увесь комплекс умоў, выявіць усе магчымасьці, якія забясьпечваюць максымальнае павялічэньне ўраджайнасьці. Масавая дасьледчая работа ў колгасе павінна быць поўнасьцю павернута да пытаньня вывучэньня вынікаў ужываньня правільных севазваротаў, найлепшых спосабаў выробу і ўгнаеньня глебы скарыстаньнем мясцовых угнаеньняў, да вывучэньня і організацыі найлепшага дагляду і вырасьліваньня розных сельска-гаспадарчых культур, барацьбы са шкоднікамі сельскае гаспадаркі і інш.

Організацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў непасрэдна зьвязана з уключэньнем колгасаў у савецкі гандаль. Гэта мерапрыемства мае вялізарнае народна-гаспадарчае значэньне, патрабуе павялічэньня таварнасьці колгасных гаспадарак. Краязнаўчыя організацыі павінны дапамагчы колгасам у разгортваньні савецкага гандлю, выявіць першыя дасягненьні лепшых колгасаў і популярызаваць іх сярод колгасных мас.

Ва ўсёй сваёй рабоце краязнаўчыя організацыі павінны выяўляць і весьці ўпартую барацьбу за выкарчоўваньне дробна-буржуазных тэндэнцый у колгасах, змагацца за політычнае выхаваньне колгасных мас, пільна сочачы за дзейнасьцю клясавага ворага, вывучаючы формы яго барацьбы супроць лініі партыі і організуючы масы колгасьнікаў на самую рашучую барацьбу з кулаком і яго абаронцамі.

Барацьба за організацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў патрабуе выяўленьня ўсіх форм опортуністычнага скажэньня генэральнай лініі партыі і рашучай барацьбы з праявамі права-опортуністычнага самацёку ў колгасным будаўніцтве, з незаўважваньнем элемэнтаў клясавай барацьбы ўнутры колгасаў і тактыкі кулацтва на даным этапе, з праявамі „лявацкіх“ загібаў, ігнораваньнем задачы організацыйна - гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, у пагоне за раздутымі процантамі колектывізацыі, гігантаманіяй у колгасным будаўніцтве.

Толькі па-бальшавіцку ажыцьцяўляючы задачу організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасу, вядучы рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі, мы зможам дамагчыся стварэньня і разьвіцьця высокатаварнай колектыўнай вытворчасьці і закончыць суцэльную колектывізацыю ў тэрміны, вызначэньня партыяй, і канчаткова ліквідаваць кулацтва як клясу. На выкананьне гэтых баявых задач павінны быць мобілізаваны ўсе сілы масавых навукова-дасьледчых організацый.

---

В. Шчарбакоў

# З гісторыі партызанскага руху на Беларусі ў пэрыод нямецкай окупацыі

З моманту Кастрычнікавага перавароту і да окупацыі нямецкай імпэрыялістычнай арміяй амаль усёй тэрыторыі Беларусі прайшло роўна сто дзён. Гэта быў пэрыод першай савецкай улады на Беларусі. На працягу гэтага пэрыоду пролетарыят разам з бяднейшым сялянствам нашай краіны пад кіраўніцтвам абласной бальшавіцкай організацыі правёў вялікую работу па будаўніцтву новай, савецкай, улады. Замест ранейшага колёніяльнага становішча краіны, дзе панавала свавольства царскіх чыноўнікаў, дзе рабочая кляса і працоўнае сялянства знаходзіліся пад падвойным прыгнётам эксплёатацыі, Беларусь уступала на шлях свайго новага жыцьця. Разгортваліся новыя старонкі савецкага будаўніцтва, яе новай гісторыі. Скрозь організоўваліся саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў і другія органы дыктатуры пролетарыяту; расьлі рады бальшавіцкіх організацый, якія ўсё больш і больш ахаплялі сваім уплывам найшырэйшыя масы працоўных; пасьпяхова вялося змаганьне з контррэволюцыяй унутры краіны; у змаганьні з контррэволюцыяй расьлі чырвонагвардзейскія атрады ў гарадох і ўзброеныя атрады з беднаты і батрацтва па вёсках. Пад кіраўніцтвам нашай партыі і ўсяе рабочай клясы працоўнае сялянства пасьпяхова праводзіла экспропрыяцыю памешчыцкіх маёнткаў; пролетарская рэволюцыя мімаходзь заканчала справу буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, вымятаўся „дашчэнту бруд сэрэднявякоўя", пачыналася вялікая работа ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

І вось у разгары гэтага рэволюцыйнага змаганьня і новага будаўніцтва пачаўся наступ германскай імпэрыялістычнай арміі супроць савецкай краіны.

У адказ на наступ нямецкага імпэрыялізму, які нёс з сабою пагібель савецкай уладзе і Кастрычнікавай рэволюцыі, у адказ на заклік савецкага ўраду бараніць соцыялістычную бацькаўшчыну, побач з тымі, што ўжо меліся на тэрыторыі Беларусі, чырвонагвардзейскімі, а таксама насьпех зьбітымі з рэштак часьцей старой арміі рэволюцыйнымі атрадамі і пачалі сваё змаганьне з окупантамі асобныя партызанскія атрады. Усе гэтыя ўзброеныя сілы не маглі, бязумоўна, затрымаць наступ нямецкіх войск і гэтым самым захаваць савецкую ўладу на Беларусі. І ўсё-ж гэта была героічная старонка ў гісторыі змаганьня пролетарыяту і бяднейшага сялянства за пролетарскую рэволюцыю. Міма гэтага змаганьня мы ня можам прайсьці, на ім мы павінны спыніцца.

„Якіх-небудзь магутных узброеных часьцей, што маглі-б затрымаць рух окупантаў, ні ў Гомлі, ні ў сумежных раёнах ня было. Былі

невялікія чырвонагвардзейскія атрады; па вёсках пачалі былі ствараццa партызанскія ядры з былых салдат і з перадавых батрацка-бядняцкіх элемэнтаў сялянства, чаму спрыяла значная колькасьць зброі, быўшай у Новай Беліцы, а таксама прынесенай з фронту; прыбыў бранявік тав. Аўсіенкі, каманду якога прышлося папаўняць мясцовымі добраахвотнікамі. Але ўсё гэта, зразумела, было недастаткова ў параўнаньні з вельмі добра ўзброенай, дысцыплінаванай... германскай арміяй“ [1]).

Як толькі бальшавіцкія організацыі, рэвкомы і саветы даведаліся пра наступ немцаў, яны пачалі рыхтавацца да адпору, да ўзброенага супраціўленьня. Зьбіралася ўзбраеньне, формаваліся атрады. Рабочы П. Карпенка ў сваіх успамінах піша пра тое, як адзін з такіх атрадаў быў створаны ў Лепельскім павеце:

„У сярэдзіне лютага месяца я быў прызначаны—піша ён—па організацыі Бешанковіцкага, Стрыжаўскага і Ульскага валрэвкомаў. Не пасьпеў правесьці організацыйнай работы, знаходзячыся ў 45 вярстах ад павету, як мне перадалі сяляне аб наступе на г. Лепель... Немцы занялі Лепель, бо вялікага супраціўленьня ня было, дзеля таго што ня было організатара і ня было зброі. І вось у адзін з „прекрасных“ дзён сабраліся ўсе члены валрэвкому вырашыць пытаньне аб тым, каб спыніць далейшы наступ немцаў. Пастаноўлена было ехаць у Віцебск па зброю. Я ўзяў на сябе адказнасьць паездкі за ёю. Узяўшы пару коняй з маёнтку Стрыжава, я прывёз на іх каля 60 штук вінтовак (бярданак) і набоі. Але выявілася, што яшчэ раней за Лепелем к Менску організаваў невялікі атрад чалавек з 20 т. Пашкевіч, былы надпрапаршчык і затрымаў далейшы наступ немцаў на рацэ Сьвічанцы... Я паступіў у атрад Пашкевіча“ [2]).

У цэлым радзе мясцовасьцяў партызанскія атрады ў пэрыод наступу немцаў і заняцьця імі тэрыторыі Беларусі былі ўжо створаны. Шмат якія з іх першае сваё хрышчэньне атрымалі ў гэты пэрыод.

Гэтыя атрады былі і ў паўночнай часьці Беларусі; яны знаходзіліся на Случчыне і асабліва ў Гомельшчыне. Пра гэтыя атрады і іхнае змаганьне з наступаўшым нямецкім імпэрыялізмам у нас, праўда, матар'ялаў захавалася вельмі мала, але і тыя, што ёсьць гавораць шмат аб чым. У вв. Шаловічы, Выстрыцы, Дактаровічы, Вараб'ёвічы, Курганы і інш. у гэтыя часы былі сформаваны групы партызан.

Там, дзе ў пэрыод першай савецкай улады на Беларусі былі створаны бальшавіцкія ячэйкі,—там у першую чаргу формаваліся атрады партызан. Вялікі ўплыў на партызанскі рух ужо ў гэты час рабілі прамысловыя цэнтры з тымі рабочымі, якія знаходзіліся ў гэтых цэнтрах. У гэтых адносінах асабліва вызначаецца Гомельшчына, дзе партызанскі рух у пэрыод нямецкай окупацыі асабліва ярка выявіўся. Там, дзе ня было ўплыву і кіраўніцтва прамысловага пролетарыяту, дзе не існавала бальшавіцкіх організацый ці нават ня было цьвёрдых адзінак—бальшавікоў і моцных рэвкомаў,—там партызанскі рух разгортваўся, асабліва ў пачатку окупацыі, марудна. У гэтых адносінах паказальным зьяўляецца Магілеўскі раён. У г. Магілеве к моманту наступу немцаў партыйная організацыя была надзвычайна слабай і пагэтаму ня здолела організаваць рэволюцыйныя атрады для барацьбы з контррэволюцыяй.

[1]) „На путях борьбы и строительства“—зборнік артыкулаў і ўспамінаў прысьвечаных гадавіне Х Кастрычніка ў Гомлі, стар. 28.

[2]) Архіў Гістпарту ЦК КП(б) за 1918 г., успаміны Карпенкі П.

У радзе мясцовасьцяў Магілеўскі губ. і асабліва ў Быхаўскім павеце к моманту наступу немцаў існаваў ужо рад партызанскіх атрадаў, якія ўпарта біліся з польскімі легіянэрамі, ішоўшымі наперадзе немцаў, і якія маглі быць выкарыстаны і для змаганьня з немцамі. Але і на чале гэтых атрадаў Магілеўская парторганізацыя ня стала.

Цікавыя падзеі разгортваліся ў момант наступу немцаў у г. Гомлі і на Гомельшчыне. Гомельская партыйная організацыя і савет пры актыўнай дапамозе прыбыўшага ў Гомель з Кіеву латыскага атраду на чале з тав. Бэрзіным пачалі праводзіць вялікую работу па стварэньні партызанскіх атрадаў з рабочых, батракоў і беднякоў. Былі ўжыты захады да забесьпячэньня вёсак зброяй.

„На кожную воласьць было выдана па 1000 вінтовак з набоямі. Уся гэта работа была зроблена ў тры дні. На працягу гэтага-ж часу па ўсіх валасьцях былі разасланы агітатары для формаваньня партызанскіх атрадаў. Большасьць членаў павятовага камітэту партыі, а таксама і членаў савету была паслана ў атрады чырвонагвардзейцаў, якія біліся з нямецкімі войскамі. Рэшце-ж членаў савету не заставалася нічога іншага, як разьяжджаць па мясцох і ўзяць на сябе кіраўніцтва партызанскімі атрадамі, акія ў некаторых пунктах ужо былі“ [1]).

На станцыі Добруш хутка сабраўся цэлы рад партызанскіх атрадаў, адступіўшых сюды пад націскам немцаў. Адсюль атрады рассылаюць сваіх прадстаўнікоў па вёсках для агітацыі сярод сялянства за фармаваньне партызанскіх атрадаў і ўваход у тыя, што ўжо былі сформаваны. Вялікая работа гэтага парадку праводзілася ў Кармянскай воласьці. У самай Карме ўся партыйная ячэйка ўваходзіць у атрад. Раздаюцца вінтоўкі ўсім, хто ўступае ў партызаны. Хутка быў створаны новы атрад з 30 чалавек, які з сяла Жгунь трапляе зноўтакі на ст. Добруш. Адсюль партызаны разам з чырвонагвардзейскім атрадам робяць наступ на вёску Галавінцы, дзе заселі немцы. Апошнія з бранявіка пачалі абстрэльваць наступаўшых. Бой цягнуўся некалькі гадзін. Значная колькасьць партызан і чырвонагвардзейцаў загінула ў гэтай бойцы. Трэ‘ было адступаць зноў да ст. Добруш. Хутка і гэта апошняя была занята немцамі, а чырвоныя атрады адступалі да разьезду Закапыцьце.

Яшчэ ў студзені месяцы 1918 году, у сувязі з сваявольствам, драпежніцтвам і контррэволюцыйнай чыннасьцю польскіх легіёнэраў з корпусу Доўбар-Мусьніцкага, у раёне Чачэрску былі організаваны партызанскія атрады. Яны былі ў такіх пунктах: Чачэрск, с. Раўковічах, у Рагіне Буда-Кашалеўскага раёну; у Наўховічах і Маціvenчах былі невялікія партызанскія групы. Вось гэтыя партызанскія атрады, апрача змаганьня з польскімі легіёнэрамі і чэкінцамі, змагаліся і з немцамі ў часе іхнага наступу ў раёне Чачэрску.

Былы начальнік гэтых партызанскіх атрадаў Казлоўскі Тамаш у сваіх успамінах апавядае наступнае пра гэта змаганьне з немцамі:

„У в. Лепе, Буда-Кашалеўскага раёну, паводле данясеньня разьведкі, быў акружаны нямецкі карны атрад, колькасьцю ў 116 чалавек пры двух кулямётах; пасьля перамаўленьняў начштабу Казлоўскага аб здачы нямецкім атрадам зброі, пры нязгодзе апошняга, быў пачаты бой, у якім прымалі ўдзел атрады: Наўховіцкі, Раўковіцкі і частка Чачэрскага. Наўховіцкі атрад хадзіў у штыкавую атаку, і дзякуючы тактычнаму кіраўніцтву Казлоўскага і героічнаму настрою партызан

[1]) З успамінаў Гуцева М. „Известия Гомельского губкома“ № 65, 1924 г., стар. 69.

наогул, і прыватна, тав. Якубава Амельляна, Васільева Маркі, Табушова Гарасіма, Панкратава Яўсея, Савельева Міхала і камандзіра Наўховіцкага атраду (прозьвішча не памятую) удалося разьбіць атрад немцаў. Страты апошніх: 19 чалавек забітымі, 6 забрана ў палон і вайсковая маемасьць пры адным параненым з боку чырвоных партызан.

У раёне Кошэлеў-Селец была зроблена спроба разьбіць нямецкія атрады, якія ішлі для окупацыі Чачэрскага раёну. Часьці атрадаў Рагінскага і Раўковіцкага, пад кіраўніцтвам т. Новікава Кірылы, зайшлі ў тыл немцаў у сяло Кошэлеў, дзе была зьнішчана тэлефонная сувязь немцаў і забіты 2 нямецкія тэлефоністы, другія атрады з фронту пачалі бой, дзе з боку немцаў ужываліся бомбамёты. У выніку пад націскам немцаў прышлося адступіць у Віктарыйскі лес пры адным параненым з боку чырвоных партызан. Назаўтра, сабраўшы тыя сілы, што засталіся, зрабілі засаду па шашы Забалоцьце-Холіч'е, каб затрымаць рух немцаў на Чачэрск, але былі выкрыты нямецкай разьведкай, і пад моцным артылерыйскам агнём супраціўніка прышлося адступіць ад сяла Раўковіч.

У канцы лютага 1918 году, паводле атрыманых штабам вестак, савецкім урадам па дагавору з немцамі вызначана дэмаркацыйная лінія—рака Чэчара, з прычыны чаго штаб прымушаны быў спыніць ваенную чыннасьць у даным рёне і з рэштай больш актыўных таварышоў далучыўся да штабу аб'яднаных атрадаў Рагачэўскага і Чэрыкаўскага паветаў, які знаходзіўся ў той час у м. Прапойску" [1]).

22 лютага 1918 году, праз тры дні пасьля таго, як Савет народных камісараў адправіў Германіі ноту з прапановай заключыць мір, быў атрыманы па радыё адказ германскага ўраду. Апошні прапанаваў нам яшчэ горшыя ўмовы, чым да перарыву перамаўленьняў 10 лютага. Толькі 3 сакавіка быў нарэшце падпісаны драпежніцкі Брэсцкі мір. Да гэтага часу германскія войскі, ня гледзячы на супраціўленьне нашых асобных рэволюцыйных атрадаў, пасьпелі заняць усю Украіну і амаль $^5/_6$ тэрыторыі Беларусі. Была окупавана ўся Заходняя Беларусь, Меншчына з Мазыршчынай і Гомельшчынай, амаль палова (уся правабярэжная часьць Дняпра) Магілеўшчыны і значая часьць Віцебшчыны. Толькі часьць Полацкай акругі, Віцебская акруга, часьць Аршанскай і Магілеўскай былі вольны ад нямецкіх окупантаў і знаходзіліся ў руках савецкай улады.

Пачаўся цяжкі пэрыод нямецкай окупацыі, які цягнуўся да сярэдзіны, а ў некаторых мясцох і да канца сьнежня 1918 г. Усе заваёвы Кастрычнікавае рэволюцыі хутка зьнішчаліся. Рэволюцыйныя організацыі былі разагнаны; пачалося прасьледваньне, арышты, ссылкі і расстрэлы тых, хто быў западозраны ў бальшавізьме, комунізьме. Сьпярша нямецкая вайсковая ўлада крыху заігрывала з так званымі дэмократычнымі ўстановамі ў краіне, якія пастараліся ўваскросіць сябе ў момант адыходу бальшавікоў і прыходу немцаў. Але і яны аказаліся лішнімі, перашкаджаўшымі нямецкім лейтэнантам рабіць сваю справу. Затое вынырнулі на паверхню ўсе рэакцыйныя элемэнты, вярнуліся ў свае гнёзды памешчыкі, якія організаваліся ў саюз зямельных уласьнікаў. Заварушыліся дамаўласьнікі і ўласьнікі гандлёвых і зямельных прадпрыемстваў. Радавалася ў пачатку і дробная буржуазія. Пасьля кіпучага жыцьця ў рэволюцыі і першы пэрыод будаўніцтва савецкай улады, наступіў пэрыод рэакцыі.

[1]) Гомельскі гістарычны архіў.

„Немцы пачалі вывозіць усё, што толькі можна было вывезьці, а плацілі за тое, што вывозілі, як хацелі. Чыгункі для насельніцтва закрываліся; на кожную дробязь патрэбны быў пропуск. Пошта не працавала, дарагоўля пачала расьці, гандаль занепадаў... Калі хлебныя запасы пачалі выходзіць, немцы завялі карткавую сыстэму. Раней выдавалі 1/2 фунта, пазьней 1/4, а потым справа дайшла і да 1/8"[1]).

Вось той малюнак, які можна было зьне наглядаць па гарадох Беларусі ў першыя месяцы нямецкай окупацыі. Сьпярша як-быццам адчувалася ажыўленьне ў гандлі. У гэтых адносінах мясцовай буржуазіі і дробным гандляром дапамагалі нямецкія афіцэры і салдаты. Паднялася спэкуляцыя. Гандлявалі чым хто мог. З Германіі прывозілі мэдыкамэнты і перапрадавалі іх віленскім купцом, скрозь можна было набываць „шнабс". Не саромеліся гандляваць і казённымі рэчамі. Затое стаялі прамысловыя прадпрыемствы, моцна расло беспрацоўе. І гэта ў абставінах бязьлітаснага прасьледваньня рабочых і іх арганізацый.

Нямецкая ўлада ўсюль рэклямавала свой прыход з мэтай навядзеньня парадку і вызваленьня насельніцтва ад гвалтаў бальшавікоў. З мэтай правядзеньня „гэтага парадку" ў больш буйныя населеныя пункты былі пасланы асобныя часьці і каманды. На воласьць з мястэчкам прызначалася рота ў 150 чал., у другія воласьці пасылалася па 40—70 чал. Устаноўлены „парадак" заключаўся ў тым, што ўсюль панавалі хабары, а з другога боку ішла бязьлітасная расправа з насельніцтвам, адбываўся сапраўдны грабеж сялянства.

Разам з зьдзекамі нямецкіх окупантаў з працоўнага насельніцтва праводзілася бязьлітасная расправа буржуазіі над рабочымі і памешчыкаў над працоўным сялянствам і ў першую чаргу над батрацтвам і беднатой. Памешчыкі, якія вярнуліся ў свае маёнткі, пачалі сапраўдны грабеж сялян. Помсьціліся за тое, што здарылася ў рэволюцыю, аднаўлялі старыя дарэволюцыйныя адносіны на вёсцы. За конфіскацыю памешчыцкага інвэнтару, за высечку лесу, за карыстаньне памешчыцкімі палямі і сенажацямі вёскі абкладаліся вялізнай контрыбуцыяй. Сяляне шмат якіх вёсак ня ў сілах былі плаціць, адмаўляліся ад выплаты контрыбуцыі. За гэта іх арыштоўвалі, садзілі ў турмы, зьбівалі і шмат каго выпраўлялі ў Германію. Сялянскія падводы бязупынна назначаліся ў абозы, і за кожнае адмаўленьне ці нават спазьненьне сяляне абкладаліся высокімі штрафамі. Усюль арыштоўвалі тых, хто быў у зямельных камітэтах і сельсаветах, хто ў тэй ці іншай меры меў дачыненьне да рэволюцыі і савецкай улады. Першыя ўдары контррэволюцыйных элемэнтаў палі на вясковую беднату, якая разам з пролетарыятам завяршала Кастрычнікаўскую рэволюцыю ў вёсцы.

„Ведаю масу выпадкаў, — піша ў сваіх успамінах т. Андрэеў, — калі нямецкія салдаты зусім бяскарна абіраюць насельніцтва, — купляюць за бесцан продукты, рэчы ці проста адбіраюць іх пад відам „рэквізыцыі". Адбіраюць нават скаціну. Напрыклад, у вёсцы Забалоцьце ля в. Смалявіч праходзіла нейкая нямецкая каманда і самавольна забрала ўсё, што толькі ёй трэ' было: бралі, галоўным чынам, харчы. На пытаньне, па якому праву яны гэта робяць, нямецкія салдаты паказваюць на вінтоўкі... Усе памешчыцкія маёнткі адноўлены нямецкай уладай з лішкам за кошт сялян... Прычым многія сяляне літаральна разораны: прадаваліся хатнія рэчы, збожжа, скаціна і г. д. Расказвалі сяляне, як памешчык Шміт за 500 пудоў бульбы, узятай

---

[1]) Записки наблюдателя от 28 мая 1918 г. Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б за 1918 г.

у яго сялянамі, зьдзёр з іх па рыначнай цане пры дапамозе нямецкіх салдат за 3000 пудоў бульбы. Наогул-жа ўсё насельніцтва абурана супроць немцаў[1]).

Такі вось малюнак быў на вёсцы з прыходам немцаў. Ва ўсёй окупаванай Беларусі панавала нябывалае свавольства і расправа. Пролетарыят і працоўныя масы сялян Беларусі не маглі доўгі час моўчкі і пакорліва цярпець усё гэта. Накаплялася нездаволеньне і абурэньне супроць окупантаў і рэакцыйных элемэнтаў. Расла клясавая нянавісьць да эксплёататараў. Ужо пад канец мая 1918 году адзін з наглядальнікаў за настроем пролетарыяту гарадоў і працоўнага сялянства вёсак паведамляў, што „сьціхшыя ўзброеныя напады за апошнія часы сталі павялічвацца. Заработкаў няма, беспрацоўе выцясьняе моладзь у Расію. Рэквізыцыя па вёсках прымушае сялян хаваць запасы, і падвоз іх у горад скарачаецца з кожным днём“[2]).

А ў другім месцы ў гэтым-жа аглядзе паведамлялася: „Па дарозе ад г. Менску да ст. Замір'я мне давялося сустрэцца з сялянамі ваколіц м. Койданава і інш. Рэквізыцыя рэчаў першай патрэбы па цане, немагчыма нізкай, конфіскацыя маемасьці, пакінутай арміяй, рэпрэсіі, з якімі злучаны пераезд з вёскі ў вёску, грубыя і дзерзкія паводзіны як салдат, так і афіцэраў нямецкай арміі ў адносінах да мясцовага насельніцтва, даходзіўшыя амаль усюды да кулака і прыкладу скрозь і ўсюль бяз жаднай віны,—усё гэта стварае тое, што, па-маему, згушчае ў народзе дух абурэньня і стварае з яго небясьпечнага ворага, дыхаючага злобай і помстай“[3]).

У радзе мясцовасьцяў рэволюцыйны ўзрост, злоба і помста выліваліся ў адкрытыя напады на невялікія групы і на адзінкі нямецкіх салдат. У выніку гэтых нападаў і забойстваў немцы перагналі ў адпаведныя населеныя пункты свае каманды, карныя атрады, якія ўжо расправуляліся з насельніцтвам гэтых пунктаў па ўсіх правілах строгасьці: у насельніцтва адбіралася ўся скаціна, птушка, збожжа, будынкі падпальваліся, а тых, хто ратаваўся ад агню, скрозь і ўсюль расстрэльвалі. Такія ўчынкі нямецкіх войск яшчэ больш згушчалі атмосфэру і павялічалі нянавісьць насельніцтва да окупантаў. Нарасталі ўсе прадпасылкі для паўстанцкага руху ў окупаванай Беларусі. Гэтаму апрача настрояў насельніцтва спрыяла і наяўнасьць у яго зброі.

Пайшоўшыя з прыходам немцаў у падпольле бальшавіцкія організацыі Беларусі павялі энэргічную работу ў кірунку мобілізацыі пролетарскіх і бядняцкіх мас на змаганьне з окупантамі і з контррэволюцыйнымі буржуазна-памешчыцкімі клясавымі групоўкамі. З першых-жа месяцаў сваёй падпольнай работы яны поруч з працай сярод рабочых пачалі зьвяртаць сур'ёзную ўвагу на работу сярод сялянства, улічаючы тую хвалю абурэньня, якая чым далей, тым усё больш і больш нарастала як сярод усёй працоўнай масы сялянства наогул, так і асабліва сярод батрацтва і сялян беднякоў. Для тых, хто ведаў абставіны, створаныя окупацыйнай уладай, хто сачыў за настроямі мас і ўлічаў гэтыя настроі, было відавочна, што нарастаньне рэволюцыйнай хвалі няўхільна, што пытаньне аб паўстаньні, аб паўстанцкім руху няўхільна высоўвалася самымі гэтымі абставінамі.

---

[1]) Успаміны Андрэева В. ад 29/VII-1918 г. Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б за 1918 г., папка аб нямецкай окупацыі.

[2]) Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б за 1918 г. „Обзор настроения народных масс в связи с немецкой окупацией в районе г. Несвижа и окрестностей г. Минска“.

[3]) Тамсама.

Пытаньне аб паўстаньні супраць немцаў і контррэволюцыйных сіл краіны бальшавіцкія організацыі зьвязвалі з агульнай проблемай аб рухаючых сілах рэволюцыі. У поглядах раду бальшавіцкіх організацый мы знаходзім неаднолькавыя пункты погляду на проблему паўстаньня. Паўднёвая часьць Беларусі, амаль уся Гомельшчына і значная часьць Мазыршчыны, пры нямецкай окупацыі былі далучаны да Украіны, і партыйныя організацыі гэтых мясцовасьцяў, асабліва Гомельшчыны, адчувалі на сабе наймацнейшы ўплыў украінскіх організацый і існаваўшых у іх плыняў. У пастаноўцы пытаньня аб паўстаньні і організацыі партызанскага руху ў гэтай часьці Беларусі мы знаходзім цэлы рад поглядаў, аналёгічных поглядам украінскіх таварышоў. Вось чаму знаёмства з пастаноўкай проблемы аб паўстаньні на Украіне нам вельмі патрэбна: гэта знаёмства дасьць нам магчымасьць лягчэй разабрацца ў цэлым радзе пытаньняў партызанскага руху на Беларусі.

Але незалежна ад тых рознагалосьсяў, што наглядаліся ў пытаньні аб тэрмінах і характары паўстаньня, усе партыйныя організацыі надзвычай вялікую ўвагу аддавалі пытаньню аб паўстаньні, організацыі і кіраўніцтву партызанскім рухам.

На першай конфэрэнцыі комуністычных організацый окупаванай Літвы і Беларусі, якая адбылася 8—11 жніўня, пытаньню аб падрыхтоўцы паўстаньня і аб організацыі ўзброеных партызанскіх атрадаў было аддана шмат увагі. Т. Алібегаў у дакладзе па організацыйнаму будаўніцтву падрабязна спыняецца на гэтым пытаньні. „Вясковыя ячэйкі,—кажа ён,—улічаюць усю тую зброю, што ёсьць на вёсцы, па магчымасьці ўзбройваюць партыйных таварышоў, наладжваюць мітынгі, сходы, агітуюць і зьбіраюць усялякія весткі пра колькасьць і род зброі нямецкіх часьцей. На сходах абмяркоўваюць пляны наступу і захвату нямецкіх атрадаў данае вёскі, намячаюцца стратэгічныя пункты, якія трэба заняць і г. д.

Партыйныя ячэйкі організуюць партызанскія атрады, у часе наступу надаюць організаваны характар паўстаньню, становяцца на чале яго, афармляюць стыхійнае незадаволеньне і накіроўваюць яго ў пэўнае рэчышча“ [1]).

Асабліва вялікую ўвагу пытаньню аб рабоце на вёсцы і організацыі там партыйных ячэек і баявых атрадаў аддавала Менская падпольная бальшавіцкая організацыя. Гэта апошняя пачала праводзіць напружную работу па організацыі сельскіх партыйных ячэек у Барысаўскім, Менскім, Наваградзкім, Ігуменскім і Ашмянскім паветах.

„Работа на вёсцы ўсюль насіла дваякі характар: з аднаго боку, вялася вусная пропаганда, растлумачальная работа (аб савецкай уладзе, зямлі, міру, канечнай патрэбе Брэсцкага міру, абвяргаліся тыя байкі, што пашыраліся окупантамі пра Леніна і другіх правадыроў, пра перадачу немцам рускага золата, хлеба і інш.), пашыралася літаратура, якая ў меншай часьці выдавалася намі ў Менску, а ў большай—прывозілася намі з савецкай Расіі; з другога боку, улічалася і зьбіралася зброя, організоўваліся баявыя ячэйкі (дзе-ні-дзе былі нават кулямёты)“ [2]).

Партыйныя ячэйкі ў вёсках былі ня толькі цэнтрамі партыйнай работы, але і цэнтрамі, якія організавалі вайсковую работу. Навакол

[1]) Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б, № 148 за 1918 г., стар. 14.

[2]) Крыніцкі — Коммунистическая партия Белоруссии в подполье, „Пролетарская революция“ № 8—9, 1927 г.

іх групаваліся ўсе нездаволеныя окупацыйным рэжымам рэволюцыйныя элемэнты вёскі, асабліва былыя франтавікі. У апошніх было шмат зброі, і такім чынам нашы ячэйкі адыгрывалі ролю штабаў гэтых узброеных атрадаў [1]).

На скліканай 15 ліпня 1918 г. Менскай раённай партыйнай бальшавіцкай конфэрэнцыі было таксама ўзьнята пытаньне аб узброеным паўстаньні. На гэтай конфэрэнцыі было зафіксавана наступнае: „Прызнаючы за галоўную і канечную задачу партыйнай работы ў окупаваных абласьцёх падрыхтоўку ўзбраенага паўстаньня, маючага на мэце аднаўленьне савецкай улады, конфэрэнцыя лічыць канечна патрэбным утварэньне партыйных ячэек як асноўных організацыйных адзінак па вёсках і аб'яднаньне іх па воласьцях, паветах і г. д. Апрача свайго чыста партыйнага значэньня, ячэйкі гэтыя павінны зьяўляцца організуючымі цэнтрамі для дружын і атрадаў баявога характару" [2]).

Ня гледзячы на такую вялікую ўвагу, якую партыйныя організацыі аддавалі пытаньню аб узброеным паўстаньні і аб стварэньні баявых узброеных атрадаў, тут трэба падкрэсьліць, што рад організацый на Беларусі ўсё-ж крыху недаацэньваў стыхійнага рэволюцыйнага руху сярод мас,—прыватна-ж, батрацтва і вясковай беднаты, накіраванага супраць нямецкай окупацыйнай улады і буржуазна-памешчыцкіх элемэнтаў. У тым-жа артыкуле тав. Крыніцкага гэта падкрэсьліваецца двойчы. На старонцы 266 ён піша: „Мы тады крыху недаацэньвалі тыя рэволюцыйныя магчымасьці, якія ў нас на вёсцы былі. Нашы вясковыя таварышы былі вельмі рэволюцыйна настроены". На стар. 270-271 тав. Крыніцкі, кажучы пра дырэктывы АК, піша: „Дырэктывы гэтыя зводзіліся да таго, што нам трэ' было ўмацоўваць нашу сувязь на вёсцы, праз нашы сялянскія ячэйкі, стрымліваць рэволюцыйны настрой сялянства ад якіх-бы там ні было выбухаў і „рэволюцыйных" крокаў, якія маглі даць немцам повад усе рэволюцыйныя элемэнты зьнішчыць і затапіць у крыві". Такі „стрымліваючы" падыход да рэволюцыйнага выступленьня сялянства ня ўсім бальшавіцкім організацыям быў уласьцівы на Беларусі. Рад організацый поўдню Беларусі і ў першую чаргу Гомельская бальшавіцкая організацыя, якая знаходзілася пад уплывам ЦК КП(б)У, левага крыла яго, на чале з Бубновым, Пятаковым і інш., наадварот, як мы ўбачым ніжэй, крыху пераацэньвалі рэволюцыйнасьць і організаванасьць сялянства.

Бальшавіцкія організацыі, ставячы пытаньне аб організацыі партызанскіх атрадаў і кіраўніцтве іх змаганьнем, распрацоўвалі цэлыя пляны ў гэтым абсягу. У нашым распараджэньні ёсьць два такія пляны. Абодва гэтыя документы зьяўляюцца надзвычай цікавымі. Гэтыя пляны прадугледжваюць прынцыпы організацыі саміх атрадаў, іх задачы, узбраеньне, асноўныя стратэгічныя пункты, кіраўніцтва і г. д.

Гэтыя пляны гавораць нам аб тых шырокіх проектах, якія існавалі ў разгортваньні партызанскага руху пры нямецкай окупацыі. Зьвернемся-ж да разгляду самога руху, да разгляду таго змаганьня, якое вялі партызанскія атрады ў разгляданы намі час супроць окупантаў і ўнутранай контррэволюцыі.

У розных часьцях окупаванай тэрыторыі партызанскі рух разгарнуўся неаднолькава. Амаль усюды існавалі партызанскія атрады

[1]) Крыніцкі—Коммунистическая партия Белоруссии в подпольи, „Пролетарская революция" № 8—9, 1927 г., стар. 266.

[2]) Тамсама, стар. 267.

і баявыя групы. Усюль, дзе існавалі падпольныя, бальшавіцкія арганізацыі, гэтымі арганізацыямі вялася вялікая работа па сфармаваньню ўзброеных паўстанскіх сіл, усюль зьбіралася зброя і ішло ўзбраеньне партызанскіх сіл. Але ня ўсюль гэтыя атрады з аднолькавай сілай сябе выявілі, ня ўсюль яны аднолькава ўпарта і арганізавана змагаліся з окупантамі і памешчыцка-буржуазнай контррэволюцыяй. Тэрміны супольнага выступленьня вызначаліся таксама неаднолькава. У паўднёвай часьці Беларусі партызанскі рух насіў больш масавы характар. Тут ня было недаацэнкі гэтага руху, але наадварот,—яго хутчэй пераацэньвалі. У сярэдняй і паўночнай часьці окупаванай Беларусі тэрміны супольнага выступленьня адкладаліся; тут, як мы ўжо зазначалі, была пэўная недаацэнка партызанскага руху.

Уцалку-ж, мы тут яшчэ раз падкрэсьліваем, што партыйныя організацыі аддавалі надта вялікую ўвагу разгортваньню партызанскага руху. Вялікую працу па кіраўніцтву паўстанцкім партызанскім рухам на Беларусі праводзіў Абласком, Краёвы камітэт комуніст. партыі, абраны на конфэрэнцыі ў Смаленску і Менскі раённы падпольны камітэт. Тав. Крыніцкі ў артыкуле пра комуністычную партыю Беларусі ў 1918 годзе адзначае, як расьлі паўстанскія сілы на вёсцы, як партыя праз свае ячэйкі старалася надаць партызанскаму руху організаваны характар. „Процэс консолідацыі нашых сіл усё цягнуўся Лік нашых ячэек усё больш узрастаў, прычым значна ўзрос лік ячэек у вёсцы. К гэтаму часу мы налічваем у вёсцы каля 75 або нават крыху больш нашых ячэек, а лік членаў у іх каля 500. Ячэйкі былі невялікія;у іх праводзілася ня толькі партыйная праца, яны мелі характар цэнтраў, організуючых вайсковую працу. Вакол іх групаваліся ўсе нездаволеныя окупацыйным рэжымам рэволюцыйныя элемэнты вёскі, асабліва былыя франтавікі. У апошніх было багата зброі, і такім чынам нашы ячэйкі гралі ролю штабаў гэтых узброеных атрадаў. Мы тады крыху недаацэньвалі тыя рэволюцыйныя „магчымасьці", якія былі ў нас на вёсцы. Нашы вайсковыя таварышы былі вельмі рэволюцыйна настроены. Шмат якія таварышы пыталі, чаму мы „не пачынаем" і „калі пачнем"[1]). І далей: „Наша праца ўся была ў тым, каб гэты масавы ўздым організаваць, увадзіць у пэўнае рэчышча, падтрымліваючы рэволюцыйныя настроі вёскі"[2]).

Паданая намі вынятка з артыкулу тав. Крыніцкага красамоўна сьведчыць аб тым, якую вялікую ўвагу партыйная бальшавіцкая організацыя аддавала організацыі паўстанскага руху на Беларусі і як хутка рэволюцыянізавалася сялянская маса, перш за ўсё, бедната, а потым і серадняцтва. Разам з гэтым яна (вынятка) сьведчыць аб пэўнай недаацэнцы рэволюцыйнага настрою мас, аб той „асьцярожнасьці", якая была ўласьціва некаторым бальшавіцкім організацыям окупаванай Беларусі.

Пра рост рэволюцыйнага настрою сялянскіх мас у той час гаворыць таксама і тав. Славінскі, які сярод сялянства праводзіў вялікую работу і добра ведаў яго настрой. Настрой гэты рос, усё больш і больш захапляў шырокія масы сялянства ў сувязі з узмацненьнем рэакцыі, зваротам памешчыкаў у свае маёнткі і наступам іх, перш за ўсё, супраць тых, хто праводзіў рэволюцыю на вёсцы, хто прымаў удзел у конфіскацыі памешчыцкіх маёнткаў, у высечцы лесу і г. д. Маса сялянства вельмі абуралася і супраць окупантаў у сувязі з вялікімі

[1]) „Кастрычнік на Беларусі", зборнік, стар. 187.

[2]) Тамсама, стар. 188.

абкладаньнямі сялянства, правядзеньнем контрыбуцыі, рэквізыцыяй збожжа, скаціны, птушкі, зьбіраньнем масла, яек, малака. „І вось, калі быў абвешчаны першы падатак,—піша тав. Славінскі,—ад курыцы два яйкі на тыдзень, ад кожнай каровы пэўную колькасьць фунтаў масла на месяц, ад кожнай сьвіньні столькі вот сала, ад кожнай дзесяціны столькі-та хлеба,—тады насельніцтву гэты „дэмократызм“ і гэта апекаваньне здалося праз меру цяжкім, і баромэтр настрояў вёскі пачаў вельмі падаць[1]). Прыблізна к гэтаму часу пачалі вяртацца памешчыкі, немцы ўсяляк ім дапамагалі. Усюль пачаліся ператраскі ў сялян з мэтай, каб знайсьці памешчыцкую мэблю... Там, дзе ўжывалі лупцоўкі, сяляне мусілі адрабляць памешчыку за тое, што яны адважыліся ўвайсьці ў яго маёнтак... Што датычыць парубак лесу, дык за такія парубкі наладжваліся бадай сапраўдныя пагромы, і селянін за кожны вяршок зрубленага дрэва плаціў у 10—15 раз больш яго сапраўднай каштоўнасьці.

Усе гэтыя фактары вельмі рэволюцыянізавалі сялянства“ [2]).

Памешчыкі ў мэтах больш організаванага наступу на сялянства злучаюцца ў саюз зямельных уласьнікаў. Не спадзяючыся на доўгае прабываньне окупантаў на Беларусі, бачачы рост рэволюцыйнага настрою мас, гэты саюз зямельных уласьнікаў у радзе месц вядзе кампанію за далучэньне Беларусі да гетманскай Украіны. Аб далучэньні да Украіны ставіцца пытаньне і на гарадзкіх думах. І тут націскаюць рэакцыянэры памешчыкі. У гэтых адносінах асабліва вялікую актыўнасьць выявілі памешчыкі Рагачэўскагаі цэлагараду другіх паветаў.

Гэтыя намеры памешчыкаў і другіх рэакцыйных элемэнтаў спрыялі толькі яшчэ большаму рэволюцыянізаваньню мас.

Вялізная колькасьць батрацтва і беднаты ў беларускай вёсцы, рост рэволюцыянізаваньня шырокіх мас працоўнага сялянства, зварот у вёску значнай праслойкі пролетарыяту ў сувязі з заняпадам прамысловасьці, зграмаджэньне ў ёй раней хадзіўшай на заработкі ў розныя прамысловыя цэнтры і асабліва ў Донбас,—усё гэта стварала вельмі спрыяючыя ўмовы для разгортваньня партызанскага руху на Беларусі. Гэтаму-ж спрыяла і тая акалічнасьць, што ў вёсках окупаванай Беларусі была вялізная колькасьць узброеньня, якое накапілася ў ёй дзякуючы знаходжаньню на тэрыторыі Беларусі вялізнай старой арміі ў сувязі з тым, што праз Беларусь праходзіў імпэрыялістычны фронт і дэмобілізацыі старой арміі. Салдаты і цэлыя часьці старой царскай арміі, ідучы з Заходняга фронту, пакінулі ў вёсках вялізную колькасьць зброі. Немалую ролю ў справе разьвіцьця партызанскага руху на Беларусі адыграў і характар самой мясцовасьці, лясістасьць, балоцістасьць яе і г. д.

Рэволюцыянізаваньне мас расло, партыйныя організацыі зьвярталі вялікую ўвагу на работу па організацыі партызанскага руху. Нямецкае камандваньне імкнулася ўсякім спосабам абязброіць вёску. Выдаецца рад загадаў аб здачы зброі. Сыпяцца пагрозы па адрасу тых, хто ня здасьць зброі. Пагражаюць карай сьмерцю. І ўсё-ж зброя з вёскі ня была выкачана. „Яна хаваецца. У некаторых вёсках, дзе мне давялося бываць, я яе сам бачыў. Ёсьць і стрэльбы, рэвольвэры, га-

[1]) Тут гутарка ідзе аб тым, як хутка сялянства расчароўвалася ў прыходзе немцаў. Шч.

[2]) Славінскі—Бальшавікі на Беларусі ў часы нямецкай окупацыі, „Кастрычнік на Беларусі“, стар. 207.

варацъ пра кулямёты". Так піша адзін з таварышоў, наглядаўшы за настроем мас у раёне Несьвіжу [1]).

Мы ўжо вышэй адзначалі, што кіраўніцтва партызанскімі атрадамі ў паўднёвай часьці Беларусі, уваходзіўшай у склад гетманскай Украіны, знаходзілася непасрэдна ў руках рэўкомаў, якімі кіравалі партыйныя організацыі; кіраўніцтва-ж гэтымі атрадамі ў другіх часьцях Беларусі было згрупавана ў большасьці выпадкаў непасрэдна ў руках партыйных організацый і ў прыватнасьці па вёсках — у руках партыйных ячэек. Рост гэтых апошніх быў надзвычай вялікі. Яны вось якраз і групавалі навакол сябе паўстанцкія атрады і групы.

У кароткай справаздачы аб партыйнай рабоце ў Быхаўскім павеце пры нямецкай окупацыі паведамлялася.

„Паралельна з гэтым у окупаванай часьці Быхаўскага павету ў жніўні месяцы стварыліся нелегальныя партыйныя ячэйкі. Не прадбачачы хуткай рэокупацыі Быхаўскага павету, ячэйкі павялі чыста паўстанцкага кірунку работу. Пад канец жніўня ў гэтай часьці павету налічалася 150 ячэек, бадай у кожным больш-менш населеным пункце" [2]).

Пад канец лета на Беларусі ствараецца вялікая паўстанцкая армія, якая складаецца з атрадаў і асобных груп. „Краёвы камітэт,— піша тав. Кнорын,—зьвяртае асаблівую ўвагу на работу сярод сялян, ствараe шматтысячную, моцную паўстанцкую, комуністычную організацыю сялян" [3]).

Нам ужо даводзілася гаварыць аб тым настроі, якім было ахоплена сялянства. У шмат якіх мясцох яно гатова было да выступленьня, чакала яго. Пад уплывам такога настрою шмат хто з партыйных работнікаў, непасрэдна працаваўшых сярод мас, таксама заражаліся гэтым настроем і ставілі пытаньне аб прысьпешаньні тэрміну выступленьня. На падпольнай конфэрэнцыі, скліканай Менскай бальшавіцкай організацыяй, „выступаў тав. Валодзька з Замір'я, які падкрэсьліваў, што нам трэба асабліва ўлічыць надыходзячы пэрыод збору збожжа, бо прадпалагалася, што немцы гэты пэрыод выкарыстаюць, каб рэквізаваць у сялян збожжа, і гэта, бязумоўна, выклікала-б вялікае хваляваньне сярод сялян. У сувязі з паднятым у спрэчках пытаньнем аб узброеным паўстаньні супроць немцаў, я гаварыў пра нашы адносіны да гэтага пытаньня і пра яго адрозьненьне ад позыцыі правых і левых эсэраў" [4]).

Спынімся на конкрэтнай чыннасьці і змаганьні некаторых партызанскіх атрадаў пэрыоду нямецкай окупацыі. У Слуцкім павеце мы маем цэлы рад паўстанцкіх атрадаў. Пра адзін з іх тав. Салагуб у сваіх успамінах апавядае наступнае: „У гэты час, — піша ён, — організацыяй нам даваліся часныя задачы: падпаліць той ці іншы дом, захапіць зброю і г. д. Гэтыя заданьні мы атрымлівалі ў Слуцку. Я асабіста атрымліваў заданьні ад тав. Сулкоўскага... Мы працавалі ў вёсцы Шаговічах, Быстрыцы, Дактаровічах, Вераб'ёвічах, Курганох і інш. У мяне ў атрадзе быў Базыль Кашанскі, Сулкоўскі Тодар, Багдановіч, які хаця ў атрадзе і ня быў, але працаваў разам з намі, Васілевіч, які, між іншым, пасьля быў расстрэлены за здраду, два Маліноўскіх і яшчэ некалькі чалавек... Такім чынам, наш атрад пра-

---

[1]) Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б за 1918 год.
[2]) Архіў Гомельскага Гістпарту, справа № 40 1918-1919 гг., 17 ліст.
[3]) Кнорын—5 лет КП(б)Б.
[4]) Крыніцкі—Коммунистическая партия Белоруссии в подпольи 1918 г. „Пролетарская революция", № 6—9, 1927 г., стар. 266.

цаваў месяцы з 4")[1]. У вялікай колькасьці партызанскія атрады былі на тэрыторыі Магілеўскага, Быхаўскага, Ігуменскага і др. паветаў. Даволі адзначыць, што толькі ў раёне першых трох паветаў былі створаны дзесяткі паўстанцкіх атрадаў, якія мелі 700 вінтовак, 150 шабляў, рэвольвэры і іншую зброю.

„Асабліва моцная організацыя,—піша ў сваіх успамінах тав. Ліўшыц, — у нас была ў Клінкаўскай воласьці і ў Клінкох. Там работаю кіраваў добры хлопец, Сецька... Гэта організацыя мела многа зброі, мела нават кулямёт, вінтоўкі, рэвольвэры, бомбы. Наогул усе гэтыя хлопцы былі баявыя, і памешчыкі іх вельмі баяліся, адчуваючы, што тут ёсьць нейкая організаваная сіла. У самых Клінкох было чалавек 25. У гэтых хлопцаў, што называецца, рукі сьвярбелі супроць памешчыкаў, але Сецька іх стрымліваў. Нам вельмі цяжка было ўгаварваць іх супроць безадкладнага выступленьня з мэтай выгнаньня ўсіх памешчыкаў".

Многалікія партызанскія атрады былі організаваны і працавалі ў Мазырскім, Пінскім, Наваградзкім, Гомельскім і інш. паветах. У „Подпольной Правде", органе Краёвага камітэту компартыі Беларусі, за кастрычнік месяц паведамлялася наступнае:

„Рагачэў. У раёне Рагачэва, на граніцы з Украінай адбылася сутычка між немцамі і паўстанцамі. Апошнія захапілі 4 кулямёты, забілі 31 окупанта, але прысьпеўшая дапамога прымусіла паўстанцаў схавацца ў лясы. У іх былі гарматы.

Мазыр. Паўстанцкі атрад напаў на турму, разграміў яе, вызваліў арыштаваных там нашых таварышоў комуністаў і левых с.-р."

Вялікая работа была разгорнута па організацыі партызанскіх атрадаў і кіраўніцтву іх баявой чыннасьцю ў раёне Юравіч. У канцы вясны 1918 г. каля Юравіч у зарасьніках зьбіраецца першая конфэрэнцыя падпольнікаў-бальшавікоў. У ліку другіх пытаньняў конфэрэнцыя разглядае пытаньне (першым) аб організацыі партызанскіх атрадаў. Была прынята пастанова організаваць атрады з батракоў у памешчыцкіх маёнтках і найбольш рэволюцыйна настроеных былых армейцаў. Адзначалася, што партызанскія атрады, у ліку другіх дзеяньняў, павінны ўзяць на сябе абавязак нападаць на невялікія нямецкія часьці і, абзбройваючы іх, узмацняць партызанскія атрады.

„У вёсках Харовічах, Слабодцы, Беразоўцы і Агародніках organізуюцца партызанскія атрады, якія былі аб'яднаны ў два атрады— Юравіцкі і Агародніцкі.

Партызанскія атрады вялі працу вельмі консьпірацыйна. На першым сваім агульным сходзе партызаны прынялі пастанову: за здраду атраду, за выдачу тайны—здрадніку сьмерць. Усе сходы наогул заносіліся ў протокол, была свая канцылярыя, вялася перапіска, быў вучот асабовага складу і маемасьць, асабліва ўсяго таго, што можна было захапіць у ворага. Партызанскія атрады вялі барацьбу за савецкую ўладу, хоць бывалі выпадкі, калі асобныя партызаны бралі зусім ня тое, што трэба, і за гэта кары ня мелі"[2]).

Гэтыя атрады робяць цэлы рад нападаў на немцаў і контррэволюцыянэраў. Агародніцкі атрад у лістападзе 1918 г. нападае ўначы на нямецкі атрад у ліку 25 чалавек, які знаходзіўся ў маёнтку Малыя Вадовічы. Пад напорам партызан і ў выніку гарачай перастрэлкі з стрэльбаў немцы адступаюць у Вялікія Вадовічы, але партызаны

[1]) Архіў Гістпарту ЦК КП(б)Б, справа № 228, стар. 45-46.

[2]) Е. Зырко—Рэволюцыйны рух у Юравіцкім раёне, „Наш Край", № 9-10 за 1930 год.

і адтуль іх выбіваюць. Немцы адступаюць у Юравічы, дзе яны атрымліваюць сабе дапамогу. Партызаны ідуць у лясы.

Найбольш магутны характар партызанскі рух, параўнаўча з другімі раёнамі Беларусі, набыў у паўднёвай часьці — Мазыршчыне, Піншчыне і асабліва на Гомельшчыне. Мы ўжо зазначылі, што паўднёвая часьць Беларусі ў часе нямецкай окупацыі была далучана да Украіны, і тут партызанскі рух быў цесна зьвязаны з такім-жа рухам на Украіне. У паўднёвай часьці Беларусі, якая знаходзілася пад уладай окупантаў і гетмана Скарападзкага, рэжым быў яшчэ больш бязьлітасны, чым у Беларусі. Політыка грабяжу працоўнага сялянства, якая пачалася за пятлюраўскай радай, яшчэ больш узмацнілася з прыходам да ўлады Скарападзкага. У гарадох фабрыкантам і заводчыкам адразу-ж былі вернуты іхныя прадпрыемствы, і эксплёатацыя рабочых запанавала ва ўсю. У вёскі вярнуліся памешчыкі, і сяляне павінны былі расквітвацца за экспропрыяцыю экспропрыятараў. Пачалі праводзіць улік зробленых страт памешчыкам за 1917-1918 гг. Памешчыкі апрача таго атрымлівалі пасады губэрскіх павятовых старостаў і бязумоўна пасталіся выкарыстаць іх з „гонарам".

Па вёсках усё больш і больш у рэзкіх формах выяўлялася нездаволеньне. Рос рэволюцыйны настрой мас. Ужо з вясны ўсё часьцей і часьцей здараліся стыхійныя выбухі. Зьяўляюцца асобныя баявыя групы з сялянства. Часта адбываюцца сутычкі з немцамі.

А пасьля ўзброенай сутычкі куды дзецца? Прыходзілася ратавацца ад рэпрэсій або ў лес або за дэмаркацыйную лінію, у савецкую Расію. Такім чынам, на мясцох ствараліся ўзброеныя групы партызан, а ў пагранічных раёнах формаваліся стаўшыя хутка выдатнымі Багунскі і Таращчанскі партызанскія палкі.

Гэтыя вось баявыя групы трэ' было аформіць у рэволюцыйныя партызанскія атрады, трэ' было надаць ім пэўную організацыйную форму. Стыхію нездаволеньня трэ' было абярнуць у асяродкі клясавага змаганьня супроць прыгнятальнікаў, даўшы бунтаўнічым элемэнтам выразныя політычныя лёзунгі. І гэта паволі, спакваля робяць рэволюцыйныя органы. Яны вядуць работу па ўліку і пашырэньню сеткі баявых атрадаў і стараюцца прасякнуць іх належнай вытрыманай савецкай ідэолёгіяй.

Формаваньне баявых атрадаў было доўгім процэсам, прычым асабліва ажыўленымі і ў гэтых адносінах былі месяцы май-чэрвень" [1].

Партыйныя ячэйкі на мясцох і ў гэтай часьці Беларусі адыгралі вялізную ролю ў стварэньні баявых партызанскіх атрадаў. Там, дзе гэтыя ячэйкі былі, — там у першую чаргу і формуюцца партызанскія атрады. У гэтых адносінах асабліва вызначаюцца такія вёскі і населеныя пункты на Гомельшчыне, як Корма, Перарос, Жгунь, Горваль і інш. У гэтых пунктах організуюцца моцныя партызанскія атрады. Сярод іх асаблівае ўвагі заслугоўвае Пераростаўскі атрад. Ядром гэтага атраду зьяўляліся ўзброеныя салдаты, якія вярнуліся з фронту. Да іх далучыліся баявыя і найбольш рэволюцыйныя элемэнты з цэлага раду вёсак Кармянскай і другіх валасьцей. У летку 1918 году ў гэтым атрадзе налічалася ўжо некалькі сот байцоў. Крэпнулі ды колькасна расьлі і другія партызанскія атрады, як, напрыклад, Насовіцкі, Драздовіцкі, Горвальскі. Быў рад і такіх атрадаў і невялікіх партызанскіх груп, якія ствараліся, але потым пад уплывам цэлага раду прычын, бязьлітаснай расправы з партызанамі, высочваньнем іх з боку гет-

[1] Осин. Под пятой оккупации, сборник Гомельской октябрьской комиссии „На путях борьбы и строительства", стар. 39.

манскай варты і немцаў, кулацкага шпіёнажу і няўстойлівасьці раду элемэнтаў, распадаліся.

Хутка сетка партызанскіх атрадаў значна вырасла, і для ўліку сіл і выяўленьня ступені рэволюцыйнага настрою мас партыйнай організацыяй было пастаноўлена склікаць зьезды партызан—Гомельскі і Рэчыцкі. Зьезды былі скліканы, і на іх, перш за ўсё, стаяла пытаньне аб узброеным паўстаньні. Ня мала дэлегатаў настойвала на безадкладным узброеным паўстаньні, запэўняючы прадстаўнікоў рэвкомаў і бальшавіцкіх організацый у тым, што ўсё сялянства стане на падтрыманьне атрадаў. Бясспрэчна, у гэтым была пераацэнка рэволюцыйнага і баявога настрою ўсяго пагалоўна сялянства, без яго соц.-экономічнай дыфэрэнцыяцыі. Але гэта пераацэнка рэволюцыйных сіл была ўласьціва ня толькі нізом, а і раду бальшавіцкіх організацый поўдню Беларусі, у тым ліку і Гомельскай організацыі. Яна-ж была ўласьціва і левай плыні комуністычнай партыі Украіны і яе ЦК.

Тымчасам ні рэвкомы ні непасрэдна бальшавіцкія ячэйкі не падрыхтаваліся як сьлед да паўстаньня. Кіраўніцтва атрадамі было невыстарчальнае; належнай сувязі і інформацыі аб баявых сілах на мясцох партыйныя організацыі часта ня мелі. Лепш стаяла справа ў гэтых адносінах з рабочымі атрадамі, якія таксама існавалі на Гомельшчыне.

На зьезьдзе партыйных організацый компартыі Украіны, які адбыўся 5 ліпня ў Маскве, дэлегацыя ад Гомельскай бальшавіцкай організацыі ў сваёй большасьці стала на пункт погляду „левых“, выстаўшых палажэньне аб тым, што контррэволюцыйную сілу на Украіне можна перамагчы сваімі ўнутранымі сіламі, што трэба рыхтавацца да ўсеагульнага паўстаньня, не чакаючы рэволюцыі сусьветнай, у прыватнасьці, рэволюцыі ў Германіі.

Вярнуўшыся з гэтага зьезду, Гомельская організацыя рыхтуе ўсе свае баявыя сілы да паўстаньня, якое павінна было распачацца па асобнаму загаду ў маштабе Чарнігаўшчыны, Гомельшчыны і другіх раёнаў.

„Быў выпрацаваны плян адначасовага выступленьня ўсіх раёнаў Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, прычым галоўнай стратэгічнай задачай было акружэньне Гомлю, дзе павінны былі быць запёрты часьці германскага окупацыйнага корпусу, вызначалася некалькі асяродкаў паўстаньня. Пачаць мусіў быў Рэчыцкі павет. Баявым атрадам найбольш буйных яго пунктаў, як, напрыклад, Васілевічы, Горваль і інш., давалася заданьне зьнішчыць свае нямецкія гарнізоны і рушыць у Рэчыцу, адкуль ім ужо трэ‘ было падыйсьці да Гомлю з захаду. У паўднёвым кірунку асяродкам паўстаньня вызначаны быў раён, прылягаўшы да чыгуначнай лініі Гомель-Гародня, адкуль партызанскі кулак таксама павінен быў абрушыцца на горад. На ўсходзе і паўднёвым усходзе дзеяў Перарostаўскі атрад, і яму, разам з другімі вёскамі раёну, даручалася націснуць на Гомель са свайго паўднёва-ўсходняга боку. Такім чынам, плян прадугледаў амаль поўнае акружэньне“ [1]).

Але гэты плян усеагульнага паўстаньня не ажыцьцявіўся. Партызанскія атрады павінны былі выступіць па сыгналу, які прызначаны быў на ноч з 16 на 17 жніўня. Сыгналам павінен быў быць рад выбухаў.

У вызначаны час сыгнал быў даны, але партызанскія атрады выступілі ня ўсе. Выступіў Горвальскі атрад, які, разьбіўшы немцаў у самым Горвалі, важыўся быў выступіць далей.

---

[1]) Тамсама, стар. 43

Вось што расказваюць пра гэта выступленьне самі ўдзельнікі змаганьня тт. Назарэнкія Т. і В.

„У пачатку верасьня ў м. Горвалі, Рэчыцкага павету атрад партызан з сялян воласьці ў колькасьці 60 чалавек заняў м. Горваль, перабіўшы і забраўшы ў палон нямецкі гарнізон мястэчка. Абвясьціўшы савецкую ўладу, партызаны той-жа ночы рушылі ў кірунку в. Слабодкі, дзе стаяла пагранічная часьць украінцаў. Двое з партызан, пераскочыўшы праз плот, падышлі да вартаўніка украінца[1]) папрасіць прыкурыць і, неспадзявана накінуўшыся, павалілі на зямлю. У тую-ж хвіліну занята была казарма са спаўшымі салдатамі, выклікаНы быў вялікі пярэпалах. Часьць зброі захапілі паўстанцы і прапанавалі ўзброенай часьці здаць зброю. Украінцы здаліся. Гэта была важная для партызан перамога, і яны накіроўваліся ўжо да Рэчыцы, але неналаджаная сувязь і здрадніцтва кулакоў згубілі іх. З усяго павету былі сьцягнуты нямецкія войскі, разьбіўшыя ўжо вялікі па колькасьці, але дрэнна арганізаваны атрад паўстанцаў. Шмат хто ўцёк, часьць арыштавана, тав. Дубовік усенародна павешаны ў гор. Рэчыцы на гарадзкім пляцу. Над рэштай вядзецца сьледзтва“.

Выступіў Насовіцкі атрад, але далей самых Насовіч ён не пайшоў; некаторыя атрады зусім ня выступілі. Такім чынам, плян усеагульнага паўстаньня быў правалены. Не ўдалося гэта паўстаньне і на Чарнігаўшчыне. Там выступленьне партызанскіх атрадаў было больш упартым і шырокім (вядомае выступленьне Крапівянскага), але і яно было бязьлітасна прыдушана. Пасьля гэтага рэволюцыйныя сілы Гомельшчыны і другіх месц пайшлі ў глыбокае падпольле і пачалі зьбіраць там сілы для новага выступленьня.

Цікава падаць некаторыя штрыхі змаганьня партызанскіх атрадаў у раёне Старадубу і за аўладаньне ім. Гэта змаганьне было цесна зьвязана са змаганьнем у паўднёвай часьці Беларусі. Тут яшчэ ўлетку 1918 г. на аднэй з нарад штабу партызанскіх атрадаў, які знаходзіўся ў вёсцы Найтановічах, у прысутнасьці прадстаўніка паўстанцкага рэвкому Украіны была прынята пастанова захапіць горад Старадуб. Паводле пляну, горад меліся заняць уначы. Пры наступе партызанскага атраду на горад рабочыя арганізацыі ў ім пад кіраўніцтвам рэвкому павінны былі ўзарваць памяшканьні вайсковых часьцей, склады і падняць паніку ў горадзе шляхам узрываньня гранат.

„Партызанскі атрад пры дапамозе рабочых павінен быў зьняць бяз шуму і стрэлаў халоднай зброяй вартавыя пасты і пасты, якія ахоўваліся гарматамі, на акраінах гораду, а потым увайсьці ў горад, адрэзаўшы выхад войскам ворага. Каб зрабіць больш страт ворагу, ля выхаду з гораду пастаўлены быў кулямёт. Такавы быў плян першага наступу“ [2]).

Наступаўшы на Старадуб партызанскі атрад у 10 вярстах ад яго каля вёскі Сяргееўкі наткнуўся на атрад немцаў. Завязалася бойка, немцы вымушаны былі адыйсьці, але хутка атрымалі дапамогу і адбілі партызан. Партызаны спазьніліся падыйсьці да гораду ўначы, і ў выніку задачы сваёй ня выканалі. Яны вымушаны былі адыйсьці і выбралі сваім раёнам с. Межанькі ў маёнтку памешчыка Ваньковіча. Адсюль гэты атрад рабіў налёты на рад населеных пунктаў, дзе стаялі немцы.

З вялікай сілай разгортваецца партызанскі рух на Беларусі глыбокай восеньню 1918 г., калі, у сувязі з надышоўшай рэволюцыяй

[1]) Гутарка ідзе пра гетманскую варту. В. Шч.
[2]) „Полесский Коммунар“, № 19, за 1926 г., воспоминание т. Таенкова.

у Германіі і праведзенай работай немцаў, армія хутка разлагалася і павінна была ачысьціць тэрыторыю Беларусі, калі разам з тым пачалося бязьлітаснае змаганьне бальшавіцкіх організацый і створаных імі рэвкомаў з пасьледкамі ўнутракай контррэволюцыі і, у прыватнасьці, з дробна-буржуазнымі партыямі.

Партызанскі рух, крыху сьціхшы пасьля жніВеньскіх няўдалых выступленьняў раду атрадаў, зноў падымаецца, набывае масавы і больш організаваны характар. Партызанскія атрады ў гэты час са зброяй у руках выступаюць супроць немцаў, не даючы ім вывозіць з межаў Беларусі ўсё тут нарабаванае; яны пад кіраўніцтвам бальшавіцкіх організацый захватваюць гарады і працярэбліваюць шлях да аднаўленьня савецкай улады; у паўднёвай часьці Беларусі яны вядуць змаганьне супраць гетманска-украінскіх, а потым і пятлюраўскіх войск, яны ўсяляк дапамагаюць аднаўленьню савецкай улады на тэрыторыі Беларусі.

Тав. Крыніцкі ў цытаванай ужо намі рабоце з гэтага поваду паведамляе наступнае:

„У процівагу організоўваным сілам контррэволюцыі канечна трэ' было таксама мець сілу рэальную, узброенную сілу, улічаючы, што ў складаных абставінах пераджыванага намі пераходнага моманту рашаючае значэньне можа мець нават дзень-два, мы парупіліся аб стварэньні рэальнай апоры ў відзе ўзброенага атраду, выклікаўшы таварышоў з нашых вясковых і гарадзкіх ячэек; атрад гэты знахадзіўся пад кіраўніцтвам тав. Славінскага і пад непасрэдным вайсковым камандаваньнем Шапілоўскага“...

І далей: „Вялікае ўражаньне на ўсіх, хто сабраўся, зрабіла зьяўленьне ў залі пасьля абраньня выканкому нашага ўзброенага атраду, стаўшага на варту на сцэне ззаду прызыдыуму і заняўшага ўсе выхады. Начальнік аднэй з дружын т. Згіроўскі сказаў прывітальную прамову, дзе заявіў, што прышоўшыя з ім узброеныя сяляне гатовы да апошняй кроплі крыві змагацца за ўладу саветаў“ [1]).

Юравіцкі, напрыклад, партызанскі атрад, на Мазыршчыне, даведаўшыся пра падзеньне ў лістападзе месяцы Скарападзкага, павёў у канцы лістапада рашучы наступ супраць гетманскай варты. Ён абязбройвае варту ў самых Юравічах, злучае свае сілы з Агароднікаўскім атрадам, аднаўляе ў мястэчку савецкую ўладу. Партызаны організуюць самаабарону Юравіч. Але тыя з варты, хто выратаваўся, ня дрэмлюць. Яны зьвяртаюцца да нямецкіх часьцей, якія знаходзіліся па-суседзтву. Апошнія зноў наступаюць на Юравічы і на пэўны час выбіваюць партызан. Партызаны зноў бяруцца за зброю.

Змаганьне з контррэволюцыяй яшчэ ня скончана, з маёнткаў памешчыкі стараюцца вывозіць маемасьць. Яе трэба адбіць і захаваць на месцы. Замест германцаў, значная часьць тэрыторыі Беларусі занята яшчэ пятлюраўскімі часьцямі. З імі таксама трэба весьці рашучае ўзброенае змаганьне. Партызанскія атрады раёну Юравіч організуюцца ў магутны кулак, ствараюць адзіны штаб, пасьля гэтага адбываецца цэлы рад сутычак з пятлюраўцамі, згрупаваўшымі свае сілы ў суседнім Нараўлянскім раёне.

Вялікую работу прышлося правесьці партызанскім атрадам разам з рабочымі організацыямі ў пэрыод адыходу немцаў на Гомельшчыне, у Рэчыцкім павеце і сумежных з ім мясцовасьцях.

---

[1]) „Пролетарская революция, № 8—9, 1927 г., стар. 270.

„У часе агоніі гетманшчыны,—апавядае тав. Осін,—калі пад павятовымі старостамі захісталася глеба, партызанскія атрады выяўляюць надзвычай ажыўленую чыннасьць. Яны разганяюць варту, ліквідуюць гайдамацкія карныя атрады. Не пасьпеў прыехаць у Ветку тав. Рахлін з даручэньнем рэвкому падняць там паўстаньне, як у ёй організаваўся валрэвком, пачаўшы ўжо дзейнічаць. У Дзятлавічах арудуе тав. Якаўлеў. Ён акружае маёнтак у вёсцы Фёдараўцы, дзе заселі гайдамакі, і забірае іх усіх разам са зброяй. У Насовічах ствараецца свой падпольны рэвком, які абязбройвае варту. Пераростаўцы, бязумоўна, не адстаюць ад другіх. Яны склікаюць конфэрэнцыю партызан і пастанаўляюць—справа была да 14 сьнежня—скінуць гайдамацкі прыгнёт. Пад Агародняй адбываецца сутычка, гайдамакі трапляюць у палон і засуджаюцца на расстрэл. У старых Юркавічах гетманскі валасны „галава" Аляксееў забіты ў парадку чырвонага тэрору. Таксама на вёсцы аднчасова разбройваюць нямецкіх салдат [1]). Партызанскія атрады аказваюць вялікую дапамогу наступаўшай Чырвонай арміі.

Так змагаліся партызанскія атрады супраць нямецкіх окупантаў і ўнутранай контррэволюцыі на Беларусі ў 1918 г. Роля гэтых атрадаў у разлажэньні нямецкай арміі, у ачышчэньні тэрыторыі Беларусі ад рэакцыйных буржуазна-памешчыцкіх элемэнтаў і дробна-буржуазных партый, у аднаўленьні тут савецкай улады,—бясспрэчна вялікая. Заслугі гэтых атрадаў у змаганьні за савецкую ўладу мы адмаўляць не павінны. Але, адзначаючы ўсе гэтыя заслугі, мы ня можам не гаварыць і пра дрэнныя бакі ў партызанскіх атрадах. Шмат сярод іх было і ня досыць стойкіх, асабліва тых з іх, у складзе якіх ня было моцнага рэволюцыйна-пролетарскага ядра, ня было бальшавіцкага кіраўніцтва. А такія атрады былі. У складзе самых атрадаў было ня мала элемэнтаў выпадковых, а то і проста провокацыйных. Некаторыя з атрадаў, асабліва тыя, што складаліся, галоўным чынам з серадняцтва, у сваім змаганьні абмяжоўваліся невялікай тэрыторыяй, баранілі, пераважна, сваю вёску, сваю воласьць, сваю гаспадарку. Кругавід іх далей гэтага часта ня ішоў. І пры ўхіленьні непасрэднай пагрозы іхным вузкім інтарэсам яны слабнулі, а то і проста распаўзаліся. Былі і такія атрады, што выкідалі ня досыць выразныя рэволюцыйныя лёзунгі, уваходзілі ў паразуменьне з варожымі нам сіламі. Напрыклад, Юравіцкі атрад, прагнаўшы немцаў і гайдамакаў, заключае згоду з пятлюраўцамі аб узаемным ненападзе. Было ня мала памылак і ў самым кіраўніцтве партызанскім рухам і з боку некаторых бальшавіцкіх організацый, няправільна расцэньваўся асобнымі організацыямі партызанскі паўстанцкі рух уцалку. Слабой была сувязь між асобнымі атрадамі, часта-ж яе і зусім ня было. Невыстарчальнай была інформацыя кіруючых рэволюцыйных організацый аб настроі мас, аб разьмеры партызанскага руху. Усё гэта— бясспрэчныя недахваты партызанскага руху. Усе гэтыя недахваты мы ня можам ня ўлічаць, калі хочам зрабіць якія-небудзь карысныя вывады для сябе, пачэрпнуць практыку змаганьня партызанскіх атрадаў. Але побач з усім гэтым мы ўцалку ня можам недаацэньваць партызанскага руху, яго значэньня ў змаганьні за пролетарскую рэволюцыю і савецкую ўладу.

[1]) „На шляхох барацьбы і будаўніцтва", Гомельскі кастрычнікаўскі зборнік, стар. 49-50.

С. Баркоўскі і В. Скардзіс

# Аб жалезнай прамысловасьці на Беларусі

*(Гістрычная даведка)*

Колёніяльнае палажэньне Беларусі, як „Заходняй акраіны“ ў складзе б. Рускай імпэрыі, русіфікатарская палітыка царызму, прыгнятаўшыя амаль два стагодзьдзі народы, засяляўшыя тэрыторыю гэтае краіны, падвойны цяжар эксплёатацыі — самаўладзтва, з аднаго боку, і мясцовых пануючых кляс, з другога, які цярпелі тут працоўныя масы,—усё гэта не магло адмоўна не адбіцца на разьвіцьці вытворчых сіл краіны, на экономічным, культурным становішчы і агульным дабрабыце працоўнага насельніцтва Беларусі.

Толькі Кастрычніцкая рэволюцыя, накіраваўшая экономічнае і культурнае жыцьцё краіны па соцыялістычнаму шляху, прынесла рабочай клясе Беларусі, працоўным масам сялянства і батрацтву сапраўднае вызваленьне з-пад ярма царскага ваенна-фэўдальнага і капіталістычнага імпэрыялізму, скінула ланцугі буржуазнай эксплёатацыі, стварыла патрэбныя прадпасылкі для вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Правільнае і рашучае ажыцьцяўленьне партыяй ленінскай нацыянальнай політыкі, уваходжаньне Савецкай Беларусі ў Савецкі саюз, цеснае гаспадарчае і культурнае супрацоўніцтва народаў, якія аб'ядналіся ў Саюз Саветаў, — абумовілі сабой выключныя магчымасьці магутнага разьвіцьця ўсіх вытворчых сіл нашай краіны. „Патрэбна, — гаварыў т. Сталін на XII зьезьдзе партыі,—каб, апрача школ і мовы, рускі пролетарыят ужыў усе захады, каб на акраінах, у адсталых у культурных адносінах рэспубліках,—а адсталі яны не па сваёй віне, а таму, што раней іх разглядалі як крыніцу сыравіны, — патрэбна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі створаны асяродкі прамысловасьці“.

Усе этапы нашай соцыялістычнай будоўлі, якая праводзіцца пад выпрабаваным кіраўніцтвам комуністычнай партыі, з поўнай яскравасьцю паказваюць нам, што ў выніку Кастрычніцкай рэволюцыі і гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва народаў Савецкага саюзу, нябачанымі тэмпамі разьвіваюцца вытворчыя сілы ўсіх састаўных частак гэтага саюзу, зьмяняецца экономічны і культурны твар былых адсталых акраін і колёній царскай імпэрыі. У тым ліку і Беларусь, доўга цярпеўшая ад бязьлітаснай колёніяльнай політыкі царызму, зруйнаваная імпэрыялістычнай вайной, нямецкай і белапольскай окупацыямі за параўнаўча невялікі тэрмін соцыялістычнага будаўніцтва дасягнула вялізарнейшых посьпехаў у галіне разьвіцьця гаспадаркі і пролетарскай культуры. Рост культурнага роўню працоўных мас, шырачэзнае школьнае будаўніцтва, рост вышэйшых навучальных і навукова-дасьледчых устаноў і спэцыяльных інстытуцый ідзе поплеч з магутным плянава-організацыйным разьвіцьцём самых featuring рознастайных

галін гаспадаркі, з распрацоўкай прыродных багацьцяў краіны. Усё больш і больш разьвейваецца міт аб беднасьці Беларусі на карысныя выкапні, сыравінныя рэсурсы, аб адсутнасьці тут прадпасылак і магчымасьці разьвіваць пэўныя галіны вытворчасьці, і, між іншым, такую галіну вытворчасьці, як, напрыклад, жалезная прамысловасьць.

Асноўная задача нашых навукова-дасьледчых інстытуцый, дасьледчых гурткоў і ячэек—дапамагаць у справе соцбудаўніцтва, вывучаць прыродныя багацьці і матар'яльныя рэсурсы краіны, удзяльнічаць у распрацоўцы пэрспэктыўных плянаў разьвіцьця паасобных галін гаспадаркі, шчыльна зьвязацца з адпаведнымі гаспадарчымі ўстановамі для вырашэньня тых ці іншых проблем будаўніцтва, уцягнуць у навукова-дасьледчую работу шырокія працоўныя масы.

Пролетарская навуковая думка на гэты шлях работы і становіцца. Пытаньне аб пэрспэктывах разьвіцьця жалезнай прамысловасьці на Беларусі таксама ставіцца ў парадак дня. Абапіраючыся на навуковыя досьледы, можна ўжо ўпэўнена сьцьвярджаць, што і ў гэтай галіне ў нас ёсьць самыя рэальныя магчымасьці. З гэтага пункту погляду бязумоўнай увагі заслугоўваюць праведзеныя летась і сёлета экспэдыцыі Геолёгічнага інстытуту Беларускай Акадэміі Навук і пошукі Геолёгічна-разьведчага аддзелу ВСНГ. Папярэднія, яшчэ поўнасьцю не скончаныя досьледы выявілі наяўнасьць вялізных пакладаў бурых жалезьнякоў на Палесьсі, пераважна ў басэйнах рэк Прыпяці, Сажа і інш. Значныя запасы жалезных руд знойдзены ў раёнах: Мазыра, Юравіч, Хойнік, Брагіна, Горвалю, Васілевіч. У памянёных раёнах, а таксама і ў радзе іншых месц знойдзены вялікія запасы і такіх выкапняў, як агнятрывалая гліна, гравій, крэйда, маргель, жалезная вохра і г. д. Усе гэтыя выкапні, паводле меркаваньняў спэцыялістаў, з экономічнага боку для эксплёатацыі даволі выгодныя.

Экспэдыцыйнымі досьледамі ў радзе паказаных вышэй мясцовасьцяў выяўлена вельмі добраякасная жалезная руда, якая мае ў сабе ад 30 да 50 проц. тленьніку жалеза, а ў некаторых мясцох гэты процант падымаецца да 52,46. Агульны-ж запас жалезных руд ацэньваецца, прыблізна, больш як у 10 міл. тон.

Як бачым, пытаньне аб разьвіцьці на Беларусі жалезаздабывальнай прамысловасьці зусім не зьяўляецца проблематычным пытаньнем. Наадварот, нашы гаспадарчыя і навукова-дасьледчыя ўстановы адносяцца да гэтага пытаньня з усёй патрэбнай сур'ёзнасьцю, і проблема аб разьвіцьці пэўных відаў жалезаапрацоўчай вытворчасьці, заснаванай на мясцовай сыравіне, ставіцца як чарговая задача гаспадарчага будаўніцтва. Тым больш, што і зьвязаная з разьвіцьцём гэтай вытворчасьці апалавая проблема — мы маем тут на ўвазе проблему коксаваньня торфу—пэрспэктыву жалезаапрацоучай промысловасьці робіць зусім магчымаю і рэальнаю. Зразумела, што справа разьвіцьця ў БССР жалезаздабывальнай вытворчасьці мае надзвычай вялікае значэньне ня толькі для нашай рэспублікі, яна, бязумоўна, зойме належнае месца і ва ўсім народна-гаспадарчым пляне Сявецкага саюзу.

Навукова-дасьледчая думка ўжо цяпер павінна безадкладна прыступіць да вывучэньня і абмеркаваньня практычнага боку гэтай проблемы.

Кожнаму ясна, што як гаспадарчым організацыям, так і навуковадасьледчым інстытуцыям, вырашаючы тую ці іншую гаспадарчую проблему ці ажыцьцяўляючы конкрэтнае пытаньне проблемы, абавязкова трэба ўлічыць і скарыстаць тыя літаратурныя, журнальныя і архіўныя

матар‘ялы, якія пакінула нам капіталістычная спадчына, буржуазная навука.

Вядома, напрыклад, што нашы архівы цяпер, па заданьням гаспадарчых і навуковых установ, займаюцца адшуканьнем розных архіўных матар‘ялаў і крыніц (вынікі экспэдыцый, розныя дасьледваньні, нататкі аддзельных асоб і г. д.), якія зьмяшчаюць весткі па вывучэньню і выяўленьню прыродных багацьцяў і экономічных рэсурсаў тых ці іншых месц былой імпэрыі. Азнаямленьне з гэтымі, магчыма вельмі важнымі і каштоўнымі матар‘яламі, часамі даўно ўжо забытымі, дапамагло-б больш грунтоўна скарыстаць спадчыну мінулага, хутчэй пасунуцца ўперад ў справе вывучэньня і дасьледваньня, а потым і плянаваньня разьвіцьця вытворчых сіл Савецкага саюзу.

Нам тут хацелася-б даць кароткую гістарычную даведку, у якасьці простай інформацыі, аб існаваўшай у мінулым на тэрыторыі Беларусі жалезнай прамысловасьці. Гэта інформацыя, здаецца нам, магла-б быць карыснай і для тых гаспадарчых устаноў, якія ў сучасны момант займаюцца пытаньнямі разьвіцьця гэтага віду вытворчасьці на Беларусі.

Наша задача вузкая: на падставе гістарычных матар‘ялаў і архіўных крыніц даць некаторыя падагульняючыя даныя аб існаваўшых у мінулым на Беларусі жалезаапрацоўчых прадпрыемствах, працаваўшых не на прывознай, а на мясцовай сыравіне, падаць некалькі фактаў аб выніках экспэдыцыйных досьледаў мінулага, якія ставілі сваёй мэтай выявіць карысныя выкапні на Беларусі.

Здабываньне жалеза на Беларусі практыкавалася яшчэ ў часы далёкага фэўдальнага мінулага.

У шмат якіх мясцох, пераважна ў басэйнах рэк Прыпяці, Сажа, вышнявіне Нёману, яшчэ у XVI-XVII сталецьцях мы сустракаем прымітыўныя жалезаапрацоўчыя і чыгунаплавільныя заводы, так званыя „рудні“. Гэтыя рудні, наколькі можна меркаваць па даных, якія ёсьць у старажытных польскіх пісьменьнікаў (трактат Ржончыскага, 1721 г., матар‘ялы Осінскага, 1782 г. і інш.) і ў другіх гістарычных і архіўных крыніцах, здабывалі сотні тысяч пудоў жалеза ў год. З часам колькасьць рудняў зьмяншалася і к палове XIX ст. іх амаль зусім не засталося. Аднак, у 1824 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася яшчэ да 130 рудняў. Аб значнай колькасьці існаваўшых, напрыклад, на Палесьсі рудняў сьведчыць географічная номэнклятура, якая захавалася там да гэтага часу—пераважна назвы сельскіх паселішч: „Рудня Голіцкая“, „Рудня Жмурнянская“, „Рудня Лельчыцкая“, „Рудня Локненская“, „Рудня Сімановіцкая“, „Рудня Скалодзіна“, „Рудня Сярэдняя“, „Рудня Ўборская“, „Рудня Хоўля“ і інш. У былой Мазырскай акрузе налічаецца да 22 вёсак з назваю „Рудня“, адна вёска—Падрудня, адна вёска—Руданька, адна вёска—Руда, некалькі вёсак з назвай ад кораню „руд“— Рудуска, Рудоўка, Рудакопы і г. д. Аднадворныя хутары і невялічкія пасёлкі нярэдка таксама называюцца „Руднямі“. У гэтай б. акрузе назвы больш як 2 проц. населеных пунктаў паходзяць ад кораню „руд“. Такая значная распаўсюджанасьць тэрміну „рудня“ тлумачыцца, бязумоўна, словам „руда“; бясспрэчна, што гэтая лінгвістычная адзнака пераканаўча сьведчыць аб наяўнасьці ў тых мясцох жалезнай руды, а таксама паказвае на тое, што ў мінулым там шырака практыкавалася мясцовае здабываньне жалезнай руды і выраб жалеза [1]).

[1]) П. А. Тутковский. Геологические исследования на территории быв. Минской губернии, ч. II. Витебск, 1925 г., стар. 337. А. Крукоўскі. Жалезная руда на Мазыршчыне.—„Наш Край,“ 1926 г., № 8-9, стар. 43-44.

Што-ж станавіла сабой „рудня“, як пэўны прымітыўны від жалезаздабывальнай вытворчасьці? Рудня, звычайна, зьмяшчалася ў драўлянай адрыне, дзе меліся сырадутны і кузьнечны горавы, крычны молат і інш. патрэбныя прыналежнасьці. Молат і мяхі часьцей за ўсё прыводзілася ў рух вадою. Сырадутны горан рабіўся з дзікага каменьня і набіваўся глінаю: шырыню паміж бакавымі сьценкамі ён меў 1 аршын, фурмы—$^{3}/_{4}$ аршына, глыбыню—$^{3}/_{4}$ аршына. Самая опэрацыя вырабу жалеза была вельмі простая: падрыхтаваны горан спачатку высушвалі, потым напаўнялі вугалем, і калі апошні як сьлед распальваўся, засыпалі раздробленую руду, а зьверху зноў клалі пласт вугалю. У меру таго, як маса ўлягалася, дадавалі новыя пласты руды і вугалю, палілі, покуль гэтая маса не абарачалася ў крыцу, якую вымалі з горана пры дапамозе лому. Уся гэтая опэрацыя цягнулася каля 8-12 гадз. Жужаль выпушчалі з дзірак, якія меліся ў ніжняй часьці горана. Вылічана, што 40 пудоў руды, 2 карабы вугалю і некаторая колькасьць вапны давалі ад 4 да 7 пудоў крыцы. Вынутую крыцу ачышчалі ад жужалю, зноў апальвалі, драбнілі на кавалкі, пасьля чаго ўжо пускалі ў кузьнечны горан. Так падрыхтаваная, урэшце, жалезная маса была ўжо прыдатнай для вырабу жалезных гаспадарчых рэчаў і прылад.

Аднак, тут трэба зазначыць і на тую акалічнасьць, што рудні, ня гледзячы на ўсю прымітыўнасьць свайго абсталяваньня, маглі засноўвацца толькі ў буйных памешчыцкіх маёнтках.

Як відаць з паданага вышэй апісаньня рудні і спосабаў вырабу ў ёй жалезнай масы, організацыя вырабу жалеза патрабавала: а) больш-менш добраякаснай руды, загатоўка якой вымагала наяўнасьці пэўнай колькасьці рабочай сілы, б) даволі значнай затраты дрэўнага вугалю, што было зьвязана з патрэбаю мець лясныя запасы і таксама рабочую сілу і в) больш-менш кваліфікаванага кіраўніка-майстра, аднаго, ці некалькіх. Усе пералічаныя фактары ўпіраліся ў адзін важны для фэўдальна-памешчыцкай гаспадаркі фактар—патрэбу адцягнуць рабочую сілу прыгоннага сялянства ад непасрэднага яе скарыстаньня ў галіне земляробства, якое зьяўлялася пераважным і асноўным відам памешчыцкай вотчыны. На такое адцягваньне рабочай сілы дробнапамесныя абшарнікі пайсьці не маглі.

Паводле архіўных докумэнтаў канца XVIII стагодзьдзя, у якіх мы знаходзім рэестр рудняў б. Менскай губ. (Мазырскі і Рэчыцкі паветы), рудні—Загальская, Смолічаўка, Дзямідаўка і Новая Рудня належалі генэралу Сіверсу; Удалёўка і Пясочная—памешчку Ракіцкаму; Тульгавіцкая—Стоцкаму; Верасот—Гразоўскаму; Рэтава—генэралу Сакену; Глінка—памешчыку Смагаржэўскаму; Рэмезы—Пісарэвічу; Булева—памешчыку Павіту (справа № 887, 1798 г. канцылярыі Менскага генэрал-прокурора).

З апісаньня Гомельскага староства за 1773 г. (докумэнт пад назваю „Описание Староства Гомельского, учиненное в 1773 г., с показанием принадлежащих ему деревень и всего в них имущества“, знаходзіцца цяпер у Гомельскім дзяржаўным музэі) відаць, што на тэрыторыі староства, якое належала графу Румянцаву, існавалі наступныя жалезныя заводы: на р. Ужэю—Сямёнаўскі, на р. Цаць—Бараноўскі, на р. Нямыльнай—Дзяклаўскі і Семянашаніцкі, Прыборскі і другія. Бясспрэчна, што гэтыя заводы зьяўляліся нічым іншым, як звычайнымі руднямі. На жаль, адзначаны докумэнт ня мае ў сябе вестак ні аб якасьці, ні аб колькасьці таго жалеза, што выраблялася на гэтых заводах-руднях, не гаворыць пра самы спосаб вырабу і абсталяваньня.

У старосьцінскім апісаньні пра Сямёнаўскі завод гаворыцца, што ён уладаў усімі „для делания железа принадлежащими припасами и строениями“. Адносна-ж заводу Баранаўка сказана, што там „за недостатком угля никакой работы нет... строения сего завода, в котором делано железо, совсем опущено и развалилось тому 16 лет, как на оном за недостатком уголья никакой работы нет... крестьяне завода Барановка, живущие перед сим деланием железа, более никаких работ не справляют, и в замок Гомель платы от них не поступает ныне от арендаря отведена в аренду принадлежащая земля, которую про себя обрабатывают“ (л. 43). Семянашаніцкі завод у той час яшчэ працаваў і „крестьяне при заводе упражняются в копании руды, жжении уголья и в прочих работах“ (л. 75—78).

З сказанага відаць, што рудні-заводы абслугоўваліся амаль выключна сіламі прыгонных сялян, што жалезаздабываўчая прамысловасьць зьяўлялася асноўнай галіной заняткаў некаторых вёсак. Адначасова з гэтым апісаньне староства фіксуе цікавы факт: рудні ў канцы XVIII стагодзьдзя пачынаюць занепадаць, прычым гэты заняпад, г. зн. спыненьне вырабу жалеза з мясцовых руд, тлумачыцца недахватам вугалю. Апошняя акалічнасьць сьведчыць аб тым, што масавы выраб жалеза ў руднях меў сваім вынікам самае драпежніцкае зьнішчэньне лясоў для выпальваньня вугалю.

Цяжка меркаваць аб колькасьці існаваўшых на тэрыторыі Беларусі рудняў, мы ня ведаем таксама і лічбы занятага вырабам жалеза насельніцтва. Магчыма, аднак, думаць, што гэтая вытворчасьць, у тых менавіта мясцовасьцях, прыродныя рэсурсы якіх спрыялі яе разьвіцьцю, распаўсюджана ў XVIII стагодзьдзі была яшчэ досыць шырока. Нам вядома, напрыклад, што ў Кіеўскай губ. у канцы XVIII стагодзьдзя налічвалася каля 3.000 руднікаў, г. зн. асоб, асноўным заняткам якіх зьяўляўся выраб жалеза ў руднях, належаўшых, відаць, памешчыкам. Руднікі ці рудакопы былі ў большасьці вольнымі людзьмі ці, прынамсі, вольнымі сябе яны лічылі, бо ня служылі прыгону, а былі заняты выключна ў руднях; яны змагаліся з памешчыкамі за сваю вольнасьць, калі памешчыкі, з прычыны заняпаду рудакопскай справы і дзейнасьці рудняў, пераводзілі руднікаў на земляробства, прымушалі іх адбываць усе фальваркоўыя работы і павіннасьці, паставілі іх у стан прыгонных з усімі выцякаўшымі з гэтага стану юрыдычнымі і фактычнымі вынікамі і абавязкамі. Падобныя факты, зразумела, маглі мець месца і на Беларусі.

Аб значным распаўсюджаньні на тэрыторыі Беларусі, асабліва на Палесьсі, у мінулым вырабу жалеза ў руднях сьведчаць кучы жужалю (пабочны продукт пры выпрацоўцы жалеза), якіх можна бачыць яшчэ і цяпер, а таксама насыпаныя з гэтага жужалю балотныя гаці. На руднях перааапрацоўваўся мясцовы буры жалязьняк і балотная руда (лімоніт).

Рудні заняпалі, і здабыча жалеза ў Беларусі ў пачатку другой паловы XIX стагодзя амаль зусім спынілася з цэлага раду прычын (пра іх мы будзем гаварыць ніжэй), але зусім не таму, што нібыта былі вычарпаны запасы руд, як гэта пэўны час думалі. „Самые залежи болотнай руды,—піша проф. Туткоўскі аб Палесьсі,—сохранились, конечно, в очень больших размерах и постоянно пополняются осаждением лимонита из циркулирующих здесь грунтовых вод, в которых постоянно распространяются продукты выветривания валунных отложений, в которых содержится не мало железосодержащих минералов; на такой процесс постоянного образования лимонита в настоящее

время указывает и желтая, иногда даже бурая окраска послеледниковых песков, и весьма частое образование в послеледниковых песках прослоек „рудняка“ (ортштейн), а также довольно частые находки (при случайных раскопках, при проведении каналов, железнодорожных выемок и резервов и т. п.) целых глыб бурого железняка (несколько пудов весом), иногда очень богатого песком, иногда же довольно чистого“ [1]).

Вынікі нядаўніх геолёгічных экспэдыцый, некаторыя даныя аб якіх мы падавалі вышэй, поўнасьцю пацьвярджаюць наяўнасьць у Палесьсі вялікіх запасаў жалезных руд, розных адмен бурага жалезьняка (жалезная охра чырвонага колеру і умбра-бурага колеру) і інш. карысных выкапняў.

Наяўнасьць значных рудных запасаў на тэрыторыі Беларусі зьявілася асновай узьнікненьня і разьвіцьця ня толькі такой прымітыўнай, па свайму характару драпежніцкай, жалезаздабывальнай прамысловасьцю, якімі зьяўляліся рудні, яна паслужыла штуршком для перарастаньня рудняў у больш-менш буйныя прадпрыемствы, тыпу прыгоннай мануфактуры. Апошніх заснавалася, праўда, ня так многа, але ўзьніклі яны ўжо на больш высокай тэхнічнай аснове, чым рудні. Літаратурныя і архіўныя крыніцы падаюць весткі аб дзейнасьці некалькіх досыць буйных жалезаапрацоўчых мануфактур, існаваўшых, галоўным чынам, у першай палове XIX стагодзьдзя. Для нас у даным выпадку вельмі важным і цікавым зьяўляецца якраз тое, што гэтыя, буйныя для свайго часу, мануфактуры, даваўшыя досыць складаныя жалезныя і чыгунныя вырабы, працавалі ў асноўным на мясцовай жалезнай сыравіне, скарыстоўваючы, зразумела, і набываны рознымі шляхамі ўсялякі жалезны лом, які мог і ня мець мясцовага паходжаньня.

Пэўны вытворчы рост і разьвіцьцё жалезаапрацоўчых мануфактур Беларусі (40—50 гг.) супадае з разьведчай работай па выяўленьню тут наяўнасьці жалезнай сыравіны, некаторай зацікаўленасьці з боку ўрадовых і прыватных колаў, проблемай разьвіцьця тут жалезнай прамысловасьці. Праўда, гэта проблема так і засталася толькі проблемай, але ў той час пэўны зрух у гэтым кірунку ўсё-ж такі наглядаўся.

Так, улетку 1853 г. урадам была накіравана разьведчая партыя, у складзе палкоўнікаў Камарова і Іванова, з пэўным абслугоўчым гэту экспэдыцыю пэрсоналам і патрэбнымі тэхнічнымі прыналежнасьцямі і прыладамі, у мэтах дасканалага дасьледваньня і выяўленьня рудных месцазнаходжаньняў, агнятрывалых матар'ялаў, флюсаў і інш. мінэральных выкапняў ў Віленшчыне, Горадзеншчыне, Ковеншчыне, Магілеўшчыне, Меншчыне і паўднёвай частцы Курляндыі. Гэтай экспэдыцыяй у паказаных мясцовасьцях былі знойдзены балотныя руды, аналіз якіх выявіў, што ў складзе руд мелася 40—45 проц, а ў іншых гатунках і звыш 50 проц. тленьніка жалеза. Акрамя таго, у некаторых раёнах, як, напрыклад, у Слуцкім павеце на Меншчыне, бліз мястэчка Усьвяты на Віцебшчыне, у абшарах мяст. Лоева на Магілеўшчыне былі выяўлены значныя запасы вельмі каштоўнай агнятрывалай гліны, а ў радзе іншых месц была выяўлена наяўнасьць вапны, флюсаў і інш. выкапняў [2]).

---

[1]) П. А. Тутковский. Геологич. исслед... стар. 338.

[2]) „Горны журнал“, 1864 г., № 3, арт. К. Скалькоўскага „О горном промысле в западной России“.

Такая на шырокую нагу організаваная геолёга-разьведчая экспэдыцыя, ахапіўшая такую шырокую плошчу, даўшая пэўныя навуковыя вынікі, зьяўляецца сама па сабе фактам, які заслугоўвае бязумоўнай увагі. А калі-б падыйсьці да гэтага факту з пункту погляду проблем сучаснага вывучэньня прыродных рэсурсаў Беларусі, і ў прыватнасьці з пункту погляду разьвіцьця тут прамысловасьці па здабычы і апрацоўцы жалеза, як гэта проблема ставіцца і павінна вырашацца сёньня, дык зусім слушна, што канечная патрэба дэталёвага азнаямленьня і вывучэньня самых падрабязных рэзультатаў гэтай экспэдыцыі з боку нашых навукова-дасьледчых і гаспадарчых організацый зьяўляецца зусім бясспрэчным і відавочным. Працы гэтай экспэдыцыі можна было-б адшукаць, пэўна, у архівах б. Горнага дэпартамэнту альбо ў архівах б. Міністэрства вайсковых і морскіх спраў, паколькі экспэдыцыя праводзілася пад кіраўніцтвам, а магчыма і па ініцыятыве вайсковага ведамства. Экскурсы ў гісторыю ніколі не перашкодзяць справе, а хутчэй за ўсё прынясуць карысьць. На гэту аксыёму часамі забываюцца.

Гістарычная літаратура адзначае і іншыя спробы ў галіне высьвятленьня наяўнасьці жалезных запасаў у Беларусі. Так, у 1857 г. з фальварку Якімовічы, які належыў памешчыку П. М. Талстому (б. Рэчыцкі павет Менскай губ.), у Парыж для аналізу была дастаўлена жалезная руда. Паводле водзываў францускіх горных інжынэраў, гэта руда была залічана ў разрад вельмі добраякасных жалезных руд, экономічна выгодных для эксплёатацыі[1]).

У працы Л. В. Тэнгаборскага „О производительных силах России“ (ч. II, СПБ. 1858 г.) мы, між іншым, знаходзім паведамленьне аб тым, што ў 1840 г. у Віленскай і Магілеўскай губэрнях былі заснаваны жалезныя рудні, і што толькі адсутнасьць падрабязных даных аб характары і вытворчай дзейнасьці гэтых рудняў не дало яму магчымасьці, як экономісту, перавесьці жалезныя запасы гэтых губэрань на мову лічбаў.

Пры жаданьні нашы геолёга-разьведчыя інстытуцыі і гаспадарчыя ўстановы, занятыя проблемай выяўленьня прыродных багацьцяў і экономічных рэсурсаў краіны, маглі-б знайсьці ў гістарычнай літаратуры і архіўных крыніцах шмат вельмі карысных для сябе ўказаньняў і даведак, ігнараваць якімі было-б недапушчальнай зьявай. І мы яшчэ раз паўтараем, што, на жаль, гэта далёка незаўсёды робіцца.

Што-ж станавілі сабой на Беларусі параўнаўча буйныя жалезныя мануфактуры, якія, відавочна, вырасьлі з прымітыўных рудняў?

Па тых даных (да рэчы сказаць, вельмі раскіданых, недаскамалых, часьцей за ўсё надзвычай супярэчлівых, чым наогул характарызуецца ўся статыстыка як дзяржаўная, так і прыватная, першай паловы XIX стагодзьдзя і ранейшая), якія мы маем, існаваньне і дзейнасьць паасобных мануфактур выяўляецца ў наступным выглядзе.

З такіх жалезных заводаў (мануфактур), якія даюць нам пэўны малюнак аб ступені разьвіцьця на Беларусі жалезаздабывальнай і жалезаапрацоўчай прамысловасьці, адзначым наступныя: 1) завод графа Хрэбтовіча ў маёнтку Вішнёва, (Віленшчына), 2) у нязначнай адлег-

[1]) „Русский дневник“. 1859 г., № 130, арт. Хадароўскага—„Металлическое и химическое производство в западной полосе России“.

ласьці ад апошняга завод князя Вітгенштэйна, у Налібоках, 3) самы буйны з існаваўшых на Беларусі жалезных заводаў знаходзіўся ў маёнтку Старынка (б. Чэрыкаўскі павет на Магілеўшчыне) і належаў памешчыку Бенкендорфу, 4) дзяржаўны завод у Горках, 5) Добруская мануфактура князя Паскевіча каля Гомлю, 6) завод памешчыка Гурко, у фальварку Высокае, б. Аршанскага павету, 7) завод князя Мік. Мік. Раманава ва ўрочышчы Чарняўка, каля Барысава.

Падамо тут кароткі агляд паасобных жалезных заводаў.

Найбольш падрабязныя весткі ёсьць у нас аб жалезным заводзе Хрэбтовіча. Гэты завод быў заснаваны яшчэ ў 1794 г. З апісаньня яго за 1828 г. мы бачым, што гэты завод разьмяшчаўся ў 5 паасобных будынках. У мураванцы, дасягаўшай 92 саж. даўжыні, знаходзілася печ для тапленьня чыгуну і былі 2 драўляныя сараі для апальваньня дрэўнага вугалю, магазын для складаньня гатовай продукцыі, 5 будынкаў, якія зваліся „фрышэрнымі“, прычым 3 з іх зроблены з дрэва, а другіх 2—прускае пабудовы, „плюшчыльны дом“ быў таксама прускай работы. У ліцейным цэху знаходзілася: мяхоў чыгунных цыліндрычных з адпаведнымі знарадамі—4, (куплены ў Пецярбурзе), якія прыводзіліся ў рух вадою. У пяці „фрышэрных“ будынках мелася: плюшчыльная машына з поўнымі прыналежнасьцямі, купленая таксама ў Пецярбурзе, з вадзяным рухавіком; пяць чыгунных кавадлаў, два вялікія молаты, працаваўшыя сілаю вады. Апрача паказанага, як відаць, даволі складанага тэхнічнага абсталяваньня, выкліканага пэўнай наяўнасьцю організацыі і падзелу працы на мануфактуры, завод у належнай колькасьці меў патрэбныя дробныя інструманты і прылады[1]). У 1863 г. на заводзе знаходзім доменную печ, але яна ўжо адзначана няспраўнай і, можна думаць, ня дзеяла, вагранак—3, фрышарак—2, кузьнечных горанаў—8, вадзяных колаў—6. У гэты час на заводзе працавала і значна меншая колькасьць рабочых, у параўнаньні з 1828 г.[2]).

Характэрна, што завод з самага пачатку яго існаваньня карыстаўся і пераапрацоўваў выключна мясцовую жалезную руду, якая здабывалася ў маёнтку ўласьніка заводу Хрэбтовіча, і зьяўляўся ў пэўнай меры жалезаапрацоўчым комбінатам. Аднак, пазьней завод пераходзіць пераважна, а можа нават і выключна, на пераапрацоўку купленага лому. Гэта было зьвязана з тымі новымі зрухамі ў вытворчым і грамадзкім жыцьці краіны, якія былі выкліканы рэформамі 60-х гг. Але ў крыніцы 1828 г. мы яшчэ знаходзім выразнае зазначэньне на тое, што „руда добывается в собственном имении, а частию привозится из казенного имения Бокшты, в Ошмянском уезде состоящего“. У адносінах да іншых матар'ялаў, патрэбных для вырабу жалеза, як, напрыклад, вапны, вугалю, гліны, смалы і дзёгцю, дык яны таксама здабываліся ва ўласных маёнтках памешчыка і толькі карандашны парашок, сталь для вырабу розных інструмантаў набываліся ў Пецярбурзе, а дрэўны і канапляны алей дастаўляліся з Менскай і Віленскай губэрань.

---

[1]) „Журнал мануфактур и торговли“, 1831 г., № 10, стар. 86, арт. „Состояние фабрик и заводов Виленской губ. в 1828 г.“

[2]) Сборник статистических сведений по горной части на 1865 г. Составлен М. М. Анисимовым и К. А. Скальковским. СПБ. 1865 г., стар. 230.

Аб вырабе на заводзе Хрэбтовіча жалеза і чыгуну сьведчаць наступныя лічбы:

| Гады | Выраблена (у пудох) | | | На суму (рублі) |
|---|---|---|---|---|
| | Жалеза | Чыгуну | Разам | |
| 1814. . . . . . | 1982 | 3172 | 5154 | — |
| 1828. . . . . . | 1121 | 2520 | 3641 | — |
| 1852. . . . . . | — | — | — | 10.750 |
| 1858. . . . . . | — | — | 8315 | 12.538 |
| 1863. . . . . . | 3720 | 8000 | 11720 | — |

Са здабытага чыгуну на тым-жа самым заводзе адліваліся: чыгунныя колы для сельска-гаспадарчых машын, надгробныя пліты, крыжы рознай велічыні і формы і інш рэчы [1]). Аднак, з канца 50-х і пачатку 60-х гг., паводле даных 1858 г. і 1863 г., завод перайшоў амаль выключна на пераапрацоўку зьбіранага старога лому і больш ніякіх зазначэньняў на далейшы выраб жалеза з мясцовых руд гэтым заводам у гістарычнай літаратуры і архіўных крыніцах нам знайсьці не ўдалося.

Завод у Налібоках, б. Ашмянскага павету, Віленшчыны, па суседзтву з Меншчынай (басэйн вышнявіны р. Нёмну) зьяўляўся маемасьцю князя Вітгенштэйна. Апошні быў адзін з буйнейшых памешчыкаў на Беларусі,—у аднэй толькі Менскай губ. перад рэформай 1861 г. яму належала 10,8 проц. агульнай у губ. колькасьці прыгонных сялян.

У Налібоках фактычна меліся два заводы—чыгуна-плавільны і жалезаапрацоўчы. З абсталяваньня чыгунаплавільнага заводу можна адзначыць: доменных пячэй—3, вадзяных колавых рухавікоў—1, адна паравая машына ў 25 сіл. На жалезаапрацоўчым заводзе мелася: 8 пудлінгавых пячэй, 4 літоўных, 5 паравых машын у 130 сіл.

У 1863 годзе для апрацоўкі на гэтых заводах было нарыхтавана 60.000 пудоў жалезнай руды. У той-жа самы год на чыгуна-плавільным заводзе з усіх трох доменных пячэй было выплаўлена да 10.000 п. чыгуну, а на жалезаапрацоўчым заводзе атрымана было 115 тыс. пуд. пудлінгавага жалеза, з якога прыгатавана: паласатага жалеза 20.000 п., чатырохграннага 10.000 пудоў, шыннага—40.000 пудоў і ліставога 6.000 пудоў, а ўсяго ў адзін толькі 1863 год выраблена розных гатункаў жалеза 76.000 пуд. [2]). Адносна Налібокскага заводу ёсьць паведамленьне аб тым, што ў трох домнах „выплавляли прежде до 500.000 п. чугуна в год и выделывали всякого рода железо“ [3]).

Хаця ў Магілеўшчыне ў даўнія часы было многа рудняў, аднак у першай палове XIX стагодзьдзя яны ўжо не сустракаюцца, і знаходзім мы там у гэты час толькі некалькі, часьцей за ўсё невялічкіх, жалезных заводаў, належачых таксама памешчыкам. Але сярод магілеўскіх заводаў меўся адзін вельмі буйны жалезны завод, самы буйны з існаваўшых у тыя часы заводаў на Беларусі,—у Старынках на Чэры-

[1]) „Обзор различных, отраслей мануфактурной промышленности России“. СПБ. 1863 г., т. II, стар. 69.

[2]) Сборник. стат. свед. сост. Анисимовым и Скальковским, стар. 230.

[3]) М. Джениев. О железной промышленности в России. Вестник промышленности 1859 г., № 7, стар. 19.

каўшчыне, належаў ён Бэнкендорфу. На жаль, вестак аб часе яго заснаваньня ў нас няма. Даныя аб гэтым заводзе датычаць, галоўным чынам, 1850—60 гг. Памянёны завод у гэтыя часы, а можна думаць што і раней, займаў выдатнае месца ў жалезнай прамысловасьці тагочаснай прыгоннай Расіі. Цэлы рад фактаў сьведчыць аб даволі шырокім размаху яго дзейнасьці, аб імкненьнях яго заваяваць пэўнае месца на імпэрскім рынку. Завод пастаўляў абсталяваньне для Кіеўскага Ваеннага арсэналу, вырабляў розныя цяжкія складаныя часткі для рускага чорнаморскага флёту і морскіх партоў, адліваў гарматы, машыны і г. д. У суткі завод у сярэднім выпляўляў да 140 пуд. чыгуну. Што да скарыстоўванай заводам сыравіны, дык, як зазначае адна крыніца за 1863 год, „железные руды имеются свои“ [1]). Апрача перапрацоўванай заводам мясцовай руды, ім-жа перапрацоўваліся паўфабрыкатныя матар'ялы—жалеза, чыгун, сталь і інш., якія купляліся ў казны ў Маскве, Калузе і др. мясцох.

У адпаведнасьці з характарам вытворчасьці завод меў значнае і дарагое па тых часох абсталяваньне, паравыя і вадзяныя рухавікі. І ўжо ў 1861 годзе было „сообщение по заводу посредством устроенных железных дорог“ [2]). З большш важных і характэрных частак завадзкога абсталяваньня, якое на ім мелася ў 1863 годзе, можна адзначыць наступнае: доменная печ—1, пудлінгавая печ—1 (у 1859 годзе іх было 3), медзітапельня—1, вагранак—2, вадзяных колаў—5, паравых машын—2 (у 1859 годзе было 3 паравыя машыны), адзін пракатны стан у шэсьць валкаў, два вэнтылятары, да 40 розных мэханічных станкоў (сьвідравальныя, стругальныя, шрубарэзныя, розныя прэсы, круглыя пілы і г. д.), адзін паравы молат, два пад'ёмных кранты, 50 кузьнечных горнаў і г. д. [3]). Усё завадзкое абсталяваньне, як, напр., машыны, горaны і інш., зьмяшчалася ў 4-х мураваных карпусох, а розныя майстэрні ў 10 драўляных будынках; з іншых будынкаў меўся трохпавярховы мураваны магазын і шэсьць мураваных сушыльняў.

Рынкам збыту для Старынкаўскага заводу былі, галоўным чынам, заказы ад казны і ў меншай меры прыватныя заказы. Так казённых заказаў—розныя медзяныя, чыгунныя, жалезныя рэчы і машыннае абсталяваньне для вайсковых патрэб у 1859—61 гг. заводам штогод выконвалася на 160.000 руб. Агульная-ж продукцыя заводу ў пэрыод 1859—1863 гг. вызначаецца лічбамі ніжэйпаданай табліцы:

| Гады | Выраблена (у тыс. пудоў) | | | На суму (у тыс. руб.) |
|---|---|---|---|---|
| | Жалеза | Чыгун | Разам | |
| 1859 | 23 | 25 | 48 | 240 |
| 1861 | 27 | ? | — | 210 |
| 1863 | 2,3 | 2,5 | 4,8 | 11,15 |

У гэту табліцу не ўваходзіць наступная продукцыя заводу, выробленая ў 1863 годзе: медзяных лістоў 250 пудоў і розных вырабаў

[1]) Сборник стат. свед. Анисимова и Скальковского, стар. 232, таксама „Могилевские губернские ведомости“, 1865 год, № 10.

[2]) Магілеўскае Аддзяленьне Бел. Цэнтрархіву. Канцелярия Могилевского губернатора, 1862 г., справа 1815.

[3]) Сборник стат. свед. Анисимова и Скальковского, стар. 235. Канцелярия Могил. губерн., 1859 г., спр. № 1017.

з жалезнай медзі—75 пудоў. Казна, як відаць, забірала амаль 70 проц. продукцыі Старынкаўскага заводу.

Сьведчачы аб значным размаху жалежнай вытворчасьці заводу, якая наглядалася ў канцы 50-х гадоў, паданая табліца разам з тым констатуе амаль раптоўны яго заняпад к 1863 году, калі вартасьць яго продукцыі па выраблenаму чыгуну і жалезу ў параўнаньні з 1859 г. зьнізілася да 4,6 проц. У тагочаснай экономічнай літаратуры мы не знаходзім належнага тлумачэньня прычыны гэтае зьявы, яна толькі констатуецца. У адным з артыкулаў, між іншым, гаворыцца, што „приведенные сведения (лічбы вырабу—Б. і С.) не дают верного понятия об этом заводе, потому что в течение нескольких лет производительность его все падает от недостатка средств и материалов“. Заняпад заводу адбіўся і на колькасьці рабочых, занятых у вытворчасьці. Так, у 1859 годзе на ім было: замежных майстроў—1, падмайстроў—98, вучняў—30, чорнарабочых вольнанаёмных і прыгонных да 600 чалавек, разам 729 чалавек, а ў 1863 годзе, калі продукцыя зусім скарацілася, але завод яшчэ, пэўна, некаторы час і працаваў, толькі вельмі нерэгулярна, сталых рабочых відаць ужо ня было, бо, як паведамляе тая-ж крыніца, „рабочие нанимаются по мере надобности“ [1]). Зразумела, што заняпад Старынкаўскага заводу, як і агульны заняпад беларускіх жалезных мануфактур, працаваўшых на мясцовай сыравіне і дасягнуўшых даволі высокай ступені разьвіцьця, тлумачыцца агульнымі прычынамі, на чым мы яшчэ спынімся.

Другія жалезныя заводы Магілеўшчыны характарызаваліся і зусім нязначнымі разьмерамі і вельмі нізкім тэхнічным абсталяваньнем.

Завод у фальварку Добруш, на р. Іпуць, у 30 км ад Гомлю, зьмяшчаўся ў адным драўляным будынку. Была там толькі адна вагранка. Зазначэньняў на скарыстоўваную заводам уласную руду ў літаратурных крыніцах не знаходзім; завод перарабляў, галоўным чынам, купляны ў Кіеўскім арсэнале і ў прыватных асоб чыгунны лом і вырабляў з яго каробкі для мастоў на шосэйных дарогах, помнікі, лесьвіцы і краты для дамоў, юшкі з дзьверкамі для печак, колы, адліваў шасьцерні і т. п. Продукцыя заводу спажывалася, галоўным чынам, на Магілеўшчыне і часткова вывозілася ў суседнюю Чарнігаўскую і Менскую губэрні [2]).

У Горках існаваў дзяржаўны чыгуна-ліцейны завод, на ім мелася толькі адна вагранка і паравая машына ў 8 сіл. Гадавы яго выраб быў каля 720 пудоў чыгуну [3]). У б. Аршанскім павеце існаваў завод памешчыка Гурко, у фальварку Высокім, там выраблялася ў год каля тысячы пудоў жалеза, коштам да 2 тыс. руб. [4]).

На Магілеўшчыне быў яшчэ адзін невялікі завод, належаўшы мешчаніну Варапаеву. З аднае вагранкі завод адліваў у год толькі 200 пуд. чыгуну [5]).

Служыўшы на Магілеўшчыне чыноўнік Авярновіч у 1834 годзе пра Гомельскі маёнтак пісаў: „В нескольких местах имения находятся железные руды, для обозрения оных надобно послать минеролога, может быть выгоден завод... потому более, может быть выгоден

---

[1]) Сборник стат. свед. Анисимова и Скальковского, стар. 232.

[2]) Сборник стат. свед., стар. 233; „Обзор различных отраслей мануфактурной промышлен. в России“. СПБ. 1863 г., т. II, стар. 71; Магілеўскі гістархіў. Канцелярия Могил. губернатора, 1859 г. спр. № 1017, за 1862 год справа № 1315.

[3]) Сборник стат. свед., стар. 233.

[4]) Канцел. Могил. губерн. 1859 г., № 0 17, 1862 г., № 1315.

[5]) Сборник стат. свед., стар. 233.

завод, что тут множество и торфа... завод сей существовал при покойном еще фельдмаршале графе Рамянцеве-Задунайском“ [1]).

На абшарах б. Менскай губ., дзе даўней была такая значная колькасьць рудняў, асабліва на Палесьсі, у першай палове XIX ст. мы сустракаем адзін буйны завод у маёнтку Барысаўшчына, на р. Бярозе. На гэтым заводзе поруч з адліўкаю чыгуну выраблялася і жалеза. Асноўнай сыравінай зьяўлялася „руда болотного свойства, собираемая по лугам“ [2]). Значыць, завод працаваў на мясцовай сыравіне. Абсталяваны завод быў наступным чынам: мелася адна доменная печ, адна пудлінгавая, адна вагранка, два крычных гораны, чатыры паравыя машыны. Тыя статыстычныя весткі аб гэтым заводзе, што ёсьць, датычаць ужо парэформенага часу. Паводле свайго характару ён зьяўляўся відавочна ўжо капіталістычным прадпрыемствам і да таго прадпрыемствам даволі буйных разьмераў. На ім было занята ў 1864 годзе 159 рабочых, якія працавалі па вольнаму найму. Па вырабу ён перавышаў Старынкаўскі завод Бенкендорфа. За адзін толькі 1864 год на заводзе было пратоплена 120 тыс. пудоў жалезнай руды, з якой вытаплена чыгуну ў штыках і кроках 34 тыс. пудоў і ў адліўках 20 тыс. пудоў, а ўсяго з домны 54 тыс. пудоў. З вагранкі было адліта розных чыгунных вырабаў 20 тыс. пудоў. Акрамя таго, выпрацавана пудлінгавага жалеза ў балванках і проста ў гатунках 10160 пудоў, з якога прыгатавана рэзкага жалеза 8 тыс. пудоў, машынных жалезных вырабаў 7 тыс. пудоў [3]). Гэтымі весткамі аб Барысаўскім заводзе мы тут і абмяжуемся.

У даным намі кароценькім аглядзе паасобных жалезных заводаў, існаваўшых на Беларусі ў першай палове XIX ст., мы кожны раз падкрэсьлівалі дзьве цікавячыя нас у даны момант акалічнасьці: па-першае, тое, што гэтыя заводы (мануфактуры) працавалі ў асноўным на мясцовай жалезнай сыравіне, перапрацоўваючы таксама мясцовы і прывозны з-за межаў Беларусі лом, што заснаваны яны былі ў мэтах непасрэднай эксплёатацыі мясцовых прыродных рэсурсаў, наяўнасьць якіх, фактычна, і спрыяла ўзьнікненьню тут гэтага віду прамысловасьці; па-другое, што амаль раптоўны заняпад жалезных мануфактур у пачатку 60-х гг. адбываўся не на грунце высіленьня сыравінных запасаў—жалезных руд, а ў вініку прычын зусім іншага парадку.

Жалезная вытворчасьць 40-х гг., дый 50-х гг. (пэрыод параўнаўча высокага ўзроўню яе разьвіцьця) об'ектам сваей эксплёатацыі мела пераважна мясцовую сыравіну. „По собранным сведениям за 1843—1847 годы, — чытаем у адным з артыкулаў, — усматривается, что в некоторых губерниях выделывается железо прямо из руд, а именно: в Виленской — до 6 тыс. пуд., Волынской — до 11.300 пуд., Минской — до 6.500 пудов и т. д.“ [4]). У эканомічнай літаратуры трапляецца і больш аналёгічных зазначэньняў. Ёсьць, напрыклад, зазначэньне на тое, што „в последнее время начинает прививаться и здесь крупное горное хозяйство, основание которому положено устройством заводов Налибокского князя Витгенштейна на Березине (?) и великого князя Николая Николаевича в Минской губернии“ [5]). Ступень разьвіцьця

[1]) Гомельскі архіў. Фонд графа Румянцева, спр. 39, л. 274—278.

[2]) Сборник стат. свед., стар. 231.

[3]) Тамсама, стар. 232.

[4]) К. В. Чевкин и А. Д. Озерский. Обзор горной производительности России. „Сборник стат. свед. о России“. СПБ. 1851 г., книга 1-я стар. 225.

[5]) Военно-стат. сборн. „Россия“ 1871 г., вып. 4-й, стар. 308.

горнай гаспадаркі даволі выразна выяўляецца з вышэйпаданага агляду паасобных прадпрыемстваў.

Зробім яшчэ некалькі заўваг аб характары існаваўшай на Беларусі жалезнай прамысловасьці, аб прычынах яе крызісу, давёўшага да поўнага заняпаду ў 60-х гг., хаця гэтыя пытаньні і не вымагаюцца непасрэдна зьместам нашага артыкулу. Паўтараем, што нас цікавіць толькі той момант, чаму якраз у гэты пэрыод спыняецца здабыча тут жалезнай руды, бо ў другой палове XIX стагодзьдзя тыя віды жалезнай прамысловасьці, якія разьвіваліся на тэрыторыі Беларусі, а таксама і Літвы, дзеялі ўжо на іншай аснове, працавалі на прывознай жалезнай сыравіне і паўфабрыкатах.

60-ыя гады XIX стагодзьдзя зьяўляюцца пераломнымі ва ўсёй экономіцы, грамадзкім жыцьці і клясавых суадносінах у б. Расіі. Рэформы 60-х гг., у першую чаргу „сялянская“ рэформа 1861 году, выкліканыя процэсам зьмены фэўдальнай грамадзка-экономічнай формацыі новай капіталістычнай формацыяй, узьнікшым яшчэ ў пэрыод фэўдальнай гаспадаркі капіталістычным спосабам вытворчасьці, клясавай барацьбой прыгоннага сялянства, супроць фэўдальнай эксплёатацыі памешчыкаў, супярэчнасьцямі паміж памешчыкамі-прыгоньнікамі і клясай буржуазіі, якая нараджалася,—гэтыя рэформы мелі сваёй мэтай расчыстку шляху для капіталістычнага разьвіцьця Расіі. У зьвязку з ліквідацыяй прыгонных адносін і вынікшых зьмен у аграрных адносінах („надзел“ сялян зямельнымі вучасткамі на правох уласнасьці) дармовая рабочая сіла прыгоннага сялянства была выбіта з рук памешчыкаў. Памешчыцкая гаспадарка прымушана была перабудавацца, пераключыцца на новыя капіталістычныя рэйкі (зразумела, што рэшткі фэўдальных адносін існавалі яшчэ вельмі доўга, аж да самай Кастрычнікавай рэволюцыі), перажыць сур'ёзны этап крызісу. Мы ведаем, што ў парэформеныя часы шмат памешчыцкіх маёнткаў так і ня здолелі прыстасавацца да ўмоў новых экономічных адносін, прымушаны былі ліквідавацца.

Вось у парэформеных экономічных і соцыяльных зрухах і трэба шукаць прычыны, выклікаўшыя заняпад памешчыцкай жалезнай мануфактуры на Беларусі.

Узьнікненьне тут прыгоннай мануфактуры было выклікана рыначнымі адносінамі, разьвіцьцём гандлю, концэнтрацыяй капіталаў у руках буйнага дваранства і купецтва [1]). Прыгонная мануфактура тым адзначаецца ад капіталістычнай, што яна засноўвалася на прыгоннай працы і мела на чале прадпрыемцаў-памешчыкаў. Пытаньне соцыяльнай структуры беларускай мануфактуры да гэтага часу зусім яшчэ ня вывучана. З тых вестак, якія ў нас ёсьць адносна жалезных мануфактур, відаць, што асноўнай рабочай сілай у іх былі прыгонныя сяляне таго памешчыка, якому належала прадпрыемства. Так, Вішнеўскі жалезны завод (Хрэбтовіча) у 1814 годзе ў ліку занятых на ім рабочых меў:

[1]) Рыначная коньюнктура спрыяла здабычы жалеза на месцы. У „Журнале Департамента горных и соляных дел“ за 1844 г. мы знаходзім сярэднія цэны на простае паласавое жалеза па 47 губ. Эўропейскай Расіі. У 25 губ. цана яго даходзіла толькі да 1 р. 50 к. за пуд., а на Беларусі і ў Літве цана яго паднімалася: у Горадзенскай губ. да 1 р. 65 к., у Віцебскай—1 р. 75 к., Менскай—1 р. 92 к., Магілеўскай — 2 р. 04 к., Віленскай—2 р. 11 к., Ковенскай—2 р. 10 к. Трапляліся выпадкі, калі уральскае жалеза, за якое ў Ніжнім Ноўгарадзе плацілі ад 1 рубля да 1 р. 10 к., пасьля прывозу на Беларусь паднімалася ў цане да 3-х руб. і вышэй. Памешчык Гурко, на Аршаншчыне, сваё жалеза прадаваў ад 1,5 да 3 руб. серабром за пуд.

прыгонных—58, вольнанаёмных — 11; у 1818 годзе — прыгонных—24, вольнанаёмных—4; у 1828 годзе — прыгонных—111, вольнанаёмных—8; з 67 рабочых, якія меліся ў 1858 годзе, пераважную частку складалі прыгонныя. Далей, з 729 рабочых, занятых на Старынкаўскім заводзе Бенкендорфа, вольнымі маглі быць майстры і падмайстры, якіх налічалася да 100 чал., рэшта 629 чал. верагодней за ўсё зьяўляліся прыгоннымі сялянамі. Лічбы рабочых у дарэформенныя часы на другіх беларускіх жалезных мануфактурах нам невядомы, але відаць, што тут была аналёгічная зьява.

Ліквідацыя прыгону моцна выцяла па дакапіталістычнай мануфактуры, падарвала і разбурыла яе. Капіталістычны способ вытворчасьці, шляхі для разьвіцьця якога былі расчышчаны рэформамі 60-х гг., спарадзілі зусім новыя вытворчыя абставіны. Памешчыцкая гаспадарка ўцалку (прыгонная мануфактура станавіла сабой толькі адну з сустаўных частак буйнай памешчыцкай гаспадаркі) павінна была прыстасавацца да гэтых новых абставін. Правядзеньне чыгунак (60—70 гг.), якія зьвязалі Беларусь з самымі далёкімі прамысловымі цэнтрамі імпэрыі, і ў тым ліку і з жалезаздабывальнымі і жалезаапрацоўчымі цэнтрамі (Урал, Данецкі басэйн), ажыўленьне гандлю жалезнымі вырабамі, патаненьне дастаўкі гэтай продукцыі, конкурэнцыя,—усё гэта зрабіла жалезаздабывальную прамысловасьць на Беларусі нерэнтабельнай, неконкурэнтаздольнай і выклікала яе заняпад. Малады рускі капіталізм кідаецца на эксплёатацыю багацейшых уральскіх і данецкіх руд. Памешчыцкая гаспадарка на Беларусі ідзе па шляху разьвіцьця аграрнага капіталізму, па лініі земляробства, жывёлагадоўлі, разьвядзеньня тэхнічных культур, броварнай прамысловасьці, лясной гаспадаркі. Здабываньне жалеза з мясцовай руды, якое патрабуе значных капітальных затрат, замірае. Коленіяльная палітыка царызму, асабліва пасьля паўстаньня 1863 г., паставіла перад сабой задачу—як мага хутчэй зрусіфікаваць край, самым бязьлітасным чынам змагацца з усім тым, што магло-б тут напомніць аб нацыянальных асаблівасьцях і адрозьненьнях ад Расіі, і ў процэсе гэтага ганебнага нівэляваньня краю, узмацненьня „самодержавия, православия и народности“ зусім зьнімалася пытаньне аб разьвіцьці вытворчых сіл краю, аб культурным будаўніцтве. Ды іначай і быць не магло. Беларусь, як коленія, у першую чаргу зьяўлялася толькі рынкам для рускага капіталізму, а царызм разглядаў яе як крыніцу для папаўненьня ўсіх дзірак дзяржаўнай казны. Місія самаўладзтва тут у гэтым і выяўлялася.

З разгляду паасобных заводаў мы яшчэ асабліва з канца 50-х гг. маглі заўважыць тэндэнцыю, што заводы пераходзяць паступова на выраб продукцыі з жалезнага лому, паўфабрыкатаў і што выпрацоўка мясцовай жалезнай руды зьмяншаецца. У сьвятле данага намі кароткага аналізу крызісу памешчыцкай гаспадаркі, а значыць і прыгоннай мануфактуры, прычыны гэтай зьявы больш-менш выяўляюцца. Пасьля 1861 г. некаторыя памешчыкі—уласьнікі жалезных заводаў, яшчэ пэўны час імкнуцца падтрымаць і захаваць гэты від вытворчасьці, але іх намаганьні дарэмныя. Жалезаапрацоўчая прамысловасьць (прадпрыемствы, зьвязаныя са здабычай руды на месцы і часткова працуючыя на жалезным ломе) год ад году падаюць. Паводле даных „Военно-статистического сборника“ в 1866 г. (выпуск 4, выд. 1871 г.) на Меншчыне і Віленшчыне былі яшчэ два заводы з 359 рабочымі, з сумай вырабу на 45.700 руб., пазьнейшыя-ж крыніцы—„Указатель Орлова“

выд. 1-е і 2-е і інш.—гэты від прадпрыемстваў ужо не рэгіструюць [1]).

Чыгуна-ліцейная вытворчасьць ў бліжэйшыя парэформеныя часы трымаецца мацней, бо яна пераходзіць ужо ў рукі прадпрыймальнага купецкага капіталу і па характару свайго нічога супольнага ня мае з прыгоннай памешчыцкай мануфактурай (з 5 заводчыкаў у 1876 г. толькі адзін быў памешчык). Парэформены экономічны зрух, аднак, выклікае заняпад і гэтых прадпрыемстваў. Апошняя акалічнасьць вельмі выразна ілюструецца наступнай табліцай [2]):

| ГУБЭРНІ | 1866 г. | | | 1879 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік прадпрыем. | Рабочых | Сума выrабу (руб.) | Лік прадпрыем. | Рабочых | Сума вырабу (руб.) |
| Віленская . . . . . | 2 | 514 | 138.692 | 1 | 40 | 11.000 |
| Менская . . . . . | 1 | 100 | 74.000 | 1 | 3 | 3.000 |
| Магілеўская . . . . | 5 | 64 | 9.525 | 2 | 52 | 4.400 |
| | 8 | 678 | 222.217 | 4 | 95 | 18.400 |

Мы падалі гэту табліцу толькі ў якасьці ілюстрацыі, каб паказаць, што ў бліжэйшы парэформены пэрыод, калі жалезная мануфактура ўжо не існавала, на Беларусі склаліся такія абставіны, якія ня спрыялі разьвіцьцю чыгуна-ліцейнай прамысловасьці, ужо ня маючай нічога супольнага па сваёй соцыяльнай структуры з памешчыцкай прыгоннай мануфактурай.

Такава кароткая гістарычная даведка аб існаваўшай на Беларусі жалезаздабывальнай прамысловасьці, зьвязанай, як моґ бачыць чытач, яшчэ з дарэформенай экономікай XIX стагодзьдзя. Жалезная прамысловасьць пасьлярэформенага пэрыоду (драўляная, цьвіковая, выраб сельска-гаспадарчых машын і прылад), якая разьвівалася, да рэчы сказаць, вельмі павольна, дзеяла на капіталістычнай аснове і працавала на прывознай сыравіне ці на паўфабрыкаце.

З агульнага зьместу артыкулу само сабой напрашваецца вывад: трэба самым сур'ёзным чынам заняцца проблемай жалезнай прамысловасьці на Беларусі, на аснове скарыстаньня мясцовых жалезных руд. Прадпасылкі экономічнага і політычнага характару для гэтага ёсьць. Прыродныя рэсурсы, з аднаго боку, дапамога, якую БССР атрымлівае, як сустаўная часьць СССР,—вось аснова гэтых прадпасылак. Плян гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Беларусі—толькі адна з частак агульнага народна-гаспадарчага пляну Савецкага саюзу; проблема разьвіцьця мэталюргіі на Беларусі павінна знайсьці свой адбітак у гэтым пляне.

[1]) Д. А. Тимирязев. Статистический атлас главнейших отраслей фабрично-заводской промышленности Европ. России с по именным списком фабрик и заводов". СПБ. вып. І-й, 1869 г., вып. 2-й 1870 г.

[2]) Табліца складзена на падставе „Воен. Стат. Сборн." вып. 4-й і працы П. А. Орлова—„Указатель фабрик и заводов в Европейской России с Ц. Польским и Вел. Княжеств. Финляндским". СПБ. 1881 г.

Практыка социялістычнага будаўніцтва ў Савецкім саюзе і яго сустаўной частцы БССР, пасьпяховае выкананьне 1-й пяцігодкі сьведчыць аб нябывалых у гісторыі дасягненьнях, заваяваных рабочай клясай, колгасьнікамі, працоўнымі масамі ў нашайкраіне, пад кіраўніцтвам сталёвай бальшавіцкай партыі. Яна зьяўляецца бліскучым довадам правільнасьці генэральнай лініі партыі і яе нацыянальнай політыкі, банкруцтва надзей ворагаў, унутраных і замежных, поўнага паражэньня опортуністычных элемэнтаў, якія ня вераць у творчыя сілы пролетарыяту, агітуюць за аслабленьне тэмпаў, цягнуць краіну назад.

У той час, калі нашы заходнія суседзі, краіны капіталу, задыхаюцца ўціскох экономічнага крызісу, спароджанага капіталістычнай сыстэмай, мы расьцем гіганцкімі крокамі, нячуванымі тэмпамі разьвіваем социялістычныя вытворчыя сілы краіны.

Савецкая Беларусь, былая царская колёнія, зрабілася ўжо краінай социялістычнай індустрыі і высока разьвітай буйной сельскай гаспадаркі. Прадпасылкі для разьвіцьця тут і мэталюргічнай вытворчасьці ёсьць. Ня трэба забывацца, што ўся нямецкая, напрыклад, железаапрацоўчая вытворчасьць была заснавана на пакладах бурага жалезьняку. Нашы жалезныя руды маюць таксама даволі высокую якасьць.

---

Н. А. Дарожкін

# Рак бульбы (Synchytrium endobioticum)

Па наяўнасьці рознага роду захворваньняў і па тэй шкоднасьці, якую прыносяць хваробы бульбы, вельмі цяжка знайсьці другую культуру, аналёгічную бульбе. Шкоднасьць хвароб для бульбы далёка не абмяжоўваецца шкодай у часе вэгетацыйнага пэрыоду, галоўным чынам яна выяўляецца пасьля ўборкі, г. зн. у часе зімовага захоўваньня. Таму ня дзіва, што паводле падлікаў і назіраньняў за рад гадоў проф. М. К. Малюшыцкі ўстанавіў, што ў БССР за зімовы час гіне бульбы больш чым ідзе яе на тэхнічную пераапрацоўку. Наогул хваробы бульбы за кожны год па СССР зьнішчаюць яе на сотні мільёнаў рублёў.

Шмат захворваньняў бульбы (напр., фітафтора) ужо вывучаны так, што мы можам праводзіць дзяржаўныя мерапрыемствы, пры дапамозе якіх значэньне хвароб для гаспадаркі магчыма давесьці да мінімуму.

Зусім іншая справа з карантыннымі шкоднікамі і хваробамі, тут мы маем непачаты край работы. Яны ў нашых умовах (СССР) зусім ня вывучаны, і ў выпадку зьяўленьня іх мы, у сэнсе барацьбы з імі, зьяўляемся зусім непадрыхтаванымі. Да ліку небясьпечных карантынных шкоднікаў і хвароб бульбы належыць бульбяны рак (Synchytrium endobioticum) і колёрадзкі жучок. Шкоднасьць іх настолькі вялікая, што ў выпадку зьяўленьня іх культура бульбы магла-б быць амаль спынена на некалькі год. Таму зразумела, што галоўнай задачай зьяўляецца высьвятленьне пытаньня, адкуль можа зьявіцца бульбяны рак у СССР, з тым, каб ня даць ня толькі масава распаўсюджвацца, але і наогул зьяўляцца. Галоўнымі дзяржавамі (сумежнымі з СССР), адкуль можа непасрэдна зьявіцца ў СССР бульбяны рак, зьяўляюцца Польшча, Латвія і Фінляндыя. Асабліва небясьпечнай у гэтых адносінах зьяўляецца Польшча.

Месяц таму назад знойдзены новыя літаратурныя даныя аб распаўсюджваньні бульбянага рака ў Польшчы. Гутарка ідзе аб кніжцы А. Курыла „Хваробы і шкоднікі расьлін, распаўсюджаных у вялікай Польшчы“ (на польскай мове). У гэтай кніжцы А. Курыла дае карту геаграфічнага распаўсюджваньня бульбянага рака па валасьцёх ваяводзтва Пазнанскага ў 1927 і 1928 гг. Калі ў 1927 г. у ваяводзтве Пазнанскім бульбяны рак сустракаўся ў валасьцёх: Выжыск, Хоцько, Вонгравец, Познань, Косьцян і Лешна, дык у 1928 годзе апрача пералічаных вышэй валасьцей ён сустракаўся яшчэ ў валасьцёх Лароўцы, Козьнін і Хэміна. Прычым, калі ў 1927 г. бульбяны рак у Хоцькай валасьці сустракаўся толькі ў 4-х выпадках, дык у 1928 годзе ў гэтай-жа валасьці ён ужо сустракаўся ў 10 выпадках і г. д. Да гэтага часу мы мелі весткі аб распаўсюджваньні бульбянага рака толькі ў Польскай Верхняй Сылезіі.

Адзначанае вышэй дае поўную падставу сыгналізаваць аб небясьпецы заносу бульбянага рака ў СССР, праз БССР і УССР з Польшчы. Адгэтуль зразумела, што ў БССР, а таксама і ў УССР павінен быць організаваны рад мерапрыемстваў, накіраваных супроць зьяўленьня бульбянага рака. Да такіх мерапрыемстваў належыць пасадка на мяжы з Польшчай устойлівых супроць рака гатункаў бульбы, спэцыяльны агляд бульбы з мэтай выяўленьня наглядальных пунктаў, організацыя сеткі корэспондэнтаў, шырокае прыцягненьне да гэтай справы краязнаўчых організацый—апошняе заслугоўвае асаблівай увагі.

Для таго, каб краязнаўцы краязнаўчых організацый маглі па знадворным адзнакам вызначыць (у выпадку наяўнасьці) бульбяны рак і своечасова паведаміць у Біолёгічны інстытут БАН або АБШ



Мал. 1. Рак на лісьцях бульбы (паводле Appel'я).



Мал. 2. Бульбіна, паражоная ракам (паводле Appel'я).

пры НКЗ БССР, ніжэй падаецца кароткае апісаньне бульбянага рака.

Хвароба выклікаецца пашкоджваньнем расьліны адным з ніжэйшых грыбкоў. Грыбок гэты пашкоджвае падземныя часткі расьліны, асабліва клубяні. Заражэньне адбываецца звычайна праз вочка. Першая азнака заражэньня—маленькія наросты ў выглядзе бародавак, якія хутка павялічваюцца ў разьмерах, пакуль клубень не пакрыецца суцэльнай масай гэтых наростаў (глядзі мал. 1 і 2). Бульба ў гэтых выпадках траціць сваю каштоўнасьць як харчовы продукт, а ў мясцох захоўваньня хутка гніе. Зароднікі грыба могуць захоўвацца ў глебе да 5-ці і нават 10 год.

Прыведзеныя характэрныя адзнакі могуць сустракацца ня толькі на клубнёх, але і на лісьцях. Праўда, трэба агаварыцца, што незаўсёды, гэтыя характэрныя адзнакі сустракаюцца. Просьба да ўсіх таварышоў, якія сустрэнуць падазроныя на пашкоджаньне бульбяным ракам клубяні, накіроўваць іх па адрасу: г. Менск, Беларуская Акадэмія Навук, Біолёгічны інстытут. Жадаючых падрабязна азнаёміцца з бульбяным ракам, з мэтодыкай абсьледваньня адсылаем да наступных прац:

1. Бураў і Яцыніна—„Хваробы бульбы". БДВ. 1930 г.
2. Эрыксон—„Болезни с.-х. растений". ГИЗ. 1929 г.

3. Дарожкін—„Першыя спробы фітапатолёгічнага абсьледваньня бульбы ў СССР з мэтай дзяржаўнага карантыну". БАН. 1932 г.

Таварышы, якія ведаюць нямецкую мову, з цытолёгіяй і біолёгіяй бульбянага рака могуць пазнаёміцца ў артыкуле E. Köhler'a „Zur Biologie und Cytologie von Synchytrium endobioticum (Schilb.) Perc", які надрукаваны ў часопісу „Phytopathologische Zeitschrift, Band, IV, 1931 г., стар. 43—55".

Рэдэр

# Задачы краязнаўчых організацый у пытаньні грамадзкага харчаваньня

Посьпехі социялістычнага будаўніцтва СССР, культурны ўзрост мас і ўцягваньне сяброў рабочай сям'і ў вытворчасьць, у сувязі з поўнай ліквідацыяй беспрацоўя, ставяць перад спажыўкоопэрацыяй задачу паступовага пераключэньня харчовага забесьпячэньня з формаў індывідуальнага спажываньня на грамадзкае харчаваньне, як першая ўмова „пераходу ад дробна-адзіночнай хатняй гаспадаркі да буйной абагуленай“ (Ленін).

XVI зьезд комуністычнай партыі ўказаў, што колектывізацыя сельскай гаспадаркі павінна быць у асноўным скончана да канца пяцігодкі. Гэты-ж зьезд вызначыў шлях, па якому трэба пайсьці, каб гэту задачу поўнасьцю выканаць. Асноўныя вехі гэтага шляху наступныя: Пасеўная плошча савгасаў у 1931 г. павінна займаць 10 мільёнаў гектараў, а ў 1932 г. павінна быць даведзена да 20 мільёнаў гектараў, каб мець гадавы выхад таварнага хлеба ў разьмеры 100 мільёнаў пудоў; стварэньне буйных жывёлагадоўчых савгасаў для вырашэньня мясной проблемы: каля 3 мільёнаў сьвіней павінны даць у 1931 г. савгасы „Сьвінавод“ і столькі-ж савгасы „Скотовод“. Для кожнага зусім зразумела, што на выкананьні гэтага генэральнага пляну будуць заняты мільёны рабочых, і таму правільная організацыя масавага харчаваньня гэтых мільёнаў працоўных зьяўляецца найважнейшай задачай социялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчыя організацыі павінны ў гэтым кірунку павесьці шырокую і працяжную кампанію па растлумачэньню значэньня організацыі грамадзкага харчаваньня, павінны давесьці савгасьніку і колгасьніку перавагі гэтай формы харчаваньня. Перавагі гэтай формы харчаваньня перад існаваўшымі індывідуальнымі формамі харчаваньня заключаюцца ў тым, што правільна організаванае грамадзкае харчаваньне значна падвышае продукцыйнасьць работы (з літаратуры нам вядома, што паляпшэньне харчаваньня на 28,5% падвышае выпрацоўку продукцыі на 96,6 проц.). Гэта гаворыць нам аб тым, што паміж грамадзкім харчаваньнем і выкананьнем прамфінпляну існуе самая цесная сувязь і, відавочна, што мы павінны організаваць грамадзкае харчаваньне такім чынам, каб максымальна забясьпечыць выкананьне прамфінпляну. Неабходна да гэтага дадаць, што толькі пры грамадзкім харчаваньні магчыма організаваць харчаваньне працоўных у адпаведнасьці з работай, якую яны выконваюць (харчаваньне трактарыста, землякопа), з узростам (дзіцячае харчаваньне), з становішчам здароўя (лекавае харчаваньне).

Для індустрыялізуючайся краіны і колектывізуючайся сельскай гаспадаркі патрэбны масавыя кадры. Пытаньне аб масавых кадрах

для нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі мае вялікае значэньне, і неабходна зараз-жа прыступіць да вызваленьня значнай часткі рабочай сілы—жонак рабочых, жонак колгасьнікаў ад абслугоўваньня сям'і, скарыстаўшы іх на больш карысных участках народнай гаспадаркі.

У 1931 г. каля 1,3 млн жанчын павінны быць уцягнуты ў вытворчасьць. Цэнтральнае месца ў вырашэньні гэтай проблемы займае грамадзкае харчаваньне. Што гэта так, паказвае практыка організацыі арцельнага харчаваньня, якое зьніжае трату часу на харчаваньне 100 чалавек да 2-х працоўных дзён, супроць 17 працоўных дзён пры індывідуальным харчаваньні.

„Грамадзкія сталовыя, ясьлі, дзіцячыя сады—вось узоры гэтых расткоў, вось тыя прымітыўныя сродкі, якія на справе здольны вызваліць жанчыну, на справе зьменшыць і зьнішчыць яе няроўнасьць з мужчынай і павялічыць яе ролю ў грамадзкай вытворчасьці і ў грамадзкім жыцьці“ (Ленін, т. XVI, стар. 256). Ніяк нельга прайсьці міма таго, што грамадзкае харчаваньне дае значную экономію ў выдатках апалу пры гатаваньні харчу (статыстычныя даныя абсьледаваньня па СССР паказваюць, што пры індывідуальным харчаваньні на апал выдаткуецца ў год 9 руб. на 1 чалавека, а пры грамадзкім харчаваньні—4 руб. 10 к.), а таксама грамадзкае харчаваньне дае нам дадатковую карысную жылую плошчу, якая пры індывідуальным харчаваньні занята пад кухнямі (грамадзкая кухня патрабуе для свайго разьмяшчэньня 0,3 кв. м. плошчы на 1 чалавека, а пры індывідуальным харчаваньні падае на 1 чалавека 1 кв. м плошчы). Гэтыя два моманты пры тых тэмпах будаўніцтва, якія разгорнуты ў нашым Саюзе, маюць бясспрэчна вялікае значэньне ў сэнсе мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў, так неабходных для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пераходзячы да пытаньня аб скарыстаньні продуктаў харчаваньня, трэба адзначыць наступнае: толькі пры грамадзкім харчаваньні можа ўжывацца цэлы рад новых харчовых продуктаў (розныя стравы з соі, кукурузы і інш.).

Адчыняюцца шырокія магчымасьці для поўнага скарыстаньня харчовых продуктаў, напрыклад: выварка касьцей, збор вывараных касьцей для утылізацыі, збор іншых адкідаў кухні для утылізацыі, скарыстаньне адкідаў для кармленьня сьвіней і г. д.

Краязнаўчыя організацыі павінны прыцягнуць культурныя сілы (мэдпрацаўнікоў, аграномаў, настаўнікаў, працаўнікоў коопэрацыі, камсамольскі актыў) для актыўнага ўдзельнічаньня ў організацыі грамадзкага харчаваньня: выбар месца для пабудовы сталовай, абсталяваньне месца хаваньня продуктаў, організацыя сьвінарнікаў, організацыя вучоту харчовых продуктаў, організацыя курсаў па падрыхтоўцы кадраў для работы ў грамадзкім харчаваньні і г. д. Добра організаванае грамадзкае харчаваньне зьяўляецца сур'ёзным агітатарам за колектывізацыю быту. Урэшце трэба сказаць, што толькі грамадзкае харчаваньне дае магчымасьць організаваць харчаваньне па стану здароўя, організаваць дыэтычнае харчаваньне для хворых. Медычная навука дае нам цэлы рад хвароб, якія вылечваюцца ня лекавымі сродкамі, а выключна правільна організаваным харчаваньнем (дыэтхарчаваньне).

Вялікае значэньне мае грамадзкае харчаваньне ў сэнсе ломкі старых сямейных устояў, у сэнсе прылучэньня жанчыны да непасрэднага актыўнага ўдзельнічаньня ў культурным і палітычным жыцьці краіны. Перад намі зараз устае пытаньне, якія формы павінна пры-

няць грамадзкае харчаваньне ў социялістычным сэктары сельскай гаспадаркі.

Раскіданасьць паселішчаў, сэзонны від работы і, нарэшце, буйныя плошчы, якія займаюцца савгасамі і колгасамі, усё гэта высоўвае перад намі пытаньне аб стварэньні сэзоннай або сталай кухні. Улічваючы спэцыфічнасьць работы ў социялістычным сэктары сельскай гаспадаркі, жыцьцё высунула наступныя формы організацыі харчаваньня:

I. Сталыя формы харчаваньня:

1) Саматужная кухня-сталовая (у колгасах і савгасах).
2) Культурная гарбатна-сталовая (у колгасах і МТС).
3) Школьныя кухні.
4) Мэханізаваныя сталоўкі (у МТС).

II. Сэзонныя формы харчаваньня:

1) Паходная кухня (у савгасах і колгасах).
2) Дастаўка харчу тэрмосамі.
3) Кухня-тэрмос сыстэмы Рубашэнка.
4) Палявая кухня-ачаг.
5) Кухня-ачаг у паселішчы.

Галоўнае месца ў харчаваньні ў летні час павінны займаць дастаўка харчу тэрмосамі, паходная кухня і кухня-тэрмос сыстэмы Рубашэнка. Тэрмос уяўляе сабою пасудзіну, якая мае 3 сьценкі: унутраную, ізоляцыйную пракладку і знадворную. Унутраная сьценка робіцца мядзяная жалеза-лужоная, а знадворная з жалеза, афарбаваная алейнай фарбай. Тыповы тэрмос мае ёмкасьць у 36 літраў і ўмяшчае 50 порцый вадкіх блюд і 100 порцый кашы (мал. 1). Тэрмос каштуе каля 85 руб. Для перавозкі стравы ў поле могуць быць скарыстаны звычайныя малочныя бідоны (для вадкай стравы) і чыгунныя гаршкі (для кашы).


Мал. 1. Тэрмос.

Захаваць тэмпэратуру стравы можна ў „цепласкрынях“ (малюнак 2). Цеплаcкрыні прадстаўляюць сабой звычайныя 2-хсьценныя драўляныя скрынкі з пракладкай з моху, сухога апілаваньня, грэчневай лузгі і г. д.

Тэрмос-кухня сыстэмы Рубашэнка ўяўляе сабой пасудзіну для варкі стравы і гатаваньня вады адначасова. Ён складаецца з 2 аддзяленьняў: адно цэнтральнае для варкі стравы, а другое для гатаваньня

вады, якое акружае першае. Знадворныя сьценкі падвойныя з ізоляцыйнай пракладкай. Варка ў іх даводзіцца толькі да закіпаньня, а даварка адбываецца за кошт цеплавых уласьцівасьцяў тэрмоса.

Палявыя кухні-ачагі могуць мець месца ў тым выпадку, калі штогодна ў адных і тых-жа месцах адбываюцца масавыя работы. Яны прымітыўнага характару, будуюцца з старога будаўнічага матар'ялу, кары дрэва і г. д. (частакол з навесам), а ў саўгасах для гэтай-жа мэты могуць служыць „гессенскія палаткі“.

Для таго, каб яны маглі адпавядаць свайму прызначэньню, і іх трэба будаваць наступным чынам:

1) Памяшканьне для прыёму стравы з плошчай у 25 кв. м (з разьліку 1 кв. м плошчы на 1 чалавека пры пасадцы ў 2-3 зьмены).

2) Кухня для варкі харчу— 10 кв. м плошчы.

3) Падсобнае памяшканьне для хаваньня продуктаў — 10 кв. м.

4) Памяшканьне для апрацоўкі сыравіны — 10 кв. м.



Мал. 2. Цепласкрыня.

Кароткі нарыс апошняй формы харчаваньня паказвае, што яна мае сэзонны характар, і мы павінны ад гэтай формы перайсьці да больш абсталяванай сталовай, якая заклала-б у сапраўднасьці фундамант абагуленага быту. Гэткай формай зьяўляецца сталая кухня-сталоўка, якая будуецца на падставе існуючых нормаў будаўніцтва і санітарна-гігіенічных правіл.

Гэткія сталоўкі складаюцца з наступных памяшканьняў:

1) Абедзены зал, 2) склеп, 3) кладоўка, 4) кухня, 5) падсобны пакой—для рыхтаваньня, 6) пакой для мыцьця пасуды, 7) прыхожая разьдзявальня, 8) пакой для абслугоўваючага пэрсоналу. Разьмеркаваньне паасобных пакояў мае важнае значэньне ў сэнсе правільнай організацыі работы сталовай. Трэба пакоі разьмеркаваць такім чынам, каб кухня мела непасрэдныя зносіны з рыхтавальнай, мыячнай, абедзеным залам і г. д.

Другім важным пытаньнем у організацыі работы сталовай зьяўляецца ліквідацыя чаргі, сваечасовая падача абедаў, чыстата ў сталовай і г. д.

Ліквідацыю чаргі магчыма зрабіць шляхам папярэдняй выдачы талёнаў на 2—4 тыдні. Паскорыць час падачы абедаў магчыма шляхам адначасовай падачы 10 асобам. Для стварэньня належнай чыстаты ў сталовай трэба штодзенна памятаць аб санітарным мінімуме. Санітарны мінімум—рад прымітыўных аздараўляючых мерапрыемстваў, якія неабходна правесьці і якія не патрабуюць для свайго правядзеньня ніякіх сродкаў. Трэба памятаць, што адно з галоўных запатрабаваньняў правільнага харчаваньня—гэта добраякасьць продуктаў і чыстата харчу.

Важным момантам у арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і колгасах зьяўляецца складаньне ўзорнага расьпісаньня блюд (меню) на 5—10 дзён уперад, раскладак на кожнае блюда.

Дырэктывы ўраду, Наркамаховы здароўя, Спажывецкай коопэрацыі, Колгасцэнтру ўказываюць на важнасьць справы правільнай арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў полі ў прыватнасьці і наогул сталага грамадзкага харчаваньня ў колгасах і саўгасах. Краязнаўчым арганізацыям неабходна разам з колгасным, савецкім і коопэрацыйным актывам гэтыя дырэктывы рэалізаваць.

### Узорны санмінімум у грамадзкім харчаваньні

1. Неабходна зрабіць дробны бягучы рамонт: пабелка сьцен і столі.

2. Забясьпечыць дастатковай вэнтыляцыяй (фортачкі, фрамузы).

3. Пакрыць абедзеныя сталы цыратай.

4. Верхнія дошкі сталоў у вытворчых памяшканьнях зрабіць з дрэва цьвёрдай пароды, бяз шчылін.

5. Забясьпечыць выстарчальнай колькасьцю пасуды.

6. Арганізаваць магчымасьць мыць пасуду ў гарачай праточнай вадзе, у трох вадах, для чаго зрабіць адпаведныя прыстасаваньні, зрабіць таксама адпаведныя прыстасаваньні для сушкі пасуды. Чыстую пасуду хаваць у шафах.

7. Сачыць за сваечасовай мойкай пасуды і чыстатой інвэнтару.

8. Для зьбіраньня кухонных адкідаў адвесьці пасуду з шчыльна пакрытай крышкай. Для захаваньня адкідаў адвесьці месца па-за вытворчым памяшканьнем, сваечасова выдаляць адкіды.

9. Уборка памяшканьня: штодзенна мыць падлогу. Падмятаць абавязкова вільготным спосабам пасьля работы. У вытворчых памяшканьнях штодзенна абмываць і чысьціць мэблю абавязкова вільготным спосабам.

10. Забясьпечыць абедзеныя залы плявальніцамі і урнамі і вытворчыя памяшканьні—плявальніцамі.

11. Забараніць курэньне.

12. Забясьпечыць гатаванай вадой.

13. Не заклейваць сьцены рознымі аб'явамі, для апошніх трэба мець вітрыну пад шклом.

14. Хаваньне продуктаў: забясьпечыць кладавыя засекамі з пакрышкамі. Забясьпечыць кладавыя лёдам, шляхам пабудовы хатніх ляднікоў. Забясьпечыць месца для хаваньня гародніны з захаваньнем адпаведнай тэмпэратуры.

15. Забясьпечыць магчымасьць наведвальнікам зьняць верхнюю вопратку і ачысьціць абутак ад бруду.

16. Забясьпечыць дастатковай колькасьцю індывідуальных шафікаў для верхняй вопраткі для пэрсоналу.

Працаўнікі сталовай павінны насіць чыстую адпаведную спэцвопратку.

17. Брудная скарыстаная бялізна павінна захоўвацца асобна ад чыстай.

18. Забясьпечыць магчымасьць мыцьця рук для наведвальнікаў і пэрсоналу.

19. Барацьба з мухамі, тараканамі і грызунамі. Прыняць меры супроць даступнасьці памяшканьня для грызуноў (рамонт

падлогі). Пэрыодычная дэзынсэкцыя памяшканьня (барацьба з тараканамі).

Дэзынфэкцыя памыйных і мусарных ям і дваровых прыбіральняў хлёрнай вапнаю, вапнавым малаком, сыстэматычная вывазка нячыстот.

**Узорныя раскладкі блюд.**

| Назва | Норма на 1 чал. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Шчы сьвеж.** | | | |
| Мяса | 100 | 10.000 | 95 |
| Капуста сьвежая | 200 | 20 000 | 38 |
| Бульба | 200 | 20.000 | 130 |
| Цыбуля | 15 | 1.500 | 5 |
| Морква | 20 | 2.000 | 5 |
| Лаўровы ліст | 02 | 20 | — |
| Соль | 5 | 500 | — |
| | — | — | 273 |

| Назва | Норма на 1 ч. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Шчы зялён.** | | | |
| Мяса | 100 | 10.000 | 95 |
| Шчаўе | 150 | 15.000 | 27 |
| Бульба | 200 | 20.000 | 130 |
| Мука | 10 | 1.000 | 16 |
| Цыбуля | 15 | 1.500 | 5 |
| Солі | 5 | 500 | — |
| | — | — | 273 |

| Назва | Норма на 1 чал. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Бульба мятая з цыбуляй** | | | |
| Бульба | 600 | 60.000 | 390 |
| Цыбуля | 25 | 2.500 | 8 |
| Тлушчы | 20 | 2.000 | 175 |
| Лаўровы ліст | 02 | 20 | — |
| Соль | 5 | 600 | — |
| | — | — | 573 |

| Назва | Норма на 1 чал. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Суп фасольны альбо гарох** | | | |
| Мяса | 100 | 10.000 | 95 |
| Фасоль і гарох | 60 | 60.000 | 150 |
| Морква | 10 | 1.000 | 3 |
| Бульба | 150 | 15.000 | 97 |
| Лаўровы ліст | 02 | 20 | — |
| Цыбуля | 15 | 1.500 | 5 |
| Соль | 5 | 500 | — |
| | — | — | 340 |

| Назва | Норма на 1 чал. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Рыбны бульбяны суп** | | | |
| Рыба розная | 200 | 20.000 | 80 |
| Бульба | 400 | 40.000 | 260 |
| Цыбуля | 20 | 2.000 | 7 |
| Морква | 10 | 1.000 | 27 |
| Лаўровы ліст | 02 | 20 | — |
| Соль | 5 | 500 | — |
| | — | — | 374 |

| Назва | Норма на 1 чал. у грамах | На 100 чал. | Калёрый на 1 ч. |
|---|---|---|---|
| **Каша пэрловая** | | | |
| Крупы пэрлов. | 150 | 15.000 | 529 |
| Расьл. алей | 20 | 200 | 75 |
| Соль | 5 | 50 | — |
| | — | — | 7041 |
| **Бульба смажаная** | | | |
| Бульбы | 600 | 60.000 | 390 |
| Цыбуля | 20 | 2.000 | 7 |
| Расьл. алей | 20 | 200 | 175 |
| Соль | 5 | 500 | — |
| | — | — | 572 |

Увага: а) хлеба па 1000 г у дзень;
б) вага паказана ў сырым выглядзе;

в) для палепшаньня смакавых уласьцівасьцяў супоў і пры наяўнасьці ў колгасах малочных продуктаў рэкомэндуецца на супы выдаваць па 10 г сьмятаны альбо 25 г малака.

---

## Літаратура для колгасьнікаў і савгасьнікаў.

Дабрабыт колгасу—Варанцоўскага.
Санмінімум у полі—Гразнова.
Першая дапамога на палявых работах—Сабініна.
Санмінімум у грамадзкай сталовай—Бархана.
Трактарыст беражы сваё здароўе—Гродзенскага.

П. Бузук
Яз. Мацюкевіч
П. Юргілевіч

# Год працы Інстытуту мовазнаўства БАН

Вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, нябачаны ў гісторыі рост індустрыялізацыі краіны адбываецца ва ўмовах абвостарнай клясавай барацьбы. Заўзятыя клясавыя бойкі паміж соцыялізмам і капіталістычнымі элемэнтамі ідуць ня толькі на экономічным, гаспадарчым фронце, яны адбываюцца і на фронце ідэолёгічным.

Прадстаўнікі варожых пролетарыяту буржуазных і дробна-буржуазных тэорый часта ад адкрытага штурму пераходзяць да больш утончаных, замаскаваных спосабаў барацьбы супроць політыкі комуністычнай партыі і савецкай улады, працягваючы контрабандай свае погляды пад дымавой заслонай „левай“ фразэолёгіі.

Вылазка „гісторыка“ Слуцкага, які прабаваў „налгаць на бальшавікоў, сфальсыфікаваць гісторыю бальшавіцкай партыі“ і „працягнуць контрабандай у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам“, яшчэ раз сьведчыць аб недастатковай пільнасьці ў справе барацьбы за партыйнасьць у навуцы, за чыстату марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі. Ліст тав. Сталіна ў рэдакцыю часопісі „Пролетарская Революция“ з поваду гэтай вылазкі ставіць з усёй вастрынёй пытаньне аб няпрымірымай барацьбе з усялякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі ў навуцы, аб барацьбе з праяўленьнямі гнілога лібэралізму і прымірэнцтва ў адносінах да падобных вылазак.

Не зьяўляецца выключэньнем і лінгвістычны фронт, на якім адбываюцца ня менш заўзятыя клясавыя бойкі. Марксысцка-ленінскае мовазнаўства, якое ствараецца на падставе марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, вядзе жорсткую барацьбу на два фронты — як супроць буржуазнага мовазнаўства, прадстаўленага рэакцыйнай інда-эўропеістыкай, так і з мэханіцызмам у яфэтыдолёгіі, якую некаторыя з вучняў акадэміка Марра цалкам лічаць марксысцка-ленінскай лінгвістыкай.

На лінгвістычным фронце мы бачым вылазкі і ваяўнічых інда-эўропеістаў, накшталт проф. Паліванава, які ў сваёй кнізе „За марксистское языкознание“, прыкрыўшы вокладкай рэакцыйны, контррэволюцыйны зьмест, пераходзіць у наступленьне супроць „ідэолёгічных рэвізыянэраў“ інда-эўропеістыкі.

Бясспрэчна, ідэалістычная інда-эўропеістыка з яе формалізмам зьяўляецца галоўнай небясьпекай на лінгвістычным фронце, і таму асноўная задача марксысцка-ленінскай лінгвістыкі — узмацніць агонь па мэтодолёгіі і ідэолёгіі гэтага рэакцыйнага інда-эўропеізму, які жывіў і жывіць як вялікадзяржаўны шовінізм, так і контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм і наогул мясцовы шовінізм усялякіх колераў. У выяўленьні ідэалістычнай сутнасьці інда-эўропеізму не малую ролю адыграла яфэтыдолёгія. Шмат яе палажэньняў, напрыклад, аб адзінстве

глётогонічнага працэсу, аб стадыяльнасьці моўнага разьвіцьця і г. д., бязумоўна, увойдзе ў жалезны інвэнтар марксысцка-ленінскай лінгвістыкі[1]), але гэтыя заслугі яфэтыдолёгіі не пазбаўляюць нас ад абавязку выкрываць і ў яе вучэньні памылковыя ўстаноўкі. Няправільныя ўстаноўкі яфэтыдолёгіі былі ўскрыты некаторымі з савецкіх лінгвістаў, якія ў другой палове 1930 году аб'ядналіся ў групу „Языковедный фронт“. У асноўным правільна выкрываючы недахопы яфэтычнай тэорыі, „Языкфронт“ сам дапусьціў рад памылак і перагібаў, як, напрыклад, ігнараваньне гістарызму, вялікадзяржаўніцкія тэндэнцыі (у тав. Данілава), гнілы лібэралізм у адносінах да прадстаўнікоў індаэўропеізму (напрыклад, да Паліванава); гэты інда-эўропеізм выступае нават у працах саміх языкафронтаўцаў (у Дрэзэна).

Барацьба за марксысцка-ленінскае мовазнаўства зьяўляецца асноўнай задачай і лінгвістаў БССР. Галоўная задача Інстытуту мовазнаўства БАН—праводзіць моўную політыку пад кіраўніцтвам партыі ў кірунку, указаным тав. Сталіным на XVI зьезьдзе УсеКП(б): „Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у агульную культуру, з аднэй агульнай мовай“.

Выходзячы з гэтай адзінаправільнай устаноўкі, трэба ў справе нормаваньня і разьвіцьця беларускай літаратурнай мовы весьці ўпартую барацьбу на два фронты як з вялікадзяржаўным шовінізмам — галоўнай небясьпекай на даным этапе, які „адлюстроўвае імкненьне аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарускай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“, так і з беларускім контррэволюцыйным нацдэмократызмам, які „адлюстроўвае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“ (Сталін).

Сутнасьць вялікадзяржаўнага шовінізму і мясцовых нацыяналізмаў, так добра ахарактарызаваныя тав. Сталіным, яскрава сьцьвярджаецца на прыкладзе беларускай мовы.

Разглядаючы беларускую мову, як „наречие единого неделимого русского языка“[2]), апалёгеты вялікадзяржаўніцтва (Карскі, Воўк-Левановіч і інш.) лічылі беларускую мову няпрыгоднай для навуковых і культурных мэт. Галоўнай апорай гэтых ідэолёгаў вялікадзяржаўніцтва ў БССР зьяўляецца старое чыноўніцтва, якое, супраціўляючыся беларусізацыі, ня хоча вывучаць „мужыцкай“ беларускай мовы[3]), а калі і вывучае, дык, выходзячы з установак вялікадзяржаўнікаў, пагардліва лічыць дастатковым „дзекнуць“ і „цекнуць“, каб з кожнага расійскага сказу атрымаць беларускі. Тут бярэ пачатак бюрократызацыя беларускай літаратурнай мовы і наогул неахайнасьць, сьляды чаго знойдзем ня толькі ў „абежніках“ установаў, але, на жаль, часамі і на старонках сёнешняга савецкага друку (*унешні, слабода, справідлова,* блытаньне слоў *забарона*—„запрещение“ і *абарона*—„защита“, *дакляд* замест даклад, у фразэолёгіі: *у адносіне да данага пытаньня,*

[1]) Таксама марксысцка-ленінская лінгвістыка нямала возьме з інда-эўропеістыкі, прапусьціўшы яе спадчыну праз горан сваёй мэтодолёгіі.

[2]) Недарма гэтых „бедных“ чыноўнікаў, якіх „прымушаюць“ вывучаць беларускую мову, браў пад сваю „высокую“ абарону чорнасоценец Карскі.

[3]) Клясавая сутнасьць вялікадзяржаўніцкіх тэорый аб тым, што беларуская і „маларуская“ мовы зьяўляюцца „наречиями единого неделимого русского языка“, сьцьвярджаецца такім фактам: праца акад. Ляпунова „Единство русского языка в его наречиях“ напісана была ў выкананьне соцыяльнага заказу белагвардзейскага ўраду і надрукавана была (1919 год) у працах Камісіі па нацыянальнаму пытаньню белагвардзейскага ўраду.

*ён атрымаў прылічваючыяся яму грошы* і іншае). Безьліч такіх прыкладаў бюрократызму і неахайнасьці можна знайсьці бадай што ў кожнай кінофільме (*шлюб шкла*—у сэнсе расійскага „брак стекла"), у кожнай тэатральнай афішы і г. д.

Засьмечваючы такім чынам літаратурную мову, адрываючы яе ад жывой беларускай мовы рабочых і колгасьнікаў, вялікадзяржаўнікі прытупляюць мову як зброю клясавай барацьбы ў руках пролетарыяту.

Да той-жа мэты ідуць і нацыянал-дэмократы, толькі іншымі шляхамі. Махровы нацдэм Ластоўскі ў прадмове да Расійска-Крыўскага (беларускага) слоўніка (Коўна, 1924, ст. V) дае наступныя програмныя дырэктывы для дзейнасьці нацдэмаў у галіне мовы: „Трэба памятаць, што кожнае чужое слова, занесенае ў мову, асымілюе, зьлівае мову з суседзкай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцерагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словамі, хоць-бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў".

Выконваючы гэтую програму, нацдэмы і засьмечвалі беларускую літаратурную мову архаізмамі (асабліва ў галіне палітычна-соцыяльнай тэрміналёгіі), варожа-пагардлівымі ў адносінах да пролетарыяту словамі (пролетариат — убоства, бядота); штучнымі выдуманымі словамі (пессимизм — смутнагляд, апетит — жадаедзь; аптека — зельня), вульгарызмамі (бабнік—*бабздыр*) і шмат інш., якія проста няпрыстойна прыводзіць у друку. Затое старанна нацдэмы выганялі з слоўніка савэтызмы і ўсе словы „сходныя з суседзкімі" (чытай з расійскімі). Гэта ў галіне лексыкі. А чаго толькі ні нарабілі нацдэмы ў галіне правапісу і граматыкі. Яны змагаліся супроць усіх формаў скланеньня і спражэньня, аднолькавых з расійскімі формамі, а таксама супроць дзеяслоўных прыметнікаў, без якіх ня можа абыйсьціся ніводная літаратурная мова. Іх спасланьне ў даным пункце на архаічныя сялянскія гаворкі беларускай мовы, якія ня ведаюць гэтых формаў, нічога не давoдзіла, а наадварот, яшчэ раз сьведчыла аб тым, на што орыентаваліся нацдэмы ў справе нормаваньня літаратурнай мовы.

Выкрываючы нацдэмаўшчыну ў галіне мовы, Бабровіч, Шпілеўскі, Бандарэнка, Вольфсон і Мацюкевіч у сваім артыкуле „Навука" на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі. Мовазнаўства" (1931 г.) дапусьцілі рад перагібаў і памылак вялікадзяржаўніцкага характару, што зусім правільна было адзначана ў нашым пэрыёдычным друку і ў прыватнасьці ў ЦО КП(б)Б „Зьвязда", у артыкуле тав. Горына.

Атрымаўшы цяжкую спадчыну ад былога нацдэмаўскага кіраўніцтва, Інстытут мовазнаўства БАН перабудоўвае сваю работу, увязваючы яе з актуальнымі практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

З мэтай выкрыцьця да канца ўсіх варожых плыняў у лінгвістычнай продукцыі ў БССР (ад часу заснаваньня БССР) Інстытут Мовазнаўства склаў анотаваную бібліографію ўсіх выпушчаных у БССР прац па мовазнаўству.

Лічачы асноўным устанаўленьне ў рабоце правільнай мэтодолёгічнай лініі, Інстытут падрыхтаваў да друку зборнік артыкулаў, у якіх галоўная ўвага зьвернута на пытаньні мэтодолёгіі.

Для конкрэтнага ажыцьцяўленьня ўсёй сваёй работы Інстытут мовазнаўства БАН выкарыстоўвае рознастайныя крыніцы. У першую чаргу вывучаюцца жывыя гаворкі, да якіх Інстытут, у процілегласьць нацдэмам, падыходзіць з выразнай клясава-соцыяльнай дыфэрэнцыяцыяй, выяўляючы паасобна асаблівасьці гаворак рабочых, бяднацка-серадняцкіх мас, кулацка-шляхоцкіх груп, інтэлігенцыі і г. д. Гэтую работу Інстытут ажыцьцяўляе як шляхам экспэдыцый, так і шляхам

зьбіраньня матар'ялаў праз анкеты. З гэтаю мэтай надрукавана і разаслана па раёнах „Анкета для зьбіраньня матар'ялаў па беларускай мове“. У процілегласьць нацдэмам, Інстытут у гэтай рабоце орыентуецца не на гаворкі старых бабулек глухіх куткоў Беларусі, кулацка-шляхоцкіх засьценкаў, а ў першую чаргу на вядучыя беларускія гаворкі рабочых, колгасьнікаў і наогул бядняцка-серадняцкага сялянства. У зьбіраньні матар'ялаў па анкетах асаблівую дапамогу павінны аказаць Інстытуту краязнаўчыя організацыі. За гэты год праведзена тры навукова-дасьледчыя экспэдыцыі з мэтаю вывучэньня мовы рабочых і колгасьнікаў.

Другой важнай крыніцай работы Інстытуту зьяўляецца вывучэньне літаратурнае мовы ў шырокім сэнсе,—г. зн. мова пісьменьнікаў, газэт, дзяржаўнага апарату, якую Інстытут вывучае ў дыялектычным узаемадзеяньні з жывымі дыялектамі. І тут Інстытут вядзе тую-ж мэтодолёгічную лінію, у першую чаргу выкарыстоўваючы мову пролетарскіх пісьменьнікаў, а ў газэтах мову рабселькораў, уносячы гэты матар'ял у картатэку беларускай мовы, якая будзе пакладзена ў аснову вялізнага акадэмічнага слоўніка беларускай мовы. Сёньня-ж гэта картатэка выкарыстоўваецца для першачарговай ударнай задачы, на якую Інстытут кінуў амаль усе свае сілы—на выданьне расійска-беларускага слоўніка, разьмер якога разьлічаны на 80 друкаваных аркушоў. З студзеня месяца слоўнік часткамі пачынае здавацца ў друк і к маю месяцу павінен быць зусім скончаны. З работай па слоўніку зьвязана і работа Інстытуту ў галіне тэрміналёгіі. У даны момант друкуецца тэхнічная тэрміналёгія, якая была апрацавана Інстытутам за гэты год.

Усе вынікі досьледаў па мовазнаўству, над якімі працуе Інстытут, кладуцца і ў аснову работы па рэформе беларускага правапісу, які павінен быць лёгкім, простым, пазбаўленым вялікадзяржаўніцкіх і нацдэмаўскіх тэндэнцый, які павінен орыентавацца на вядучыя гаворкі пролетарыяту і колгаснага бядняцка-серадняцкага сялянства, улічваючы, з другога боку, прогрэсыўнасьць і географічнае пашырэньне тэй ці іншай моўнай зьявы. Работа па рэформе беларускага правапісу ў асноўным праароблена і ў бліжэйшы час будзе перадана на абгаварэньне шырокіх колаў пролетарскай грамадзкасьці. Інстытутам мовазнаўства вядзецца работа і па лініі навукова-мэтодычнай, што выяўляецца ў напісаньні рэцэнзій на падручнікі, у прыняцьці ўдзелу ў складаньні програм па мове і мовазнаўству для розных відаў школ і г. д.

Апрача таго, Інстытут мовазнаўства ўстанаўляе сувязь з шырокімі масамі працоўных, паклаўшы ў аснову сваёй работы вывучэньне гаворак рабочых, колгасьнікаў, мовы савецкага друку. Інстытут не бярэ без разбору ўсё тое, што сустракаецца ў друку і ў гаворках. Задача Інстытуту выкрываць бюрократызм у мове, адрыў ад жывых гаворак, які часта мае месца ў нашым друку, дапамагаць гістарычнаму процэсу ўзаемнага набліжэньня ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва жывой і літаратурнай мовы.

Сувязь Інстытуту мовазнаўства з шырокімі коламі пролетарскай грамадзкасьці ажыцьцяўляецца праз пастаноўку Інстытутам навукова-популярных дакладаў па мовазнаўству. У Менску і ў раёнах у часе экспэдыцый прачытана на заводах, фабрыках і ў колгасах рад такіх дакладаў, як, напрыклад, аб шкодніцтве нацдэмаў у галіне мовазнаўства, аб клясавых бойках на мовазнаўчым фронце і г. д. Выконваючы, нарэшце, нядаўнюю пастанову СНК БССР аб увязцы дзейнасьці БАН з адпаведнымі інстытуцыямі, якія вядуць паралельную работу, Інсты-

тут мовазнаўства наладжвае сувязь з Дзяржаўным выдавецтвам, з пісьменьніцкімі організацыямі, з НКА і г. д. Спрэчныя слоўнікавыя і тэрміналёгічныя пытаньні будуць у бліжэйшы час пастаўлены на абгаварэньне на шырокіх нарадах з прадстаўнікамі пісьменьніцкіх аб'яднаньняў, стыльрэдакцый Выдавецтва і газэт. Інстытут перайшоў на новыя мэтоды работы брыгаднай распрацоўкі паасобных пытаньняў.

Аднак, трэба з усёй рашучасьцю адзначыць, што ў рабоце Інстытуту маюцца і прарывы. Тэмпы работы адстаюць ад намечаных пляпаў з прычыны таго, што не разгорнута належным чынам соцспаборніцтва і ўдарніцтва, яны адстаюць з прычыны колькаснай недастатковасьці кадраў, слабой падрыхтаванасьці ў марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі асабовага складу супрацоўнікаў Інстытуту. Лінгвістычнаму фронту, як надзвычайна адсталаму, патрэбен значны па колькасьці і высокі па соцыяльнай якасьці і мэтодолёгічнай падрыхтоўцы склад маладых кадраў, а між тым рыхтуецца да сьмешнага малая колькасьць асьпірантаў—усяго дзьве асобы.

Надзвычайна слабой покуль што зьяўляецца масавая работа Інстытуту па лініі сувязі з школамі, а між тым гэты ўчастак зьяўляецца асабліва важным. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб ніжэйшай і сярэдняй школе паставіла перад адпаведнымі навуковымі інстытуцыямі пытаньне аб павышэньні роўню ведаў і па мове, у школе, аб пераглядзе програм па мове, аб пранізаньні іх элемэнтамі комуністычнага выхаваньня, аб барацьбе з усялякімі варожымі плынямі ў выкладаньні ў школе, а між тым у гэтым выкладаньні, у школьных падручніках па мове да гэтага часу панавала і пануе інда-эўропеістыка з яе формалізмам, выпаражніваючым жывы зьмест слова, панавала нацдэмаўшчына.

Да гэтага часу няма яшчэ ідэолёгічна і мэтодолёгічна вытрыманых падручнікаў па мове як для ніжэйшай і сярэдняй школ, так і для Пэдтэхнікумаў і Пэдвузаў. У гэтым значная доля віны падае і на Інстытут мовазнаўства.

Усе гэтыя задачы могуць быць выкананы Інстытутам мовазнаўства БАН пры актыўнай дапамозе і шырокім удзеле пролетарскай грамадзкасьці пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Больш увагі да мовы і да мовазнаўчага фронту! Бо „толькі пры ўмове разьвіцьця нацыянальных культур можна будзе ўцягнуць пасапраўднаму адсталыя нацыянальнасьці ў справу соцыялістычнага будаўніцтва" (Сталін).

І таму зусім правільна XIII зьезд КП(б)Б даў дырэктыву: „узмацніць работу па правядзеньню беларусізацыі і весьці бязьлітаснае змаганьне з недаацэнкай значэньня беларусізацыі, як моцнага сродку ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту".

**А. В. Фядзюшын**

# Аб сучасным стане і чарговых задачах аховы прыроды ў БССР

## I

У сучасны момант шырака разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, калі проблема сыравіны ўва ўсіх яе відах набывае асабліва вялікае значэньне, пытаньні аховы прыроды і разьвіцьця ўсіх яе натуральных крыніц набываюць ужо не аматарскі характар, які яны маюць у капіталістычных краінах. Проблема выяўленьня разьвіцьця, узбагачэньня і аховы прыродных рэсурсаў у Савецкім саюзе зараз набывае літаральна экстраны характар і мае агульнадзяржаўнае значэньне.

Рэч у тым, што адсутнасьць учоту дапускае магчымасьць безгаспадарчага зьністажэньня натуральных фондаў краіны, пагаршае ўмовы існаваньня каштоўных жывёл і расьлін і пагражае поўным зьнішчэньнем паасобных расьлінных і жывёльных генотыпаў.

З другога боку, вялізарныя прыродныя рэсурсы, якія маюцца на тэрыторыі Савецкага саюзу, толькі самым павярхоўным чынам закрануты навуковымі досьледамі, застаюцца яшчэ зусім нявыяўленымі і чакаюць больш паглыбленага дасьледваньня і ўчоту, каб быць поўнасьцю выкарыстанымі на патрэбы соцыялістычнага будаўніцтва. Усе гэтыя абставіны робяць пытаньне ўстанаўленьня ўчоту ахова прыродных багацьцяў асабліва актуальнымі.

У бліжэйшы час (май 1932 году) павінен адчыніцца І-ы Ўсесаюзны зьезд па *ахове прыроды і разьвіцьцю прыродных багацьцяў СССР.* Зьезд гэты ставіць галоўнаю сваёю задачаю „разрешение проблемы по органической увязке задач народного хозяйства с задачами охраны, развития и использования природных богатств"... Гэта гаворыць аб яго прынцыпова іншай устаноўцы, чымся тая, што дагэтуль разумелася пад аховаю прыроды. Зараз *ня толькі ахова прыроды, але „і разьвіцьцё і выкарыстаньне прыродных багацьцяў"*...

Трэба прызнаць, што сапраўды пытаньне ахова прыроды раней насіла даволі абстрактны характар і часта ня мела выразных, практычна важных і зразумелых установак і таму не магло цікавіць масы і ня мела посьпеху [1]) і грамадзкага значэньня. Ахоўваньне прыроды дзеля самой прыроды, без абавязковага пры гэтым практычнага сэнсу, надавала гэтаму пытаньню, паводле выразу некаторых, нейкі „тэлеолёгічны" характар.

З гэтага пункту погляду програма, намечаная І-м Усесаюзным зьездам, заслугоўвае вялікай увагі, бо яна рэзка адрозьніваецца ад

---

[1]) Аб апошнім сьведчыць хаця-б тое, што т-ва „ахова прыроды" ў краіне з 150 млн насельніцтвам налічвала толькі каля 2.000 сяброў.

праграмы І-га Ўсерасійскага зьезду тым, што цяпер надаецца ахове прыроды выключна *вытворчы зьмест*.

Перш чым застанавіцца на тым, што ўжо зроблена ў БССР у галіне аховы прыроды, неабходна напомніць аб тэй выключна адмоўнай і разбураючай ролі, якую адыграла на тэрыторыі Савецкай Беларусі імпэрыялістычная вайна і часы нямецкай і белапольскай окупацый, аб тых бязьлічных стратах і зьністажэньнях прыродных рэсурсаў краіны, якія былі выкліканы вайною. Дазволім сабе напомніць толькі аб суцэльным зьнішчэньні буйнейшых лясных масываў, аб зьнішчэньні каштоўнейшых прадстаўнікоў буйных жывёл, прычым зьністажэньне апошняга зубра ў Белавежы зьяўляецца стратай віду, г. зн. на практыцы—абсолютнай стратай [1]).

Таму зараз-жа пасьля сканчэньня вайны і ўзьнікненьня савецкае ўлады патрабавалася і інвэнтарызацыя прыродных рэсурсаў, у прыватнасьці і ў галіне фаўны. На гэты бок зьвярнула між іншым увагу Катэдра заолёгіі Бел. Дзярж. Унівэрсытэту, а пасьля і Беларуская Акадэмія Навук. Радам экспэдыцый (у 1924/25 г. у Віцебшчыну і на Дняпро; 1926 г. ва ўсходнюю частку БССР—Магілеўшчыну і Клімавіцкую акругу; у 1927 г.—у Тураўскае Палесьсе і па Прыпяці; у 1929 г.—у Гомельшчыну і Аршаншчыну і ў 1930 г. у Рэчыцкае Палесьсе), а таксама шляхам анкетнага дасьледваньня ўсіх лясьніцтваў былі сабраны, зафіксаваны і апублікаваны даволі поўныя даныя аб прыблізным колькасным стане і географічным распаўсюджваньні ўсіх галоўных відаў прамысловае і паляўнічае фаўны [2]). Гэтымі працамі быў упяршыню замацаваны адпраўны пункт для далейшых досьледаў мясцовай прамысловай фаўны. Можна напэўна сказаць, што калі-б савецкім урадам ня было прынята раду мерапрыемстваў па ахове некаторых паляўнічых відаў, некаторыя з іх сёньня ўжо не існавалі-б на тэрыторыі БССР. Такімі ў першую чаргу мы лічым—лася, бабра, дзікую казу, выдру, куніцу, дзіка (кабана), мядзьведзя, а з птушак глушца.

Ужо першыя экспэдыцыі давялі неабходнасьць заснаваньня *запаведнікаў*, у якіх шляхам поўнае забароны паляваньня і дастатковае аховы каштоўныя прадстаўнікі зьвярыны маглі-б спакойна распладжвацца і папаўняць значна вынішчаныя свае запасы. Пастановаю СНК БССР ад 30/I-1925 году быў зацьверджаны першы Беларускі Дзяржаўны Запаведнік у Барысаўскім раёне на верхняй плыні ракі Бярэзіны, агульнаю плошчаю каля 70.000 га. Неабходная комбінацыя прыродных умоў, аграмадная плошча і малая заселенасьць—забясьпечвае тут дастатак і разнастайнасьць харчоў, а таксама спакой, які патрэбны для размнажэньня дзічыны. Можна сьмела сказаць, што Бярэзінскі запаведнік ня толькі ў БССР, але і ў СССР—адзінае месца, дзе ёсьць такая комбінацыя фаўны, як там. Галоўная каштоўнасьць запаведніку ў тым, што тут захавалася адна з найбуйнейшых у Савецкім саюзе калёній баброў—гэтых вельмі цікавых з пункту погляду футровай прамысловасьці і амаль паўсюды ўжо вынішчаных рэдкіх грызуноў. Адрадзіць і рэакліматызаваць іх ва многіх тых мясцох, дзе яны жылі некалькі стагодзьзяў таму назад—зьяўляецца чарговай задачай

[1]) Спроба адрадзіць зубра шляхам штучнага падтрыманьня тых некалькіх дзесяткаў адзінак (каля 60—70), якія маюцца ў Германіі, Аўстрыі, Польшчы—мала пакідаюць на гэта надзеі.

[2]) Гл. аб гэтым: А. Федюшин—„Динамика и географические распространения охотничьей фауны БССР" 1928 г. Изд. Белохотсоюза, Минск, а таксама рад экспэдыцыйных справаздач у „Матар'ялах да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі" (т. I—VII. Выд. БАН).

навуковых і адпаведнагаспадарчых організацый, бо, як паказвае практыка Канады, гэта ня толькі магчыма, але і можа даць значны экономічны эфэкт.

Ня гледзячы на тое, што ў запаведніку было многа непаладак, што і ахова каштоўнай фаўны там была не на вышыні, усё-ж такі за пяць год існаваньня запаведніку мы маем бязумоўны прырост колькасьці баброў. Так, паводле даных падліку іх у 1925 г. [1]), усяго налічвалася каля 22 жылых хатак, а к 1931 году іх там было ўжо 35 хат і 2 нары (жылых), і па апошнім дадзеным на 1/I-1932 жылых хат зарэгістравана ўжо 44. Але гэтыя лічбы няпоўныя і не паказваюць усяго прыплоду колёніі. Справа ў тым, што ўлічваецца толькі, так сказаць, ушчыльнёнасьць бабровых паселішчаў на тэрыторыі самога запаведніку, а, між тым, пэўная частка іх штогодна расьсяляецца па-за межамі апошняга, як аб гэтым сьведчыць зьяўленьне за гэтыя гады новых паселішчаў бабра ў аколіцах самога г. Барысава, пранікненьне іх у Лепельскі раён, распаўсюджаньне па р. Гайне (прыток Бярэзіны) і г. д. Уся гэтая маса, дагэтуль дакладна ня ўлічаная ў якасьці пэўнага рэзэрвату і рассадніку гэтых жывёлін—бясспрэчна і зусім відавочна. Такім чынам, запаведнік ужо адыгрывае сваю станоўчую ў гэтай важнай справе ролю і ў будучым будзе мець яшчэ большае значэньне, паколькі ў мясцовых запасах бабра гэтак зацікаўлены многія іншыя рэзэрваты (Хібінскі на Мурмане, Табольскі на Паўночным Урале, Бельскі ў Смаленскай губ. і інш.), якія таксама ставяць сабе задачу рэакліматызацыі або аднаўленьня ўласных генотыпаў бабра (на Паўн. Урале) за кошт беларускіх.

Апрача бабра ў запаведніку захаваўся найбольш поўны склад усяе самае каштоўнае паляўнічае і прамысловае фаўны ня толькі БССР, але і ўсяе заходняй і паўночна-заходняй Эўропейскай часткі Савецкага саюзу, пачынаючы ад двух відаў зайца і ваверкі і канчаючы лосем, мядзьведзем, рысьсю, куніцай норкаю, выдраю, дзікам і казулямі—сярод зьвяроў, і ад усякіх парод качак і куліноў, арабка, пардвы, цецярукоў і глушца—сярод птушак. Усе гэтыя віды маюць бясспрэчна важнае прамысловае і паляўнічае значэньне, і таму садзейнічаньне найлепшаму захаваньню і размнажэньню (за выключэньнем двух драпежнікаў—рысі і ваўка, якія не павінны карыстацца аховаю пакуль што нават і ў запаведніку) ёсьць чыста практычныя гаспадарчыя задачы. Не закранаючы той вельмі важнай навукова-дасьледчай ролі, якую запаведнік можа і павінен адыгрываць у справе вывучэньня і дасьледваньня прыроды, і дзе патрабуецца працяжная шматгадовая практыка і назіраньні, магчымыя толькі ў запаведніку, дзе адсутнічае гаспадарчы ўплыў чалавека—на пэўных, наўмысьля для гэтай мэты выдзеленых участках незакранутай прыроды, трэба падкрэсьліць тое, што ў запаведніку навукова-дасьледчая работа ўжо намечана, і там зараз вядзецца організацыя біолёгічнае станцыі і адпаведнае лябораторыі, прычым плянаваньне гэтае работы будзе таксама падпарадкавана Акадэміі Навук.

Надзвычайна важным мерапрыемствам у мэтах аховы і садзейнічаньня размнажэньню паляўнічай фаўны зьяўляецца організацыя сеці *заказьнікаў*, якіх у апошні момант у БССР ужо налічваецца 67, з агульнаю плошчаю ў 239.000 га.

[1]) Гл. аб гэтым: А. В. Фядзюшын—„Да біолёгіі і распаўсюджаньня бабра ў БССР“. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Беларусі, т. II 1928 і А. В. Федюшин„—О современном распространении бобра в Белоруссии“. Бюл. Москов. О-ва Института Природы. 1926. Москва.

Аднак, гэта заказная плошча складае менш як 10 проц. агульнай плошчы ўгодзьдзяў і, такім чынам, зьяўляецца далёка недастатковай. Нормальнаю заказнаю плошчай у паляўнічай гаспадарцы лічыцца ня менш 20—30 проц. тэрыторыі, на якой утвараецца здабыча дзічыны. На жаль, трэба адзначыць, што нярэдка ўтвораныя заказьнікі застаюцца толькі на паперы, дзякуючы недастатковай ахове там здараецца браканьерства, а бываюць выпадкі, калі аховаю ў заказьніку карыстаюцца ня толькі карысныя віды зьвярыны, але і ваўкі.

Адсюль ясна, што мала вызначыць заказьнік, але неабходна арганізаваць у ім справу так, каб сапраўды заказьнікі выконвалі сваё прызначэньне. У радзе мерапрыемстваў, якія спрыяюць ня толькі ахове паляўнічых рэсурсаў, але і іх узбагачэньню, неабходна адзначыць таксама адмаўленьне ў БССР (як і ў УССР) ужо на працягу 4-х год (за выключэньнем апошняга 1931, калі паляваньне, на жаль, зноў было адкрыта вясною ў часе размнажэньня дзічы), ад веснавога паляваньня, вельмі шкоднага для паляўнічай гаспадаркі, паколькі паляваньне гэтае адбываецца па ўсёй тэрыторыі і бяз уліку мясцовых асаблівасьцяў у кожным даным выпадку.

Затым выданая пастанова Саюзу Паляўнічых аб забароне адстрэлу матак-цяцёрак і скарачэньне тэрмінаў паляваньня, як і поўная забарона паляваньня на некаторыя віды, — усё гэта мерапрыемствы, якія накіраваны на ахову паляўнічых рэсурсаў і на затрыманьне шпаркага іх зьнішчэньня.

Вось сьпіс відаў, на якія на тэрыторыі БССР забаронена паляваньне зусім або часова:

*I. Віды, якія знаходзяцца пад поўнай аховай:*

1. Лось.
2. Бабёр.
3. Дікая каза.
4. Драфа.
5. Форэль (стронга пярэстая, „пестрюга"—рыба).

*II. Віды, якія знаходзяцца пад аховай умоўна і часткова:*

1. Мядзьведзь.
2. Дзік.

*III. Віды, якія знаходзяцца пад часовай аховай:*

1. Выдра.
2. Куніца.
3. Вавёрка [2]).
4. Шэрая курапатка.

Дзякуючы паказаным вышэй мерапрыемствам (хоць толькі пасыўным), усе пералічаныя тут віды ня толькі яшчэ захаваліся сярод мясцовай фаўны, але некаторыя ўжо могуць часткова паступіць у эксплёатацыю (напр., дзікая каза, дзік, глушэц), праўда, далека яшчэ

[1]) Так у гэтым годзе НКЗ дазволена абстраляць 150 дзікоў на працягу сьнежня і паловы студзеня, з паказаньнем пры гэтым раёнаў, у якіх і колькі абстрэльваецца штук.

[2]) Паляваньне на вавёрку ў 1932 зноў адчынена.

не па ўсёй тэрыторыі рэспублікі і толькі ў сурова-абмежаваным ліку і ў паасобных лесапрамгасах[1]). Такім чынам, у галіне *аховы паляўнічае фаўны БССР мае бясспрэчныя дасягненьні.* Але дагэтуль уся наша дзейнасьць абмяжоўвалася толькі пасыўнымі (экстэнсыўнымі) мерапрыемствамі, і спыняцца на гэтым нельга, бо без разьвіцьця інтэнсыўных паляўнічых гаспадарак, без *разьвядзеньня* дзічыны і зьвера мы ніколі ня зможам падняць гэтую галіну гаспадаркі так, каб зрабіць яе высока таварнаю. Асабліва гэта датычыцца нашых пушных фондаў, цесна зьвязаных з лясною гаспадаркаю, да агляду стану якой, з пункту погляду аховы і разьвіцьця лясных фондаў краіны, і пераходжу.

Лес у БССР—гэта адна з галоўнейшых крыніц індустрыялізацыі; таму зусім ясна, што на лясную гаспадарку, на *разьвіцьцё і ахову* лясных фондаў у нас павінна быць зьвернута максымальная ўвага. Пры сучасным плянавым вядзеньні лясной гаспадаркі, намечана па пляну штогод аднаўляць шляхам штучных насадкаў у два разы больш, чым высякаецца. Між тым, паводле даных Лесбелу, у апошні год аблесена недапушчальна малая частка намечанага пляну. Паколькі мы ня можам зьменшыць тэмпаў вырубак, бо гэта значыла-б затармазіць шпаркае разьвіцьцё індустрыялізацыі краіны — зусім ясна, што тут выхад адзіны: — гэта максымальна павялічыць штучнае лесааднаўленьне. І вось тут-та ў нас, бязумоўна, ёсьць недаацэнка гэтага мерапрыемства, і належным органам неабходна на гэта зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Гаворачы аб лесааднаўленьні і штучных дрэвастанах, неабходна паказаць на магчымасьць у нас разьвядзеньня некаторых гаспадарча-каштоўных іназемных дрэў, якія цалкам акліматызаваліся ў БССР і прыносілі дасьпелыя плады на працягу многіх гадоў у былых панскіх парках. Такіх экзотычных дрэў захавалася многа парод, і загэтым патрэбна гэтыя запасы каштоўных дрэў узяць на ўчот і пад ахову, з тым, каб стварыць пэўны насенны генфонд каштоўных парод, — гэта таксама чарговая задача нашых гаспадарчых і краязнаўчых організацый. Мы ведаем, што часта гэтыя паркавыя дрэвастаны ня маюць ніякага догляду, травяцца скацінай і высякаюцца. Такім чынам, і ў гэтым кірунку справа аховы каштоўных прыродных рэсурсаў у нас не на вышыні. Тое-ж самае прыходзіцца зазначыць, калі гаварыць аб стане зялёных дрэвастанаў нашых гарадоў. Можна было-б прывесьці рад прыкладаў самых недапушчальных адносін да гарадзкіх паркаў, садоў, сквэраў — гэтых „лёгкіх гораду", калі ня толькі асобныя дрэвы высякаюцца, але калі зьнішчаюцца цэлыя плошчы садоў. Яшчэ і цяпер шмат на якіх вуліцах, нават у Менску, можна бачыць, як пасьвіцца скаціна, прычым, асабліва шкодзяць маладыя дрэвы ў садох і на вуліцах козы. Нядаўняя пастанова СНК аб ператварэньні Менску ва ўзорную сталіцу БССР, між іншым, сурова забараняе далейшую вырубку і зьнішчэньне ў мяжы гораду дрэў, і трэба спадзявацца, што справа з аховаю гарадзкіх зялёных дрэвастанаў цяпер палепшыцца. Комгас-жа з свайго боку павінен таксама сурова забараніць пасьбу коз на вуліцах, асабліва бяз прывязі і догляду.

Можна-б было яшчэ затрымацца на некаторых пытаньнях, якія зьвязаны з аховаю тых ці іншых прыродных багацьцяў, але ўсе яны, як, напр., ахова рыбных запасаў (забарона дробна-ячэйкавых сетак, устанаўленьне тэрмінаў для лову, забарона „язоў"—суцэльных перага-

[1]) НКЗ БССР у гэтым годзе выданы дазвол на адстрэл 150 дзікоў у паасобных раёнах.

родак у рэчках) і г. д. маюць той-жа характар, як і ў паляўнічай гаспадарцы; усё гэта абмяжоўваецца пасыўнымі мерапрыемствамі, якія ня могуць ні разьвіць, ні ўзбагаціць гэтыя натуральныя фонды, а здольны толькі затрымаць паступовае іх зьбядненьне. І толькі тыя мерапрыемствы, якія зьвязаны са штучным разьвядзеньнем, напр., той-жа рыбы, што зараз пачынае ўсё больш і больш займаць месца ў БССР,—змогуць шпарка і грунтоўна зьмяніць іх ролю і цалкам забясьпечыць растучыя патрэбы насельніцтва.

Гаворачы аб ахове прыроды, нельга забываць і аб ахове г. званых „помнікаў прыроды". Тое, аб чым ішла дагэтуль гутарка (лясныя багацьці і паляўнічая прамысловая фаўна і г. д.), не зьяўляецца помнікамі прыроды, а яе вытворчымі рэсурсамі, якімі мы карыстаемся і павінны карыстацца і надалей, для чаго і патрэбна рацыянальнае выдаткаваньне, разьвіцьцё і ахова іх.

Але на тэрыторыі БССР ёсьць і сапраўдныя помнікі прыроды, якія непасрэдна ня маюць гаспадарчага значэньня, а тым ня менш яны важны з пункту погляду навуковага, бо многія з іх зьяўляюцца або рэліктавымі (рэшткамі ад мінулых геолёгічных часоў) формамі, якія ў большай частцы свайго былога арэалю ўжо зьніклі, або ўяўляюць сабою ўчасткі такіх прыродных асаблівасьцяў, якія могуць даць уяўленьне аб даўнім мінулым мясцовага ляндшафту. Прыкладамі падобных помнікаў прыроды ў БССР могуць лічыцца, скажам, паасобныя *буйныя валуны* фінляндзкага граніту ці ўчасткі добра выяўленай морэннай грады і озы і паасобныя *морэнныя вазёры* (паўн. часткі БССР), астраўкі грабу (расьліна, якая раней была пашырана далей чым зараз на паўночны ўсход) сярод яловых дрэвастанаў на Меншчыне і на поўнач ад мяжы суцэльнага яго пашырэньня; паасобныя віды расьлін і жывёл, як, напрыклад, рододэндрон—Asalia pontica, якія паасобнымі латкамі захаваліся ў Мазырскім (б. Ветчынскім лясьніцтве) і Валынскім палесьсі; *вадзяны арэх*—Trapa natans, які ў бронзавым веку яшчэ быў пашыраны аж да Швэцыі ўключна, а цяпер сустракаецца толькі значна больш на поўдзень, у БССР, напрыклад, толькі ў палескай частцы; *вадзяная папараць*—Salvinia natans, якая дзе-ні-дзе яшчэ сустракаецца па затокам некаторых палескіх рэчак (напр., па р. Церасіце). З жывёл права на годнасьць помнікаў прыроды ў БССР набылі: *лось, дзікі кот* (калі яшчэ дзе захаваліся адзінкі гэтага віду, экзэмпляр якога, аднак, быў здабыты яшчэ ў 1928 г. ў Барысаўшчыне[1]), сюды-ж павінны быць аднесены і бабёр, а з птушак—*палярная гагара* (Colymbus arcticus), якая вельмі рэдка дзе-ні-дзе яшчэ выводзіцца ў БССР (напрыклад, на Пастрэжаскім возеры ў запаведніку), *аўдотка* („палявы кулік") (Oedicnemus oedicnemus), *драхва* (Otis tarda), *бэркут* (калі ён дзе-небудзь яшчэ гняздуе тут); *шэры гусь* (Anser anser), адзіныя пары якога і ў лічаных месцах быццам гняздуюць у БССР. Помнікамі, ужо ў праўдзівым сэнсе гэтага слова, павінны лічыцца выкапнёвыя адклады расьліны і жывёлы, якія некалісь насялялі даную мясцовасьць. З такіх мясц укажам хаця-б на адклады міжледавіковых (рыс-вюрмскіх) тарфовішчаў у ваколіцах вёскі Мурава на Бярэзіне, каля гораду Копыся і інш., дзе ў вялікай колькасьці знаходзяцца рэшткі такіх цёплалюбавых расьлін, як Brasenia purpurea (якая зараз расьце ў паўднёвым Кітаі, Індыі, Аўстраліі) і інш.

---

[1]) Фігура (чучала) гэтага экзэмпляру захоўваецца ў Зоолёгічным Музэі БАН. Больш падрабязныя даныя гл. у маім артыкуле: А. Фядзюшын—„Новыя даныя аб дзікім каце (Felis catus) у БССР". Мат. да вывуч. флёры і фаўны БССР т. VI, 1929 г.

Вось гэтыя сапраўдныя помнікі прыроды, якія часам непасрэдна ня маюць гаспадарчай каштоўнасьці (за выключэньнем паасобных жывёл і расьлін, якія могуць з дапамогаю чалавека быць адноўлены і размножаны і пасьля таго зноў уцягнуты ў эксплёатацыю), мы яшчэ як трэба не дасьледвалі, ня маем іх учоту, апісаньняў і не пасьпелі папулярызаваць і растлумачыць выключную каштоўнасьць гэтых сьведкаў геолёгічнага мінулага нашай плянэты, якія адны толькі змогуць расказаць нам гісторыю мясцовага геоляндшафту.

Заканчваючы агляд сучаснага стану аховы прыроды ў БССР, неабходна зьвярнуць увагу яшчэ на дзьве вельмі важныя абставіны.

Па-першае, гэта на адсутнасьць у нас якога-б то ні было адміністрацыйнага органу па ахове прыроды і, па-другое, — на адсутнасьць якіх-бы то ні было грамадзкіх арганізацый у гэтай-жа галіне, калі ня лічыць некалькіх школьных гурткоў, аб існаваньні якіх мала хто ведае.

II

Ужо папярэдні агляд таго, што зроблена ў гэтым кірунку ў нас, і таго, чаго яшчэ не хапае да поўнага дасягненьня мэты, падкрэсьлівае тыя чарговыя заданьні, якія ставяцца самім жыцьцём і перад кіруючымі ўстановамі, і перад навукова-дасьледчымі і краязнаўчымі ўстановамі, і перад савецкай грамадзкасьцю; у адпаведнасьці з гэтым увесь плян работы ў галіне аховы прыроды і разьвіцьця яе багацьцяў можа быць пабудаваны паводле наступнай схемы.

Работа павінна быць разгорнута і весьціся ў кірунках:
1) Арганізацыйным.
2) Навукова-дасьледчым.
3) Культурна-асьветным (прапаганда і папулярызацыя).
4) Грамадзкім (масавым).
5) Гаспадарчым.

Разглядзім па парадку пэрспэктыўную работу па ахове прыроды ўва ўсіх гэтых кірунках.

### Па галіне арганізацыйнай.

Перш за ўсё неабходна стварыць *асобны кіруючы дзяржаўны орган,* які-б ведаў справамі аховы прыроды, плянаваў-бы работу ў гэтым кірунку, контраляваў дзейнасьць гаспадарчых установаў, якія займаюцца эксплёатацыяй прыродных рэсурсаў краіны, у тым, як яны клапоцяцца аб разьвіцьці і ўзбагачэньні апошніх. Гэты адміністрацыйны орган, у мэтах большай самастойнасьці і аўторытэтнасьці, а таксама ў зьвязку з тым, што яму прыдзецца ўзгадніць інтарэсы раду ведамстваў, павінен быць міжведамсьцьвеным, існаваць, напрыклад, пры СНК [1]).

У склад функцый гэтага дзяржаўнага органу па ахове прыроды павінна ўваходзіць: а) плянаваньне і накіроўваньне работы навукова-дасьледчых установаў па ўчоту і выяўленьню об'ектаў прыроды, якія патрабуюць аховы іх, абагачэньня і разьвіцьця;

в) разгляд і абгаварэньне ўсіх пытаньняў аб адчыненьні ў БССР запаведнікаў і заказьнікаў, зоопаркаў, акліматызацыйных участкаў і садоў, абвяшчэньне ахоўнымі паркаў, садоў і іншых штучных зямельных дрэвастанаў, якія маюць гаспадарчую, навуковую ці санітарную каштоўнасьць.

---

[1]) Палажэньне аб Дзярж. Камітэце па ахове прыроды ўжо распрацоўваецца пры НКА БССР.

г) зьдзяйсьненьне контролю над станам і дзейнасьцю запаведнікаў, з пункту погляду дасягненьня пастаўленых імі перад сабою мэт;

д) разгляд і дача для вышэйшых устаноў рэспублікі заключэньняў па пытаньням, зьвязаным з эксплёатацыяй выкапнёвых, лясных, зямельных і водных багацьцяў, а таксама па пытаньням паляўніцтва і рыбалоўлі з пункту погляду аховы, рацыянальнага выкарыстоўваньня разьвіцьця і ўзбагачэньня адпаведных прыродных фондаў краіны;

е) дача заключэньняў адпаведным установам па пытаньням зооэкспорту, зоомінімуму і акліматызацыі новых відаў расьлін ці жывёл;

ж) абгаварэньне і рэгуляваньне пытаньняў па правядзеньні прапаганды аховы прыроды;

з) устанаўленьне сувязі з установамі, якія ведаюць справамі аховы прыроды ў саюзных рэспубліках, з мэтаю каардынацыі работы ва ўсесаюзным маштабе і г. д.

Як можна бачыць з паказаных функцый Дзярж. Камітэту, склад яго павінен быць даволі шырокім і апрача прадстаўнікоў ад адпаведных гаспадарчых устаноў Наркамасьветы, Горсавету, Комунгаспадаркі, сюды павінны ўваходзіць прадстаўнікі ад ЦБ Краязнаўства, Акадэміі Навук, ад профэсіянальных організацый (Саюзу Рабземлесу і Саюзу Паляўнічых, С. Асьветы) і рад вучоных спэцыялістаў (агроботанікі, зоолёгі-фаўністы, лесаводы, геолёгі, паляўніцтваведы, рыбаводы), а таксама прадстаўнікі ад рабочых організацый і колгассаюзу.

Для сувязі з раёнамі ў кожным з іх пры РВК організоўваюцца *раённыя камісіі па ахове* прыроды і садзейнічаньні разьвіцьцю вытворчых яе рэсурсаў. У склад апошніх камісій павінны ўвайсьці як прадстаўнікі ад нарасьветы, райкалгассаюзу, раён. саюзу паляўнічых, так і ад раён. бюро краязнаўства і ад навуковых працаўнікоў у тых мясцох, дзе ёсьць навуковыя ўстановы. Для консультацыі райкамісіі могуць запрашаць паасобных спэцыялістаў у залежнасьці ад складанасьці пытаньня.

Раённыя камісіі таксама павінны сачыць за рацыянальным выкарыстоўваньнем прыродных багацьцяў, абгаварваць і прымаць неабходныя меры для палепшаньня справы аховы прыроды і разьвіцьця яе вытворчых рэсурсаў.

Яны-ж павінны намячаць і высоўваць пытаньні аб ахове і разьвіцьці мясцовых прыродных фондаў, праводзіць іх абсьледваньне, і агляд і г. д.

Апрача таго, райкамісіі павінны сачыць за выкананьнем пастаноў урадавых і дзярж. камітэтаў аб ахове прыроды, даводзячы да ведама апошняга аб усіх выпадках парушэньня гэтых пастаноў.

Зразумела, што толькі стварэньнем спэцыяльных цэнтральных і раённых органаў па кіраваньню і плянаваньню пытаньняў, зьвязаных з задачамі аховы прыроды, апошняя справа набудзе належнае месца ў агульнай сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва і ня будзе праводзіцца тым саматужным шляхам, як гэта мела месца дагэтуль [1]).

## Па галіне навукова-дасьледчай

Перш за ўсё адзначым, што ў даным кірунку могуць і павінны праводзіць работу многія навукова-дасьледчыя ўстановы, дзейнасьць якіх і тэматыка так ці інакш зьвязана з вывучэньнем і выкарыстоў-

[1]) Утвораныя два разы камісіі па ахове помнікаў старасьветчыны і ў тым ліку прыроды пры былым нацдэм. кір. у НКА ніякай работы разгарнуць па лініі аховы прыроды не змаглі і ня мелі ніякага аўторытэту.

ваньнем мясцовых прыродных рэсурсаў. Значыць, ня толькі, скажам, Інстытут біолёгічных навук Акадэміі або Біолёгічная станцыя запаведніка, але і рад зональных дасьледчых станцый НКЗ, Белрыбы, прыродазнаўчыя катэдры ВУЗ'аў, у якіх вядзецца дасьледчая работа, краязнаўчыя музэі, Балотная станцыя, Ботанічны сад і г. д.—могуць многа зрабіць для выяўленьня і вывучэньня тых ці іншых прыродных об'ектаў, якія, быць можа, патрабуюць аховы ці разьвядзеньня, ці скарыстаньня больш мэтазгодна, чым было дагэтуль. У агульным-жа навукова-дасьледчая работа павінна быць накіравана на:

а) выяўленьне і вывучэньне вытворчых сіл прыроды ў мэтах павялічэньня іх, дзе трэба—аховы і правільнага скарыстаньня;

б) выяўленьне і апісаньне ў мэтах папулярызацыі (з паказаньнем навуковай каштоўнасьці) помнікаў прыроды;

в) распрацоўку мэтодыкі ўчоту вытворчых сіл прыроды, напрыклад—мэтодыкі біоўчоту (запасу) карысных прамысловых відаў, напрыклад, ваверкі, рыбы і інш.;

г) распрацоўку біолёгічных падстаў для ўстанаўленьня правіл для паляваньня і дапушчальных нормаў адстрэлу ў паляўнічых гаспадарках па таму ці іншаму віду;

д) высьвятленьне экономічнага значэньня тых ці іншых дзікіх відаў жывёл (напрыклад, некаторых драпежнікаў—ліса, тхара, птушак і інш.) у розных раёнах і розных умовах і ўстанаўленьне, у выніку гэтага, адпаведных адносін да гэтых відаў;

е) распрацоўку мэтодаў і тэхнікі аховы прыроды;

ж) вывучэньне біолёгіі і эколёгіі зьнікаючых карысных відаў у мэтах стварэньня неабходных умоў для больш пасьпяховага іх размножваньня;

з) распрацоўку мерапрыемстваў па ўвязцы і плянаваньню аховы карысных відаў з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва;

і) організацыю ў запаведніках стацыянарных і працяжных дасьледаў па вывучэньню дынамікі біоцэнозаў пад уплывам розных умоў—натуральных і штучных (напрыклад, роля пажараў, асушкі, вырубкі, выкашваньня, выпасу, агароджваньня, аховы, адстрэлу драпежнікаў, адстрэлу старых самцоў, стварэньне ўмоў поўнай запаведнасьці ў формаваньні біоцэнозаў і г. д.);

к) дасьледваньне і апісаньне прыроды ў запаведніках пры ўтварэньні апошніх, статычныя і пэрыодычныя—у далейшым, з мэтаю вывучэньня дынамікі прыродных комплексаў і стану паасобных відаў, узятых на ўчот, і г. д. і цэлы рад іншых пытаньняў і цікавых проблем можа быць высунуты для навукова-дасьледчай думкі ў гэтай галіне.

Надзвычайна шырокі плян работы можна намеціць па лініі ўвязкі задач аховы прыроды (і разьвіцьця і ўзбагачэньня яе вытворчых сіл) з гаспадарчымі проблемамі. З іх мы пакажам толькі для прыкладу на некаторыя, якія нам здаюцца найбольш цікавымі і актуальнымі.

З ліку апошніх пытаньняў адно з найбольш важных месц павінна заняць наша лясная гаспадарка, асабліва пытаньні аб значным павялічэньні лясных пасадак і засеваў, аб увядзеньні ў нашы лясы новых дрэўных асортымэнтаў, аб захаваньні ўчасткаў натуральных тыпаў лесу, аб зьнішчэньні ў лесе пасьбы,—гэтага галоўнага біча і тормазу для натуральнага лесааднаўленьня.

У галіне расьлінагадоўлі неабходна правесьці ўчот і ахову насенных фондаў новых відаў расьлін, якія акліматызаваліся ў БССР, і заняцца спробамі ўвядзеньня новых відаў карысных расьлін, зьвяр-

нуць увагу на стан каштоўных мясцовых пладовых парод, якія без аховы і далейшага разьвядзеньня могуць пагаршацца і зьдзічэць (напрыклад, слуцкая бэра).

Ня мала важных і цікавых пытаньняў, зьвязаных з аховаю прыроды і ўзбагачэньнем яе вытворчых рэсурсаў, можна намеціць у галіне паляўнічай гаспадаркі. Так, тут неабходна вырашыць проблему ня толькі аб ахове бабра, але і аб яго разьвядзеньні, аб яго рэаклімат ызацыі ў тых мясцовасьцях, у якіх ён ужо вынішчаны. Разам з тым, тут паўстае і найцікавейшая работа для генэтыкаў — над атрыманьнем цёмна-афарбаванай расы бабра. Так-жа стаіць пытаньне і аб лёсе лася, які яшчэ можа быць у нас размножаны і можа паслужыць для прамысловых і паляўнічых мэт, а таксама і для зооэкспорту. Варта ўчыніць спробу па завозу некаторых новых відаў паляўнічай фаўны, напрыклад, некаторых аленяў — даніэля, плямістага і паўночнага [1]). З пушных відаў цікава зрабіць спробу разьвядзеньня ў БССР у некаторых вадазбораў выхухалі. Заслугоўвае ўвагі пытаньне аб завозе і разьвядзеньні ў нас дзікіх індзеек, якія больш трывалыя, чым, напрыклад, фазаны.

Вельмі важным пытаньнем зьяўляецца ахова і садзейнічаньне размнажэньню многіх мясцовых відаў паляўнічай фаўны, з іх дзікая казуля, напрыклад, патрабуе ня толькі аховы ад паляўнічых-браконьераў, якою яна ў нас карыстаецца, але і аховы ад ваўка. Як паказалі нашы апошнія досьледы ў Рэчыцкім Палесьсі ў 17 дасьледваных там лясьніцтвах, лік дзікіх казуль аказаўся адваротна-пропорцыянальным ліку воўчых вывадкаў у кожным з лясьніцтваў і хістаўся ад адзінак да ста і больш на лясьніцтва. Тэорытычны разьлік, зроблены на падставе даных аб біолёгіі дзікай казулі, яскрава паказвае, што, каб ня гінулі казулі ад ваўкоў, асабліва ў зімовы пэрыод, дык ужо цяпер іх было-б амаль столькі, што можна было-б пачаць правільнае яе здабываньне ва многіх леспрамгасах.

Такія пытаньні, як учот, ахова, вывучэньне біолёгіі паляўнічых і прамысловых відаў, утварэньне паляўнічых рэзэрваў, барацьба са шкоднымі драпежнікамі—усе яны цесна ўвязаны з проблемамі аховы прыроды і разам з тым маюць чыста гаспадарчае значэньне. Пытаньні аховы прыроды асабліва цесна ўвязаны з проблемаю ўраджаю, паколькі датычацца, напрыклад, аховы лясоў, якія маюць уплыў на мясцовы клімат (даволі ўспомніць, напрыклад, лёс такое краіны, як Мэсопотамія, якая пасьля зьнішчэньня лясоў пертварылася з найурадлівейшай краіны ў пустыню, або паказаць на мерапрыемствы па аблясеньню пяшчаных пустынь у Ніжнім Заваложжы, якія проектуюцца для правядзеньня на агромных плошчах, у мэтах барацьбы з усходнімі сухавеямі, якія часта нішчаць пасевы ў значнай частцы прыволскіх акруг), або аховы карысных відаў птушак і сысуноў, якія зьяўляюцца выдатнымі саюзьнікамі чалавека ў яго барацьбе за ўраджай з бязьлічнымі шкоднікамі, якія зьнішчаюць большую частку, а то і цалкам ураджай. У гэтым кірунку намячаецца вельмі вялікая і цікавая работа, і ня толькі па ахове карысных відаў птушак, але і па прыцягненьню іх у нашы сады, паркі, гароды, лясы, бо гэта, як аказваецца, найбольш танны і дзейны сродак у барацьбе з шкоднікамі ўсякага роду сельска-гаспадарчых расьлін. Даволі напомніць,

---

[1]) Зразумела, што ўсе гэтыя мерапрыемствы па акліматызацыі і завозу новых відаў у БССР могуць быць зроблены ў тых мясцох, дзе значна зьменшана колькасьць ваўкоў і організаваць абасобленыя колектыўныя паляўнічыя гаспадаркі.

што, напрыклад, адна, з самых маленькіх нашых птушачак—каролік (Regulus regulus)—за год зьядае да 4.000.000 шасьціножак, а звычайная сініца-блакітніца (Cyanistes coeruleus) зьнішчае за год да 6 з паловаю мільёнаў яечак шкодных шасьціножак. Столькі-ж зьядае шасьціножак за лета адна сям'я ластавак. Сям'я шпакоў за дзень можа зьнішчыць на гародзе больш як 350 вусеняў. Цэлы рад драпежных птушак — совы, пусьцельгі, канюхі і інш.—таксама зьнішчаюць многа шкодных грызуноў і, такім чынам, садзейнічаюць падвышэньню ўраджаю.

Адсюль становіцца зусім яснай неабходнасьць аховы гэтай катэгорыі мясцовай фаўны, неабходнасьць стварэньня для іх бытаваньня найлепшых умоў. У гэтым пытаньні набывае выключнае значэньне распаўсюджваньне штучных гнездавых домікаў, дуплянак, пасадка і спэцыяльная падрэзка кустовых парод, у мэтах прыцягненьня для гнездаваньня на іх усіх карысных відаў, як гэта ўжо робіцца даўно і за мяжою і ў многіх мясцовасьцях Савецкага саюзу, але ў БССР пакуль толькі пачынае прышчапляцца толькі ў паасобных пунктах, галоўным чынам, сіламі некаторых школ.

Тут можна было-б намеціць шырокую праграму работы і для дасьледчых установаў (напрыклад, вывучэньне ролі многіх спрэчных у сэнсе шкоднасьці ці карыснасьці для розных тыпаў сельскай гаспадаркі відаў птушак і сысуноў, вывучэньне біолёгіі і эколёгіі карысных відаў у мэтах утварэньня ўмоў, неабходных для іх прыцягненьня на культурныя ўчасткі і г. д.) і для гаспадарчых установаў, і для работы ў саўгасах і калгасах, але гэта павінна зьявіцца паасобнай тэмай, каб можна было больш дэталёва разабраць усе гэтыя пытаньні, абгаварыць іх і больш конкрэтызаваць.

### Па галіне санітарных пытаньняў[1]

З гэтага пункту погляду заслугоўвае пэўнай увагі ўчот і ахова зялёных дрэвастанаў у гарадох, на прадпрыемствах, у саўгасах, у калгасах, а таксама прапаганда ідэі аб шырокім разьвіцьці „зялёных гарадоў" і аздараўляючых зялёных зон, асабліва ў фабрычна-заводзкіх мясцовасьцях і каля жылых будынкаў. Неабходна скласьці па кожнаму населенаму пункту і ў першую чаргу па кожнаму гораду, пляны садоў, паркаў, сквераў і г. д., неабходна зрабіць падлік у процантах зялёнай плошчы на аднаго жыхара, выпрацаваць норму і дбаць аб яе дасягненьні шляхам дадатковых пасадак. Гэты ўчот зялёнай плошчы асабліва неабходна мець пры плянаваньні новых кварталаў соцыялістычных гарадоў, пры плянаваньні паркаў і сквераў як у прыгарадах, так і ў цэнтры. Неабходна строга сачыць за тым, каб пры будаўніцтвах у межах гарадоў ня зьнішчаліся зялёныя плошчы. І калі ўсё-ж-такі няўхільна неабходнасьць зьнішчэньня таго ці іншага ўчастку зеляніны, дык будаўнічыя арганізацыі павінны быць абавязаны аднавіць адпаведную, а то і павялічаную плошчу ў паказаным комунальным кіраўніцтвам месцы. Неабходна катэгорычна спыніць пасьбу на вуліцах коз, якія дашчэнту нішчаць зялёныя пасадкі.

Трэба так паставіць справу з разьвіцьцём зялёнай плошчы ў гарадох, каб пэўны мінімум на аднаго чалавека быў прызнаны абавязковым і каб процант зялёнай плошчы ў горадзе на аднаго жыхара зьяўляўся-б адным з паказчыкаў яго санітарнага дабрабыту.

Менску, які павінен стаць узорным пролетарскім цэнтрам БССР, сталіцаю, неабходна памятаць і аб сваёй зялёнай плошчы, неабходна

падлічыць яе і прыняць захады да сапраўднага захоўваньня і максымальнага павялічэньня з тым, каб дабіцца павялічэньня нормы зялёнай плошчы на аднаго жыхара.

Некалькі слоў неабходна сказаць і аб ахове натуральных крыніц вады — рэчак, ручаёў і інш. ад забруджваньня і атручваньня рознымі адкідамі. Санітарнае значэньне чыстай піцьцёвай вады здавалася-б зразумела для кожнага, а між тым, у самым Менску справа гэтая зусім нездавальняючая. Даволі прайсьціся хоць і зараз па беразе Сьвіслачы, паміж горадам і Татарскай слабадой, каб пераканацца ў гэтым. Вада ў рэчцы, дзякуючы ўліваньню ў яе брудных ручайкоў, надзвычайна брудная, а між тым, вадою менавіта з гэтай рэчкі прыходзіцца карыстацца калі не для піцьця дык для ўмываньня. Неабходна аздаравіць, ачысьціць ваду ў Сьвіслачы, і гэта чарговая санітарная задача, якая выцякае з важнейшых інтарэсаў працоўнага насельніцтва—з інтарэсаў яго здароўя. Як бачым, гэтая задача зьяўляецца цесна зьвязанай з аховаю прыродных рэсурсаў.

Мае значэньне, з пункту погляду санітарнага, выдзяленьне і замацаваньне адпаведных мясцовасьцяў для мясцовых курортаў і дамоў адпачынку. Гэта трэба зрабіць зараз, бо ў многіх з такіх месц могуць быць высечаны ўчасткі бароў[1]).

## У галіне папулярызацыі і пропаганды

Усе мерапрыемствы па ахове прыроды могуць мець посьпех пры ўмове вядзеньня сталай культурна-асьветнай работы ў гэтым кірунку і ўдзелу ўва ўсіх гэтых мерапрыемствах самай шырокай грамадзкасьці. Для папулярызацыі гэтае справы неабходна заняцца выданьнем масавай літаратуры па пытаньнях аховы прыроды, прычым у тэмах павінна быць завострана ўвага на актуальнасьці гэтае справы і на сувязі яе з інтарэсамі соцыялістычнага будаўніцтва. Павінен быць распрацаваны рад паасобных тэм, дзе-б зусім зразумела і яскрава было-б паказана практычнае значэньне аховы прыроды і намечаны пэрспэктывы і шляхі да ўзбагачэньня і разьвіцьця прыродных рэсурсаў. Тэматыка і асноўныя тэмы гэтых папулярных выданьняў павінны быць дэталёва распрацаваны, прадуманы і правераны з пункту погляду марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі. Акадэмія Навук і ў прыватнасьці Інстытут Біолёгічных Навук разам з ЦБ Краязнаўства і Масавым сэктарам БАН павінны гэтым заняцца неадкладна, бо БССР у гэтым пытаньні найбольш адстае ад саюзных рэспублік і ня мае да гэтага часу амаль ніводнага выданьня брошур, плякатаў, адкрытак, не гаворачы ўжо аб кнігах, аб ахове прыроды. Не малую ролю ў папулярызацыі пытаньняў аховы прыроды магла-б адыграць організацыя сталых выставак-музэяў, у якіх можна было-б бачыць ня толькі об'екты, якія ахоўваюцца, але было-б паказана і іх экономічнае значэньне; тут-же неабходна было-б паказаць і стан прыродных вытворчых сіл (лес, рыба, пушніна, дзічына, выкапні, расьліны) і ўсе мерапрыемствы, якія робяцца і павінны быць зроблены для іх разьвіцьця і лепшага выкарыстаньня. У гэтых музэях павінны былі-б знайсьці свой адбітак дыяграмы, фотоздымкі, тэксты і экспонаты саміх об'ектаў (жывёл, расьлін і інш.), якія ўваходзяць у круг паняцьцяў, зьвязаных з аховай прыроды і ўзбагачэньнем яе рэсурсаў. Такія выстаўкі-музэі неабходна мець ня толькі

[1]) Пры організацыі ў вазёрнай частцы БССР дамоў адпачынку там, як нідзе лепш, можа быць пастаўлены водны спорт, пачынаючы ад вёсельных і парусных лодак і канчаючы моторнымі лодкамі і кацерамі, што разам з вельмі добрымі пляжамі часткова замяніла-б морскі бераг.

ў цэнтры, але і ў кожным раёне ў раённым разрэзе. Спэцыялізацыя і раёнаваньне сельскай гаспадаркі і прамысловасьці—бязумоўна, высоўвае рад мясцовых практычна-важных для данага раёну і данай галіны гаспадаркі пытаньняў, зьвязаных з пытаньнямі ня толькі аховы тых ці іншых ужо вядомых прыродных об'ектаў, але таксама з выяўленьнем і вывучэньнем новых прыродных фактараў і іх узмацненьнем, калі ад іх будзе залежаць станоўчы ўплыў на гаспадарку. Там, дзе ёсьць ужо краязнаўчыя музэі, работа ў іх павінна быць пабудавана такім чынам, каб пытаньні аховы прыроды і разьвіцьця вытворчых яе рэсурсаў па праву занялі належнае месца. У такіх краязнаўчых музэях павінны быць прадстаўлены ўсе вытворчыя рэсурсы данага краю (раёну), але тут павінна праводзіцца сталая пропаганда за ахову прыроды з наглядными прыкладамі спосабаў аховы і значэньня апошняй для БССР.

Да тэй-жа галіны культурна-асьветнай работы па пытаньню аховы прыроды і вывучэньня яе новых рэсурсаў, патрэбных для соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна аднесьці і экскурсійна-турыстычную справу, надзвычайна слаба яшчэ ў нас разьвітую. Экскурсіі ў запаведнік ці паездкі па вазёрнай частцы рэспублікі—па Дняпру, Прыпяці, з аглядам буйнейшых і ўзорна пастаўленых мясцовых прадпрыемстваў і гаспадарак (напрыклад, рыбных, зьвераводчых і інш.), бязумоўна, змаглі-б значна садзейнічаць агульнай зацікаўленасьці мясцовай прыродай і знаёмілі-б масы з яе вытворчымі рэсурсамі і найлепшымі спосабамі іх выкарыстаньня. Трэба думаць, што з разьвіцьцём дарожнага будаўніцтва і пашырэньнем аўтотранспорту турызм і экскурсія (аднадзённыя і доўгатэрміновыя) знойдуць у нас патрэбную для свайго разьвіцьця глебу, бо яны зьяўляюцца адным з найлепшых відаў адпачынку працоўных і ў той-жа час знаёмяць іх з прыродай.

Але найбольш важным мерапрыемствам па лініі аховы прыроды ў галіне культурна-асьветнай работы зьяўляецца адпаведнае выхаваньне моладзі. Вось чаму асабліва трэба настойваць, каб пытаньне аховы прыроды, правільна зразумелае і правільна выкладанае, знайшло сабе месца ў новых школьных програмах па прыродазнаўству. Тут, як нідзе, ёсьць багатая магчымасьць практычнага ажыцьцяўленьня пытаньняў аховы прыроды. З апошніх пакажам толькі на ахову карысных відаў птушак, прывабу іх у сады і гарадзкія паркі, пасадка дрэў, шэфства над зялёнымі плошчамі гораду, вуліцы, бліжэйшага да школы саду і г. д.

### У галіне грамадзка-масавай

Мобілізацыі грамадзкасьці на выкананьне пытаньняў аховы прыроды трэба надаць рашаючае значэньне. Недахопы ў становішчы аховы прыроды ў БССР зьяўляюцца вынікам таго, што да гэтага часу на гэтую работу ня зьвернута ўвага мас. Першае, што неабходна зрабіць на гэтым шляху—гэта цесна ўвязаць усе пытаньні аховы прыроды з краязнаўчым рухам і краязнаўчымі організацыямі, па-другое—неабходна стварыць Т-ва прыхільнікаў аховы прыроды і садзейнічаньня выяўленьню і разьвіцьцю яе вытворчых сіл. У РСФСР і ў УССР такія Т-вы існуюць ужо даўно. Па-трэцяе—неабходна разьвіць гурткавую работу сярод моладзі—вучнёўскай, колгаснай, на прадпрыемствах і прыцягнуць да гэтай работы ўвагу комсамольскіх і піонэрскіх організацый. І затым, неабходна разьвіць сець фотокораў, якія-б давалі мясцовы матар'ял, цікавы ня толькі для мэт аховы прыроды, але зьвязаны і з разьвіцьцём і выкарыстаньнем яе вытворчых рэсурсаў. Гэтыя матар'ялы можна было-б скарыстаць для выставак і музэяў і для ілюстраваньня адпаведных выданьняў.

В. Д.

# Лепель—Бабруйск

*(Комплексная экспэдыцыя БАН у чэрвені—жніўні 1931 г.)*

I

У чэрвені-жніўні была організавана экспэдыцыя Інстытуту гісторыі супольна з Інстытутам мовы. Усе сэктары Інстытуту гісторыі—этнографія, гісторыя і археолёгія былі прадстаўлены ў гэтай экспэдыцыі. Кіраўніком экспэдыцыі быў навук. спэц. А. Н. Ляўдански. Інстытут гісторыі прадстаўлялі: А. Н. Ляўданскі, В. Д. Дружчыц, С. А. Дубінскі, М. Я. Грынблят, І. А. Сербаў, Інстытут мовы—В. І. Баркоўскі і І. С. Ляўчук. Прымалі ўдзел А. Д. Каваленя, А. О. Рынеўскі і М. Н. Конвісараў. Цэнтральнае месца паводле сваіх об'ектаў вывучэньня займала этнографія. Яна паставіла сваёй мэтай вывучэньне лясное прамысловасьці і рыбацтва: тэхніка процэсаў гэтых галін вытворчасьці, організацыя работы як у лясной, так і ў рыбацкай прамысловасьці і тыя бытавыя ўмовы, у якіх адбываецца работа і знаходзяцца рабочыя. Параўнаўча з ранейшымі об'ектамі сваёй навукі, што квітнелі ў БАН у катэдры этнографіі пры нацдэмаўскім кіраўніцтве,—гэта цэлая рэволюцыя. Замест зьбіраньня старасьвецкіх казак, песень, вывучэньня галаўных убораў і прычосак у жанчын, этнографія паставіла мэтай вывучэньне бытавых зьяў важнейшых галін гаспадаркі БССР.

Трэба сказаць і аб актуальных об'ектах у вывучэньні мовы. Стаўка нацыянал-дэмократаў на мову мядзьведжых куткоў і старых бабунь, як крыніцу беларускай мовы, адкінута, і пастаўлена задача вывучэньня мовы паводле прынцыпу вытворчасьці і мовы ў самых процэсаў вытворчасьці, а таксама мовы рабочых пэўных галін вытворчасьці. Паводле гэтага прынцыпу пастаўлена вывучэньне мовы фабрык у мястэчку Чашніках, у г. Барысаве і Бабруйску, мовы рабочых лясное прамысловасьці і рабочых лесасплаву, мовы займаючыхся рыбацтвам і колгасьнікаў. Вывучэньне мовы колгасьнікаў, як і мовы рабочых прамысловасьці, зьяўляецца чарговай задачай мовазнаўства. Асабліва важна вывучэньне мовы ў сувязі з процэсам рэконструкцыі ўсяе гаспадаркі, што можа выразна паказаць процэс перапляценьня ў мове соцыялістычных элемэнтаў гаспадарчага процэсу з старымі бытавымі моўнымі навыкамі. У мове колгасьнікаў трэба паставіць, апрача вышэйпамянутай задачы, яшчэ высьвятленьне адлюстраваньня розьніцы мовы розных соцыяльных пластоў сялянства—батракоў, беднякоў, серадня-коў-колгасьнікаў. Выкананьне нават часткі пастаўленых задач зьявілася-б значным дасягненьнем у галіне мовазнаўства.

Сэктар гісторыі і археолёгіі прысьвяціў экспэдыцыю, галоўным чынам, вывучэньню старажытных паселішчаў: стаянак, гарадзішчаў і селішчаў. Гарадзішчы, як адна з формаў пасяленьня чалавечай грамады, прадстаўляюць вялікую цікавасьць для высьвятленьня гістарычнага разьвіцьця чалавека і ўносяць пэўную яснасьць пры ўразуменьні дафэўдальнае формацыі. Разам з тым археолёгамі вывучалася культура курганнага пэрыоду.

Заслугоўвае ўвагі раён і шлях, па якому адбываўся маршрут экспэдыцыі. Перш за ўсё Лепель і яго акруга. У Лепелі экспэдыцыя затрымалася каля тыдню. Былі абсьледваны ў радыусе 15—20 кілёмэтраў рыбныя арцелі, лесасплаў, помнікі культуры—стаянкі нэоліту, курганы і іншыя памятнікі. У самым Лепелі вывучаўся архіў лесапрамгасу і рыбаксаюзу. Была праведзена і культурна-грамадзкая работа; прачытаны рад лекцый. У такім значным пункце, як м. Чашнікі, працавалі лінгвісты, вывучаючы мову вытворчасьці і рабочых папяровае фабрыкі і яе вытворчых процэсаў.

У Лепелі экспэдыцыя павінна была разьвітацца з наладжанымі спосабамі транспорту і звыклымі ўмовамі жыцьця. Далейшы шлях быў водны і трэба было забясьпечыць сябе адпаведнымі сродкамі транспорту. Трэба адзначыць, што належныя ўстановы вельмі прыхільна адносіліся да экспэдыцыі і забясьпечылі экспэдыцыю ўсім неабходным: Лесбел адпусьціў 3 лодкі, а коопэрацыя—продукты спажываньня.

На раён Лепель—Барысаў і шлях з Лепеля да Барысава—р. Эса—Бярэзінская сыстэма—р. Бярэзіна да Барысава—павінна быць зьвернута ўвага многіх савецкіх дзяржаўных і навуковых установ і шырокіх колаў грамадзкасьці. Перш за ўсё гэта адзіны водны шлях, які злучае Беларусь і Украіну з Балтыкай праз Зах. Дзьвіну. Гэты шлях першымі выкарысталі норманы ўжо з пачатку IX в. Толькі з другое паловы IX в. норманы пачалі карыстацца шляхам праз Няву, Ладаскае возера, Волхаў, Ільмень, Ловаць і Дняпро або Сож; аднак, і ранейшы кірунак шляху імі таксама выкарыстоўваўся. Другая пяцігодка прадугледжвае пабудову грандыёзнага воднага шляху, які злучыць БССР і УССР ня толькі з Зах. Дзьвіной, але і з Ленінградам і Балтыкай праз Фінскую затоку. Злучэньне Бярэзіны і Зах. Дзьвіны не зьяўляецца параўнаўча цяжкім; тут патрэбна толькі палепшаньне сучаснай Бярэзінскай сыстэмы, якая ў цяперашнім стане амаль выключна выкарыстоўваецца толькі для лесасплаву. Параўнаўча нязначныя выдаткі ўжо ў сучасны момант маглі-б яе зрабіць суднаходнай да Лепеля. Для гэтага патрэбна ачыстка каналаў ад зарасьляў і пабудова некалькіх шлюзаў на р. Эсе.

Адначасна з пытаньнем аб шляхох транспорту значная колькасьць натуральных вадаёмаў, а менавіта, вазёр, павінна зьвярнуць на сябе ўвагу Белрыбы. Натуральнае рыбаводзтва ў гэтым раёне пры наяўнасьці такіх шырокіх прыродных магчымасьцяў мае вялізарнейшыя пэрспэктывы. Пры самых нязначных фінансавых затратах натуральнае рыбаводзтва можа даць значны эфэкт, па нашай думцы, ня меншы, чым штучнае рыбаводзтва ў прудных гаспадарках. Для гэтага патрэбна організацыя раду рыбаводных станцый, належная ахова вадаёмаў, ачыстка некаторых з іх ад завалі і адчыненьне сталых дасьледчых рыбных інстытуцый. Увага Белрыбы перш за ўсё павінна быць зьвернута на гэты раён, багаты вялікай колькасьцю вялікіх вадаёмаў, якія зараз-жа, без затраты вялікіх сродкаў могуць быць выкарыстаны для рыбнай гаспадаркі і для вядзеньня так званага натуральнага рыбаводзтва.

Даліна р. Бярэзіны прадстаўляе сабою шырокую пойму заліўных лугоў, якія ў многіх месцах забалочаны і часткаю пакрыты дзікім хмызьняком. Ужо ў сучасны момант пойма Бярэзіны і яе прытокаў дае сотні тысяч тон сена. Нязначныя гідратэхнічныя і мэліорацыйныя работы ў значнай меры павялічылі-б продукцыйнасьць поймы як у адносінах сена, так і лесу, замест дзікага хмызняку. Калі гэтыя работы зьвязаць з работамі транспортнага парадку, дык таннасьць і эфэктыўнасьць іх будуць бясспрэчны.

Уся мясцовасьць ад Лепеля да Барысава зьяўляецца даволі глухім кутком, асабліва прастора ад р. Эсы да р. Бярэзіны. Насельніцтва слаба зьвязана з горадам і культурнымі цэнтрамі. Слаба праводзіцца і культурная работа. Так, у вёсцы Домжарыцы Бягомльскага раёну ўпяршыню і ў навіну для насельніцтва адбылася антырэлігійная лекцыя, організаваная экспэдыцыяй, ня гледзячы на тое, што там ужо на працягу некалькіх год існуе колгас.

II

## Лесанарыхтоўкі і лесасплаў

Экспэдыцыя сабрала вельмі значны матар'ял аб лесанарыхтоўках і асабліва аб лесасплаве. Ужо цяпер, яшчэ да поўнае апрацоўкі матар'ялу, можна гаварыць аб некаторых вывадах і зрабіць некаторыя заўвагі. Матар'ял у гэтай галіне зьбіраўся вучон. спэцыялістам сэкцыі этнографіі БАН І. А. Сербавым. Трэба сказаць, што досьледы т. І. А. Сербава не абмежаваліся прасторам Лепель—Бабруйск. Ім абсьледваны лесасплаў і ў нізавінах р. Бярэзіны ніжэй Бабруйску, часткова на рр. Дняпры і Сажы.

Усёю лясною гаспадаркаю ў БССР ведаюць леспрамгасы, якія вядуць усю лясную гаспадарку: лесаводзтва, таксацыю лясоў, упарадкаваньне іх, пасадку новых лясоў, ахову ад усялякага шкодніцтва лясоў і, урэшце, іх эксплёатацыю. Леспрамгасаў у сучасны момант у БССР 34. Яны разьмешчаны ня зусім у адпаведнасьці з сучаснымі адміністрацыйнымі адзінкамі-раёнамі, што ўскладняе кіраўніцтва іх работай з боку РВК. Таму Лесбелам праводзіцца рэорганізацыя гэтых установаў у кірунку павялічэньня іх колькасьці амаль удвая і больш правільнага падзелу лясное плошчы ў большай адпаведнасьці з сучасным адміністрацыйным падзелам. Сплавам ведаюць сплаўныя канторы. Галоўных сплаўных кантор 4. Бабруйская—загадвае сплавам па р. Бярэзіне і правых прытоках Дняпра, Мазырская—па р. Прыпяці, Гомельская—па р. Сажу і левым баку Дняпра, Віцебская—па Зах. Дзьвіне і Бярэзінскай сыстэме. Такі падзел работы з першага погляду здаецца рацыянальным і поўнасьцю адпавядаючым патрэбам лясное гаспадаркі і яе эксплёатацыі. Аднак, адсутнасьць на мясцох непасрэднага агульнага кіраўніцтва абедзьвюма ўстановамі—леспрамгасамі і сплаўнымі канторамі, выклікае даволі частыя няўвязкі ў іх супольнай рабоце. Іх супольная дзейнасьць больш за ўсё стыкаецца ў загатоўцы рэквізыту і розных падсобных матар'ялаў для сплаву, а таксама ў разьмяшчэньні румаў і прыстаняў і іх абсталяваньні і ахове. На грунце гэтых спраў паміж леспрамгасамі і сплаўнымі канторамі ўзьнікаюць спрэчкі. Так, вясною 1931 г., калі чакалася вялікая паводка, Лепельскі Лесапрамгас прасіў Віцебскую сплаўную кантору прыслаць яму канаты для ўмацаваньня на рр. Эсе і Ульянцы румаў і лясных складаў, якім пагражала буйная паводка. Але сплаўная кантора, замест хуткай дапамогі, адказала лесапрамгасу, што для румаў Эсы і Ульянкі патрэбны не канаты, а кардэлі [1]). Такім чынам, замест рэальнай і неадкладнай дапамогі, даюцца парады, што набывае характар міжведамсьцьвенай перапіскі.

Другі факт. Возера Палік у вышнявінах Бярэзіны адыгрывае вельмі значную ролю як у лесанарыхтоўках, так і лесасплаве. Між

[1]) Адказ датаваны 16/III-1931 году за № 309; кардэль—канат з дрэва.

тым румы Паліка не абсталяваны і застаюцца ў старажытным стане дзякуючы таму, што леспрамгас і сплаўная кантора ня могуць дагаварыцца паміж сабою адносна яго абсталяваньня. Ёсьць і больш шкодныя факты. Падсобны матар'ял для лесасплаву павінен нарыхтоўвацца леспрамгасам. На 1931 год Барысаўскі леспрамгас падрыхтаваў толькі палову заказанага сплаўнаю кантораю рэквізыту. Цяпер ужо перад Лесбелам павінна стаць актуальнае пытаньне аб большай увязцы работы гэтых устаноў і, можа быць, устанаўленьня на мясцох агульнага кіраўніцтва і аднэй установы з аддзеламі: 1) лесаводзтва, 2) эксплёатацыі лесу, 3) лесасплаву.

Калі адносна кіраўніцтва сабраны значныя матар'ялы, дык яшчэ большыя матар'ялы сабраны па эксплёатацыі лесу, як нарыхтоўка—высечка, вывазка і лесасплаў. У рэконструкцыйны пэрыод асабліва заслугоўвае ўвагі тэхніка лесанарыхтовак і бытавыя ўмовы рабочых.

Даваенная капіталістычная эксплёатацыя лесу мела характар драпежніцкі. Лес звычайна вырубаўся дашчэнту і ў неапрацаваным відзе ішоў у экспорт. Лес, што ішоў на нутраны рынак, перарабляўся на прымітыўных лесапільных заводах. У сучасны момант новая тэхніка і новыя ўмовы работы яшчэ пераплятаюцца з старажытна-прымітыўнымі.

Нарыхтоўка лесаматар'ялаў, валка лесу адбываецца пры дапамозе ручных піл і сякер. Сякера-ж зьяўляецца і прыладай для абцёсваньня брусоў. Больш складаныя і асабліва мэханізаваныя прылады пры першапачатковай апрацоўцы лесу сустракаецца рэдка.

Вывазка загатоўленых матар'ялаў на румы і склады адбываецца конна-гужавым спосабам: зімою—на санях, летам—на колах. Леспрамгасамі робяцца, праўда, захады для мэханізацыі як лесанарыхтовак, так і вывазкі лесу пры дапамозе трактараў, пакуль што, аднак, асноўная маса нарыхтоўчых работ праводзіцца простым спосабам, а вывазка—конна-гужавым. Калі першапачатковая апрацоўка дрэва мае яшчэ ў значнай ступені саматужны характар, дык далейшая апрацоўка ўжо поўнасьцю мэханізавана. Даволі ўказаць на Барысаўскі і Бабруйскі лесакомбінаты, пабудаваныя паводле апошняга слова тэхнікі, дзе амаль усе працэсы вытворчасьці мэханізаваны.

Нельга лічыць нормальным, што некаторыя раённыя цэнтры зусім ня маюць лесапільных заводаў. Так, напрыклад, г. Лепель, будучы раённым цэнтрам вельмі значнага раёну і вядучы немалую будоўлю ў колгасах і горадзе, Лепель—горад і раён, прымушаны карыстацца ручным спосабам пілаваньня драўніны, што значна ўдаражае будаўніцтва. Пабудова лесапілкі ў Лепелі—неадкладная задача адпаведных організацый.

У процэсах опэрацый над лесаматар'яламі не апошнюю ролю адыгрывае пагрузка і адгрузка матар'ялаў. Мэханізацыя работы ў пагрузцы і выгрузцы ня толькі значна паскарае і палягчае цяжкую работу, але робіць яе больш таннай, што мае вялікае значэньне ў выкананьні прамфінплянаў у лясной прамысловасьці. Часамі вельмі нязначныя палепшаньні даюць вялікі эфэкт. Так, напрыклад, на Лепельскай прыстані простыя легары з коннай цягай замянілі ролікавым ходам, што ў значнай ступені палегчыла работу вашоўкі або выкаткі лесаматар'ялаў і павысіла продукцыйнасьць работы. У лічбах гэтая эфэктыўнасьць выражаецца так: на легарах 3 рабочых з адным канём за адзін дзень выкатвалі 400—500 калод, а на ролікавым ходзе 2 рабочых з адным канём за адзін дзень выкатваюць 800—900 калод. Ёсьць выпадкі іншых спосабаў рацыянальнай орга-

нізацыі гэтай справы з прыстасаваньнем рабочага вынаходніцтва да пагрузкі і выгрузкі, ня лічучы мэханізацыі такіх буйных прадпрыемстваў, як Бабруйскі лесакомбінат. Адным з цікавых прыкладаў вы-



Выгрузка драўніны ручным спосабам на руме ў г. Лепелі.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

находніцтва зьяўляецца вынаходніцтва тав. М. Пякурына. 13—16 жніўня 1931 году на прыстані Астраўкі, Гомельскага раёну, адбылася спроба з мэханізаванай вагонэткай для пагрузкі дроў на баржу, што



Выгрузка на роліках драўніны на руме ў г. Лепелі.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

зьяўлялася вынаходніцтвам М. Пякурына. Спроба давяла, што продукцыйнасьць работы з вагонэткай павялічваецца на 100 проц.

Поле дзейнасьці навейшых спосабаў і мэханізацыі вельмі шырокае ў сплаве. Нарыхтоўка плытоў, самыя спосабы сплаву, правядзеньне плытоў да месца прызначэньня, спосабы выгрузкі і інш.



Пагрузка дроў на баржу на руме вышэй м. Сьвіслачы.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

Самым простым і танным спосабам сплаву на малых і зьвілістых рэчках зьяўляецца моль, молевы тып. Сутнасьць яго заключаецца ў тым, што бярвеньні спускаюцца ня звязанымі, а па адным. Пры



Молевы сплаў па рэчцы каля в. Хаўхоліцы (Барыс. раёну).

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

дапамозе паводкі або шлюзаваньня бярвеньні самасплавам спускаюцца да месца свайго прызначэньня. У дарозе рабочыя, звычайна падросткі, з баграмі сочаць за тым, каб ня было згруджваньня бярвеньняў або затрымкі. На месцы прызначэньня робіцца спэцыяльная застава з бярвеньняў, дзе і згуртоўваецца спушчаны лес. Гэты рацыянальны спосаб сплаву, асабліва прыгодны ў плыткіх і малых рэчках. Там, дзе ня можа прайсьці плыт, праходзіць асобнае бервяно. Аднак, і моль, ня гледзячы на сваю выгаднасьць і прастату, патрабуе значнае падрыхтоўкі і ўмелага карыстаньня ім. Самасплаву патрэбна вада, якой звычайна, апрача вясеньняй паводкі, недастаткова ў малых рэчках.



Плыты ля Лепельскага шлюзу.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

Малыя рэчкі часта зьвілісты, на іх многа плыткіх перакатаў. Усё гэта перашкаджае молеваму сплаву. Трэба адзначыць, што сплаўнай канторай Лесбелу ўжо многа зроблена для палепшаньня молевага сплаву, але яшчэ больш засталося зрабіць у гэтых адносінах.

Асноўны спосаб лесасплаву—гэта плыт. Плыт складаецца з асобных зьвеньняў або „глейн“. На малых і сярэдніх рэчках глейні зьвязваюцца шырынёю да 6-ці мэтраў; паасобныя глейні зьвязваюцца ў лаву, даўжынёю да 180 мэтраў. Лава зьмяшчае да 100 к/м. драўніны. На вялікіх суднаходных рэках малыя плыты ставяцца па дзьве лавы ў адзін пас, а пры накіраваньні плытоў на Украіну плыты нанова перавязваюцца і крэпяцца. Пры гэтым тоўстыя бярвеньні вяжуцца ў адзін рад або „ліст“, а тонкія калоды—у два-тры і нават чатыры рады, у залежнасьці ад таўшчыні калод. Такія плыты даходзяць да 30 мэтраў шырыні і да 180 мэтраў даўжыні і зьмяшчаюць да 2-$2^{1}/_{2}$ тысяч к/м. драўніны. Вязка і крэпка плытоў праводзіцца старажытным спосабам і мэханізацыі пакуль ніякай ня ўжываецца. Новым можна лічыць толькі частковае ўжываньне жалезнага дроту, часткаю для

крэпы, часткаю для канатаў або тросаў. Пачынае прасякаць у нарыхтоўку плытоў новы брыгадны мэтод работы.

Плыты сплаўляюцца звычайна самасплавам. Між тым, значная частка шляху з Лепеля да канца каналаў і пачатку Бярэзіны, а таксама і праз возера Палік ня мае самацёку. Такія вазёры як Лепельскае, Бярэжча, Плаў'е, затым Палік, а таксама рака Бузянка — зьяўляюцца стаячымі водамі. Плыты прыходзіцца пераганяць пры дапамозе багроў, а часамі і лямкі. Поле для ўжываньня мэханічных рухавікоў шырокае.



Плыты на Бярэзіне ніжэй г. Барысава.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

Праўда, на Пяліку і ніжэй па Бярэзіне маецца буксірны параход, але на Бярэзінскай сыстэме і на вазёрах, што ўваходзяць у яе склад, ніякай мэханічнай сілы ня ўжываецца. Прычынай зьяўляецца тое, што каналы, возера Плаў'е і рака Бузянка зарасьлі вадаросьлямі і патрабуюць папярэдняе ачысткі. Другой перашкодай зьяўляецца плыткасьць часткі каналаў і ракі Эсы. Там патрэбны грунтоўныя работы для іх паглыбленьня і ачысткі. Мэханізацыя і маторызацыя, аднак, ужо пачынаюць адчувацца. На Дняпры і яго прытоках маецца, апрача буксіру, 17 маторных лодак, якія абслугоўваюць лесасплаў. Такім чынам, аснова маторызацыі лесасплаву ўжо ёсьць.

Калі тэхніка работы ў лесанарыхтоўках і лесасплаве яшчэ слаба мэханізавана і ня пераведзена на новыя рэйкі, дык мэтоды арганізацыі самай работы знаходзяцца ў іншым становішчы. Социялістычныя мэтоды работы—брыгады, ударніцтва і соцспаборніцтва шырока ўжываюцца сярод лесарубаў і плытагонаў.

Брыгадны спосаб работы пашыраецца як сярод лесарубаў, так і плытагонаў. Пры брыгадным спосабе адбываецца пэўная спэцыялізацыя работы. Кожны член брыгады выконвае толькі адзін від работы. Ён зьяўляецца скатчыкам, або зьвязчыкам, або гоншчыкам і г. д..; працуючы па сваёй спэцыяльнасьці, кожны рабочы брыгады не пера-

ходзіць з аднэй работы на другую, як гэта бывае пры арцельным спосабе работы, займаецца выключна сваёй работай, дзякуючы чаму-набываецца дасканаласьць у пэўнай спэцыяльнасьці, а гэтым павялічваецца эфэктыўнасьць і продукцыйнасьць работы, а разам з тым і заробак рабочага. Пры брыгадным спосабе зьнішчаецца ўраўнілаўка, бо кожны член брыгады атрымлівае заробак у залежнасьці ад спэцыяльнасьці, а таксама ад колькасьці і якасьці выкананай работы.

Трэба сказаць, што сярод плытагонаў р. Бярэзіны ўкараненьне брыгаднага спосабу работы адбываецца вельмі марудна. У той час калі на Дняпры і Сажы ён заваяваў даволі значнае месца ў рабоце



Курэнь на р. Бярэзіне ніжэй г. Барысава.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

плытагонаў, на Бярэзіне ён толькі пачынае праводзіцца ў жыцьцё і нават сустракае супраціўленьне. Прычынай гэтага зьяўляецца слабасьць палітычнай і культурнае работы і, як вынік, —незнаёмства рабочых сплаву з сутнасьцю брыгаднага мэтоду работы. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ўжываецца як у кіруючых органах паміж лесапрамгасамі і сплаўнымі канторамі, так яшчэ больш шырака сярод рабочых. Паасобныя факты аб посьпехах у выніку ўдарніцтва папулярызуюць ідэю ўдарніцтва сярод шырокіх мас плытагонаў. Лесбелам у шырокім маштабе ўжываецца прэміяваньне ўдарнікаў.

Новае і старое—рэшткі старых перажыткаў і новых соцыялістычных формаў, асабліва яскрава выяўляюцца ў галіне быту і соцыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых лесарубаў і плытагонаў. На берагох р. Бярэзіны яшчэ можна сустрэць на прыстанях і румах стары курэнь, як месца для адпачынку і начоўкі плытагонаў і грузчыкаў. Курэнь складаецца з пастаўленых нахільна на чатырохкутную раму колаў або аполкаў, якія зьнізу прысыпаюцца зямлёю. Калы зьверху ня сыходзяцца і такім чынам застаецца адкрытая адтуліна. Унізе раскладаецца вогнішча. З бакоў упавалку, звычайна на сене, адпачываюць рабочыя. Дзьвярэй часта няма, а замест дзьвярэй застаецца накшталт нары нічым незачыненая дзірка.

Старыя курані выціскаюцца новымі пабудовамі, што пастаўлены на буйных пунктах лесазагатовак і сплаву для рабочых лясное прамысловасьці. Дамы рабочых лясное прамысловасьці будуюцца паводле пэўнага пляну і складаюцца з наступных частак: 1) камэра для сушкі і дэзынфэкцыі вопраткі, 2) умывальня, 3) спальня на 50—100 ложкаў, 4) бібліотэка з чытальняй, сцэнай і радыёпрыёмнікам, 5) кухня з сталовай і 6) аптэчка з мэдыкамэнтамі. На румах Бярэзіны маецца 7 такіх дамоў—5 з іх ужо функцыянуюць другі год, а 2 заканчваецца пабу-



Дом рабочых лясное прамысловасьці.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

довай. У доме маецца загадчык і тэхнічныя працаўнікі. У доме прасторна, сьветла і цёпла; дом робіць уражаньне прытульнасьці. У некаторых мясцох організаваны лячэбна-прапускныя пункты, дзе плытагоны праходзяць мэдычны агляд; на ўсім працягу сплаўнога шляху маюцца або спэцыяльныя ложкі для плытагонаў у больніцах, або спэцыяльныя пункты, якія абслугоўваюцца доктарам і сястрою.

Трэба, аднак, сказаць, што такіх дамоў для рабочых лясное прамысловасьці пакуль яшчэ недастаткова для абслугоўваньня рабочых на такой вялікай прасторы, як басэйн р. Бярэзіны. Нават такі значны пункт для лесасплаву як Лепель ня мае дому лясное прамысловасьці. Адчуваецца таксама недахоп сталовак.

Пры высьвятленьні пытаньня дабрабыту рабочых сплаву трэба коратка зазначыць матар'яльнае забясьпечаньне рабочых. Рабочыя сплаву, таксама як і рабочыя лесанарыхтовак, зьяўляюцца ў асноўнай масе сэзоннымі рабочымі, у пераважнасьці адыходнікамі з колгасаў, часткаю сяляне аднаасобнікі і выхадцы з мястэчак. Рабочыя наймаюцца на работу на падставе колектыўных дагавароў з колгасамі і сельсаветамі, або на падставе індывідуальных дагавароў з паасобнымі рабочымі. Усе рабочыя, што абсьледваліся экспэдыцыяй, працавалі на падставе дабравольна заключаных дагавароў паводле законаў працы Саюзу СССР. Заработная плата рабочых устаноўлена паводле сеткі, выпрацаванай профсаюзам лясное прамысловасьці і Наркампрацы. Частка зарабку выдаецца промтаварамі. З гэтага відаць, наколькі далёка ўсё гэта ад таго паклёпу міравога буржуазнага друку аб прымусовай працы ў лясной прамысловасьці ў СССР.

Той факт, што рабочыя лесарубы і плытагоны зьяўляюцца сэзоньнікамі і адыходнікамі з вёскі і мястэчка, накладае на профэсіянальныя організацыі і савецкую грамадзкасьць абавязак узмоцненай палітасьветай і культмасавай работы. Можна адзначыць, што гэтая работа праводзіцца недастаткова, асабліва сярод плытагонаў. Узмацненьне

работы праз павялічэньне колькасьці культбаз з дастатковымі бібліотэкамі, комплектамі газэт і часопісаў ня толькі ў дамох лясное прамысловасьці, але і ва ўсіх мясцох, дзе плытагоны затрымліваюцца на некаторы час, зьяўляецца чарговай задачай.

Аднэй з відных работ па абслугоўваньні культурных патрэб рабочых лясное прамысловасьці зьяўляецца работа газэты „Лясны рабочы". Газэтай "Лясны рабочы" ўлетку 1931 г. была організавана плывучая культбаза, якая вяла ня толькі агульную культработу, але і выпускала спэцыяльную газэту на беларускай мове. Культбаза на двух дубох езьдзіла па Сажы, Дняпру, Бярэзіне на месца, дзе адбываецца лесасплаў, і выпускала ў дарозе газэту. Вывучаючы вытворчасьць на месцы, газэта вельмі актыўна змагалася за прамфінплян, за выкараненьне недахопаў сплаву, за мэханізацыю і рацыяналізацыю вытворчасьці, за палепшаньне быту рабочых, змагалася з тымі непаладкамі, што маюцца ў забесьпячэньні рабочых.



Плывучая культбаза газэты „Лясны рабочы". Астаноўка недалека ад м. Бярэзіна.

Фотоздым. І. А. Сербава.

Адзначаючы вялізарную палітычную і культурную работу ўсяе культбазы і ў прыватнасьці яе газэты „Лясны рабочы", прыходзіцца адзначыць значныя тэхнічныя недахопы газэты: вялікая колькасьць корэктурных памылак, слабое веданьне беларускае мовы, як лексыкі, так граматыкі і сынтаксу работнікамі выяздное рэдакцыі. Гэтыя недахопы робяць прыкрае ўражаньне пры поўным задавальненьні зьместам газэты.

## III

## Рыбацтва

Вывучэньне рыбацтва справа цяжкая для этнографа. Об'ект дасьледваньня—рыбацтва для этнографіі зусім новы об'ект, і энтографія на БССР у гэтых адносінах робіць першую спробу. Працу праводзіць нав. супр. М. Я. Грынблят. Гэта вывучэньне, для таго, каб

стаць карысным для соцбудаўніцтва, ня можа абмежавацца вузкай этнографічнай галіной дасьледваньня, гэта значыць тэхнікі рыбацтва і тых бытавых умоў, у якіх адбываюцца процэсы рыбацкай вытворчасьці і быт самога рыбака. Сілай об'ектыўных патрабаваньняў рэконструкцыйнага пэрыоду, калі адбываецца выкарчоўваньне карэньняў капіталізму і праводзіцца колектывізацыя ня толькі ў сельскай гаспадарцы, але таксама і ў рыбацкай прамысловасьці, дасьледчык павінен больш шырока падыйсьці да самога об'екту дасьледваньня і ахапіць яго ў больш шырокім маштабе, а менавіта: дасьледчык павінен закрануць і тыя бакі, што належаць да спэцыяліста прыродніка-рыбавода, ён павінен вывучыць пароду рыб, вадазборы і іх стан, процэсы колектывізацыі,



Выцягваньне невада, Яблачная рыб-арцель, р. Бярэзіна.

Фотоздым. А. О. Рынейскага.

способы і тэхніку лову арцеляў і аднаасобнікаў, рыбацкія снасьці і пасуду, экономіку рыбалоўнага промыслу капіталістычнай пары і сучаснага моманту, быт рыбакоў, іх матар'яльнае і культурнае становішча. Усе гэтыя моманты ўскладняюцца жорсткай клясавай барацьбою, якая адбываецца ў галіне рыбацтва, таксама як і ў сельскай гаспадарцы. Кулак у рыбацкіх арцелях яшчэ больш чым у колгасах імкнецца да таго, каб знутры ўзарваць рыбацкі колгас.

Што рыба павінна адыгрываць значную ролю ў народным харчаваньні насельніцтва, гэта добра вядома. У БССР няма вялікага рыбацтва, але ўсе ўмовы для малога рыбацтва ў наяўнасьці. Вялікая колькасьць вадазбораў—вазёр, часамі даволі значных, асабліва ў Віцебшчыне, Полаччыне і Лепельшчыне, вялізарная колькасьць рэк дае поўную мажлівасьць для шырокага разгортваньня так званага натуральнага рыбаводзтва. Прыкладам таго, наколькі пры правільным вядзеньні рыбнай гаспадаркі і правільным лове яна можа даваць значную карысьць, зьяўляецца наступны факт: узімку 1930 г. на возеры Бярэшча (Воканская арцель) у Лепельшчыне было ў адну тоню вылаўлена 500 пуд. рыбы. Гэты яскравы факт сьведчыць аб значным багацьці рыбы ў некаторых вадазборах і ў сучасны момант. Для культурнага рыбацтва патрэбна перш за ўсё правільна організаванае рыбаводзтва. Прыходзіцца, аднак, констатаваць, што ў справе рыбаводзтва

ў раёнах досьледаў экспэдыцыі зроблена вельмі мала: не наладжана палежная ахова і нагляд за вадазборамі і правільным ловам рыбы, не організавана дасьледчая работа, адсутнічае плянавае бесьперапыннае разьвядзеньне рыбы, і толькі пачынае організоўвацца правільны лоў рыбы праз утварэньне рыбацкіх арцеляў. Перад Белрыбай стаяць ва ўсіх гэтых адносінах вялізарныя задачы, і да вырашэньня і выкананьня іх павінна быць прыцягнута ўвага шырокіх колаў грамадзкасьці і асабліва друку.

Што датычыць рыбацтва як пэўнага промыслу, дык яно з даўніх часоў было дапамогай у харчаваньні насельніцтва Беларусі. У фэўдальныя часы рыбацтва было об'ектам эксплёатацыі рыбакоў з боку фэўдалаў і гарадзкога гандляра. У такіх гарадох як Магілеў і Вільня былі спэцыяльныя цэхі рыбакоў. Паступова рыбацтва пачало падаць і ў капіталістычную пару — перад рэволюцыяй, гэты заняпад ужо значна адчуваўся. Заняпад адбываўся дзякуючы драпежніцкім спосабам эксплёатацыі і поўнай адсутнасьці рыбаводзтва. Асноўныя рыбныя вадазборы—вазёры, большаю часткаю належалі прыватным уласьнікам-памешчыкам. Памешчыкі здавалі вазёры ў арэнду прадпрыемцам, якія займаліся іх эксплёатацыяй. Ні памешчык, ні прадпрыемца-капіталіст зусім ня дбалі аб правільным рыбным лове, а толькі драпежніцкім спосабам выкарыстоўвалі прыродныя багацьці. Зусім ня было наладжана рыбаводзтва і разьвядзеньне рыбы. Падобная эксплёатацыя прывяла да зьмяншэньня рыбных багацьцяў і паступовага заняпаду рыбацтва. Імпэрыялістычная вайна, нямецкая і польская окупацыі вельмі шкодна адбіліся на рыбных багацьцях. Глушэньне рыбы бомбамі, пэроксілінам і іншымі выбуховымі спосабамі з боку вайсковых, а таксама і насельніцтва, атрута рыбы — як спосаб лову, ужываньне частых (густых) процізаконных сетак пры лове амаль даканчылі зьнішчэньне рыбных запасаў.

Такім чынам савецкай уладзе засталася поўнасьцю разбураная рыбная гаспадарка. Гэтым у значнай ступені тлумачыцца той факт, што да апошняга часу рыбацтва было мала прыметным промыслам у народнай гаспадарцы БССР.

Рэволюцыя адчыніла перад рыбацтвам шырокія пэрспэктывы. Усе водныя басэйны былі нацыяналізаваны і зрабіліся дзяржаўнай маемасьцю. Урадам БССР выданы рад законаў, на падставе якіх былі ўзяты пад ахову рыбныя багацьці і забаронены драпежніцкія спосабы лову. Ахова водных басэйнаў і рыбных багацьцяў была даручана адпаведным органам улады, галоўным чынам міліцыі. Гэтыя мерапрыемствы ў значнай меры прыпынілі зьнішчэньне рыбных багацьцяў. Аднак, паколькі лоўля рыбы знаходзілася ў руках прыватніка-нэпмана і селяніна-аднаасобніка, выкананьне ўсіх неабходных мерапрыемстваў для правільнага рыбацтва і лову было немагчыма. Толькі з часу організацыі рыбных арцеляў і Белрыбаксаюзу, як іх цэнтральнага органу, адчыніліся перад рыбацтвам шырокія пэрспэктывы і поўная магчымасьць пастаноўкі ў БССР правільнай рыбнай гаспадаркі.

Галоўная ўвага экспэдыцыі была накіравана на вывучэньне менавіта рыбных арцеляў. Усяго абсьледвана было 12 арцеляў і 20 брыгад Аршанскага, Барысаўскага і Бабруйскага рыбучасткаў. Экспэдыцыяй зроблена ў галіне рыбацтва больш як 200 здымкаў і набыты некаторыя экспонаты для Бел. Дзярж. Музэю.

Арцель — гэта пераходны этап да соцыялістычнай гаспадаркі ў рыбацтве. Члены арцелі большаю часткай колгасьнікі. Для іх рыбацтва зьяўляецца дадатковым промыслам да сельска-гаспадарчай

работы. Ва ўзаемаадносінах рыбакоў да колгасаў наглядаецца пэўная няўвязка ў сэнсе разьмежаваньня і разьмеркаваньня работ, напр.: колгасы не вызваляюць рыбакоў ад палявое работы. Колгасы наогул мала зьвяртаюць увагі на рыбацтва. З другога боку, Белрыбаксаюз таксама слаба кіруе справаю ўнутранай організацыі арцеляў, брыгад і іх работы. Большаю часткаю гэта кіраўніцтва зьяўляецца папяровым, а рыбныя ўчасткі не пасьпяваюць складаць шматлікія „весткі“ для цэнтру, у той самы час Белрыбаксаюз слаба знаёмы з тым, што



Выгрузка неваду. Прыцерпская рыб.-брыгада, р. Бярэзіна.

Фотоздым. А. О. Рынейскага.

робіцца на мясцох. Разам з тым кіраўніцтва наладжваньня організацыйнай работы вельмі слабое. Сярод рыбакоў пануе думка, што зьдзельшчына ў рыбацтве немагчыма, і да гэтага часу гэта проблема кіруючымі органамі ня ставілася сярод рыбакоў. Вынікам гэтага зьяўляецца недастатковае выкарыстаньне вадазбораў і слабое выкарыстоўваньне малых снасьцяў. Што датычыць да правядзеньня ў жыцьцё социялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод рыбакоў, дык першае хаця і існуе, але больш на паперы, чым у рэчаіснасьці, а ўдарніцтва амаль не разгорнута. Ёсьць і рад іншых недахопаў, а менавіта забесьпячэньне рыбацкіх арцеляў матар'яламі, спэцвопраткай, прамтаварамі і продуктамі адбываецца нездавальняюча; сярод мас рыбакоў амаль не вядзецца політмасавая і культасьветная работа. Усе гэтыя недахопы выгодны для клясавага ворага, якога сярод рыбацкіх арцеляў нямала; кулак у рыбацкіх арцелях вядзе шалёную агітацыю за разбурэньне арцеляў. Кулак марыць аб аднаўленьні прыватнага лову і, маючы рыбацкія прылады, дбае аб аднаўленьні эксплёатацыі бядняцкіх мас рыбакоў. У сучасны момант ён пры ўсякай магчымасьці разбазарвае рыбу і кожны недахоп у організацыі рыбацкіх арцеляў выкарыстоўвае для агітацыі супроць арцеляў.

Для наладжаньня правільнай рыбнай гаспадаркі ў арцелях неабходна зьнішчыць сучасныя недахопы, узмацніць культурна-асьветную

работу, наладзіць социялістычныя мэтоды работы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва, а для выкананьня гэтага неабходна накіраваць рад работнікаў і спэцыялістаў непасрэдна ў арцелі і брыгады для сталае работы.

Бязумоўна, перад рыбацтвам у БССР стаяць шырокія пэрспэктывы. Калі натуральныя вадазборы, асабліва вазёры, будуць выкарыстаны для правільнага натуральнага рыбаводзтва, калі будзе ўзмоцнена організацыя арцеляў, а таксама будзе пастаўлена навукова-дасьледчая работа, калі будзе організавана ахова вадазбораў ад драпежніцкага лову і браконьераў і будзе зроблена патрэбная ачыстка вадазбораў ад лому і карчоў, дык рыба стане сапраўды адным з важнейшых продуктаў харчаваньня насельніцтва і дасьць значную экспортную продукцыю.

## IV

Гістарыя. Археолёгія. Мова.

Гістарычна-археолёгічная частка экспэдыцыі ставіла сабе мэтай, галоўным чынам, разьведку і толькі частковa раскопкі і вывучэньне пэўных об'ектаў матар'яльнай культуры. Паколькі задачай зьяўляліся росшукі, дык экспэдыцыі прыходзілася рабіць выхады ад асноўнага шляху—ракі і пунктаў астановак. Перш за ўсё была абсьледвана мясцовасьць навакол Лепеля радыусам 15—20 кілёмэтраў. Некалькі меншая адлегласьць абсьледвалася пры астаноўках у іншых пунктах. Знойдзеныя помнікі заносіліся на карту, пералічаліся, рабіліся іх абмеры, зарысоўкі, фотографіі і ў некаторых мясцох — раскопкі. Знойдзены стаянкі нэоліту — 6, гарадзішчы — 19, селішчы — 5 і курганы 61 група. Такім чынам, экспэдыцыя мела магчымасьць дасьледваць культуру з часоў нэоліту да эпохі раньняга фэўдалізму ўключна.



Гарадзішча „Дубок" на р. Эсе пад г. Лепелем.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

Ня спыняючыся на помніках нэоліту, які, галоўным чынам, рэгістраваўся, хаця некаторыя стаянкі, як, напрыклад, стаянка на беразе Паліка, заслугоўваюць спэцыяльнага вывучэньня, застановімся ў некалькіх словах на гарадзішчах, селішчах і курганох.

Эпоха гарадзішчаў з іх культураю вельмі цікавіць гісторыкаў матар'яльнай культуры, бо вывучэньне гарадзішчаў на матар'яльных помніках дае магчымасьць прасунуць у глыбіню вывучэньне гістарычнага процэсу на цэлую социяльна-экономічную формацыю, а мена-

віта—патрыярхальна-радавую. Вывучэньне гарадзішчаў на тэрыторыі РСФСР і УССР (Ефіменка, Кісялёў, Раўданікас і інш.) прыводзіць да такога вываду, што гарадзішчы, як від пасяленьня чалавека, зьвязаны з пэўнай ступеньню вытворчасьці і адносяцца да тых часоў, калі пераважала паляўніча-жывёлагадоўчая гаспадарка, а земляробства было слаба разьвіта і было пераважна матыжным. У сувязі з такім відам вытворчасьці ўтварыліся і пэўныя соцыяльныя адносіны. Гарадзішча, як жыльлё, як від пасяленьня—гэта форма сялібы роду. Вывучэньне гарадзішчаў, рэшткаў іх культуры, параўнаньне іх з ужо знойдзенымі і багатымі па колькасьці і якасьці помнікамі культуры, як, напрыклад, са знахадкамі Банцараўскага (пад Менскам) гарадзішча, зьяўляецца аднэй з чарговых задач сэкцыі археолёгіі. З другога боку, вывучэньне самой формы гарадзішчаў і іх разьмераў, іх велічыні, умацаваньня, а таксама іх разьмяшчэньне ў тэй ці іншай мясцовасьці даюць значны матар'ял для пэўных вывадаў гісторыка матар'яльнай культуры. Знойдзеныя экспэдыцыяй і часткова дасьледваныя гарадзішчы папаўняюць значны матар'ял, што маецца ўжо адносна гарадзішчаў, і дадуць пэўную магчымасьць паставіць належнае вывучэньне і высьвятленьне таго пэрыоду гістарычнага процэсу, які да сучаснага моманту зьяўляецца даволі цёмным для ўсяе Ўсходняе Эўропы, у тым ліку і для Беларусі.

Пераходны пэрыод ад патрыярхальна-радавога быту да фэўдалізму мае свае ўласныя помнікі культуры: гэта позьнія гарадзішчы, затым селішчы і часткова курганы. Гарадзішча, як форма пасяленьня, не адразу зьнікае пасьля адміраньня патрыярхальна-радавога ладу; яно яшчэ доўгі час бытуе як пасяленьне і існуе нават у раньнюю пару фэўдалізму. Звычайна яно выкарыстоўваецца фэўдалам для пабудовы свайго гораду або замку. Гэта мы наглядаем у Барысаве, Сьвіслачы, Койданаве, Воршы і іншых гарадох. Рэшкі гэтых паселішчаў у сучаснай археолёгіі і носяць назву таксама гарадзішчаў. Характэрнай іх адзнакай зьяўляецца перамешваньне культур. Калі ніжні пласт падобных гарадзішчаў прадстаўляе помнікі і рэшткі культуры патрыярхальна-радавое формацыі, дык верхні—помнікі пераходнае пары або эпохі фэўдальных часоў. У некаторых выпадках рэшткі фэўдальных замкаў захаваліся і да сучаснага моманту.

Больш характэрным відам пасяленьня пераходнае пары зьяўляюцца селішчы. Селішча ня мае такой выразна вызначанай формы як гарадзішча, калі толькі яно ня выкарыстала старога гарадзішча. Цікавым прыкладам селішча зьяўляецца селішча ў Лепелі. Знаходзіцца яно на астраўку, супроць Старога Лепеля, зьвязана з сухазем'ем вузенькім пярэсмыкам, які ў даўнія часы быў або перакапаны ровам, або і сам пярэсмык зьяўляецца насыпам больш позьняга паходжаньня. Ужо само палажэньне на востраве ў значнай ступені забясьпечвала насельніцтва ад ворагаў і вада возера замяняла валы. Селішча было месцам пасяленьня вельмі доўгі час, пачынаючы з эпохі гарадзішчаў і канчаючы самаю позьняю парою фэўдалізму. Зразумела, што ў фэўдальныя часы гэта было месцам пасяленьня фэўдала і яго двара. Рэшткі самых розналікіх культур яшчэ і цяпер можна знаходзіць на месцы гэтага селішча нават без раскопак, на паверхні зямлі, у відзе вялізарнай колькасьці чарапкоў featureознае пасуды, што адносіцца да розных часоў жыцьця на гэтым селішчы.

Ня менш важным у археолёгічных адносінах зьяўляецца і вывучэньне курганных культур. Тут своечасова заўважыць, што курганы, у сувязі з разьвіцьцём сельска-гаспадарчай тэхнікі, а менавіта, з увядзеньнем мэханізаванай цягавай сілы—трактараў у значнай ступені,

ня гледзячы на існуючыя законы аховы іх, разворваюцца і зьнікаюць. Перад археолёгіяй стаіць неадкладная задача ў самым хуткім часе ня толькі занатаваць, але і зрабіць, хаця-б у невялічкім разьмеры, выбарачныя раскопкі. Само сабой разумеецца, што адначасна павінны прымацца ўсе меры па ахове гэтага роду помнікаў.

У часе экспэдыцый занатавана 61 група курганаў.

Сярод дасьледваных курганаў асабліва зацікавілі археолёгаў экспэдыцыі магілы, абкладзеныя каменьнем. Гэтыя магілы прадстаўляюць ужо ўпускное пахаваньне, якое мае невялічкі надзёмны насып, або і зусім бяз насыпу. Магілы абложаны каменьнем, маюць кругавідную або прадаўгаватую форму. Раскопкі гэтых магіл прыводзяць да вываду, што яны адносяцца да XII—XIV стагодзьдзя; можна на іх заўважыць уплыў балтыцкіх культур. Што датычыць да іх паходжаньня, дык можна прасачыць пэўную сувязь з паўднёвым захадам, дзе маюцца падобныя магілы, але больш раньняга часу. Разам з тым відаць уплыў паўднёва-бізантыйска-корсунскі, адкуль гандлёвыя сувязі даносілі розныя рэчы ў самыя глухія куткі Беларусі, як вёска Хаўхолцы (Барысаўскага р.) на Бярэзіне.

Што датычыць да вывучэньня мовы, дык вывучалася мова на папяровай фабрыцы ў мястэчку Чашнікі і ў г. Барысаве паводле вытворчага прынцыпу, мова самое вытворчасьці і рабочых вытворчасьці, а затым мова плытагонаў і зьвязаных са сплавам процэсаў. Апрача таго, вывучалася мова рыбацтва і ўсіх процэсаў, зьвязаных з ім. Важным об'ектам дасьледваньня мовазнаўцаў зьяўлялася вывучэньне мовы колгасьнікаў. Калі вывучэньне мовы на фабрыцы і на сплаве дало багаты і новы матар'ял лексычнага характару, дык вывучэньне мовы ў колгасах у часе рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ўстаноўкі яе на соцыялістычныя рэйкі асабліва цікава для мовазнаўцаў з пункту погляду соцыяльна-грамадзкага, а менавіта, вызначэньне таго, як гэтыя процэсы адбіліся на мове як у словаўтварэньні, так і ўкараненьні ў ёй новае соцыялістычнае тэрміналёгіі. Словам перад мовазнаўцамі ў гэтых адносінах стаяць цікавейшыя і аграмаднейшыя проблемы, вывучэньне якіх павінна стаць задачай Інстытуту мовазнаўства, і першыя спробы экспэдыцыі вывучэньня і пастаноўкі гэтых проблем не павінны быць пакінуты без працягу і паглыбленьня.

Гаварыць аб самым матар'яле па прычыне яго вузкай спэцыяльнасьці ў агульным артыкуле ня прыходзіцца; матар'ял сабраны значны і будзе выкарыстаны Інстытутам мовазнаўства як для слоўніка, так і для спэцыяльных дасьледчых прац моўнага характару.

Трэба адзначыць, што экспэдыцыяй ва ўсіх пастаўленых проблемах зроблена вялікая колькасьць фотоздымкаў, асабліва па об'ектам, зьвязаным з вывучэньнем лесасплаву і рыбацтва; таксама сфотографаваны важнейшыя помнікі матар'яльнай культуры; зроблены зарысоўкі і абмеры дасьледваных об'ектаў.

У заключэньне трэба сказаць некалькі слоў аб культурнай рабоце, што праароблена экспэдыцыяй. У г. Лепелі былі прачытаны лекцыі на тэмы: 1) „Клясавая барацьба ў літаратуры"; 2) „Клясавая барацьба ў мовазнаўстве"; у м. Чашніках даклад: „Нацыянал-дэмократызм і чарговыя задачы мовазнаўства"; у в. Домжарыцы—1) „Клясавая сутнасьць рэлігі"; 2) „Купальле, як перажытак вясельнага сьвяткаваньня". Апрача таго, зроблена некалькі нарад на антырэлігійныя тэмы і тэмы культурна-гістарычнага характару ў сувязі з досьледамі, якія праводзяцца над гістарычна-археолёгічнымі помнікамі, а таксама об'ектамі досьледаў пры лесасплаве і рыбацтве.

Урэшце, два словы аб самым характары экспэдыцыі. Экспэдыцыя складалася з прадстаўнікоў розных сэкцый Інстытуту гісторыі і прадстаўнікоў Інстытуту мовы. Агульным для экспэдыцыі было кіраўніцтва, шлях, па якім накіроўвалася экспэдыцыя і сродкі руху, якімі зьяўляліся лодкі. Рознасьць об'ектаў вывучэньня ўносіла пэўны разлад у работу экспэдыцыі і ў той час, калі для адных дасьледчыкаў патрэбна



Экспэдыцыя. Лягер на р. Эсе.

Фотоздым. А. Н. Ляўданскага.

было затрымацца на больш-менш значны час на адным месцы, напр., у Домжарыцах, дык для другіх работы там было мала, а ў іншым пункце якраз здаралася наадварот.

Станоўчым бокам экспэдыцыі зьяўляецца яе таннасьць. Пры дарагоўлі і недастатковасьці гужавога транспорту спосаб руху па вадзе на лодках у сучасны момант зьяўляецца самым танным, праўдзівей сказаць, транспорт па вадзе экспэдыцыі не каштаваў нічога, паколькі члены экспэдыцыі зьяўляліся грабцамі лодак, а лодкі былі прадастаўлены Лесбелам у часовае карыстаньне. Таксама нічога не каштавала аплата памяшканьня, паколькі ў дарозе для начовак карысталіся сваёй палаткай, або такімі памяшканьнямі, як школа, гумно, курэнь і інш. Экспэдыцыяй на працягу 40 дзён пройдзена па каналах Бярэзінскай сыстэмы і па р. Бярэзіне, выключаючы бакавыя адыходы, каля 600 кілёмэтраў.

Наладжваньне комплексных або супольных экспэдыцый пры больш дэталёвай распрацоўцы плянаў дарогі і астановак самых экспэдыцый і работы ў паасобных пунктах бязумоўна зьяўляецца рацыянальным і пажаданым.

Заўвага аўтара. Няроўнамернасьць і непрапорцыянальнасьць разьмяшчэньня разьдзелаў нарысу тлумачыцца рознаю колькасьцю матар'ялаў, які меўся ў аўтара на руках як па яго грамадзкай значымасьці, так і па колькасьці.

Маршрут экспэдыцыі БАН.

М. Грынблят

# За вывучэньне фольклёру эпохі дыктатуры пролетарыяту

„Нам канечна трэба вывучаць нашу рачаіснасьць ва ўсім аб'ёме, нам трэба ведаць у твар усе нашы заводы і фабрыкі, усе прадпрыемствы, усе работы па будаўніцтву дзяржавы". (М. Горкі.—„Гісторыя фабрык і заводаў").

Кастрычніцкая рэволюцыя зрабіла такія карэнныя клясавыя зрухі і такія магутныя зрухі ў экономіцы, культуры і ідэолёгіі працоўных шматлікіх нацыянальнасьцяў СССР, якія ня мелі яшчэ прыкладаў у гісторыі. У пятнаццаты год Кастрычніка пролетарыят СССР разам са сваёй моцнай апорай на вёсцы—колгасьнікам уступіў з вялізарнейшымі дасягненьнямі, канчаючы пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі і пасьпяхова будуючы соцыялізм. Эпоха дыктатуры пролетарыяту ёсьць эпоха гіганцкіх посьпехаў і перамог на ўсіх франтох будаўніцтва соцыялізму—экономікі, культуры, быту. Разьвіцьцё новых вытворчых сіл і новыя формы вытворчых суадносін выклікалі нябачанае разьвіцьцё нашай гаспадаркі, зьмяняючы і процэсы і формы вытворчасьці. Зьмяняецца, „рэконструецца" і сама рабочая сіла, занятая на вытворчасьці. Пашыраюцца новыя соцыялістычныя формы і мэтоды працы—соцспаборніцтва, ударніцтва, рабочае вынаходніцтва і г. д. Усё гэта выкоўвае новага чалавеке, барацьбіта за соцыялізм. Нараджаецца новы быт, новая поэзія, песьня, новая мова на фабрыцы і ў колгасе. Нішчыцца кітайская сьцяна між горадам і вёскай, расьце і шырыцца соцыялістычная культура, нацыянальная па форме.

Разам з гіганцкім ростам пролетарскай літаратуры, у якую ўліліся ўжо лепшыя прадстаўнікі рабочае клясы—ударнікі, расьце, нараджаецца новая рэволюцыйная вусная творчасьць працоўных гораду і вёскі, тое, што ў нас прынята называць фольклёрам. Ад часу Кастрычніцкай рэволюцыі да самага апошняга дню, калі пасьпяхова будуецца соцыялізм, ніводнае палітычнае здарэньне, ніводная перамога партыі і савецкай улады, ніводнае дасягненьне рабочай клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства, ніводная зьява ўсяго таго новага, што нараджаецца ў эпоху соцыялістычнага будаўніцтва, як бурны рост індустрыялізацыі, колектывізацыя сельскае гаспадаркі, разгорнутая клясавая барацьба, стварэньне новага быту, — нічога не прайшло м ма таго, каб не знайсьці поэтычных водгукаў у шырокіх масах працоўных у выглядзе песьні, прыпеўкі (частушкі), прыказкі, прыслоўя, анэкдоту, казкі, розных апавяданьняў і нават асобных слоў. Больш за ўсё мы маем новых прыпевак. Прыпеўка зьяўляецца больш дынамічным, больш жывучым відам вуснай творчасьці і хутчэй адгукаецца на роз-

ныя здарэньні дню. Гэта свайго роду вандроўная вусная газэта. Падам некалькі прыкладаў.

Першыя дні рэволюцыі, рэволюцыйны ўздым працоўных мас выліўся ў такой прыпеўцы:

Не нада нам меністра,
Не нада нам цара,—
Бей буржуазію
Таварышы, ура! (Багушэўскі р.).

Эпоха грамадзянскай вайны, барацьба з бандытызмам і дэзэртырствам знайшло таксама сваё адлюстраваньне —

А на елі, на вяршыне
Дзісярцір шатаецца,
Пасматрыце, камуністы,
Ён ат вас хаваецца. (Чэрвенскі р.).

Адбітак уплыву комсамолу —

Пойдзем, дзевачкі, усе мы
С камсамольцамі гулянь, —
Камсамольцы нас навучаць
Кніжку Леніна чытаць. (Плешчаніцкі р.).

Асабліва багата адлюстраваны рост бязбожжа ў горадзе і на вёсцы, стварэньне новага быту і сьветапогляду —

Ня шлі, маці, мяне ў цэркву,
Я не багамолычка,—
Запішуся ў ЛыКыСэм,
Буду камсамолычка. (Горацкі р.).

Цяпер новыя права —
Не нада венчацца,
А ў Савеце за сталом
Толькі расьпісацца. (Хоцімскі р.).

Пасьпяховы рост колектывізацыі сельскае гаспадаркі выклікаў у апошні час масу поэтычных водгукаў —

А на што мы пастроілі
Калякціўнае сяло, —
Каб-жа добра ў нас жылося,
Красавалася, цьвіло. (Бягомльскі р.).

Нават здарэньні ў капіталістычных краінах, фашысцкі разгул у Польшчы знаходзіць сваё адбіцьцё —

А Пілсуцкі, зьмяя падкалодная,
Скора-ль будзіць у вас уласьць народная?
Уласьць народная, але не панская,
А рабочая, пралетарская. (Бягомльскі р.).

Эпоха разгорнутага социялістычнага наступу, процэс будаўніцтва социялізму, індустрыялізацыя і колектывізацыя асабліва адлюстраваны ў фольклёры. Мы маем нязьлічоную колькасьць твораў, прысьвечаных будаўніцтву індустрыяльных гігантаў, колгасаў і савгасаў. Аднак, увесь гэты фольклёр рэволюцыі і социялістычнага будаўніцтва нам амаль не вядомы, зусім ня вывучаны. Нашы навукова-дасьледчыя ўстановы, а таксама краязнаўчыя організацыі зусім не зьвярталі да гэтага часу ўвагі на гэтае найважнейшае пытаньне.

Наадварот, былое нацыянал-дэмократычнае кіраўніцтва Катэдры этнографіі БАН і былое нацыянал-дэмократычнае і нацыянал-опортуністычнае кіраўніцтва ЦБК, у руках якіх знаходзілася „вывучэньне“

і зьбіраньне фольклёру, сьвядома ігноравалі і абыходзілі фольклёр рэволюцыі. Нам добра вядома і зразумела агульная ўстаноўка контр-рэволюцыйнага нацдэмократызму на адрыў ад рэволюцыйнай сучаснасьці, установка на сівую старажытнасьць, установка, якая выцякала з капіталістычна-рэстаўратарскіх імкненьняў нацдэмізму, з зьвярынай нянавісьці да дыктатуры пролетарыяту. Пытаньні фольклёру, наогул, зьяўляліся аднымі з цэнтральных пытаньняў—якія „распрацоўваліся" кампаніяй „вучоных этнографаў"—Ластоўскім, Шлюбскім, Касьпяровічам, Мялешкам і інш. І гэта не выпадкова. У фольклёры яны старанна шукалі „навуковага абгрунтаваньня" сваіх контр-рэволюцыйных „навуковых тэорый". На фольклёрным матар'яле, ня спыняючыся нават перад фальсыфікацыямі, будаваліся „тэорыйкі", накшталт „волата-крыўскай" (Касьпяровіч, Ластоўскі), „тэорыя самабытнасьці" беларускай культуры і мовы, „даводзілася", што назвы „Белая Русь", „беларусы" штучныя назвы, прынесеныя „з Масквы", а сапраўдная назва ёсьць „Крывія", „крывічы" (Шлюбскі) і г. д. Контр-рэволюцыйная, інтэрвэнцыянісцкая, фашысцкая сутнасьць гэтых „тэорый" ужо выкрыта і вядома савецкай грамадзкасьці. На аснове ўжо сказанага зусім зразумела, чаму нацдэмы так горача „вывучалі" і зьбіралі старажытны фольклёр і ўсякімі спосабамі адмахваліся ад сучаснага фольклёру. Аб гэтым яскрава сьведчыць цэлы рад програм па зьбіраньню фольклёру, выданых за час дзейнасьці нацдэмаў. Возьмем для прыкладу „Програму для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці" Шлюбскага [1]), аднаго з „аўторытэтнейшых" нацдэмаўскіх „этнографаў". У першую чаргу програма рэкомэндуе запісваць замовы, казкі і легенды (асабліва зьбіраюцца легенды пра волатаў і валатоўкі, рассылаюцца дзесяткі тысяч анкет), калядныя, масьлянкавыя, русальныя, купальскія, вясельныя і іншыя песьні, галашэньні, духоўныя вершы аб Лазары, аб страшным судзе, песьні з жыцьця Хрыста, песьні на прошчу і г. д. Нават пры запісваньні песень працы асаблівую ўвагу раіцца зьвярнуць на жніўныя песьні, „на якія перанесены некаторыя рысы дагістарычных звычаяў і вераньняў". Што да сучасных песень, дык да іх Шлюбскі адносіць „бытавыя песьні і прыпеўкі", якія хоць і „зьяўляюцца продуктам навейшага пахаджэньня, але, *ня гледзячы на гэта* (падкрэсьлена мною—М. Г.), іх трэба запісваць". Але і гэтыя „продукты навейшага пахаджэньня" паданы для „очистки совести", бо далейшыя „каштоўныя парады", якія даюцца ў програме, выключаюць усякую магчымасьць зьбіраньня фольклёру рэволюцыйнай эпохі: „Запісваць трэба са слоў старых *жанчын*. У выпадку адсутнасьці паміж імі асоб, якія ведаюць песьні, казкі і г. д., запісваць трэба са слоў кожнага... робячы перавагу няпісьменным". Гэта т. зв. „тэорыя старой бабы", якой была прасякнута ўся „этнографічная дзейнасьць" нацдэмаў. Усё маладое, новае было выкрэсьлена з об'ектаў этнографічнага вывучэньня, бо яно ішло ў разрэз з нацдэмаўскімі ўстаноўкамі.

Лішне казаць пра тое, што вывучэньне гораду, вывучэньне быту гарадзкога пролетарыяту наогул і яго вуснай творчасьці ў прыватнасьці, па тых-жа мотывах, не ўваходзіла ў „закрэс этнографіі". Толькі ў пачатку 1930 году, пад напорам пролетарскай грамадзкасьці, пасьля таго, як партыяй і марксыцка-ленінскай крытыкай быў нанесены нацдэмократызму моцны ўдар, зьявіўся ў „Нашым Краі" артыкул Касьпяровіча — „Вывучэньне быту рабочых" [2]). Большага зьдзеку над

[1]) „Наш Край". Менск, 1928, № 4, стар. 40—4 і асобна.
[2]) „Наш Край" 1930, № 1, стар. 14—24.

важнейшым пытаньнем сёнешняга дню цяжка сабе ўявіць. Апрача таго, што аўтар паказвае сваю абсолютную няпісьменнасьць у справе разуменьня задач этнографіі наогул і задач вывучэньня быту рабочых у прыватнасьці, артыкул імкнецца проста адцягнуць краязнаўцаў ад вывучэньня быту рабочых. „Этнограф-краязнаўца", гэта таямнічая асоба, якая, паводле Касьпяровіча, павінна заняцца вывучэньнем рабочага быту, павінен уладаць ня толькі ўсімі „качествами", але быць проста звыш-Пінкертонам. Перш чым прыступіць да працы, трэба „разьвіваць спэцыяльнасьць зроку, слыху, памяці і падыходу да людзей... выхоўваць у сабе пачуцьцё меры прастору і часу", каб добра бачыць „этнографічныя факты", чуць „этнографічныя (?) гукі" і даўжэй „трымаць у галаве... этнографічна (?) бачанае".

Апрача гэтага, „этнограф-краязнаўца" павінен быць чарцёжнікам, мастаком, фотографам, географам, глебазнаўцам, музыкам, модэльшчыкам, лінгвістам, кліматолёгам, адным словам,—майстрам на ўсе рукі. „Экспэдыцыя" на завод (якую Касьпяровіч раіць рабіць „аднаму, або ўдваіх") павінна назапасіцца... біноклем, компасам, пляншэтам, нажом, мэтрам, фотаапаратам, фарбамі і пэндзлямі, павялічальным шклом, картай, чарнілам і, калькай, рознай паперай і г. д. Амаль, як на паўночны полюс. Адным словам, працэс вывучэньня быту рабочых да таго ўскладняецца, што, відавочна, ніводны з самых таленавітых „этнографаў-краязнаўцаў" за гэту работу ня возьмецца, што сапраўды і было. Краязнаўчыя організацыі і да гэтага часу не разгарнулі работы па вывучэньню быту рабочых. Артыкул Касьпяровіча па сутнасьці зьяўляецца раней абдуманым шкодніцкім актам, накіраваным да зрыву організацыі справы вывучэньня быту рабочых, справы, якой партыя аддае належную ўвагу. Ня спыняючыся больш падрабязна на артыкуле Касьпяровіча, можна яшчэ падкрэсьліць, што з 11 старонак „Програмы" толькі каля 3-х прысьвечаны нацдэмаўскай блытаніне, якую Касьпяровіч называе бытам рабочых, рэшта-ж занята дылетанцкімі „рэцэптамі" і разважаньнямі, частка якіх у відзе прыкладаў падана вышэй.

Пры такой пастаноўцы пытаньня дасьледваньня быту рабочых ясна, што вывучэньне і зьбіраньне рэволюцыйнага фольклёру рабочых не магло разгарнуцца. Што да рэволюцыйнай вуснай поэзіі вёскі, дык, як ужо было адзначана, яна таксама не займала ўвагі нашых навукова-дасьледчых устаноў і краязнаўчых організацый. Нацдэмы назьбіралі дзесяткі тысяч запісаў розных калядных, запусных, мікольскіх, валачобных і інш. песень, тысячы легенд пра волатаў і ваўкалакаў, фотаздымкаў цэркваў і крыжоў, але сярод іх мы ня знойдзем і аднаго проценту твораў рэволюцыйнага часу. Мы ні ў якім разе не адмаўляем патрэбы зьбіраньня помнікаў старой народнай творчасьці. Вывучэньне старога фольклёру, які яшчэ значна пашыраны ў масах, мае для нас значэньне ў высьвятленьні цэлага раду пытаньняў гісторыі культуры, для барацьбы з перажыткамі старога быту і сьветапогляду, для нашай антырэлігійнай барацьбы. Мы супраць зьбіраньня старога фольклёру, як самамэты, супраць „замілаваньня" і ідэалізацыі старажытнасьці, супраць нацдэмаўскіх і іншых варожых установак у фольклёрыстыцы.

Галоўнейшай задачай нашых навукова-дасьледчых устаноў і краязнаўчых організацый у галіне фольклёру павінна стаць вывучэньне і зьбіраньне ўсяго таго, што нарадзілася ў эпоху дыктатуры пролетарыяту, усяго таго, што адбівае героічную барацьбу пролетарыяту і бядняцка-серадняцкага сялянства за пабудову соцыялізму. Асабліваа

значэньня вывучэньне рэволюцыйнага фольклёру набывае цяпер, пасьля пастаноў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б аб вывучэньні гісторыі фабрык і заводаў і грамадзянскай вайны.

Вывучэньне фабрык і заводаў прадуглядае таксама вывучэньне быту рабочых раней і цяпер. Ясна, што і вывучэньне вуснай творчасьці рабочых ня можа застацца па-за ўвагай. З другога боку, фольклёр рабочых дае багацейшы матар'ял для вывучэньня гісторыі фабрык і заводаў, розных пэрыодаў, рэволюцыйнага руху сярод рабочых, соцыялістычнага будаўніцтва, рабочага быту, настрояў і г. д. У справе вывучэньня грамадзянскай вайны фольклёр пасьлярэволюцыйнага часу дае багата матар'ялу па партызанскаму руху, нямецкай і белапольскай окупацыям, бандытызму і г. д.

Мы павінны ведаць, які поэтычны водгук знайшла Кастрычніцкая рэволюцыя, грамадзянская вайна, НЭП, рэконструкцыйны пэрыод, разгорнуты соцыялістычны наступ па ўсяму фронту, індустрыялізацыя і колектывізацыя краіны, уздым міжнароднага рэволюцыйнага руху, пасьпяховае выкананьне першай пяцігодкі, зьмена старых форм быту і ідэолёгіі, стварэньне новага чалавека.

Сэкцыя этнографіі Інстытуту гісторыі БАН пасьля рэорганізацыі Акадэміі перабудавала сваю работу адпаведна з запатрабаваньнямі соцыялістычнага будаўніцтва. Выходзячы з гэтага, вывучэньне фольклёру распачалося ў новым кірунку, паставіўшы ў першую чаргу распрацоўку наступных актуальных тэм:

1. Клясавая барацьба ў фольклёры гораду і вёскі.
2. Індустрыялізацыя і соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі ў фольклёры.
3. Адміраньне рэлігіі і рост бязбожжа ў фольклёры.

Перабудовы ўсёй работы ў галіне этнографіі патрабавалі з усёй рашучасьцю складаныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва, ставячы этнографіі ўсё новыя і новыя патрабаваньні. Галоўная наша задача—па-ленінску, дыялектычным мэтодам усьвядоміць нашу сучаснасьць, вялікую эпоху пролетарскай рэволюцыі ва ўсёй яе складанасьці; прасачыць узьнікненьне і разьвіцьцё новых форм вытворчасьці, суадносін рэчаў і людзей, клясаў, іх барацьбу, зьмену быту, звычаяў, творчасьці, ідэолёгіі. Вывучэньне новага фольклёру, народжанага рэволюцыяй—наша задача. Этнографія, як і ўся навука, партыйна і клясава і павінна служыць клясавым інтарэсам пролетарыяту.

У рабоце краязнаўчых організацый пытаньні этнографіі, пытаньні культуры і быту, у прыватнасьці вывучэньне рэволюцыйнага фольклёру, павінны займаць значнае месца. Аднак, гэтыя пытаньні ў апошні час амаль зусім ня ўключаны ў вытворчыя пляны масавых краязнаўчых ячэек. Работа ў галіне краязнаўства накіравана выключна на вывучэньне экономічных пытаньняў, вывучэньне вытворчых сіл краіны. Ясна, што такі кірунак работы ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва і, асабліва цяпер, калі распрацоўваецца другая пяцігодка, мае першачарговае значэньне. Гэтага недастаткова. Такі аднабаковы ўхіл краязнаўчае работы вядзе да адрыву шырокіх працоўных мас ад іншых важных задач партыі ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва, што яскрава было падкрэсьлена ў апошняй рэзолюцыі прэзыдыуму Комакадэміі па дакладу Таварыства краязнаўцаў-марксыстаў. „Лічыць зусім няправільным — гаворыцца ў рэзолюцыі — установку некаторых організацый на зьвядзеньне задач савецкага краязнаўства толькі да задач вывучэньня прыродных вытворчых сіл раёнаў. Такія ўстаноўкі вядуць да адрыву масавых нізавых грамадзка-наву-

ковых організацый ад задач вывучэньня *асаблівасьцяў форм клясавай барацьбы* ў розных раёнах Саюзу, вывучэньня культурна-бытавых і політычных *асаблівасьцяў нацыянальных аўтономій* і асаблівасьцяў форм ідэолёгічнай барацьбы ў розных нацыянальнасьцяў СССР, зводзяць сваю мэтодолёгію марксысцкага краязнаўства да вульгарызацыі марксызму ў форме „экономічнага матар'ялізму" і тым самым льлюць ваду на млын антымарксысцкіх і шкодніцкіх элемэнтаў у краязнаўстве, прабуючых адарваць краязнаўства ад політыкі компартыі і савулады і пад маркай „аполітычнасьці" весьці краязнаўства па памылковаму шляху" [1]).

Трэба таксама неадкладна прыцягнуць шырокія масы рабочых і колгасьнікаў да распрацоўкі пытаньняў культуры, быту, гісторыі, клясавай барацьбы. Краязнаўства якраз зьяўляецца „аднэй з лепшых форм масавага ўцягненьня ў навукова-дасьледчую работу рабочых, колгасьнікаў, моладзі, якія ідуць да шырокіх навуковых абагуленьняў ад усебаковага вывучэньня свайго раёну, гораду, сяла" [2]).

У галіне вывучэньня рэволюцыйнага фольклёру масавыя краязнаўчыя організацыі на заводах, у колгасах, савгасах, школах і г. д. могуць і павінны шмат чаго зрабіць.

Трэба неадкладна разгарнуць у горадзе і на вёсцы, на заводзе і фабрыцы, у савгасе і колгасе, на промыслах зьбіраньне і вывучэньне пасьлякастрычніцкага фольклёру, якое павінна зьявіцца органічнай часткай распачатай работы па вывучэньню грамадзянскай вайны і гісторыі фабрык і заводаў, савгасаў, колгасаў,—задачы, якую паставіла цяпер партыя. Гэта ў першую чаргу. Наогул-жа, вывучэньне фольклёру павінна ахапіць увесь пэрыод, усе этапы, пачынаючы ад Кастрычніка да нашых дзён. Мы павінны ў хуткім часе выдаць хоць першы зборнік, прысьвечаны рэволюцыйнаму фольклёру.

Вывучэньне рэволюцыйнага фольклёру павінна несьці масавы характар і праводзіцца колектыўна. У гэту работу павінны быць уцягнуты шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, комсамольцаў, настаўнікаў, вучняў старэйшых груп сямігодак, ШКМ, студэнцтва, аб'яднаныя ў краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах, колгасах і г. д. Для дапамогі масавым краязнаўчым організацыям на мясцох у справе вывучэньня фольклёру ніжэй даецца кароткая програма. Трэба імкнуцца, каб ніводны від фольклёру—апавяданьні, песьні, прыказкі і г. д.— ніводны факт, ніводная падзея рэволюцыйнага часу і соцыялістычнага будаўніцтва не засталася па-за ўвагай пры зьбіраньні, вывучэньні і сыстэматызацыі фольклёрнага матар'ялу. Пажадана, каб зьбіраньне фольклёру ішло ў тэматычным разрэзе, напрыклад,—Кастрычніцкая рэволюцыя ў фольклёры, партызанскі рух у фольклёры, Ленін у фольклёры, колектывізацыя сельскае гаспадаркі ў фольклёры, новы быт у фольклёры і г. д. Пры гэтым абавязкова павінна быць выяўлена клясавая прыналежнасьць саміх носьбітаў фольклёру, каб былі зразумелы адносіны розных клясавых груповак да нашай сучаснасьці.

Програма, якая даецца ніжэй, не зьяўляецца поўнай і павінна быць расшырана ў процэсе работы.

---

[1]) Вестник Ком. Академии, 1931, № 8-9, стар. 45.
[2]) Тамсама.

Запісваць трэба ўсе віды фольклёру—апавяданьні, казкі, жарты, анэкдоты, прыказкі, скарагаворкі, асобныя новыя словы, розныя песьні, прыпеўкі, загадкі і г. д.,—якія адбіваюць наступныя зьявы і факты ў горадзе і вёсцы ад часу Кастрычніка да нашых дзён:

1. Кастрычніцкая рэволюцыя і стварэньне савецкай улады. Першыя мерапрыемствы савецкай улады. Барацьба за савецкую ўладу. Першыя рэўкомы, валвыканкомы, сельсаветы, батрачкомы, камбеды, камітэты ўзаемадапамогі. Адносіны да савецкай улады розных соцыяльных груп. Контр-рэволюцыйныя выступленьні. Контр-рэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыяналістычных організацый, Бунду і іншых дробна-буржуазных і буржуазных партый.

2. Нацыяналізацыя банкаў, рабочы контроль. Дэкрэт аб зямлі. Рэволюцыйны ўздым працоўных мас, мітынгі, дэмонстрацыі, уплыў комуністаў.

3. Грамадзянская вайна. Нямецкая окупацыя. Белапольская окупацыя. Барацьба з окупантамі ў горадзе і на вёсцы. Чырвоная гвардыя, партызанскія атрады, героі-партызаны, дружыны самаабароны. Зьдзекі окупантаў, бандытызм, балахоўшчына. Барацьба з бандытызмам. Скарачэньне засеваў. Разьмеркаваньне продуктаў спажываньня. Харчразьвёрстка.

4. НЭП. Аднаўленчы пэрыод. Барацьба рабочых за аднаўленьне фабрык і заводаў, за падняцьце продукцыйнасьці. НЭП у горадзе і на вёсцы. Барацьба партыі з троцкізмам і опозыцыйным блёкам.

5. Рэконструкцыйны пэрыод. Індустрыялізацыя, мэханізацыя, электрыфікацыя. Колектывізацыя сельскае гаспадаркі. Барацьба з правым ухілам па пытаньню аб шляхох разьвіцьця вёскі.

6. Першая пяцігодка. Наступленьне соцыялізму па ўсяму фронту. Масавая колектывізацыя. Савгасы. Абвастрэньне клясавай барацьбы. Ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Барацьба кулацтва супроць колгасаў. Шкодніцтва буржуазных і дробнабуржуазных элемэнтаў у соцбудаўніцтве.

7. Партыя і комсамол. Правадыры партыі і пролетарыяту, Ленін і Сталін у фольклёры. Партыйныя, профэсіянальныя і грамадзкія організацыі. Партыйная і комсамольская ячэйкі, фабком, завком, рабачком. Партыйцы, комсамольцы, беспартыйныя.

8. Саветы. Райвыканком, гарсавет, сельсавет. Работа саветаў, члены саветаў. Выбары ў саветы.

9. Клясавае расслаеньне і клясавая барацьба ў горадзе і на вёсцы.

10. Рабочы, батрак, бядняк, серадняк; колгасьнік, адзінаасобнік, саматужнік. Працоўная інтэлігенцыя, служачы, спэцыялісты — інжынэры, аграномы, тэхнікі, настаўнікі, трактарысты і інш. Варожыя клясы і клясавыя групы: нэпман, шкоднік, кулак, поп, ксёндз, равін

11. Завод, фабрыка, цэх, савгас, колгас, МТС. Умовы працы Мэханізацыя, рацыяналізацыя вытворчасьці. Спэцыялізацыя, зьдзельшчына, нормы выпрацоўкі. Аўладаньне тэхнікай. Электрастанцыі, машыны, прылады вытворчасьці. Складаныя сельска-гаспадарчыя машыны—комбайн, трактар, снопавязалка і інш. Новабудоўлі.

12. Грамадзка-політычнае жыцьцё. Удзел у партыйнай, профэсіянальнай і грамадзкай рабоце. Энтузіязм будаўнікоў соцыялізму. Барацьба за выкананьне промфінпляну на заводзе, у цэху, у колгасе. Соцспаборніцтва, ударніцтва, скразныя брыгады, ударныя пасты, грамадзкі буксір, гаспадарча-разрахунковыя брыгады, ажыцьцяўленьне

шасьці ўмоў т. Сталіна на розных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

13. Ударнікі. Вылучэнцы. 25-ці тысячнікі. Шэфства. Рабочыя брыгады на вёсцы. Дэзэртыры з фронту соцыялістычнай будоўлі, лятуны, прагульшчыкі, шкурнікі. Прэм'яваньне ўдарнікаў і ганьбаваньне зрыўшчыкаў пляну.

14. Правядзеньне ўдарных кампаній, месячнікаў, дэкаднікаў, штурмаў, эстафэтаў і г. д. Засеўная, праполачная, уборачная кампаніі. Нарыхтоўкі. Чырвоныя абозы, эшалёны і г. д. Перавыбарчыя кампаніі.

15. Коопэрацыя, ЗРК, сельпо. Дасягненьні і недахопы коопэрацыі. Разгортваньне савецкага гандлю.

16. Разьвіцьцё соцыялістычнага земляробства і жывёлагадоўлі. Вырашэньне зернавой і жывёлагадоўчай проблем. Спэцыялізацыя колгасаў. Барацьба за тэхкультуры, павышэньне ўраджайнасьці, індустрыялізацыя і мэханізацыя пераапрацоўкі тэхкультур. Організацыйнагаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

17. Узрост матар'яльнага дабрабыту рабочых, колгасьнікаў. Жыльлёвае будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы. Соцыялістычныя гарады, рабочыя пасёлкі, будаўніцтва ў колгасах. Новы быт. Грамадзкае харчаваньне, пральні, ясьлі, дзіцячыя дамы, лазьні, сталоўкі. „Лямпкі Ільліча", электрыфікацыя, тэлефонізацыя. Комунальная гаспадарка гораду.

18. Рост культуры і пісьменнасьці. Ліквідацыя няпісьменнасьці, школы, курсы, тэхнікумы, ВНУ; клюбы, хаты-чытальні, бібліотэкі, лен-куткі; кіно, радыё, тэатры, гурткі; газэты, кнігі, насьценгазэты, рабселькоры. Аўладаньне тэхнікай, тэхпропаганда і агропропаганда. Фізкультура.

19. Утварэньне новага сьветапогляду. Бязбожжа. Адносіны да рэлігіі, папоў. Адыход ад рэлігіі. Антырэлігійная пропаганда. Зачыненьне дамоў культу. Бацькі і дзеці. Зьніжэньне наведваньня царквы. Рэлігійныя і рэволюцыйныя сьвяты.

20. Клясавая сутнасьць рэлігіі. Царкоўнікі і сэктанты супроць мерапрыемстваў савецкае ўлады, соцбудаўніцтва, колектывізацыі.

21. Праявы новага быту—рэволюцыйныя сьвяты, савецкі шлюб, чырвонае вясельле і пахаваньне, „акцябрыны", новыя рэволюцыйныя імёны, новыя прывітаньні, узаемаадносіны моладзі, сямейныя адносіны, вызваленьне жанчыны. Новыя імёны для жывёлы.

22. Перашкоды на шляху соцыялістычнага будаўніцтва, перажыткі старога быту. Забабоны, п'янства, самагон, карты, хуліганства, антысэмітызм. Барацьба з імі. Уласьніцкія перажыткі.

23. Новае ў старым фольклёры. Новыя казкі, пераробленыя з старых, прыказкі, загадкі. Новыя элемэнты ў абрадовай поэзіі. Новыя гульні, карагодныя песьні, драматычныя творы.

24. Інтэрнацыянальная пролетарская солідарнасьць. Рэволюцыйная барацьба рабочых у капіталістычных краінах. Міжнародныя падзеі.

25. Ленінская нацыянальная політыка. Нацыянальныя раёны, сельсаветы, колгасы, школы. Беларусізацыя. Велікадзяржаўны шовінізм, контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм, шовінізмы іншых нацыянальнасьцяў, антысэмітызм.

26. Ваенная небясьпека і ўзмацненьне абароназдольнасьці Савецкай краіны. Чырвоная армія. Чырвонаармейцы, прызыў у Чырвоную армію. Вайсковая падрыхтоўка, ячэйкі АСО. Чырвонаармейцы на сяле, дэмобілізаваныя чырвонаармейцы. Чырвонаармейскія песьні і апавяданьні.

27. Жанчына-работніца, колгасьніца. Жанчына-ударніца, будаўнік соцыялізму. Жанчына на адказнай грамадзкай і гаспадарчай рабоце.

28. Дзеці. Новае выхаваньне. Піонэры, іх песьні. Рэволюцыйны дзіцячы фольклёр. Новыя гульні — у рэволюцыю, у дэмонстрацыю, у коопэрацыю, якія пры гэтым сьпяваюцца песьні? Новыя калыханкі.

---

Запісваць творы вуснай творчасьці трэба з усёй дакладнасьцю. Зазначаць, дзе і калі запісана, ад каго—узрост, соцыяльнае становішча, нацыянальнасьць, калі і ад каго пачуў даны твор. Пажадана таксама запісваць літаратурныя творы рабочых, колгасьнікаў на тыя-ж тэмы ў насьценгазэтах і інш., зьбіраньне біографій і аўтобіографій мясцовых поэтаў, палітычных і грамадзкіх работнікаў. Канечна трэба дадаваць кароткія весткі аб мясцовасьці, дзе зроблены запісы— насельніцтва, адлегласьць ад культурных пролетарскіх цэнтраў і г. д.

Програма мае на ўвазе таксама фольклёр на мовах нацменшасьцяў БССР—рускай, яўрэйскай, польскай, латыскай, літоўскай і іншых.

Увесь матар'ял трэба дасылаць у Сэкцыю этнографіі—Менск, Беларуская Акадэмія Навук.

---

# „Гісторыя заводаў“

*(ад рэдакцыі „Гісторыя заводаў“)*

Пастановай ад 10 кастрычніка 1931 г. ЦК УсеКП(б) ухваліў ініцыятыву т. М. Горкага і прапанаваў прыступіць да выданьня „Гісторыі заводаў СССР“.

Гэта гісторыя павінна быць бальшавіцкім паказам найбольш значных прамысловых прадпрыемстваў СССР з моманту іх узьнікненьня да нашых дзён.

Абагульняючы гістарычную практыку барацьбы пролетарыяту на шляху яго да дыктатуры і практыку будаўніцтва соцыялізму ў СССР, „Гісторыя заводаў“ павінна выканаць важную політычную задачу — навучыць разумець, цаніць і ўмацоўваць рэволюцыйныя заваёвы працоўнае клясы.

„Гісторыя заводаў“ ставіць перад сабою перш за ўсё політычныя мэты—выхаваньня на гістарычным матар'яле многіх тысяч новых рабочых і падрастаючага пакаленьня пролетарскай моладзі, уступаючай зараз у рады будаўнікоў соцыялізму. Вывучаючы мінулае для разуменьня сучаснага, „Гісторыя заводаў“ тым самым будзе жывой зброяй мобілізацыі мас для будаўніцтва соцыялізму.

Разам з тым „Гісторыя заводаў“ павінна стаць концэнтрацыяй баявое гістарычнае практыкі і практыкі будаўніцтва соцыялізму для міжнароднага пролетарыяту, уступіўшага зараз у рашучую стадыю барацьбы з капіталізмам, посьпех якой непасрэдна зьвязаны з посьпехамі пролетарыяту СССР.

Нарэшце „Гісторыя заводаў“сваім праўдзіва шырака разгорнутым бальшавіцкім паказам соцыялістычнай будоўлі—павінна моцна ўдарыць па ныціках, малаверах і опортуністах усіх відаў, якія ня вераць у творчыя сілы пролетарыяту, у дасягненьні яго колектыўнага розуму і волі.

Да „Гісторыі заводаў“—самыя непасрэдныя адносіны маюць указаньні т. І. Сталіна, зробленыя ім у артыкуле „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“:

„Патрэбна падняць пытаньні гісторыі бальшавізму на належную вышыню, паставіць справу вывучэньня нашае партыі на навуковыя бальшавіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць троцкісцкіх і ўсялякіх іншых фальсыфікатараў гісторыі нашай партыі, сыстэматычна зрываючы з іх маскі“.

Выходзячы з намечаных задач і мэтаў, уся сэрыя зборнікаў „Гісторыі заводаў“ павінна быць прасякнута адзінствам марксысцкаленінскага мэтоду і зьместу, азначанага адзінай програмай. Астатняя павінна быць, у першую чаргу, распрацавана на падставе ўказанай вышэй агульнай політычнай устаноўкі. Папярэднюю схемаю такой програмы павінна служыць гэтая кароткая інструкцыя, якая можа дапамагчы на першых кроках па зьбіраньню і сыстэматызацыі матар'ялу па гісторыі фабрык і заводаў. Пры гэтым патрэбна рашуча

змагацца з бюрократычнымі адносінамі да гэтага пляну, як да стандарту, пад які патрэбна толькі падганяць матар'ял.

Стрыжнем програмы павінны быць параўнаўчы паказ і конкрэтнае супроцьстаўленьне дзьвюх сыстэм—капіталістычнай і соцыялістычнай.

Увесь матар'ял у зборніку організуецца і асьвятляецца ў дзьвюх асноўных частках: прадпрыемства ва ўмовах перадкапіталістычнага і капіталістычнага рэжыму, з асноўным упорам на паказ мэтодаў і формаў капіталістычнай эксплёатацыі рабочае клясы, і прадпрыемства ва ўмовах будуючагася соцыялізму з ясным і конкрэтным указаньнем таго новага ў працоўнай клясе, што ўтвараецца соцыялістычнымі ўмовамі вытворчасьці, працы, быту, культуры і інш.

Матар'ял кожнага зборніку патрэбна разьмяркоўваць па асноўным экономічным і політычным этапам гісторыі нашае краіны. Для старых дарэволюцыйных заводаў такімі этапамі будуць: прыгонная гаспадарка, рэформа 1861 году, экономічны ўздым 90-х гадоў, крызіс 900-х гадоў, японская вайна, рэволюцыя 1905 году, рэакцыя 1907-10 гг., прамысловае ажыўленьне 1911—13 гг., імпэрыялістычная вайна і Лютаўская рэволюцыя. Гэта будзе складаць першую частку зборніку.

У другую яго частку ўвойдуць: Кастрычнікаўскі пераварот, пэрыод грамадзянскай вайны і вайсковы комунізм, нэп, абнаўленчы пэрыод і рэконструкцыйны пэрыод.

Пажадана далей указаць пэрспэктывы далейшага разьвіцьця заводаў.

Пры апісаньні гісторыі заводу раіцца мець на ўвазе наступныя галоўныя тэмы: соцыяльна-экономічную і вытворча-тэхнічную характарыстыку заводу, гісторыю рэволюцыйнага руху на заводзе, гісторыю партыі бальшавікоў, барацьбу з меншавікамі і эсэрамі, культуру і быт рабочых.

У соцыяльна-экономчнай і вытворча-тэхнічнай частцы галоўная ўвага павінна быць сконцэнтравана на аналізе і выяўленьні капіталістычнай структуры прадпрыемства, складзе рабочых, зарплаце, працоўным дні, беспрацоўі, ступені і форме эксплёатацыі рабочых з боку капіталістаў, дзяржавы, адміністрацыі, купцоў, духавенства і інш.

Прыгнечаньне нацыянальнае. Беспрацоўе рабочых. Роля царскага суду. Належыць таксама адзначыць экономічную сувязь заводу з другімі прадпрыемствамі, яго ўплыў на экономіку краіны, яго роля ў агульнай гаспадарцы краіны, яго сувязь з заграніцай.

У гісторыі рабочага і рэволюцыйнага руху і ў гісторыі бальшавіцкіх організацый на прадпрыемствах трэба паказаць рост політычнае і клясавае сьвядомасьці і організаванасьці рабочае клясы, яе барацьбу за экономічнае і політычае вызваленьне і тую ролю, якую ў гэтай барацьбе грала бальшавіцкая партыя, якая зьяўлялася заўсёды выразіцельніцай і кіраўніком пролетарыяту, які вёў яго правільным шляхам да канчатковай перамогі. Паказаць барацьбу марксызму-ленінізму за гегемонію ў рабочым руху, выкрыць ролю ўсіх іншых партый, якія мелі клясава-варожыя ўплывы на пролетарыят (меншавікі, эсэры і інш.) і ператтварыліся потым у зброю адчыненай контррэволюцыі. Конкрэтна патрэбна адзначыць, па-магчымасьці, усе фазісы рэволюцыйнага руху рабочых: стыхійны рух протэсту ў часе прыгоннага права, стачачны і рэволюцыйны рух 60—80 гг., ролю народнікаў, стачкі 90-х гг., першыя гурткі марксыстаў і соцыял-дэмократаў, станаўленьне бальшавізму, барацьбу з экономізмам і інш. варожымі пролетарыяту плынямі, рэволюцыю 1905 г., саветы рабочых дэпутатаў,

забастоўкі, профсаюзы, дэмонстрацыі, баявыя дружыны, узброеныя выступленьні, сувязь руху з вёскаю, рэакцыю 1907—10 гг., уздым 1911—13 гг., ленскія здарэньні, палітычныя забастоўкі, вайну 1914 году, спробы ўстанавіць „клясавы мір" і іх вынікі, антываенныя рухі і, урэшце, Лютаўскую рэволюцыю: роля ў ёй розных палітычных партый, процэс самаорганізацыі рабочых: фабрычна-заводзкія камітэты, рабочы контроль, барацьбу з беспрацоўем, барацьбу за 8-гадзінны дзень, забастоўкі, адносіны да часовага ўраду, выбары ў саветы рабочых дэпутатаў, работу профсаюзаў, організацыю чырвонай гвардыі, ліпеньскія дні, карнілаўшчыну, выбары ў устаноўчы зьезд, 2-гі зьезд саветаў.

У разьдзел па рэволюцыйнаму руху ўвойдуць апісаньні рэакцыі і контррэволюцыі: рэпрэсіі ўраду, капіталістаў, роля опозыцыйных, лібэральных, зубатаўскіх і чорнасоценных організацый і іх барацьба з рэволюцыяй.

Гэтыя апісаньні не павінны быць „мёртвай", „акадэмічнай" летапісьсю здарэньняў. Яны павінны выкрыць клясавага ворага, зрываць з яго ўсякія маскі, выкрываць яго сапраўдную эксплёататарскую сутнасьць.

У аддзеле культуры і быту павінны быць паказаны ў сапраўдным выглядзе тыя паўзьвярыныя культурна-бытавыя ўмовы, у якіх трымала буржуазія рабочых заводу да Кастрычніка: антыгігіенічнае становішча фабрык і памяшканьняў, рабочыя казармы, няпісьменнасьць, фальсыфікацыя асьветы (царкоўна-прыходзкія і інш. школы), эксплёатацыя працы жанчын і дзяцей, хваробы, дабрачыннасьць, царква на службе самаўладзтва, сэктанцтва. У процілегласьць усяму гэтаму трэба паказаць культурную самадзейнасьць рабочых і ролю ў ёй бальшавікоў. Патрэбна абрысаваць таксама распушчаны, ханжанскі вобраз жыцьця і жорсткія нравы пануючых груп, даць прыклады самадурства і раскідальнасьці, паказаць фігуры найбольш тыповых капіталістаў рэакцыйнага, лібэральнага і радыкальнага лягеру.

У аснову другой часткі зборніку, прысьвечанай гісторыі заводаў у часе і пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі, патрэбна пакласьці апісаньне організацыі, перабудовы, рэконструкцыі заводу на новых соцыялістычных пачатках у процэсе клясавай барацьбы: плянавасьць работы, госразьлік, рэконструкцыя, новыя формы кіраўніцтва і контролю, рабочае вынаходніцтва, рост комуністычных формаў работы, ударніцтва, соцспаборніцтва, героі працы, прамфінплян і сустрэчны: зьдзешаўленьне продукцыі, рост зарплаты, сямігадзінны рабочы дзень, ліквідацыя абязьлічкі, програма пяцігодкі і тэмпы яе выконваньня. Паказаць тут аграмадную організуючую ролю партыі і комсамолу. У гэтым разьдзеле неабходна адзначыць зьмены ў складзе рабочае клясы, рабочую моладзь і г. д.

Перш за ўсё патрэбна высьветліць папярэднюю гэтаму этапу гаспадарчую разбуранасьць і барацьбу з ёю, склад рабочых у гэты пэрыод, настроі адсталай часткі рабочых, рвацтва, уплыў клясававарожых сіл, шкодніцтва, вузкія месцы вытворчасьці і інш.

Патрэбна падрабязна паказаць ролю заводу ў Кастрычнікаўскай рэволюцыі як у падрыхтоўчы, так і ў баявы яе пэрыод: прадатрады, узброеныя выступленьні, баявыя дружыны і чырвоную гвардыю, організацыю ўлады на заводзе, барацьбу партый, бальшавізацыю мас і ўстанаўленьне дыктатуры пролетарыяту.

Таксама-ж неабходна падрабязна абмаляваць удзел заводаў у грамадзкай вайне як просты (завод як участак фронту), так і ўскосны:

снабжэньне фронту, вылучэньне баявых атрадаў, палітычных работнікаў і інш.; выявіць баявую дзейнасьць бальшавікоў як арганізатараў перамогі, і ў далейшым,—пасьля ўстанаўленьня савецкай улады,—рост партыі і ўплыў яе на масы, генэральную лінію партыі і барацьбу з усялякім опортунізмам, посьпехі соцбудаўніцтва на падставе непрымірымага правядзеньня генэральнай лініі партыі.

Патрэбна паказаць дзейнасьць на заводзе прадстаўнікоў адчыненай і замаскаванай контррэволюцыі: баявыя наступленьні белых армій, роля кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, трацкістаў, шкоднікаў, а таксама выпадак рабочай „валынкі“ і яе падпальшчыкаў.

Паказаць многавобразны процэс ленінскай культурнай рэволюцыі, гіганцкі рост усяе рабочае клясы; утварэньне рабочае інтэлігенцыі як процэс зьнішчэньня супроцьлегласьці паміж фізычнай і разумовай работай (заводы-Втузы, соцыялістычнае сумяшчэньне, шэфства і інш.); новыя формы быту, сям'і, бытавыя комуны; новыя формы грамадзкіх адносін; новае ў палажэньні жанчын і дзяцей, фізкультурны рух; ліквідацыя няпісьменнасьці, школьная справа, роля партыі, комсамолу і піонэраў у культурнай рэволюцыі; грамадкае харчаваньне; роля газэт і сьценгазэт, рабкораўскі рух; культпаходы; барацьбу з рэлігіяй; заклік ударнікаў у літаратуру; работу клюбаў літаратурных і іншых гурткоў; культурныя сувязі заводу з іншымі прадпыемствамі і асабліва з вёскаю, з колгасамі і саўгасамі.

Прапанаваны кароткі конспэкт таму ня мае абавязковага характару і ня вычэрпвае ўсяго матар'ялу, які павінен быць выкарыстаны ў кнізе. У кожным конкрэтным выпадку прапанаваная схема падлягае зьменам і папраўкам у залежнасьці ад часу ўзьнікненьня заводу і спэцыфічных умоў яго разьвіцьця.

Радакцыя менш за ўсё зацікаўлена ў тым, каб атрымаць у адказ на прапанаваную вышэй схему кнігі сухі, анкетны матар'ял офіцыяльнага характару. Задача аўтараў павінна быць у тым, каб збудаваць на падставе гэтага конспэкту жывую, захапляючую кнігу, у якой была-б паказана на конкрэтных прыкладах дыялектыка экономічнага, палітычнага і культурнага разьвіцьця заводу ў процэсе клясавай барацьбы пролетарыяту спачатку за дыктатуру, потым за ўмацаваньне гэтае дыктатуры, за соцыялістычнае будаўніцтва.

Гэтаму павінен служыць і спосаб літаратурнага ўкладаньня. Рэдакцыя мяркуе, што ў даным выпадку дапусьцімы ўсе віды літаратурнага пісьма, абгрунтаваныя на дакладна праверaных фактычных даных. Навукова-дасьледчыя артыкулы, нарысы, докумэнты, мэмуары, апавяданьні жывых сьведак, біографіі і аўтобіографіі дзеячоў, іх портрэты, таксама як і іншы ілюстрацыйны матар'ял, малюючы прадпрыемства і яго гісторыю, — усё гэта можа і павінна ўвайсьці ў склад зборніку. Чыста бэлетрыстычныя творы, прысьвечаныя гісторыі заводаў (романы, аповесьці, вершы, п'есы і інш.), ініцыятыву напісаньня якіх патрэбна ўсебакова падтрымаць, складае паасобны дадатак да асноўнай сэрыі нарысаў.

Аднак, задача „Гісторыі заводаў“ ня вычэрпваецца выданьнем зборнікаў рознахарактарнага матар'ялу (зборнікаў докумэнтаў, успамінаў і г. д.), канчатковаю мэтаю „Гісторыі заводаў“ зьяўляецца ўтварэньне сыстэматычнай марксысцка-ленінскай мастацкай гісторыі заводаў. Кнігі па гісторыі заводаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі РСФСР, выдаюцца на расійскай мове; кнігі аб заводах, якія знаходзяцца ў іншых рэспубліках Саюзу, друкуюцца на мове данай рэспублікі і на расійскай мове адначасна.

Разьмер кніг устанаўляецца па згодзе галоўнай рэдакцыі і мясцовых рэдакцыйных колегій, у залежнасьці ад колькасьці і якасьці сабранага матар'ялу.

Пры зьбіраньні матар'ялу патрэбна карыстацца перш за ўсё мясцовымі архівамі: архівамі прадпрыемства, партыі, саветаў, прафсаюзаў, страхавых і бальнічных кас, цэркваў, фабрычнай інспэкцыі, паліцыі, краязнаўчых таварыстваў і г. д., а таксама матар'ямі вялікіх цантральных ахоўнікаў, такіх як Цэнтрархіў, Архіў рэволюцыі, Комакадэміі, архіў народнае гаспадаркі, б. дэпартаманту паліцыі і 3-га аддзяленьня, сэнату, горнага дэпартаманту, дэпартаманту гандлю, т-ва фабрыкантаў і заводчыкаў, вайскова-гістарычны архіў і рад літаратурных крыніц (справаздачы губарнатараў, земскія зборнікі і інш.). Акрамя архіўнага матар'ялу, патрэбна рабіць апросы жывых удзельнікаў тых ці іншых здарэньняў, што разгортваліся на заводзе. Усе гэтыя матар'ялы патрэбна стала праверыць і па-марксысцку асмысьліць.

Організацыйная структура выданьня мяркуецца ў наступным выглядзе: кіруючым і адказным органам выданьня зьяўляецца галоўная рэдакцыя ў тым складзе, які паказаны ў пастанове ЦК партыі ад 10 кастрычніка 1931 году.

Непасрэдная організацыя сэрыі ўскладаецца на сакратарыят рэдакцыі.

У абласных цэнтрах складаюцца пад кіраўніцтвам партыйных органаў абласныя прадстаўніцтвы рэдакцыі, якія організуюць у дапамогу сабе камітэты садзейнічаньня, уцягваючы ў іх прадстаўнікоў партыйнай і савецкай грамадзкасьці, комсамол, дзеячоў літаратуры, навукі і тэхнікі. Задача абласных прадстаўніцтваў рэдакцыі і камітэтаў садзейнічаньня—у пропагандаваньні задач „Гісторыі заводаў", у організацыі масавых кампаній, у складаньні сьпісаў першачарговых заводаў вобласьці для перадачы іх у галоўную рэдакцыю. Акрамя таго абласныя прадстаўніцтвы павінны дапамагаць заводзкім рэдакцыйным колегіям і інструктаваць іх па пытаньням програмы „Гісторыі заводаў".

На прадпрыемствах організуюцца рэдакцыйныя колегіі, якія працуюць пад кіраўніцтвам і контролем мясцовых партыйных органаў. У склад рэдколегій заклікаюцца ў першую чаргу ячэйкі РАПП і УААПП, ячэйкі таварыства гісторыкаў-марксыстаў, гістпарт, прадстаўнікоў заводзкіх газэт, профорганізацый, інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу і рад іншых асоб па выбару рэдколегій.

Рэдакцыйныя колегіі выпрацоўваюць, перш за ўсё, падрабязную праграму зборніку, вызначаюць тэрміны яго выкананьня і пасылаюць усё гэта ў галоўную рэдакцыю на зацьверджаньне, пасьля чаго колегіі прыступаюць да практычнай работы. Мясцовыя колегіі вылучаюць з свайго асяродзьдзя спэцыяльнага рэдактара, які нясе адказнасьць перад заводзкай рэдакцыйнай колегіяй і галоўнай рэдакцыяй за ўсю работу па складаньню зборніку. Заводзкая рэдакцыйная колегія знаходзіцца ў цесным контакце з абласным прадстаўніцтвам рэдакцыі і з колектывам рабочых заводу; на агульных сходах заводу члены рэдколегіі робяць пэрыодычныя даклады аб становішчы работы па зборніку.

У дапамогу заводкім рэдакцыйным колегіям—галоўная рэдколегія організуе спэцыяльную групу інструктароў (экономістаў, гісторыкаў і інш.), якія шляхам перапіскі і асабовых наведваньняў заводу прымаюць удзел у рабоце над зборнікам.

Па заканчэньні работы заводзкая колегія перадае рукапісы ў галоўную рэдакцыю для перагляду і зацьверджэньня ў друк.

У грашовых адносінах заводзкія рэдакцыйныя колегіі працуюць згодна выпрацаванаму імі і зацьверджанаму заводакіраўніцтвам і сакратарыятам галоўнай рэдакцыі каштарысу, атрымоўвае неабходныя сродкі ад кіраўніцтва заводу і адлічваючыся перад ім у іх выдаткаваньні.

Выданьне „Гісторыі заводаў" ускладаецца на Дзяржвыдавецтва.

У бліжэйшы час рэдакцыя выпусьціць спэцыяльную брошуру, зьместам якой будзе падрабязная програма зборніку, мэтодычныя паказаньні па яго складаньню, інструкцыя па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялу і бібліографічны даведнік.

Рэдакцыя ня мае магчымасьці надрукаваць у кароткі тэрмін зборнікі усіх тых заводаў, якія прыступілі і прыступяць да гэтай работы. Тут неабходна пасьлядоўнасьць. Рэдакцыя чакае ад абласных сваіх прадстаўнікоў сьпісу першагарговых заводаў па кожнай вобласьці, каб на падставе гэтых вестак выпрацаваць агульную чаргу выданьняў. Для ўстанаўленьня сувязі з месцамі неабходна, каб заводзкія рэдакцыйныя колегіі і абласныя прадстаўніцтвы зараз-жа паведамілі сакратарыяту рэдакцыі свае адрасы і далі весткі аб становішчы работы па „Гісторыі заводаў".

Програма кожнай кнігі павінна быць на заводах грунтоўна прадумана як з рэдакцыйнага, так і з організацыйнага боку. Усялякая стыхійнасьць, саматужніцтва і няплянавасьць, усялякая спроба паасобных таварышоў і організацый весьці работу без паказаных вышэй організацыйных формаў павядуць да няўхільных памылак, халтуры бракаванасьці продукцыі.

Барацьба за якасьць павінна стаць асноўным лёзунгам работы. Створым бальшавіцкія гісторыі заводаў. Пакажам пролетарыят ва ўсёй яго велічы, як творцы новага жыцьця, пакажам рост рабочае клясы СССР ударнай брыгады сусьветнай рэволюцыі, пакажам разьвіцьцё і ўздым пролетарыяту, які будуе соцыялізм пад кіраўніцтвам ленінскай партыі.

Адрас рэдакцыі: Масква, Сьпірыдонаўская вул., 2.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ПАСТАНОВА

### Колегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР па пытаньню пароднага раёнаваньня жывёлагадоўлі.

1. Аб пародным раёнаваньні жывёлы.

Выходзячы з папярэдняга рашэньня Колегіі НКЗБ, пастановы СНК ад 18/V—31 г. аб пародным раёнаваньні і прымаючы пад увагу, што з боку гаспадарчых аб'яднаньняў і РВК у асноўным ніякіх заўваг супроць папярэдняга проекту аб пародным раёнаваньні ня было, Колегія НКЗемляробства БССР пастанаўляе:

а) па буйной рагатай жывёле:

1. Устанавіць на тэрыторыі БССР у якасьці асноўных паляпшаючых парод буйнай рагатай жывёлы—*швіцкую, чырвона-беларускую* і *колёнісцкую белагаловую.*

2. У зону распаўсюджваньня і масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы *швіцкай пароды* аднесьці наступныя раёны:

Асьвейскі, Расонскі, Полацкі, Вушацкі, Лепельскі, Сіроцінскі, Гарадоцкі, Сураскі, Віцебскі, Чашніцкі, Сеньненскі, Аршанскі, Талачынскі, Дубровенскі, Крупскі, Горацкі, Дрысенскі, Мсьціслаўскі, Магілеўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Крычаўскі, Клімавіцкі, Быхаўскі, Кармянскі, Прапойскі, Чырвонапольскі, Касьцюковіцкі.

3. У раёнах, вызначаных для распаўсюджваньня і масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы швіцкай пароды, *работа павінна прахадзіць шляхам мэтызацыі і палепшаньня ў сябе мясцовага быдла,* прычым гэта мерапрыемства павінна праходзіць у першую чаргу ў раёнах, найбольш інтэнсыўных. У раёнах менш інтэнсыўных у першы час—праводзіць работу па палепшаньню мясцовай жывёлы ў сябе.

4. У зону распаўсюджваньня і масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы *чырвона-беларускай пародай* аднесьці наступныя раёны:

Бягомльскі, Плешчаніцкі, Барысаўскі, Лагойскі, Заслаўскі, Смалявіцкі, Койданаўскі, Чэрвеньскі, Бярэзінскі, Вузьдзенскі, Пухавіцкі, Капыльскі, Менскі, Чырвона-Слабодзкі, Слуцкі, Стара-Дароскі, Асіпавіцкі, Клічаўскі, Старобінскі, Любанскі, Глускі, Бабруйскі, Рагачэўскі, Парыцкі, Жлобінскі, Буда-Кашалеўскі, Чачэрскі, Уваравіцкі, Веткаўскі, Рэчыцкі, Гомельскі, Церахоўскі.

5. У раёнах, вызначаных для распаўсюджваньня масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы чырвона-беларускай пароды, работа

павінна праводзіцца шляхам *мэтызацыі і палепшаньня ў сябе мясцовага быдла чырвона-беларускай пародай,* у раёнах найбольш інтэнсыўных, а ў раёнах менш інтэнсыўных у першы час праводзіць работу па палепшаньню мясцовай жывёлы.

6. У зону распаўсюджваньня і масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы *колёнісцкай белагаловай парадай* аднесьці наступныя раёны:

Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Мазырскі, Лельчыцкі, Каралінскі, Нараўлянскі, Хойніцкі, Лоеўскі, Брагінскі, Камарынскі.

7. У раёнах, вызначаных для распаўсюджваньня і масавага палепшаньня буйной рагатай жывёлы чырвона-колёнісцкай пародай, работа павінна праходзіць шляхам *мэтызацыі і палепшаньня ў сябе мясцовага быдла ў раёнах* найбольш інтэнсыўных, а ў раёнах менш інтэнсыўных у першы час праводзіць работу па палепшаньню мясцовай жывёлы ў сябе.

8. У мэтах стварэньня належнай базы племматар'ялу лічыць неабходным організавэць на лініі савгасаў наступную сетку племгасаў:

а) са швіцкім быдлам:

1. Горкі (зональная Малочная Станцыя) Горацкага раёну—Маслатрэст.
2. Беліца-Відокі Сеньненскага раёну—Белсельтрэст.
3. Арловічы—Дубровенскага раёну—БСТрэст Дубровенскі.
4. Крынкі—Высачанскага раёну—БСТрэст.
5. Чарніцы—Сіроцінскага раёну—Мал. Масьляны Трэст.

б) па чырвона-беларускім быдле:

1. Самуэлева—Аномаль (аб'яднаць) Койданаўскага раёну БСТрэст.
2. Калініна—Русіновічы (аб'яднаць) Менскі раён—БСТрэст.
3. Прылукі—Атоліна (аб'яднаць) Менскі раён—БСТрэст.

в) па колёнісцкім быдле:

1. Дарашэвічы Петрыкаўскага раёну—БСТрэст.
2. Барысаўшчына—Хойніцкага раёну—БСТрэст.
3. Пабеда-Соцыялізму—Хойніцкі раён—Мал. Масьляны Трэст.

9. Прапанаваць Белмалакоколгасцэнтру ў 2-хдэкадны тэрмін вылучыць у адпаведнасьці з плянам народнага раёнаваньня *пад племгасы 20 колгасаў* з якіх: па швіцкаму быдлу—10, па чырвона-беларускім—6 і па колёнісцкаму—4 і падаць у Наркамзем на зацьверджаньне.

10. Давесьці зямельную тэрыторыю вылучаных савгасаў для племработы ня менш як да 2-3 тысяч га з колькасьцю галоў племяннога гурту ня менш тысячы, з колгасаў ня менш 700-1.000 га з колькасьцю галоў ня менш 300.

11. Прапанаваць савгасам „Сьвінаводу", Насентрэсту і Галоўленкому ў 2-месячны тэрмін перадаць у парадку абмену ўсю плем-плянавую пароду буйной рагатай жывёлы Малочна-Масьлянаму трэсту і Белсельтрэсту.

12. Прапанаваць усім Савгастрэстам плян перакідкі племжывёлы ўзгадніць з Сэктарам Вэтэрынарыі і жывёлагадоўлі.

13. Прапанаваць Белсельтрэсту і Малочна-Масьлянаму трэсту:

а) у 2-месячны тэрмін перакінуць усю племянную плянавую жывёлу з савгасаў у племгасы.

б) прадугледзець у контрольных лічбах на 1931 г. пэўны аб'ём *будаўніцтва, комплектаваньня організацыі кармовай базы і мэханізацыю ў вылучаных племгасах.*

14. Прапанаваць Белсельтрэсту:

а) У трохмесячны тэрмін перакінуць няплянавыя *чырвона-нямецкую і ангельскую пароды* з зоны, адведзенай для швіцкай пароды у паўднёвую частку зоны, адведзенай для чырвона-беларускай пароды;

б) У месячны тэрмін утварыць злучэньне племгасаў Самуэлева, Калініна і Прылукі, згодна § 8 гэтай пастановы.

15. Прапанаваць Горацкай Зональнай Станцыі:

а) у 2-месячны тэрмін прадставіць у НКЗБ схему мэтызацыі чырвона-беларускага і ангельскага быдла з дацкім быдлам;

б) распачаць сэлекцыйную работу ва ўсіх племгасах;

в) у 2-месячны тэрмін выпрацаваць стандарт па чырвона-беларускім, швіцкім і колёнісцкім быдле.

16. Прапанаваць сэктару жывёлагадоўлі:

а) выпрацаваць інструкцыю аб перадачы племяннной жывёлы з другіх савгасаў у племгасы Белсельтрэсту і Малочна-масьлянага трэсту;

б) паскорыць організацыю Дзяржплемкнігі па чырвона-беларускаму, швіцкаму і колёнісцкаму белагаловаму быдлу, узгадніўшы гэта пытаньне з НКЗ БССР.

б) па конях:

1. Устанавіць у якасьці паляпшаючай пароды на тэрыторыі БССР *рысіста-арлоўскую, арлова-амэрыканскую і бэльгійскую цяжкавозную.*

2. Масавую работу *па палепшаньню мясцовага каня рысіста-арлоўскай* пародай разгарнуць у наступных раёнах:

Бягомльскі, Плешчаніцкі, Лагойскі, Барысаўскі, Смалявіцкі, Талочынскі, Крупскі, Аршанскі, Дубровенскі, Горацкі, Шклоўскі, Магілеўскі, Бялыніцкі, Чавускі, Мсьціслаўскі, Крычаўскі, Церахаўскі, Клімавіцкі, Касьцюковіцкі, Чырвонапольскі, Быхаўскі, Прапойскі, Чэрыкаўскі, Клічаўскі, Бярэзінскі, Чэрвеньскі, Кармянскі, Рагачэўскі, Чачэрскі, Жлобінскі, Парыцкі, Буда-Кашалеўскі, Уваравіцкі, Веткаўскі, Гомельскі, Рэчыцкі, Лоеўскі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Мазырскі, Хойніцкі, Каралінскі, Нараўлянскі, Брагінскі, Камарынскі, Лельчыцкі, Тураўскі.

3. Масавую работу *па палепшаньню мясцовага каня арлова-амэрыканскай пародай* разгарнуць у наступных раёнах:

Асьвейск, Дрысенскі, Расонскі, Полацкі, Сіроцінскі, Сураскі, Віцебскі, Лёзьненскі, Чашніцкі, Сеньненскі, Бешанковіцкі, Лепельскі.

4. Масавую работу *па палепшаньню мясцовага каня бельгійскай цяжкавознай пародай* разгарнуць у наступных раёнах:

Заслаўскі, Менскі, Койданаўскі, Пухавіцкі, Вузьдзенскі, Асіпавіцкі, Капыльскі, Слуцкі, Стара-Дарозкі, Чырвонаслабодзкі, Глускі, Бабруйскі, Любаньскі, Старобінскі.

У мэтах вывядзеньня *элітнага конскага стада* організаваць коняплямсавгасы з рысіста-арлоўскім напрамкам у савгасе Навасёлкі, Шарсьцін, Веткаўскага раёну на 200 матак, з арлова-амэрыканскім напрамкам намеціць савгас Адаменскі, Лёзьненскага раёну на 100 матак, прычым канчатковае рашэньне аб перадачы савгасу Адаменкі пад

коняплямгас прыняць на паседжаньні Колегії з удзелам раённых організацый, а з бэльгійска-цяжкавозным напрамкам у Бабруйскім раёне на 100 матак, адвёўшы да гэтай мэты зямельную тэрыторыю ў працягу месячнага тэрміну.

6. Абавязаць Колгасцэнтар організаваць у адпаведнасьці з пародным раёнаваньнем *колектыўныя гаспадаркі* коняводнага напрамку ў колькасьці *20*, з разьлікам ня менш 50 матак на гаспадарку, з іх: арлова-амэрыканскім напрамкам 5, чыста-арлоўскім 10 і бэльгійска-цяжкавозным 5.

Адбор праводзіць у працягу месячнага тэрміну.

в) па сьвіньнях:

1. Устанавіць асноўнай паляпшаючай пародай па ўсёй тэрыторыі БССР белую *буйную ангельскую пароду* сьвіней.

2. Лічыць неабходным элітнае стада белай ангельскай пароды сьвіней сконцэнтраваць у савгасе „Блонь“ і ў гаспадарцы Сьвінагадоўчага інстытуту.

3. Племяннное стада сьвіней сконцэнтраваць у савгасах *„Твань“*, *„Райцы“* і *„Ціманава“*, таксама вылучыць адзін савгас у бышай Гомельскай акрузе і адзін у бышай Магілеўскай.

Матачнае стада да канца 1931 г. у племянных гаспадарках разам з элітным стадам давесьці да *2.500* галоў.

Белканторы „Сьвінаводу“ не пазьней 20 ліпня вылучыць савгасы ў паказаных акругах, безадкладна разгарнуўшы ў іх будаўніцтва і формаваньне матачнага стада.

4. Абавязаць Белсьвінаводколгасцэнтар у працягу 2-дэкаднага тэрміну вылучыць *25* сьвінагадоўчых колгасаў пад племгасы. Матачнае стада гэтых колгасаў-племгасаў вызначыць ня менш як у 100 матак на гаспадарку.

5. Абавязаць Белкантору „Сьвінаводу“ і аддзяленьне Белсьвінаводколгасцэнтру правесьці адбор лепшага стада мясцовых сьвіней і сконцэнтраваць іх па лініі савгасаў у 1—2 савгасах, а па лініі колгасаў у 10—12 колгасах, даручыўшы Сьвінагадоўчаму інстытуту разгарнуць у сьвінгадоўчых гаспадарках контрольную работу над мясцовай сьвіньнёй.

г) па птушках:

1. Устанавіць у якасьці паляпшаючай пароды птушак на тэрыторыі БССР *па курах Род-Айланд і Віандот, па качках—Пэкінскія і індыйскія бягуны*, па гусях—Халмагорскія і Эндэмскія і па індыкох—мясцовыя.

2. Лічыць неабходным прамысловае птушкаводзтва ў адпаведнасьці з вызначанымі пародамі праводзіць у наступных раёнах.

а) па качках і гусях:

Прамысловае птушкаводзтва па воднай птушцы (качках і гусях) разьвіваць па ўсёй тэрыторыі БССР у залежнасьці ад наяўнасьці вадазбору.

б) па курах пароды „Віандот“:

Чачэрскі, Буда-Кашалеўскі, Уваравіцкі, Веткаўскі, Гомельскі, Цераxаўскі, Рэчыцкі, Лоеўскі, Брагінскі, Камарынскі, Нараўлянскі, Хойніцкі.

в) па курах пароды „Род-Айланд“:

Аршанскі, Горацкі, Дубровенскі, Крупскі, Мсьціслаўскі, Талочынскі, Асіпавіцкі, Бабруйскі, Глускі, Жлобінскі, Клічаўскі, Любанскі, Парыцкі, Рагачэўскі, Слуцкі, Старадароскі, Старобінскі, Чырвона-Слабодзкі, Бешанковіцкі, Віцебскі, Гарадоцкі, Лёзьненскі, Сіроцінскі, Сураскі, Сеньнецкі, Чашніцкі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Кармянскі, Касьцюковіцкі, Клімавіцкі, Чырвонапольскі, Крычаўскі, Магілеўскі, Прапойскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі, Жыткавіцкі, Мазырскі, Каралінскі, Лельчыцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі, Менскі, Барысаўскі, Бягомльскі, Бярэзінскі, Заслаўскі, Копыльскі, Койданоўскі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Пухавіцкі, Смалявіцкі, Вузьдзенскі, Чэрвеньскі, Асьвейскі, Вушацкі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Лепельскі.

3. Вылучыць для правядзеньня племработы па птушкаводзтву наступныя гаспадаркі: *па качках* савгас *„Вымна“*, Сураскага раёну, па гусях савгас *„Беразьнёўка“*, Гарадоцкага раёну, па курах „Род-Айланд“ савгас *„Сеньціца“* і Жлобінскі комбінат, па „Віандоту“ савгас „Любны-Пяскі“, Гомельскага раёну.

4. Разьмер матачнага ядра кожнага племгасу павінен быць ня менш 5.000 галоў.

Прапанаваць сэктару Жывёлагадоўлі падаць у колегію НКЗБ меркаваньні адносна работы з індыкамі.

г) па трусох:

1. Устанавіць на тэрыторыі БССР асноўнай пародай трусоў для масавага палепшаньня мясцовых трусоў пароды *„Шаншыль“* і *„Белы Вялікан“*.

2. Лічыць неабходным вылучыць прамыслова-племянныя гаспадаркі з трусамі ў наступных савгасах: „Дзягелева“, Віцебскага раёну, „Пракопаўка“, Цераxаўскага раёну.

д) па авечках:

1. У мэтах палепшаньня мясцовай грубашэрстай авечкі ў кірунку мясашэрстай пароды пакінуць у БССР як палепшаныя *тры пароды авечак:* „Усходня-Прускую,“ Лінькольскую і „Окс-ордшырдаўскую“.

2. Лічыць неабходным усіх авец племянных парод, якія былі завезены ў БССР у працягу мінулых ігадоў і якія знаходзяцца ў гаспадарках розных сыстэм, перадаць БК Цэнтру. Апошняму ў месячны тэрмін выбраць для гэтай меты адпаведныя колгасы.

3. Усю работу па палепшаньню авец сконцэнтраваць у колгаснай сыстэме.

1. У адпаведнасьці з вылучанымі раёнамі для арганізацыі племгасаў прапанаваць Райза і Земляўпарадкаўчаму сэктару НКЗему ў месячны тэрмін правесьці земляўпарадкаваньне ўсіх племгасаў і адвод новых.

2. Даручыць сэктару Жывёлагадоўлі:

а) Распрацаваць палажэньне аб племянных савгасах і колгасах.

б) Устанавіць цэны на племжывёлу.

в) Устанавіць структуру племработы.

Распрацаваць контрольныя лічбы па племжывёле на 1932-33 г.

д) Устанавіць апорныя пункты для навукова-дасьледчай работы па ўсіх галінах жывёлагадоўлі.

3. Прапанаваць Райза скончыць у ліпні месяцы ўчот племжывёлы.

4. Абавязаць сэктар кадраў забясьпечыць усе племянныя гаспадаркі зоотэхнічным і вэтэрынарным пэрсоналам як шляхам перакідкі маючыхся кадраў, так і бліжэйшых выпускаў ВНУ і тэхнікумаў.

Нам. Наркамземляробства Масюкоў.

## Раённым інспэктаром народнае асьветы і райбюро краязнаўства.

Масавым сэктарам БАН і ЦБК перакладзена з № 7-8 „Советского Краеведения“ (орган ЦБК РСФСР і т-ва марксыстаў пры Комакадэміі СССР) і выдадзена брошура А. Цімашова „Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“. Кніжка аьяўляецца шкоднай і па сваёй устаноўцы нічога агульнага ня мае з генэральнай лініяй партыі. Карыстацца ёй у працы ні ў якой меры нельга, і яна павінна быць безадкладна зьнята. Крытыка яе шкоднасьці даецца ў 11 і 12 нумарох „Савецкае Краіны“.

Загадчык масавага сэктару БАН В. Серафімаў.

Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

# ХРОНІКА

## Праца Масавага сэктару і ЦБК ў 1931 г.

Вялізарныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, завяршэньне пабудовы соцыялістычнай экономікі патрабуе шырокага разгортваньня дасьледчай працы, падвядзеньня навуковай базы пад усе галіны соцыялістычнага будаўніцтва, аўладаньня тэхнікай шырокімі працоўнымі масамі. Навукова-дасьледчая праца павінна быць цалкам і поўнасьцю падпарадкавана задачам і адпавядаць тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва. „На сучасным этапе соцыялістычнай рэконструкцыі з асаблівай вастратой высоўваецца неабходнасьць вывучэньня і вучоту вытворчых сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры. Работа гэта ня можа быць выканана аднымі навукова-дзяржаўнымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчае працы ня будуць прыцягнуты масы рабочых, сялян і савецкае інтэлігенцыі. Гэту навуковую работу ў сучасны момант трэба цесна ўвязаць з краязнаўчым рухам — колектыўным усебаковым вывучэньнем свайго раёну, свайго колгасу, прадпрыемства" (з адозвы Культпропу ЦК УсеКП(б) аб краязнаўчай працы). Масавая колектыўная дасьледчая (краязнаўчая) праца павінна быць рашуча павернута да навуковых досьледаў „у галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, скарыстаньня мясцовых крыніц энэргіі, вырашэньня сыравіннай і жывёлагадоўчай проблемы, рацыяналізацыі пушнога і рыбнага промыслаў, лесаскарыстаньня, будоўлі (у тым ліку будаўніцтва гарадоў) у сувязі з барацьбой за новы быт і г. д., да організацыі конкурсаў па монографічнаму вывучэньню фабрык і заводаў, колгасаў і савгасаў, па складаньню краязведных падручнікаў, адшуканьню карысных выкапняў, зьбіраньню лекавых расьлін, выяўленьню новых прадметаў экспорту". (З адозвы Культпропу ЦК УсеКП(б). У гэтай дырэктыве партыі мы маем баявую програму масавай дасьледчай працы, якая на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва павінна выявіцца ў форме шырока разгорнутага краязнаўчага руху. Цэлы шэраг іншых партыйных пастаноў па пытаньням гаспадарчага і культурнага будаўніцтва з усёй выразнасьцю і рашучасьцю патрабуюць разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы. Аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б), адзначыўшы „адрыў навуковых і дасьледчых установ ад колгасных мас і колгаснай вытворчасьці, адсутнасьць шырока і правільна настаўленых вопытаў, адсутнасьць гібкасьці ў перанясеньні лепшых, якія ўжо апраўдаліся, вопытаў для шырокага практычнага ажыцьцяўленьня, рашуча ставіць пытаньне аб разгортваньні масавай навукова-дасьледчай працы ў колгасах. Вывучэньне вопыту лепшых колгасаў, савгасаў і МТС у галіне організацыі колектыўнай вытворчасьці, павялічэньня ўраджайнасьці, падвышэньня таварнасьці, жывёлагадоўлі і г. д. у мэтах шырокага выкарыстаньня гэтага вопыту патрабуе організацыі: сталых ячэек, масавых досьледаў у колгасах, савгасах і МТС.

Разгортваньне масавай навукова-дасьледчай працы павінна быць цесна і неразрыўна зьвязана з разгортваньнем вытворча-тэхнічнай пропаганды, з вывучэньнем тэхнікі ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва, бо „тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі рашае ўсё" (Сталін). У пастанове ЦК УсеКП(б) аб вытворча-тэхнічнай пропагандзе конкрэтна вызначана такая задача „Прыступіць да выданьня спэцыяльнай сэрыі танных популярных брошур, лістовак, плякатаў, прысьвечаных апісаньню новай тэхнікі, якая ўжываецца ў дады час на нашых заводах і ў новых прамысловых будаўніцтвах" і разгарнуць выданьне спэцыяльнай літаратуры, якая апісвае найбольш выдатныя ўзоры масавага вынаходніцтва і саміх вынаходцаў" Пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб выданьні „Гісторыі грамадзянскай вайны" патрабуюць уцягненьня шырокіх працоўных мас, удзельнікаў грамадзянскай вайны, чырвоных партызанаў і іншых у дасьледчую працу.

Беларуская Акадэмія Навук — дзецішча Кастрычніка, створаная воляй пролетарыяту для вырашэньня найважнейшых навуковых проблем соцыялістычнага будаўніцтва, для распрацоўкі актуальнейшых пытаньняў марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі—гэтай магутнай зброі ў барацьбе з усялякімі скажэньнямі ад генэральнай лініі партыі і для выхаваньня новых кадраў для пролетарскай навукі,—павінна найважнейшыя навуковыя дасягненьні зрабіць дастаяньнем шырокіх

працоўных мас, узброіць іх навукай для пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму і барацьбы супроць варожых пролетарыяту ідэй, уцягнуць рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкія масы, інжынэрна-тэхнічныя сілы, настаўніцтва, аграномаў і інш. у масавую навукова-дасьледчую працу, вывучыць, падагуліць, пашырыць і ўзьняць на вышэйшую ступень вялізарны вопыт соцыялістычнага будаўніцтва, які маюць ужо нашы перадавыя заводы, колгасы, савгасы і МТС, культурна-асьветныя ўстановы і інш. і весьці няпрымірымую барацьбу за генэральную лінію партыі. Задачай Беларускай Акадэміі Навук зьяўляецца плянавая організацыя тэхнічнай пропаганды сярод працоўных мас БССР. Беларуская Акадэмія Навук павінна стаць і організацыйным і мэтодолёгічным цэнтрам усёй масавай навукова-дасьледчай і популярызацыйна-тэхнічнай працы. Для ажыцьцяўленьня гэтай найадказьнейшай задачы ў складзе БАН організаваны спэцыяльны Масавы сэктар.

За апошні год пасьля зьмены былога опортуністычнага і нацдэмаўскага кіраўніцтва Беларускай Акадэміі Навук праведзена досыць значная масавая работа.

Наладжан быў цэлы шэраг дакладаў у Акадэміі Навук, на фабрыках і заводах, на асьветніцкіх конфэрэнцыях (у Менску, Віцебску, Гомелі, Магілеве і інш.), на якіх была выкрыта контррэволюцыйная нацдэмаўская ідэолёгія і іх буржуазна-рэстаўратарская работа ў розных галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Барацьба з нацдэмаўшчынай вялася і ў пэрыодычным партыйна-савецкім друку. У часопісах і газэтах („Зьвязда", „Савецкая Беларусь", „Савецкая Краіна" і інш.) было зьмешчана каля 10 артыкулаў, выкрываючых нацдэмаўскую ідэолёгію і клясавую сутнасьць нацыянал-дэмократызму ў мэтах мобілізацыі працоўных мас для барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на данным этапе, і іншымі мясцовымі шовінізмамі.

Масавыя (краязнаўчыя) організацыі раней былі засьмечаны варожымі элемэнтамі, у большасьці знаходзіліся пад уплывам нацдэмаў і выконвалі іх соцыяльны заказ. Ва ўсіх краязнаўчых організацыях пад кіраўніцтвам партыйных організацый была праведзена самаачыстка краязнаўчых ораанізацый ад чужых і варожых элемэнтаў.

У мэтах шырокай популярызацыі задач масавай дасьледчай працы ў 10 раёнах (Смалявіцкі, Жыткавіцкі, Клімавіцкі, Старадароскі і інш.) праведзена „Краязнаўчая пяцідзёнка", да якой была выпушчана спэцыяльная літаратура (брошура „За савецкае краязнаўства", тэзісы для дакладчыкаў, лёзунгаў). Аднак, у значнай частцы раёнаў значэньне масавай дасьледчай працы было яўна недаацэнена і нічога ня было зроблена ў сэнсе яе організацыі і правядзеньня. Значная доля віны ў гэтым падае і на Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое не правяло належнай падрыхтоўчай працы праз друк, профорганізацыі і г. д. Вынікі правядзеньня „Краязнаўчай пяцідзёнкі" паказалі, што рабочыя і колгасьніцкія масы вельмі зацікаўлены ў разгортваньні масавай краязнаўчай працы і жадаюць аўладаць навуковымі мэтодамі працы. У выніку правядзеньня „Краязнаўчай пяцідзёнкі" ў цэлым шэрагу раёнаў краязнаўчыя організацыі ўзмацніліся за лік работы колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Пры опортуністычным нацдэмаўскім кіраўніцтве краязнаўчыя організацыі ня былі зьвязаны з фабрыкамі і заводамі, колгасамі, савгасамі, МТС і ня толькі ня ставілі перад сабой задачы актыўнай барацьбы за соцыялізм, але нават праводзілі шкодную для соцыялістычнага будаўніцтва работу. Барацьба з нацдэмократызмам у масавай дасьледчай працы непасрэдна была зьвязана з карэннай перабудовай організацыйнай структуры краязнаўчых організацый пры яўным і скрытым процідзеяньні варожых элемэнтаў, якія барацьбу з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам тлумачылі як паход супроць краязнаўчага руху. Асноўнымі дасьледчымі ячэйкамі цяпер (замест ранейшых гурткоў), якія складаліся з „аматараў" краязнаўства, зьяўляюцца краязнаўчыя ячэйкі на заводах і фабрыках, у колгасах і савгасах, пры школах, якія сваёй колектыўнай дасьледчай працай павінны дапамагчы лепш організаваць вытворчасьць на сваім прадпрыемстве, павысіць тэмпы працы, хутчэй выканаць вытворчыя пляны. У гэтым напрамку маецца ўжо пэўны зрух. У цэлым радзе раёнаў ужо організаваны краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах і ў колгасах (у Смалявіцкім—9, Клімавіцкім—16, Старадароскім—5, Жыткавіцкім—8 і г. д.). Аднак, з усёй рашучасьцю неабходна падкрэсьліць, што разгортваньне масавага краязнаўчага руху яўна адстае ад запатрабаваньняў у масавай дасьледчай працы. Яшчэ цэлы шэраг гаспадарчых і культурных устаноў (па лініі НКЗ, ВСНГ, Колгасцэнтру, Белкоопсаюзу і інш.), а таксама і профсаюзныя організацыі недаацэньваюць значэньне масавай дасьледчай працы. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства і раённыя краязнаўчыя організацыі не дабіліся рашучага ўздыму і разгортваньня масавай дасьледчай працы, яшчэ не наладжана непасрэднае опэрацыйнае кіраўніцтва работай нізавых ячэек, адсутнічае дысцыпліна і адказнасьць за выкананьне масавай дасьледчай працы, у пераважнай большасьці організацый няма конкрэтных плянаў працы, увязаных з плянамі мясцовых плянуючых гаспадарчых і культурных устаноў і організацый. Надзвычайна вялікім недахопам у рабоце Цэнтральнага Бюро Краязнаўства зьяўляецца вельмі слабы інструктаж нізавых організацый на месцы, што адбіваецца на ўсёй іх працы і выяўляецца ў досыць нізкай яшчэ продукцыйнасьці навукова-дасьледчай працы. Праца гэта носіць не сыстэматычны, а больш выпадковы характар.

Масавая навукова-дасьледчая праца выяўлялася ў вывучэньні і апісаньні колгасаў і клясавай барацьбы на вёсцы (11 артыкулаў у „Савецкай Краіне“), прамысловых прадпрыемстваў (4 артыкулы), у вывучэньні шкодных, атрутных і страўных грыбоў, карысных выкапняў і інш. Вельмі мала вывучаліся энэргетычныя рэсурсы і прыродныя багацьці, будаўнічыя матар'ялы, пытаньні організацыі працы ў колгасах, сельска-гаспадарчая спэцыялізацыя раёнаў і колгасаў. Проэктаваныя ЦБК экспэдыцыі ў летні час выкананы толькі ў нязначнай частцы (у Лоеўскі, часткова ў Койданаўскі раёны). Як колькасьць, так і асабліва якасьць продукцыі масавых дасьледчых організацый рубам ставяць пытаньне аб тым, каб на гэту працу было зьвернута больш увагі як з боку Масавага сэктару і ЦБК, так і з боку ўсіх інстытутаў БАН, якія да гэтага часу яшчэ не аказалі рэальнай дапамогі ў організацыі масавай дасьледчай працы.

З усёй вастратой стаіць пытаньне аб разгортваньні тэхнічнай пропаганды сярод працоўных мас. Масавы сэктар, нядаўна організаваны па пастанове Прэзыдыуму БАН, правёў некалькі нарад з прадстаўнікамі навукова-дасьледчых інстытутаў і гаспадарчых організацый па пытаньнях плянаваньня і вызначэньня тэматыкі дакладаў, лекцый, популярных выданьняў і інш. Наладжана сувязь з культмасавым сэктарам ЦСПСБ і Горпросавету, пэдгабінэтам пры Доме асьветы і наладжваецца непасрэдная сувязь з рабочымі клюбамі і раённымі організацыямі ў мэтах пастаноўкі дакладаў з выездамі ў раёны. Навуковымі працаўнікамі Акадэміі Навук па лініі Масавага сэктару зроблена каля 40 дакладаў у рабочых клюбах, на конфэрэнцыях і сходах, на раёнах у часе камандыровак і экспэдыцый. Наладжана перадача лекцый па радыё; прачытана ўжо 9 лекцый з сэрыі „Тэхніка і навука ў масы“.

У мэтах мэтодычнай дапамогі масавым навукова-дасьледчым організацыям (ячэйкам на прадпрыемствах, у колгасах, пры школах) Масавым сэктарам і ЦБК за апошні час выдана шмат програмна-мэтодычнай літаратуры: па вывучэньню карысных выкапняў, глеб, лекавых расьлін, фэнолёгічных зьяў па вывучэньні заводаў, колгасаў, монографічнага апісаньня раёнаў, па вывучэньню гісторыі грамадзянскай вайны, рэвруху, партызанскага руху і г. д., частка гэтых матар'ялаў выдана і на яўрэйскай мове. Як па лініі Масавага сэктару, так і па лініі паасобных інстытутаў маецца пэўны зрух у выданьні масавай навукова-популярнай літаратуры: выдана і друкуецца каля 15 розных брошур. Зразумела, гэта яшчэ вельмі мала, асабліва ў галіне тэхнікі. Інстытуты—хэмічны, агро-глебавы, геолёгічны і фізыка-тэхнічны яшчэ зусім не прыступілі да выданьня навукова-популярнай літаратуры і нават не падалі да гэтага часу плянаў па масавай працы.

Трэба аднак адзначыць, што сярод выданых брошур некаторыя з іх нявысокай якасьці; ёсць нават з шкоднымі ўстаноўкамі. Так, напр. у выданай Масавым сэктарам брошуры „Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“—А. Цімашова (пераклад з часопісу „Советское краеведение“ № 7-8 за 1931 г.—органу ЦБК РСФСР і т-ва краяведаў-марксыстаў) выкрыты некаторыя шкодныя кандрацьеўска-чаянаўскія ўстаноўкі і інш.

Цэнтральным бюро краязнаўства наладжваецца сувязь з усімі раёнамі (РВК, профсоюзнымі і краязнаўчымі організацыямі) для плянавага комплекснага вывучэньня раёнаў, разасланы конкрэтныя заданьні для кожнага раёну: вывучэньне социяльна-экономічнага профілю раёнаў, організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, спэцыяльных галін социялістычнай сельскай гаспадаркі, вывучэньня прамысловасьці і г. д.

Цэнтральным Бюро Краязнаўства рэгулярна выдаваўся і выдаецца популярна-навуковы часопіс „Савецкая Краіна“, які вядзе рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі, марксысцка-ленінскую мэтодолёгію ў масавай навукова-дасьледчай працы, мобілізуе лепшых дасьледчыкаў з рабочых заводаў, колгасьнікаў, аграномаў і інш., выяўляючы і популярызуючы лепшы вопыт і дасягненьні ў розных галінах социялістычнага будаўніцтва, дапамагаючы масаваму дасьледчыку зьмяшчэньнем інструкцыйнага і програмна-мэтодычнага матар'ялу, консультацыяй і інш. Аднак трэба падкрэсьліць, што пры правільнай агульнай лініі часопіс мае і паасобныя памылкі і недахопы (надрукаваньне інструкцыі аб вывучэньні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў, у якой мелі месца нацдэмаўскія ўстаноўкі) абмежаванасьць тэматыкі, недастатковая мобілізацыя корэспондэнтаў з рабочых і інжынэрна-тэхнічных сіл, колгаснага актыву, спэцыялістаў у розных галінах социялістычнага будаўніцтва. Часопіс яшчэ ня стаў масавым часопісам, не прасунут у належнай меры на фабрыкі і заводы, у колгасы, саўгасы, МТС, школы, гаспадарчыя ўстановы. Часопіс мае і шэраг недахопаў з боку тэхнікі выданьня і стылістычнай апрацоўкі матар'ялаў. Гэтыя недахопы павінны быць рашучым чынам зьліквідаваны ў наступным 1932 годзе.

У пляне працы Масавага сэктару і ЦБК на 1932 год прадугледжана выпраўленьне недахопаў, меўшых месца ў гэтым годзе, пашырэньне тэматыкі дасьледчай працы, масавых організацый, разгортваньне тэхнічнай пропаганды сярод шырокіх працоўных мас, выданьне тэхнічнай навукова-популярнай літаратуры і стварэньне шырокага актыву навокал Масавага сэктару з навуковых і тэхнічных сіл рабочых, колгасьнікаў, аграномаў, рабселькораў, настаўніцтва для колектыўнай дасьледчай працы, цесна ўвязанай з задачамі социялістычнага будаўніцтва.

Перад Масавым сэктарам стаяць вялікія і адказьнейшыя задачы. Масавы сэктар і

ЦБК павінны наладзіць жывую і непасрэдную сувязь з рабочымі, колгасьніцкімі масамі, з профорганізацыямі, клюбамі, дамамі колгасьнікаў і дабіцца рашучага зруху ў разгортваньні тэхнічнай пропаганды і масавай дасьледчай працы. На прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, пры чыгуначных дэпо, бунейшых коопэратывах і інш. трэба шырэй організаваць масавыя дасьледчыя ячэйкі і тэхнічныя гурткі, узмацніць іх працу, забясьпечыць мэтодычным кіраўніцтвам, распрацаваць пляны і мэтолы іх працы, узьняць політычны і навуковы ўзровень працаўнікоў масавых і дасьледчых організацый, узброіць іх марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй, організаваць спэцыяльныя курсы і мэтодычныя конфэрэнцыі. У масавай дасьледчай працы трэба зьвярнуць асабліва вялікую ўвагу на партыйнасьць у навуцы, на ўвязку тэорыі з практыкай, на барацьбу з праявамі розных ухілаў і тым паўзучым эмпірызмам, які яшчэ вельмі адчуваецца ў краязнаўчай працы, і на больш шырокі ахват тэматыкай проблем, пастаўленых партыяй і ўрадам у розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Выканаць гэтыя задачы Масавы сэктар і ЦБК змогуць толькі пры дапамозе ўсіх партыйных, савецкіх, грамадзкіх і навуковадасьледчых устаноў і організацый БССР і СССР.

П. Ф. Садоўскі.
В. Самцэвіч.

## Усім краязнаўчым організацыям.

З 1 студзеня 1932 г. ва ўсіх краязнаўчых організацыях БССР уводзіцца адзіны дыфэрэнцыяваны членскі ўзнос у краязнаўчыя ячэйкі па катэгорыях у наступных разьмерах: 1) з рабочых і служачых пры заробку звыш 150 руб. у месяц—членскі ўзнос у ячэйку 1 руб. у год; 2) для той-жа групы пры заробку ў 150 руб. у месяц і ніжэй—50 кап. у год; 3) студэнты ўсіх тыпаў ВНУ і тэхнікумаў плоцяць 30 кап. у год; 4) колгасьнікі і сяляне-беднякі і серадңякі плоцяць 20 кап. у год; 5) чырвонаармейцы і вучні школ сярэдняга і ніжэйшага тыпаў—10 кап. у год. Членскія ўзносы ўносяцца ўперад за паўгодзьдзе і расходуюцца ячэйкай па каштарысу на опэрацыйныя выдаткі з адлічэньнем у раённае бюро 25%.

Старшыня ЦБК В. Серафімаў.
Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

## Плян працы Тураўскага раённага бюро краязнаўства на 1932 г.

### I. Організацыйная частка.

1. Організацыйна аформіць масавыя краязнаўчыя організацыі ў раёне, праверыўшы сумесна з іншымі мясцовымі організацыямі склад членаў былога таварыства з мэтай ачышчэньня ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і ўцягнуўшы масы новых членаў з рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і серадңякоў-аднаасобнікаў, спэцыялістых і адказных працаўнікоў раёну, кіруючыся ў росьце організацый указаньнем ЦБК (студзень—люты).

2. Організаваць краязнаўчыя ячэйкі па ўсіх с/савецкіх цэнтрах і краязнаўчыя гурткі на райкомбінаце, у саўгасе „Зорка Захаду", па ўсіх буйнейшых колгасах, пры саматужніцкім клюбе, сярод работнікаў Леспрамгасу (лесарубы, сплаўшчыкі, лясьнікі, па ўсіх школах 7-годках і 4-комплектавых школах.

3. Забясьпечыць ячэйкі і гурткі належным кіраўніцтвам з боку райбюро і партыйных організацый на мясцох, для чаго выпрацаваць і разаслаць конкрэтныя ўказаньні па рабоце. (Студзень).

4. Правесьці Раённую краязнаўчую конфэрэнцыю (сход па пытаньнях чарговых задач савецкага краязнаўства, вызначэньня практычных мерапрыемстваў краязнаўчадасьледчай работы і перавыбараў кіруючых органаў бюро. (Студзень).

5. Прыняць удзел у правядзеньні ўсіх гаспадарча-політычных кампаній.

6. Падтрымліваць самую цесную сувязь з партыйнымі і савецкімі організацыямі ў справе вызначэньня зьместу і формы работы бюро.

7. У зімовы пэрыод прапрацаваць у гуртках або шляхам конфэрэнцыі—курсаў прысланыя ЦБК кіраўнічыя матар'ялы ў рабоце з мэтай падрыхтоўкі кадраў для практычнай работы. (Студзень—Красавік).

8. Дабіцца перад РВК забесьпячэньня бюро памяшканьнем і адпаведнымі сродкамі.

9. Пашырыць і організаваць раённы музэй (Студзень—Люты).

10. Ліквідаваць запазычанасьць па членскіх узносах і наладзіць грашовыя справы раённага бюро і ячэек.

11. Выклікаць на соцспаборніцтва Жыткавіцкае Бюро Краязнаўства і заключыць дагавор. (Люты).

12. Пасяджэньні бюро праводзіць 2 разы ў месяц.

### II. Дасьледчая работа.

1. Правесьці комплекснае вывучэньне Тураўскага Электракомбінату саўгасу „Зорка Захаду" і ўсіх колгасаў, дзе будуць організаваны краязнаўчыя ячэйкі.

2. Апісаць колгасны рух у раёне. (Сакавік).

3. Дасьледаваць і апісаць вынікі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне і ў першай пяцігодцы і пэрспэктывы будаўніцтва ў 2-й пяцігодцы (Красавік).

4. Зрабіць дасьледваньне, апісаньне і карту глебаў раёну. (Май—Чэрвень).

5. Па заданьню РВК і ўдзелам кіруючых работнікаў і спэцыялістых с/гаспадаркі заняцца вывучэньнем пытаньняў, зьвязаных

з асноўным гаспадарчым ухілам раёну—жывёлагадоўляй: разьмеркаваньне с/г ужыткаў, вывучэньне кармавой проблемы, спэцыялізацыя асобных гаспадарак (колгасаў, савгасаў), найбольш продукцыйныя пароды жывёлы і інш.

6. Дасьледваць і апісаць выкапныя багацьці раёну—торф, звычайную гліну і белую гліну. (Май—Ліпень).

7. Весьці сыстэматычныя - фенолёгічныя, мэтэоролёгічныя і гідролёгічныя назіраньні ў ячэйках з адбіткам гэтага ў дыяграмах і графіках.

8. Зрабіць апісаньне шляхоў зносін у раёне з практычнымі вывадамі. (Сакавік—Май).

9. Вывучыць рэволюцыйны рух у раёне і клясавую барацьбу на вёсцы, а таксама нямецкую і польскую окупацыю. (Ліпень).

10. Прывесьці ў парадак сабраныя матар'ялы народнай рэволюцыйнай творчасьці. (Сакавік).

11. Організаваць выданьне слоўніка раёну (скончыць к сьнежню).

12. Дасьледаваць і апісаць соцыяльныя і культурна-бытавыя зрухі ў насельніцтве раёну. (Ліпень—Кастрычнік).

13. Працягваць вывучэньне мовы насельніцтва раёну па програме.

### III. Культмасавая работа.

1. Раз у квартал праводзіць краязнаўчыя вечары з дакладам аб выніках дасьледчай работы і лекцыямі, популярызуючымі савецкае краязнаўства, дадаючы мастацкую частку па матар'ялах раёну.

2. Наладзіць дапісваньне па краязнаўчым матар'яле ў газэту „Чырвоная Тураўшчына", маючы на ўвазе ў далейшым выданьне пры ёй спэцыяльнага лістка.

3. Распаўсюдзіць ня менш 30 экз. часопісу „Савецкая Краіна" і ня менш 20 экз. „Юны натураліст" (па школах).

## Пастанова прэзыдыуму Уваравіцкага РВК аб разгортваньні краязнаўчай працы ў раёне.

Надаючы вялікае значэньне савецкаму краязнаўству як аднэй з форм удзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве праз усебаковае вывучэньне свайго раёну, прадпрыемства, саўгасаў, колгасу для скарыстаньня вынікаў вывучэньня ў мэтах узмацненьня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах, прэзыдыум РВК лічыць неабходным:

1. Стварыць часовае раённае бюро краязнаўства ў складзе тт. Карнеева, Шабэко, Лапіцкага, Карпенка, Крывашэйна, якім неабходна неадкладна прыступіць да афармленьня краязнаўчай працы ў раёне, кіруючыся складзеным плянам, прыкладаемым пры гэтым.

2. Абавязаць усе раённыя ўстановы і організацыі аказаць дапамогу бюро краязнаўства ў справе разгортваньня краязнаўчага руху.

3. На працягу месячнага тэрміну правесьці організацыю краязнаўчых ячэек, наладзіць вучот і прыступіць да практычнай працы, узяўшы за аснову заданьні Беларускай Акадэміі Навук, вызначаныя раёну на 1932 г.

4. У мэтах забесьпячэньня плянавай і сыстэматычнай краязнаўчай працы раённага бюро краязнаўства ячэек, лічыць неабходным асноўных працаўнікоў па краязнаўству вызваліць ад іншых грамадзкіх абавязкаў, усклаўшы на іх поўную адказнасьць за пастаноўку краязнаўчай працы.

5. На організацыю раённага краязнаўчага музэю і опэрацыйныя выдаткі па краязнаўству прадугледзіць сумы ў адзіным фінансавым пляне раёну.

6. Пэрыодычна заслухоўваць справаздачы раённага бюро краязнаўства, даючы конкрэтныя заданьні яму па дасьледваньню і вывучэньню пытаньняў, зьвязаных з чарговымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

7. Даручыць Мэтадкому прапрацаваць гэта пытаньне на першым сваім пасяджаньні для разгортваньня краязнаўчай працы.

## Плян працы Уваравіцкага раённага бюро краязнаўства на 1932 г.

### Організацыйныя пытаньні.

1. Сумесна з раённымі ўстановамі і організацыямі правесьці популярызацыю задач савецкага краязнаўства шляхам пастаноўкі 20 дакладаў на сходах рабочых, колгасьнікаў, савецкага і профсаюзнага актыву.

2. Організаваць краязнаўчыя ячэйкі ў наступных пунктах:
   1. На торф-заводзе „Бальшавік".
   2. У савгасе Уваравічы.
   3. Пры Уваравіцкай ШКМ.
   4. У колгасах: „Энгельс".
   5. „ „Будзёнага".
   6. „ „Веккер"—ШКМ.
   7. Савгасе Старая Беліца і ШКМ.
   8. Пры Боркаўскім леспрамгасе, школе і колгасе.
   9. У колгасе „Камінтэрн" і пры школе.
   10. У колгасе Дняпро і Смычкоўскай школе.

3. Правесьці перарэгістрацыю членаў краязнаўчых ячэек і ўцягнуць новых членаў з рабочых колгасьнікаў, працаўнікоў савецкіх, партыйных і грамадзкіх організацый.

4. У першай палове студзеня 1932 году склікаць раённую краязнаўчую конфэрэнцыю з прадстаўнікоў краязнаўчых ячэек, раённых установаў і організацый.

На канфэрэнцыі абгаварыць пытаньні:

1) Стан і задачы краязнаўчай працы ў раёне;

2) Разгляд пляну працы на 1932 г.;

3) Выбары раённага бюро краязнаўства, рэвізійнай камісіі і дэлегатаў на Ўсебеларускую краязнаўчую конфэрэнцыю.

5. Сумесна з раённымі ўстановамі і організацыямі: РВК, Райколгассаюзам, Райспаж. т-вам, леспрамгасам і інш. распрацаваць пэўныя тэмы заданьня, зьвязаныя з чарговымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

6. Організаваць пры Раймэтбюро краязнаўчую бібліотэку, набыўшы патрэбную мэтодычна-програмную літаратуру.

Распаўсюдзіць па раёну 40 экз. часопісу „Савецкая Краіна“

7. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцва на лепшую пастаноўку краязнаўчай працы раённага бюро краязнаўства і ячэек, распрацаваўшы проект соцспаборніцтва для вызаву суседняга Буда-Кашалёўскага бюро краязнаўства.

8. Організаваць корэспондэнцкія брыгады на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, школах (пры краязнаўчых ячэйках), якія-б дасылалі дасьледчы матар'ял у час. „Савецкая Краіна“.

9. Наладзіць у ячэйках і раённым бюро разам з дасьледчай працай і тэорэтычную вучобу шляхам пастаноўкі дакладаў, чыткі лекцый, організацыі сэмінараў і інш.

## Дасьледчая праца.

1. Прыступіць да організацыі раённага краязнаўчага політычнага музэю.

2. Скласьці поўнае апісаньне раёну к 15 гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі.

3. Вывучыць організацыю працы ў колгасах раёну.

4. Сабраць матар'ял па гісторыі грамадзянскай вайны ў раёне (рэврух, партызанства, камбеды і інш.).

5. Скласьці апісаньне Уваравіцкага саўгасу і колгасу „Энгельс“.

6. Прымаць удзел ва ўсіх правадзімых політычна-гаспадарчых кампаніях у раёне.

7. Выконваць пэрыодычныя заданьні ЦБК.

## Мэтод консэрваваньня дрожджаў

Хуткія тэмпы нашага соцыялістычнага будаўніцтва з кожным днём ставяць перад намі новыя пытаньні, на якія мы зараз-жа павінны даваць адказы. Пытаньні транспорту і пытаньні забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі харчаваньня займаюць агромнае месца ў нашым соцыялістычным будаўніцтве. Консэрваваньне дрожджаў дасьць магчымасьць транспартыраваць іх, бесьперабойна задавальняць імі спажыўца для харчаваньня.

Вядома, што звычайныя дрожджы для хлебапячэньня ў летні час і наогул пры цёплай тэмпэратуры хутка псуюцца. Вось чаму загадчыкі коопэрацыйных крам ухіляюцца ад бесьперабойнага забесьпячэньня насельніцтва хутка псуючымся продуктам. Маюць некаторую страту і прадпрыемствы па хлебапячэньню і гаспадыні, калі робяць не адпаведны запас дрожджаў. Апрача таго, перавозка летам дрожджаў на далёкую адлеглласьць патрабуе тэрмічных вагонаў, а гэта загружае наш транспорт, які і бяз гэтага надта перагружан.

Усё гэта прымусіла мяне распачаць працу па адшуканьню мэтоду консэрваваньня дрожджаў (у лябораторыі Біолёгічнага інстытуту Беларускай Акадэміі Навук). Праца яшчэ не даведзена да канца, але вынікі маюцца больш-менш здавальняючыя. Дрожджы адпаведным чынам консэрваваныя кухоннай сольлю праз $1^1/_2$ летніх цёплых месяцы далі добрую ўсхожасьць на цеста пшанічнай мукі. Гэтая ўсхожасьць мала чым адрозьніваецца ад усхожасьці чыстых, сьвежых дрожджаў.

Цікава адзначыць і тое, што консэрваваныя дрожджы праз $1^1/_2$ месяцы выяўлялі здольнасьць да пачкаваньня (размножваньня), хаця гэта патрабуе яшчэ далейшай праверкі.

Наогул трэба сказаць, што праца яшчэ ня скончана. Яна працягваецца далей, але я лічу сваім абавязкам давесьці вынікі да шырокай грамадзкасьці.

Навуковы Працаўнік А. Поляк.

Біолёгічны інстытут
БАН.

## У ЦБК

У кастрычніку—сьнежні месяцы ў ЦБК была праведзена наступная праца:

1) падрыхтаваны проект пастановы СНК БССР аб мерапрыемствах па разгортваньню краязнаўчай працы;

2) праведзена абсьледваньне краязнаўчых організацый у раёнах: Буда-Кашалёўскім, Уваравіцкім, Гомельскім, Барысаўскім, Цераxаўскім, Жлобінскім і Вушацкім;

3) Зроблены даклады аб зьмесьце і формах краязнаўчай працы на настаўніцкім сходзе ў пэдгабінэце пры Доме Асьветы ў Менску і на вучнёўскім сходзе ў 31 г. ФЗС на Ўсебеларускай студэнцкай конфэрэнцыі і на паседжаньні Менскага гарадзкога мэтбюро;

4) Часткова праведзена падрыхтоўчая праца да Ўсебеларускай конфэрэнцыі па краязнаўству;

5) організавана выстаўка выданьняў БАН і яе Масавага сэктару і ЦБК на Ўсебеларускім зьезьдзе асьветеікаў;

6) да раённых краязнаўчых бюро, паасобных навукова - дасьледчых і навучальных устаноў даведзены тэмы-заданьні па краязнаўчай працы (апісаньне раёнаў, вывучэньне заводаў, колгасаў і г. д.), вызначаныя ў пляне ЦБК на 1931 г.;

7) Распрацаваны і разасланы на месцы інструкцыйны матар'ял адносна аддзелу краязнаўчых організацый у выкананьні зага-

тоўчых плянаў і правядзеньня антыкаляднай кампаніі;

8) працаўнікамі ЦБК напісана 6 артыкулаў для часопісу „Савецкая Краіна“, надрукавана 2 артыкулы ў газэтах; прачытана па радыё 6 дакладаў на краязнаўчыя тэмы:

а) Пытаньні масавай навукова-дасьледчай працы (Серафімаў);

б) Задачы краязнаўчых організацый у сувязі з пастановамі аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б (Садоўскі);

в) Задачы краязнаўчых організацый у выкананьні прамфінпляну (Самцэвіч);

г) Над чым і як працуе Беларуская Акадэмія Навук (Шчарбакоў);

д) У баявы паход за выкананьне загатоўчых плянаў (Самцэвіч);

е) Організацыйнае замацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый (Самцэвіч).

9) ЦБК сумесна з Масавым сэктарам надрукаваны брошуры: „Вывучай гісторыю грамадзянскай вайны“, „Вывучай гісторыю заводаў“, „Экскурсіі на завод“ (на беларускай і яўрэйскай мове); здана ў друк брошура Бальшакова „Краязнаўчае вывучэньне організацыі працы ў колгасе“.

10) Выданы №№ 10 і 11 „Савецкай Краіны“ і зданы ў друк № 12.

---

# У рэдакцыю „Савецкай Краіны“.

З майго дазволу быў перакладзены на беларускую мову і надрукаваны асобнай брошурай артыкул А. Цімашова „Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“, зьмешчаны ў часопісе „Советское Краеведение“ (орган ЦБК РСФСР і таварыства марксыстаў-краязнаўцаў пры Комакадэміі СССР). Верučы ў аўторытэт, я ня выявіў неабходнай бальшавіцкай пільнасьці да вылазкі клясавага ворага. Асуджаючы свой учынак, як выяўленьне гнілога лібэралізму, я поўнасьцю згаджаюся з данай рэцэнзіяй на гэту кніжку ў № 11 „Савецкай Краіны“.

Ліст т. Сталіна патрабуе ад нас бальшавіцкай пільнасьці і непрымірымасьці ў барацьбе з вылазкамі клясавага ворага, з малейшымі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі. На вылазку клясавага ворага мы павінны адказаць ударнымі тэмпамі ў нашай рабоце і як-мага хутчэй даць патрэбную кніжку па вывучэньню экономікі раёнаў.

В. Серафімаў.

---

## Сыстэматычны паказьнік артыкулаў і матар'ялаў, зьмешчаных у часопісу „Савецкая Краіна“ за 1930 г. №№ 1-2 (лістапад-сьнежань) і 1931 г. №№ 1—12.

### I. Організацыя, мэтод і зьмест савецкага краязнаўства

1. А. М. Бальшакоў. Краязнаўцам трэба зьвязацца з РСІ. № 10, стар. 84—88
2. М. Грынблят. За вывучэньне фолькльору эпохі дыктатуры пролетарыяту. № 12, стар. 122—130.
3. А. Я. Крукоўскі. Як вывучаць карысныя выкапні краязнаўчым організацыям. № 6, стар. 66—82.
4. А. Немцаў. За актыўны ўдзел краязнаўцаў у выяўленьні прыродных багацьцяў для складаньня другой пяцігодкі. № 7, стар. 91.
5. А. Немцаў. Пытаньні прамысловасьці ў 2-ой пяцігодцы па Асіпавіцкаму р. № 8, стар. 41—43.
6. В. С. Краязнаўства — на службу соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы. № 1-2, стар. 37-38.
7. В. С. У баявы паход за выкананьне загатоўчых плянаў. № 11, стар. 49—53.
8. В. С—іч. Задачы краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і пасьпяховым правядзеньні другой бальшавіцкай вясны. № 3, стар. 58—60.
9. В. С—іч. Аб увязцый працы краязнаўчых організацый з працай дзяржаўных плянуючых і цэнтральных навуковых дасьледчых устаноў. № 5, стар. 45—47.
10. Ф. П. Садоўскі. „Савецкая Краіна“ — барацьбіт за савецкае краязнаўства. № 1-2, стар. 3—6.
11. Ф. П. Садоўскі. Выкарыстаць летнюю практыку і водпускі студэнцтва на вёсцы для разгортваньня краязнаўчай працы. № 5, стар. 41—45.
12. Ф. П. Садоўскі. Аб недаацэнцы краязнаўства. № 6, стар. 3—10.
13. Ф. П. Садоўскі. Задачы краязнаўчых організацый у сувязі з пастановамі аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б. № 11, стар. 3—8.
14. В. Самцэвіч. Пастановы XVI зьезду УсеКП(б) і задачы краязнаўчых організацый. № 1, стар. 7—12.
15. В. Самцэвіч. Разгорнем соцспаборніцтва ў краязнаўчай працы. № 2, стар. 33-34.
16. В. Самцэвіч. Як організаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе. № 4, стар. 48—62.
17. В. Самцэвіч. За актыўны ўдзел у вырашэньні баявых задач спажывецкаі коопэрацыі. № 3, стар. 7—9.
18. В. Самцэвіч. Па-баявому перабудаваць краязнаўчую працу. № 5, стар. 9—16.
19. В. Самцэвіч. У новых умовах працаваць па новаму. № 10, стар. 46—50.
20. В. Самцэвіч. Задачы краязнаўчых організацый у выкананьні прамфінпляну. № 11, стар. 18—22.
21. В. Самцэвіч. Роля краязнаўчых організацый у перавыбарах саветаў. № 1-2, стар. 30—32.
22. В. Самцэвіч. Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый. № 12, стар. 36—41.
23. Проф. П. Салаўёў. За колектывізм у навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы. № 3, стар. 38—40.
24. В. Серафімаў. Ліст т. Сталіна і задачы краязнаўчых організацый. № 12, стар. 33—35.
25. В. Серафімаў. За савецкае краязнаўства (становішча і задачы краязнаўчай працы). № 1-2, стар. 6—15.
26. В. Серафімаў. За ўдарныя тэмпы ў перабудове краязнаўчай працы. № 1, стар. 3—7.
27. В. Серафімаў. Неадкладна ўключыцца ў падрыхтоўку складаньня генпляну і другой пяцігодкі. № 8, стар. 3—6.

28. Рэдэр. Задачы краязнаўчых організацый у пытаньні грамадзкага харчаваньня. № 12, стар. 78—84.

29. А. Шашалевіч. Аб популярызацыі вытворчага краязнаўства. № 1-2, стар. 51—53.

## II. Програмы, інструкцыі і статуты

1. Аб вывучэньні быту і культуры ласарубаў і плытагонаў. № 8, стар. 64—67.
2. „Гісторыя заводаў" (ад рэдакцыі „Гісторыі заводаў"). № 12, стар. 131—136.
3. Інструкцыя кіраўніком працай па барацьбе з грызунамі. № 3, стар. 74.
4. Кароткая програма па вывучэньню быту і культуры лесарубаў. № 11, стар. 54—57.
5. Матвяёнак. Програма краязнаўчае працы па гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі. № 9, стар. 56—67.
6. П. Рагавы. Кароткая інструкцыя для выв. глеб БССР краяведчымі організацыямі. № 8, стар. 50—64.
7. В. Серафімаў. Вывучай колгас. (Програма монографічнага вывучэньня колгасу). № 4, стар. 63—73.
8. С—іч. Кароткая програма па вывучэньні быту колгасьнікаў. № 1-2, стар. 45—51.
9. Статут Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі ЦВК СССР. № 11, стар. 59—63.
10. В. Шчарбакоў. Неабходна вывучаць партызанскі рух на Беларусі. № 10, стар. 35—40.

## III. Барацьба за маркса-ленінскую мэтодолёгію ў навуцы (вялікадзяржаўны шовінізм, беларускі контр-рэволюцыйны нацдэмізм, шкодніцтва)

1. І. В. Сталін. Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму. Пісьмо ў рэдакцыю журналу „Пролетарская Революция". № 12, стар. 3—11.
2. *Аб узмацненьні барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытаньні.* Пастанова бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б. № 12, стар. 28—32.
3. Л. Бабровіч і Ів. Шпілеўскі. Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі. № 1, стар. 42—55; № 2, стар. 46—54.
4. Л. Бабровіч і Ів. Шпілеўскі. Мовазнаўства, як сродак клясавай барацьбы ў руках беларускіх нацыянал-дэмократаў. № 3, стар. 61—74.
5. Проф. А. М. Бальшакоў. Кандрацьеўшчына ў краязнаўстве. № 2, стар. 28—32.
6. Ц. Гурвіч, А. Зюзькоў, Н. Леўкова. Нацыянал-дэмократызм, як агентура інтэрвэнцыі. № 3, стар. 48—58.
7. *За бальшавіцкае вывучэньне гісторыі партыі.* Прамова тав. Кагановіча Л. М., сказаная 1 сьнежня на сходзе, прысьвечаным 10-годзьдзю Інстытуту чырвонай профэсуры. № 12, стар. 12—27.
8. Жук. Шкодніцтва ў прамысловасьці БССР. № 2, стар. 35—41.
9. Зьм. Жылуновіч. Нацыянал-дэмократы за „працай". № 1-2, стар. 16—30.
10. Б. Л. Супроць буржуазнай мэтодолёгіі ў вывучэньні гісторыі Беларусі. № 2, стар. 54—57.
11. А. Ляўданскі. Нацдэмы ў саюзе з рэлігіяй і царкоўнікамі супроць дыктатуры пролетарыяту. № 3, стар. 24—30.
12. М. М. Соцыяльна-клясавы зьмест і мэты Інстытуту „сялян-дасьледчыкаў" пры НДІ сельскай гаспадаркі. № 5, стар. 17—21.
13. Яз. Мацюкевіч. Контр-рэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмократаў у галіне мовы. № 1, стар. 65—72.
14. А. Нікалаеў, М. Лойка, С. Маргелаў. Нацдэмаўская праца катэдры географіі БАН. № 3, стар. 31—37.
15. Р. Р. Контр-рэволюцыйная работа нацдэмаў і кандрацьеўцаў у катэдры коопэрацыі і колектывізацыі БАН. № 4, стар. 42—47.
16. Ротман. Офіцыйны гісторык нацдэмаў. № 7, стар. 10—18.
17. Ф. П. Садоўскі. Выкарчаваць контр-рэволюцыйныя нацдэмаўскія ўстаноўкі ў экономічных пытаньнях. № 1, стар. 13—32.
18. Ф. П. Садоўскі. За актыўнае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам. № 4, стар. 3—12.
19. В. Скардзіс і З. Бобрык. Гісторыя Беларусі ў сьвятле поглядаў Любаўскага. № 6, стар. 28—43.
20. Саевіч і Мэльцэр. Аб мінулым этапе і бліжэйшых задачах філёзофскага фронту БССР. № 10, стар. 40—45.

### IV. XIV гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі

1. С. Баркоўскі. Кастрычнік у гістарычнай навуцы БССР (агляд літаратуры). № 10, стар. 23—34.
2. В. Серафімаў. Чатырнаццатая гадавіна Кастрычніка і нашы задачы. № 10, стар. 4—8.

### V. Рэволюцыйны рух і гісторыя Беларусі

1. А. Акіншэвіч. Казацка-сялянскія войны на Беларусі ў XVII ст. у характастырыстыцы акад. М. Грушэўскага. № 5, стар. 28—34.
2. С. Баркоўскі. Першае мая на Беларусі. № 4, стар. 12—21.
3. С. Баркоўскі і В. Скардзіс. Аб жалезнай прамысловасьці на Беларусі (гістарычная даведка). № 12, стар. 59—74.
4. Матвяёнак. Рэволюцыя 1905 г. на Магілеўшчыне. № 3, стар. 10—18; № 4, стар. 21—30.
5. І. Мацьвяёнак. Напярэдадні Кастрычніка. № 10, стар. 8—22.
6. В. Шчарбакоў. Камітэты беднаты на Беларусі ў 1918 годзе. № 11, стар. 8—18.
7. В. Шчарбакоў. З гісторыі партызанскага руху на Беларусі ў пэрыод нямецкай окупацыі. № 12, стар. 42—58.

### VI. Чырвоная армія і абарона краіны

1. Матвяёнак. Шлях да Чырвонай арміі ў БССР. № 2, стар. 17—23.
2. В. Б. Мызянкоў. З гісторыі N Самарскай імя Ангельскага пролетарыяту кавдывізіі. № 2, стар. 24—27.
3. В. М-оў. Гісторыя N Стаўропальскага кавалерыйскага палка. № 2, стар. 42—46.
4. Ф. П. Садоўскі. Да гадавіны Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. № 2, тар. 12—17.
5. В. Самцэвіч. Разам з ТД Авіахэму ўзмацняць абараназдольнасьць краіны. № 9, стар. 3—5.

### VII. Апісаньне фабрык і заводаў

1. Юрка Бітус. Савецкі швэйны конвэйер. № 1-2, стар. 63-64.
2. Ул. Мяжэвіч. Цэмантны гігант (нарыс). № 1, стар. 76—90.
3. П. Скокаў. Пролетарыят „Энэргіі“ пераможа. № 1-2, стар. 65—67.
4. Мікола Войтка. Новасёлкаўская цагельня. № 10, стар. 79—83.
5. Д. Струнін. Лоеўскі завод сухіх мінэральных фарбаў. № 10, стар. 71—78.

### VIII. Монографічнае вывучэньне раёну і мястэчак

1. І. Гершэнбаум. Мястэчка Шчадрын у рэконструкцыйным пэрыодзе. № 4, стар. 31—41.
2. І. Гершэнбаум. Саматужніцкае мястэчка. № 8, стар. 34—40.
3. М. Лойка і С. Маргелаў. Экономічнае раёнаваньне БССР. № 6, стар. 10—28.
4. В. Самцэвіч. Як арганізаваць монографічнае вывучэньне раёну. № 7, стар. 78—90.

### IX. Соцыялістычная рэконструкцыя с. г.

1. Д. Анэт і В. Бунтар. На штурм... за новае!.. № 4, стар. 83—87.
2. М. Войтка. Ральля. Колгас „Орка“ Смалявіцкага раёну. № 8, стар. 44—50.
3. М. Войтка. Колгас Чырвоны Сьцяг Смалявіцкага раёну. № 9, стар. 20—24.
4. М. Войтка. Колгас „Комсамолец“. № 11, стар. 43—49.
5. А. Гарбач. Як жыве і працуе наш колгас. № 11, стар. 41—43.
6. Станіслаў Іва. Факты жыцьця. (Колгас „Чырвоны Кастрычнік“ Вушацкага раёну). № 2, стар. 79—82.
7. Кудэльскі. Копыскі раён актыўна рыхтуецца да другой бальшавіцкай. № 4, стар. 79—82.
8. Т. П. Кулакоў. Колгас Комінтэрн (в. Савічы, Мазырскага раёну). № 9, стар. 5—11.
9. В. Масэвіч. Барацьба за перабудову сельскай гаспадаркі. (Баркавіцкі раён). № 5, стар. 64—67.
10 Д-р З. К. Магілеўчык. Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй яе. № 7, стар. 64—78.
11. Я. Мацюкевіч. Колгас імя тав. Чарвякова ў другую бальшавіцкую вясну. № 7, стар. 52—63.

12. Яз. Мацюкевіч. Колектывізацыя і клясавая барацьба ў вёсцы. № 6, стар. 62—65.

13. А. Мікуцкі. Колгас „Сіла" Вульскага раёну ў другую бальшавіцкую вясну. № 7, стар. 44—51.

14. Ул. Мяжэвіч. Людзі зямлі. (Аб героях другой бальшавіцкай вясны). № 7, стар. 24—43.

15. В. С. Колгас Пабядзіцель. (Капланецкі с/с Бярэзінскага раёну). № 2, стар. 58—63.

16. В. Самцэвіч. За баявое выкананьне задач другой бальшавіцкай вясны. № 7, стар. 73—75.

17. В. Серафімаў. Колгас перамог (в. Чахі, Хойніцкі р.). № 5, стар. 67—69.

18. В. Серафімаў. Аб клясавай барацьбе на вёсцы. № 7, стар. 19—23.

19. Ул. Стрыгельскі. Комуна імя Сталіна Бярэзінскага раёну. № 9, стар. 11—20.

20. В. Тэмп. Ударнікі адноўленай зямлі. (Колгас „Усход", Бягомльскага раёну). № 5, стар. 59—63.

21. К. Шкільтэр. Процэс колектывізацыі ў латыскіх колёніях БССР. № 5, стар. 48—54.

22. А. М. Бальшакоў. Нормы выпрацоўкі. № 10, стар. 68—70.

## X. Жывёлагадоўля і вырашэньне кармавой проблемы

1. М. Дабратворскі. На барацьбу за павышэньне ўраджаю насеньня чырвонай канюшыны. № 6, стар. 48—53.

2. М. Дабратворскі. Барацьба за ўраджай і краязнаўцы. № 9, стар. 24—33.

3. В. Самцэвіч. Проблема соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі і задачы краязнаўчых організацый. № 8, стар. 12—29.

4. А. Сяргееў. Вывучым кароў-рэкордыстак. № 8, стар. 29—33.

5. А. Сяргееў. Полімасьція і шматмалочнасьць у буйнай рагатай жывёлы. № 9, стар. 34—39.

6. А. М. Сяргееў. Займемся вывучэньнем сурагатаў кармоў. № 6, стар. 44—48

## XI. Шкоднікі сельскай і лясной гаспадаркі і барацьба з імі

1. Н. Дарожкін. Рак бульбы (Synchytrium endobioticum). № 12, стар. 75—77.

2. Н. Дарожкін. Кароткія вынікі абсьледваньня хвароб бульбы ў 14-ці раёнах БССР. № 10, стар. 50—57.

3. В. Ф. Купрэвіч. Шкодныя, атрутныя і страўныя грыбы Смалявіцкага раёну. № 2, стар. 64—78.

4. Проф. П. Ф. Салаўёў. Вынікі вывучэньня цэразьзерніцы. № 6, стар. 58—61.

5. Проф. Салаўёў. Конская вош. № 7, стар. 91.

Проф. Салаўёў. Скураныя авады (Cuticolae) ў сельскай гаспадарцы. № 7, стар. 92

6. Проф. Салаўёў. Ці водзіцца ў БССР валасень (Curdius aquaticus Duj). № 5, стар. 70-71.

7. Проф. П. Салаўёў. Шкоднікі ільняных культур. № 3, стар. 44-45.

8. А. У. Шчапоцьцеў. Спроба барацьбы з грызунамі. № 3, стар. 74.

## XII. Фэнолёгічныя назіраньні

1. С. П. Нікіфаровіч. Організацыя юнатаўскай работы ў піонэратрадах. № 5, стар. 28—34.

2. С. П. Нікіфаровіч. Фэнолёгічны агляд па БССР за 1930 год. № 9, стар. 49—55.

3. Проф. П. Салаўёў. Фэнолёгічная праца па БССР. № 1, стар. 49—55.

4. Фэнолёгічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы. № 5, стар. 65—77.

## XIII. Музэйная справа

1. А. Л. Да пытаньня організацыі музэяў па фабрычна-заводскіх прадпрыемствах. № 10, стар. 63—67.

2. Ал. Немцаў. Школьны краязнаўчы музэй. № 1-2, стар. 53—55.

3. Прынцыпы пабудовы савецкага краязнаўчага музэю. № 11, стар. 63—66.

4. Ф. П. Садоўскі. Музэй—магутны агітатар і пропагандысты соцыялістычнага будаўніцтва. № 3, стар. 19—24.

## XIV. Антырэлігійная праца

1. Б. Леванчук. Сэктанцтва на Койданаўшчыне і праца, якая ім праводзіцца ў раёне. № 11, стар. 23—31.

2. В. Шчарбакоў. Краязнаўства і антырэлігійная праца. № 1-2, стар. 39—44.

3. В. Шч. Рэлігійныя і рэволюцыйна-савецкія сьвяты на вёсцы ў паўночнай часткы Украіны. № 1-2, стар. 55—62.

## XV. Проблема кадраў

1. В. Самцэвіч. Падрыхтуем кадры краязнаўцаў. № 3, стар. 41—43.
2. Інжынэр Шаліма. За пролетарскія кадры інжынэраў. № 1-2, стар. 33—36.
3. В. Шчарбакоў. Проблема навуковых кадраў у БССР, № 1, стар. 33—41.

## XVI. Праца Акадэміі і яе інстытуцыі

1. П. Бузук, Яз. Мацюкевіч, П. Юргілевіч. Год працы Інстытуту мовазнаўства БАН. № 12, стар. 85—89.
2. П. Горын. Да пытаньня аб бліжэйшых задачах Беларускай Акадэміі Навук. № 2, стар. 3—7.
3. П. Горын. Работа Белар. Акадэміі Навук у першым поўгодзьдзі 1931 году. № 8, стар. 6—12.
4. П. Горын. Да ўсіх навуковых установ БССР. № 7, стар. 3—6.
5. В. Д. Лепель—Бабруйск. (Экспэдыцыя БАН). № 12, стар. 103—121.
6. В. Шчарбакоў. Вынікі кампаніі па давыбарах акадэмікаў Белар. Акад. Навук. № 3, стар. 3—6.

## XVII. Розныя

1. Л. Балкавец. Збор лекавых расьлін у БССР. № 6, стар. 54—57.
2. С. Н. Малінін. Палепшыць організацыю працы на гандлёвым пункце. № 9, стар. 39—48.
3. В. Міхайлоўская. Яшчэ да вывучэньня лекавых расьлін. № 11, стар. 37—40.
4. Ф. П. Міхневіч. Аб лясох БССР. № 11, стар. 32—36.
5. Я. Г. Ракаў і С. Н. Малінін. Бесьперапынка і яе ўплыў на працу гарадзкой коопэрацыі. № 5, стар. 35—40.
6. Д. Рэдэр. Становішча вывазной сыстэмы ў горадзе Менску да пуску каналізацыі. № 10, стар. 57—62.
7. В. Самцэвіч. Разгорнем пролетарскі турызм. № 3, стар. 46—47.
8. В. С. Незакрануты вучастак краязнаўчай працы. № 5, стар. 55—58.
9. А. В. Фядзюшын. Аб сучасным стане і чарговых задачах аховы прыроды ў БССР. № 12, стар. 90—102.

## XVIII. Крытыка і бібліографія

1. Я. Агееў. Шкодніцтва ў пытаньнях індустрыялізацыі с.-г. БССР (М. С. Мацярыкін.—Асновы індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР, Менск, БДВ, 1930 г., ц. 50 к.). № 10, стар. 89—98.
2. А. М. Бальшакоў. Кнігі аўтараў соцыялістычнага наступленьня. (1. Г. Васильев. Коммуна Аврора, из-во „Прибой", 1930 г., 47 стар., ц. 20 к. 2. Как живется в коммуне, рассказ 14 колхозников. „Сельхозгиз", 1931 г., 64 стар., ц. 40 к. 3. Как живется в сельско-хозяйственных артелях, рассказ 12 колхозников, „Сельхозгиз", 1931 г., 59 стар., ц. 30 к.) № 5, стар. 83—85.
3. Проф. А. М. Бальшакоў. Аполітычнае вывучэньне мясцовага краю нам непатрэбна. (М. В. Муратов. Изучение местного края. Опыт введения в краеведение. 3-е пересм. и допол. изд. 1930 г., „Раб. Просвещения", 175 стар., ц. 1 р. 55 к.). № 6, стар. 83—85.
4. М. Лойка і С. Маргелаў. Шкодная кніжка. (А. Цімашоў. Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія. Выд. Масавага сэктару і ЦБ Краязнаўства БАН., № 11, стар. 66—67.
5. М. Популярызацыя шкодніцкіх ідэй у плянаваньні. (Б. Д. Архангельский. Укрупненная БССР. С предисловием председателя Госплана БССР т. Карпа. Изд. редакц.—издат. отд. Госплана БССР. Минск. 1927 г., стар. 82). № 9, стар. 67—71.
6. Р. Р. „Організацыя і аздараўленьне ўмоў працы ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі". (в. I, пад рэд. Дырэктара Інстытуту Аховы працы доцэнта С. Р. Дзіхцяра. БДВ. Менск, 1930 г.). № 5, стар. 79—82.
7. С. Народніцтвуючы буржуа. Проф. М. В. Довнар-Запольский. Западный район (Белорусская ССР и западная область РСФСР). Гос. изд. М., 1928 г. У сэрыі выданьняў: Экономическая география СССР. Под ред. М. Б. Вольфа и Г. А. Мебуса). № 8, стар. 67—69.
8. В. С. В. Д. Соколов. Охрана природы и повышение урожайности. Изд. Ц. Б. К. М. 1930 г., ц. 35 к. З прадмоваю С. Пакроўскага. № 10, стар. 99-100.
9. В. С—іч. С. Малашэнка і А. Лейман. Новы цэх варашылаўцаў. Выд. БДВ. Менск. 1931 г., 28 стар., ц. 7 кап. № 10, стар. 100-101.

10. В. С. Супроць буржуазнай блытаніны ў школьным краязнаўстве. (М. Я. Феноменов. Изучение деревни в школе. Методическое пособие с рисунками и приложением инструкций по обслед. деревни и колхозов. Допущ. научн. педаг. секцией ГУС'а как пособие для преподавателей. 5-ое изд. „Работн. Просв.". М. 1930 г.). № 4, стар. 74—78.

11. В. Самцэвіч. Па Беларускіх прасторах. Першы зборнік прац краязнаўчага гуртка Менскай 20-й ФЗС імя „Дзесяцігодзьдзя БССР". Выд. школы і Акруговага Т-ва Краязнаўства. 31 стар., ц. 30 к. № 2, стар. 83-84.

## XIX. Афіцыйны аддзел

1. Аб выданьні „Гісторыі заводаў" (пастанова ЦК УсеКП(б) ад 10-га кастрычніка 1931 г.). № 10, стар. 3.

2. Адозва таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі да усіх краяведаў СССР. № 11, стар. 57-58.

3. Да ўсіх райколгассаюзаў і праўленьняў колгасаў (адозва ЦБК). № 1, стар. 94.

4. Да месячніка друку. (Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 3 мая 1931 г.). № 5, стар. 3.

5. Да ўсіх краязнаўчых організацый БССР. (Адозва ЦБК аб удзеле ва ўсебеларускім месячніку друку). № 5, стар. 6.

6. Да ўсіх краязнаўчых організацый (адозва ЦБК да краязнаўчых організацый аб хутчэйшым пераводзе свае працы на рэйкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва). № 5, стар. 91.

7. Да усіх краязнаўчых організацый (адозва ЦБК аб уключэньні ў працу па падрыхтоўцы і правядзеньні ўборачнай кампаніі). № 5, стар. 90.

8. Да ўсіх краязнаўчых організацый (адозва ЦБК аб вывучэньні раённымі організацыямі тарфяных масываў і карысных выкапняў свайго раёну). № 6, стар. 94.

9. Да ўсіх краязнаўчых організацый (адозва ЦБК аб вывучэньні і дасланьні вестак аб запасах чароту (трысьніку) у БССР.) № 6, стар. 95.

10. Да ўсіх краязнаўчых організацый (зварот ЦБК адносна тэматыкі працы раённых організацый). № 10, стар. 102.

11. Да ўсіх краязнаўчых організацый (адозва ЦБК адносна ўдзелу краязнаўцаў у антыкаляднай кампаніі). № 11, стар. 73.

12. Да ўсіх навукова-дасьледчых і музэйных установ па гісторыі матар'яльнай культуры, археолёгіі і этнографіі, спэцыяльных внусаў і нацыянальных пэдагогічных навучальных установ. Да навуковых таварыстваў і асоцыяцый па гісторыі, краязнаўству і нацыянальна-культурным проблемам. Да працаўнікоў у галіне краязнаўства, археолёгіі і этнографіі. Аб Першым усесаюзным зьездзе па археолёгіі і этнографіі. № 11, стар. 68—70.

13. За цесную і органічную ўвязку краязнаўчай і антырэлігійнай працы (адозва Ц. Савету Саюзу Ваяўнічых Бязбожнікаў СССР). № 6, стар. 94-95.

14. Ліст гаркомам і райкомам КП(б)Б, рэдакцыям цэнтральных, гарадзкіх і раённых газэт (аб месячніку пролетарскага друку). № 5, стар. 4—6.

15. Організацыя Таварыства краяведаў-марксыстаў (Рэзолюцыя організацыйнага сходу Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі ЦВК СССР па дакладу Оргбюро таварыства). № 2, стар. 7—11.

16. Плян правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі. № 1-2, стар. 71-72.

17. Плян працы Цэнтр. Бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук на 1931 г. № 1-2, стар. 72.

18. Пастанова ЎсеЦСПС аб дапамозе і садзейнасьці краязнаўчым організацыям. № 1-2, стар. 78.

19. Пастанова організацыйнага сходу Т-ва краяведаў-марксыстаў. № 2, стар. 89.

20. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР па пытаньні пароднага раёнаваньня жывелагадоўлі. № 12, стар. 137—142.

21. Пастанова Савету Народных Камісараў БССР ад 23 жніўня 1931 г. (пра геолёга-разьведачную справу). № 9, стар. 72.

22. Рэзолюцыя Слуцкай Раённай Краязнаўчай конфэрэнцыі. № 1-2, стар. 74.

23. Рэзолюцыя па дакладу П. Г. Сьмідовіча „Роля краязнаўства на шляхох соцыялістычнага будаўніцтва", прынятая IV Усерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыяй. № 1-2, стар. 75.

24. Рэзолюцыя профактыву 30 раёнаў БССР. Магілеўскага куста, прынятая на нарадзе 10/I-31 г. па дакладу „Задачы савецкага краязнаўства". № 1, стар. 93.

25. Рэзолюцыя Прэзыдыуму ЦСПСБ па пытаньню аб садзейнічаньні профсаюзаў краязнаўчым організацыям. № 2, стар. 87.

26. Рэзолюцыя (нарады профактыву саюзу працасьветы, Віцебск). № 2, стар. 88.

27. Рэзолюцыя аб становішчы на філёзофскім фронце БССР (прынятая на агульным сходзе Т-ва Ваяўнічых Матар'ялістаў Дыялектыкаў Беларусі 1/VI-31 г.). № 7, стар. 6—9.

28. Рэзолюцыя Ўсебеларускай конфэрэнцыі пролет. студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў, аб'яднаных саюзам рабочых МТС і батрацтва, па дакладу—„Задачы ВНУ і тэхнікумаў у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай працы". № 11, стар. 71-72.
29. Раенным інспэктаром народнае асьветы і райбюро краязнаўства. (Аб брошуры А. Цімашова). № 12, стар. 142.
30. Рэорганізацыя Беларускай Акадэміі Навук (Пастанова Савету Народных Камісараў БССР, ад 13 мая 1931 г.) № 6, стар. 93.
31. Разгарнуць краязнаўчую працу (З адозвы ЦК УсеКП(б) да культпропаў ЦК нацкомпартый, Обкомаў і Крайкомаў УсеКП(б). № 5, стар. 7-8.
32. Усім краязнаўчым установам і організацыям (адозва ЦБК аб правядзеньні краязнаўчай пяцідзёнкі). № 1-2, стар. 71.
33. Усім трэстам і сындыкатам, рэспубліканскім і мясцовым саветам народнай гаспадаркі і ўсім краязнаўчым організацыям (аб вывучэньні прамысловасьці, гісторыі фабрык і заводаў і г. д.). № 1-2, стар. 77.
34. Удзел краязнаўцаў у правядзеньні 2-га Міжнароднага полярнага году. № 3-4, стар. 75—77.
35. Узмацнім абароназдольнасьць нашай Савецкай краіны (адозва ЦБК). № 4, стар. 87.
36. Усім гарадзкім і раённым інспэктаром народнай асьветы, дырэктаром ВНУ, тэхнікумаў і загадчыкам ФЗС, КС, ШТМ (адозва НКА БССР і ЦБК). № 8, стар. 70-71.
37. Усім організацыям Т-ва пролетарскага турызму і экскурсій, усім краязнаўчым організацыям (аб супольнай працы ТП ТЭ і ЦБ Краязнаўства). № 9, стар. 73-74.
38. Чырвона-Слабодчына абуджаецца (рэзолюцыя краязнаўчай конфэрэнцыі Чырвона-Слабодзкага раёну ад 4 мая 1931 г.) № 5, стар. 89.

## XX. Хроніка

1. Аб укладаньні экскурсійнага пуцяводніка. № 3, стар. 78.
2. Аб падліку краязнаўчай працы у раёнах. № 5, стар. 90.
3. Аб сыстэме ўпаўнаважаных па краязнаўчай працы. № 6, стар. 88.
4. Аб організацыі т-ва пролетарскага турызму і экскурсій. № 6, стар. 92.
5. Аб завочных краязнаўчых курсах пры ЦБК РСФСР. № 8, стар. 75.
6. Адказы і парады пачынаючым краяведам. № 4, стар. 88; № 5, стар. 89.
7. Ажыцьцявіць пастановы Пленуму ЦБК РСФСР. № 6, стар. 89.
8. Вучэбны плян краязнаўчых сэмінараў-курсаў для рабочых. № 2, стар. 87.
9. Вынік правядзеньня „Краязнаўчай пяцідзёнкі". № 9, стар. 75.
10. Вынік абследаваньня краязнаўчай працы на мясцох. № 10, стар. 108.
11. Да барацьбы са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі. № 1, стар. 90.
12. Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР і ЦБК БССР на 1931 г. № 2, стар. 85.
13. Да краязнаўчых організацый і краяведаў-фэнолёгаў. № 8, стар. 76.
14. Да ўсіх краязнаўчых організацый (аб „дню ўраджаю і колектывізацыі"). № 9, стар. 78.
15. Да усіх організацый і членаў ячэек Т-ва ПТЭ (адозва). № 10, стар. 109.
16. Дабіцца рашучага пераломy ў краязнаўчай працы. № 11, стар. 81.
17. Дапаможам організаваць кадры па шаўкоўніцтву. № 4, стар. 88.
18. За організацыю і разгортваньне працы раённых краязнаўчых музэяў. № 9 стар. 76.
19. Інформацыя ЦБК. № 1, стар. 92.
20. Кароткі агляд надвор'я і стану пасеваў па БССР за дэкады кастрычніка 1930 г. № 1-2, стар. 69—71.
21. Конфэрэнцыя профактыву працасьветы аб краязнаўчай працы. № 1, стар. 92.
22. Краязнаўчая пяцідзёнка ў Клімавіцкім раёне. № 3, стар. 77.
23. Краязнаўчы рух разгортваецца (Смалявіцкі р.). № 6, стар. 86.
24. Краязнаўчыя організацыі ўзмацняюць абароназдольнасьць СССР. № 8, стар. 77.
25. Краязнаўчая праца на мясцох. № 11, стар. 80.
26. Курсы-сэмінары для рабочых. № 2, стар. 87.
27. Мэтод консэрваваньня дрожджаў. № 12, стар. 148.
28. На акадэмічным савеце БАН (аб абраньні прэзыдэнтам Белар. Акадэміі Навук т. П. О. Горына). № 1, стар. 91.
29. Над чым працуюць краязнаўчыя таварыствы. № 1-2, стар. 68.
30. Настаўнікі павінны дапамагчы вучням організаваць краязнаўчую працу. № 4, стар. 67.
31. Неадкладна прыступіць да складаньня плянаў працы ў краязнаўчых організацыях на 1932 г. № 8, стар. 72.
32. Па прыкладу Асіпавіцкага раённага бюро краязнаўства разгорнем соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўчай працы. № 8, стар. 74.

